П. Ф. ГЛЕБКА

# ПЫТАННІ ГІСТОРЫІ, ФІЛАЛОГІІ, МАСТАЦТВА

МІНСК · 1975

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

П. Ф. ГЛЕБКА

# ПЫТАННІ ГІСТОРЫІ, ФІЛАЛОГІІ, МАСТАЦТВА

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1975

Складальнікі
Н. І. Глебка і К. А. Цвірка

Рэдактар
член-карэспандэнт АН БССР
В. К. Бандарчык

**Глебка П. Ф.**

Г53 **Пытанні** гісторыі, філалогіі, мастацтва. Рэд. В. К. Бандарчык. Мн., «Навука і тэхніка», 1975.

304 стар. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

Зборнік уключае артыкулы, выступленні, рэцэнзіі, а таксама архіўныя матэрыялы акадэміка АН БССР П. Ф. Глебкі па пытаннях мовазнаўства, фалькларыстыкі, гісторыі, мастацтвазнаўства і інш. У іх знайшлі адлюстраванне самыя актуальныя пытанні навуковага і грамадскага жыцця рэспублікі з 20-х па 60-я гады XX ст.

8Бел

Г $\frac{80101\text{-}081}{M316\text{-}75}$ 53-75

# НАВУКОВАЯ СПАДЧЫНА П. Ф. ГЛЕБКІ

Пятро Фёдаравіч Глебка добра вядомы шырокаму колу чытачоў як выдатны савецкі паэт. Пачаўшы літаратурную дзейнасць яшчэ ў 20-х гадах, ён надзвычай шырока адлюстраваў у сваёй творчасці асноўныя этапы жыцця савецкага грамадства: упэўненую хаду Вялікага Кастрычніка па нашай зямлі, веліч стваральнай працы народа, яго гераічнае змаганне супроць гітлераўскага нашэсця, барацьбу за аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі.

Актыўны ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва, П. Ф. Глебка не абмяжоўваўся толькі мастацкай творчасцю. Паэт, калі гэта вымагала неабходнасць, вельмі ахвотна браўся за пяро публіцыста і крытыка. Асаблівую ўвагу ўдзяляў ён навуковай працы, якая ў апошнія гады жыцця стала для яго асноўнай.

Літаратурная творчасць П. Ф. Глебкі даволі падрабязна і ўсебакова разгледжана ў нашым літаратуразнаўстве. Што ж датычыцца навуковай дзейнасці паэта, то гэты надзвычай важны бок яго творчай біяграфіі не атрымаў яшчэ асвятлення. Між тым дзейнасць П. Ф. Глебкі на навуковай ніве была даволі плённай. Без перабольшвання можна сказаць, што ён зрабіў надзвычай многа для развіцця грамадскіх навук у Беларусі.

Цікавасць да навуковых даследаванняў праявілася ў П. Ф. Глебкі яшчэ на раннім этапе яго творчай дзейнасці. Гэта было перш за ўсё асэнсаванне фактаў жывога літаратурнага працэсу, у якім ён прымаў актыўны ўдзел. Рэцэнзія на новую кнігу паплечніка па пяру, артыкул пра актуальныя пытанні літаратуры, мовы, нататка да юбілею таго ці іншага пісьменніка або дзеяча культуры — усё гэта паступова ўцягвала маладога паэта ў сферу навуковых даследаванняў, прымушала паглыбляць веды ў самых

розных галінах грамадскіх навук і ў першую чаргу вывучаць гісторыю і культуру роднай зямлі. Таму зусім заканамерным быў пераход П. Ф. Глебкі ў 1944 г. на сталую навуковую працу. Спачатку ён узначаліў групу лінгвістаў па складанню руска-беларускага слоўніка, з 1945 г. стаў старшым навуковым супрацоўнікам і кіраўніком сектара Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук БССР. Праз пяць гадоў за плённую навуковую працу П. Ф. Глебку выбіраюць членам-карэспандэнтам АН БССР, а яшчэ праз сем — акадэмікам АН БССР. Ён становіцца дырэктарам Інстытута мовазнаўства, а затым (з 1957 г.) узначальвае новую навукова-даследчую ўстанову — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, які быў створаны па яго ініцыятыве. У апошнія гады жыцця П. Ф. Глебка працаваў акадэмікам-сакратаром Аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

Займаючы адказныя пасады ў Акадэміі навук, П. Ф. Глебка актыўна ўздзейнічаў на навуковы працэс. Ён быў кіраўніком асобных даследаванняў, выступаў з дакладамі па актуальных праблемах нашай навукі, публікаваў у друку артыкулы, пісаў водгукі на кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, рэцэнзаваў працы вучоных.

Навуковую спадчыну, якая засталася пасля смерці П. Ф. Глебкі, складаюць працы па мовазнаўству, літаратуразнаўству, фалькларыстыцы, этнаграфіі, гісторыі, філасофіі, мастацтвазнаўству. Многія з іх яшчэ невядомы чытачу: па-першае, не ўсе яны былі апублікаваны, а, па-другое, шмат якія з іх проста не захаваліся, асабліва даклады і выступленні. Але ў архіве паэта-акадэміка засталася вялікая колькасць чарнавых накідаў прац і выступленняў, якія сведчаць аб нястомнай навуковай рабоце П. Ф. Глебкі, аб яго штодзённых клопатах пра развіццё беларускай культуры. Асаблівае месца ў спадчыне П. Глебкі належыць «Руска-беларускаму слоўніку», у складанні і рэдагаванні якога ён разам з Я. Коласам і К. Крапівой прымаў самы актыўны ўдзел.

Больш за ўсё артыкулаў прысвяціў П. Ф. Глебка пытанням літаратуразнаўства. У першую чаргу яго цікавілі крыніцы сучаснай беларускай літаратуры. У шматлікіх артыкулах і выступленнях П. Ф. Глебка даў разгорнутую характарыстыку літаратурнага набытку народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, паказаў сапраўднае значэнне і эстэтычную прыгажосць іх неўміручых твораў.

Шмат пісаў П. Ф. Глебка і пра сваіх таварышаў па пяру — пра К. Крапіву, П. Броўку, М. Лынькова, А. Куляшова, П. Труса, ускрываючы сутнасць, мастацкія асаблівасці іх творчасці. Асобныя артыкулы прысвяціў ён таксама П. Панчанку, М. Лужаніну, П. Пестраку, У. Дубоўку, М. Клімковічу, Я. Пушчу і інш. У полі зроку П. Глебка заўсёды трымаў і творчасць маладых пісьменнікаў: пісаў пра іх артыкулы, рэцэнзіі, выступаў на творчых нарадах і сходах, шчыра клапоцячыся пра літаратурную змену.

Разам з тым нямала грунтоўных прац прысвяціў П. Глебка літаратурам брацкіх народаў Савецкага Саюза і замежным літаратурам. У прыватнасці, ён усебакова прааналізаваў творчасць А. С. Пушкіна, Т. Р. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Э. Войніч і інш.

У творчых інтарэсах П. Ф. Глебкі вялікае месца займала распрацоўка розных пытанняў па гісторыі Беларусі. Паэт асабліва захапляўся найменш асветленым у нашай гістарыяграфіі перыядам — далёкай старажытнасцю, як беларускай, так і агульнаславянскай. Апрача апублікаваных у друку артыкулаў у багатым архіве П. Ф. Глебкі захоўваецца і шмат матэрыялаў, якія гавораць аб яго карпатлівай даследчыцкай працы ў гэтым напрамку. Паэт, у прыватнасці, паставіў перад сабой вялікую і складаную задачу — напісаць фундаментальную манаграфію пра жыццё і дзейнасць Францыска (Георгія) Скарыны. Мяркуючы па чарнавых накідах, плану-праспекту, шматлікіх выпісках і занатоўках, гэта была б надзвычай сур'ёзная праца, якая значна ўзбагаціла б нашу навуку. Пра гэта сведчаць самі назвы раздзелаў кнігі, па кожнаму з якіх у папках скрупулёзна назапашваўся каштоўны матэрыял: «Скарына і эпоха», «Погляды Скарыны», «Мэты Скарыны», «Скарынінскі састаў Бібліі», «Мова скарынінскіх выданняў», «Разуменне Скарынам мовы», «Скарынінскае вершаскладанне», «Значэнне Скарыны для развіцця паэзіі», «Скарына і тэатр», «Музыка», «Права, юрыстыка», «Медыцына», «Значэнне Скарыны ў славянскай асвеце», «Далейшае развіццё пачынанняў Скарыны» і інш. Тэзісы распачатай манаграфіі П. Ф. Глебка выклаў у сваім дакладзе на сесіі АН БССР, прысвечанай 450-годдзю беларускага кнігадрукавання (16 жніўня 1967 г.). З даклада відаць, што аўтар імкнуўся намаляваць разгорнуты творчы партрэт Скарыны, звесці вялікага асветніка з «псеўдалегендарнай вышыні на нашу рэальную зямлю, на якой ён

жыў, працаваў, змагаўся і для росквіту якой аддаваў свой талент, розум і веды».

У архіве паэта захоўваюцца чарнавыя нататкі пра паходжанне старажытнейшых гарадоў Беларусі — Полацка, Турава, Брэста, Віцебска, якія паэт называе «продкамі Мінска». Аб глыбокім веданні гісторыі свайго народа сведчаць і рэцэнзіі на навуковыя працы беларускіх даследчыкаў мінуўшчыны.

Разумеючы вялікае значэнне гісторыі роднага краю ў патрыятычным выхаванні народа, у гарманічным развіцці асобы ў сацыялістычным грамадстве, П. Ф. Глебка горача падтрымліваў усялякія пачынанні, звязаныя з развіццём гістарычнай навукі ў Беларусі. У тэзісах даклада, прысвечанага 50-годдзю Вялікага Кастрычніка, ён зазначаў, што ў нас яшчэ мала прац па айчыннай гісторыі. Імкнучыся ліквідаваць гэты недахоп, паэт пераканаўча даводзіў, што ў рэспубліцы перш за ўсё неабходна пашырыць выдавецкую базу. Вельмі слушна гаварыў П. Ф. Глебка аб неабходнасці больш шырокага і больш грунтоўнага асвятлення гісторыі Беларусі і ў перыядычным друку. У прыватнасці, ён даказваў, што патрэбна «вярнуць традыцыю «Полымю» і «Маладосці» публікаваць архіўныя матэрыялы».

Вялікае значэнне надаваў П. Ф. Глебка пытанням нашага мовазнаўства, у якім было яшчэ нямала белых плям. У артыкуле «Аб мове» ён пісаў: «Перад намі ўстаюць велізарныя задачы па далейшаму развіццю і ўдасканаленню беларускай мовы. Да гэтых задач у першую чаргу адносіцца ўстанаўленне цвёрдых літаратурных агульнанацыянальных нормаў, удасканаленне беларускай арфаграфіі, стварэнне тэрміналагічных і агульных слоўнікаў, вывучэнне гісторыі беларускай мовы і г. д.». Вырашэнню гэтых неадкладных задач нашага мовазнаўства П. Ф. Глебка аддаваў нямала сіл і энергіі. Акрамя працы над «Руска-беларускім слоўнікам» ён актыўна выступаў у друку з артыкуламі па самых розных пытаннях беларускай мовы, рабіў пра гэта спецыяльныя даклады перад навуковай грамадскасцю, пісаў рэцэнзіі на працы мовазнаўцаў.

Вялікую ролю ў развіцці беларускай літаратурнай мовы П. Ф. Глебка адводзіў пісьменнікам: «Пісьменнік чэрпае моўныя скарбы з народных крыніц. Але ён выступае тут не ў ролі пасіўнага спажыўца, а ў ролі адборшчыка і шліфавальшчыка народных скарбаў. Пісьменнік як бы ўпаўнаважаны грамадствам быць у поўным сэнсе

заканадаўцам у галіне мовы. З шматлікіх і разнастайных лексічных і граматычных формаў ён выбірае найбольш прыдатныя і каштоўныя і надае ім сілу агульнанацыянальнай літаратурнай нормы». У якасці прыкладаў П. Ф. Глебка прыводзіць працу ў гэтым напрамку прадстаўнікоў рускай літаратуры — М. В. Ламаносава, Г. Р. Дзяржавіна, М. М. Карамзіна і асабліва А. С. Пушкіна, які «сінтэзаваў шуканні сваіх папярэднікаў».

Добра разумеючы, што «задачы далейшага будаўніцтва сацыялістычнай культуры патрабуюць далейшага ўсебаковага развіцця мовы», П. Ф. Глебка ў тэзісах працы аб развіцці літаратурнай мовы, якія захоўваюцца ў архіве паэта, рэзка крытыкаваў тых, хто лічыў, што «на цяперашнім этапе нашага культурнага сацыялістычнага развіцця можна ўжо адмовіцца ад некаторых нацыянальных моў, і ў прыватнасці ад беларускай». Даючы адпор гэтакім «рэфарматарам», якія адным махам хацелі б закрэсліць усю шматвяковую культуру народа, паэт яшчэ раз растлумачваў, што ў Савецкім Саюзе «знішчаны нацыянальны прыгнёт, але адгэтуль зусім не вынікае, што нацыянальныя адрозненні зніклі і нацыі нашай краіны ліквідаваны. У нас ліквідаваны нацыянальныя дзяржаўныя перагародкі з пагранічнай вартай, з мытніцамі, але адсюль зусім не вынікае, што нацыі ўжо зліліся і нацыянальныя мовы зніклі, што гэтыя мовы заменены нейкай адной агульнай для ўсіх нашых нацый мовай».

Высокую ацэнку даваў П. Ф. Глебка дзейнасці беларускіх пісьменнікаў, якія з разуменнем і адказнасцю ставіліся да мовы свайго народа, імкнуліся ўдасканальваць яе, выпрацоўваць агульналітаратурныя нормы. Якраз у гэтым бачыў ён велізарнае значэнне творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія паклалі пачатак выпрацоўцы нарматыўнасці беларускай мовы і справу якіх паспяхова працягвалі К. Чорны, К. Крапіва, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, Я. Брыль, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, М. Лужанін, В. Вітка і інш. «Мы павінны няспынна дбаць аб далейшым развіцці беларускай мовы,— пісаў паэт.— Не ўдасканальваючы сваёй мовы, народ не толькі не можа тварыць сваю культуру, а і карыстацца тымі здабыткамі, якія даюць і будуць даваць іншыя народы і ў першую чаргу вялікі рускі народ... Мы павінны дбаць аб развіцці нашай мовы яшчэ і для таго, каб і ў справу стварэння будучай агульначалавечай мовы беларускі народ

унёс сваю долю, як ён уносіў і ўносіць яе ў іншыя галіны камуністычнай культуры».

Зразумела, чаму з такой непрымірымасцю выступаў П. Ф. Глебка супраць абыякавых адносін да культуры роднай мовы з боку асобных непатрабавальных пісьменнікаў, журналістаў, артыстаў. Паэт ніколі не праходзіў міма выпадкаў скажэння мовы ў друку, на радыё, на тэлебачанні або на сцэнах нашых тэатраў. Барацьбе за чысціню мовы ён прыдаваў першаступеннае значэнне: «Трэба дабіцца, каб крытыка, гаворачы аб творы, заўсёды гаварыла і аб мове. Трэба завесці раздзел у «Літаратуры і мастацтве» па канкрэтных пытаннях мовы — ужыванне таго ці іншага слова, вымаўлення і г. д. Трэба, каб нашы літаратурныя выданні («Літаратура і мастацтва», «Полымя», «Беларусь») сталі ўзорамі літаратурнай мовы. Цяжкія для перакладу словы, выразы, пошукі новых тэрмінаў і слоў, кожны ўдалы ці няўдалы наватвор павінны стаць прадметам калектыўнага абмеркавання работнікаў рэдакцый і пісьменнікаў. Партыя і народ давяраюць нам адзін з найбагацейшых скарбаў — мову народа, і мы павінны ставіцца да яе з найвялікшай адказнасцю і з найвялікшай любоўю».

У сваіх літаратурна-крытычных артыкулах П. Ф. Глебка заўсёды знаходзіў месца для разгляду мовы пісьменніка. Паэт зусім правільна сцвярджаў, што калі аўтар таго ці іншага твора слаба ведае мову, на якой піша, то ён не прынясе карысці роднай літаратуры, бо мова — гэта падмурак, на якім трымаецца ўвесь будынак — мастацкі твор. Маладых паэтаў і празаікаў П. Ф. Глебка заклікаў вучыцца культуры мовы ў класікаў роднай літаратуры, і ў першую чаргу ў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, якія чула прыслухоўваліся да жывога гучання народнай мовы і шырока выкарыстоўвалі яе характэрныя асаблівасці ў сваёй творчасці.

У адносінах да матэрыяльнай і духоўнай культуры народа П. Ф. Глебка прытрымліваўся думкі У. І. Леніна, які надаваў вялікае значэнне фальклорна-этнаграфічным запісам як выдатнаму матэрыялу для вывучэння гісторыі народа на ўсіх яе этапах. Якраз таму паэт заклікаў глыбей вывучаць фальклор, характэрныя асаблівасці быту беларускага народа — як мінулых эпох, так і сучаснасці.

Сам П. Ф. Глебка яшчэ ў студэнцкія гады захапляўся вывучэннем паэтыкі беларускага фальклору. Ён лічыў, што «да гэтага часу мы не маем не толькі ў беларускай наву-

цы, а нават і ў навуцы СССР дакладна распрацаванай гістарычнай паэтыкі фальклору». Гэты прабел і імкнуўся запоўніць паэт. Ён ставіў перад сабой мэту падрабязна разгледзець стыль, характар вершаскладання і жанры вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. У працы «Асноўныя рысы беларускага фальклору» П. Ф. Глебка даў глыбокі аналіз стылю народных твораў, у прыватнасці ён прасачыў генезіс такіх яго кампанентаў, як параўнанне, паўтор, паралелізм, метафара, эпітэт з яго разгалінаваннямі. Свой разгляд рыс фальклору аўтар рабіў у неадрыўнай сувязі з гісторыяй народа.

Вельмі многа зрабіў П. Ф. Глебка ў арганізацыі збору фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, у папулярызацыі вуснапаэтычнай творчасці народа. Ён усяляк падтрымліваў энтузіястаў вывучэння народнай культуры, ахвотна даючы рэцэнзіі і водгукі на іх даследчыя працы, выхоўваючы кадры фалькларыстаў і этнографаў. Запаветнай марай паэта было ажыццяўленне задачы, якую ставіў перад фалькларыстамі яшчэ акадэмік Я. Ф. Карскі — паўсямеснае фальклорнае абследаванне Беларусі і стварэнне своеасаблівага фальклорнага атласа. Гэтаму П. Ф. Глебка аддаваў нямала сіл і энергіі. І тое, што сёння Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР ажыццяўляе шматтомнае выданне беларускага фальклору,— адна з заслуг паэта. У яго архіве захоўваюцца варыянты пісем, з якімі П. Ф. Глебка звяртаўся ў самыя высокія інстанцыі рэспублікі і пераканаўча даводзіў аб важнасці выдання, якое павінна «садзейнічаць больш глыбокаму вывучэнню культуры, светапогляду і быту працоўных нашай рэспублікі ў розныя гістарычныя эпохі».

Народную творчасць беларусаў П. Ф. Глебка зусім слушна лічыў той крыніцай, з якой бярэ пачатак шырокая і шматфарбная рака сённяшняга прафесійнага мастацтва Беларусі.

Беларускае мастацтва заўсёды было ў полі зроку паэта. Ён цікавіўся ім яшчэ на раннім этапе сваёй літаратурнай і навуковай дзейнасці. У артыкулах, у дакладах на навуковых паседжаннях, у водгуках на дысертацыі паэт праявіў сябе як тонкі знаўца мастацтва, асабліва тэатральнага і выяўленчага.

Добра разумеючы, што мастацтва, як і любая іншая галіна культуры, не можа па-сапраўднаму развівацца без засваення ўсяго папярэдняга вопыту, нацыянальных тра-

дыцый, П. Ф. Глебка нямала рабіў у напрамку вывучэння гісторыі нашага мастацтва. Ён зазначаў, што «беларускае мастацтва ў мінулым ніколі, бадай, не было прадметам спецыяльнага сістэматычнага вывучэння», што толькі савецкі час стаў «перыядам зараджэння і развіцця беларускага мастацтвазнаўства як навукі». У асобных працах і выступленнях П. Ф. Глебка паказаў шляхі развіцця мастацтвазнаўства Савецкай Беларусі, даў ацэнку ўсіх асноўных даследаванняў нашых мастацтвазнаўцаў.

Нельга не адзначыць нястомную працу П. Ф. Глебкі па рэдагаванню многіх навуковых выданняў беларускіх даследчыкаў.

Навуковая дзейнасць П. Ф. Глебкі сведчыць аб глыбокім патрыятызме паэта-камуніста, аб яго шчырых клопатах пра развіццё культуры роднага народа. У артыкуле пра навуковую дзейнасць народнага пісьменніка Беларусі К. К. Крапівы «Пісьменнік і вучоны» П. Ф. Глебка заўважаў, што «навуковая работа К. Крапівы — гэта не выпадковы спадарожнік у біяграфіі пісьменніка, а вельмі арганічная праява яго шматбаковага таленту, адна з уласцівых рыс яго творчага характару, яго мэтанакіраванай дзейнасці не толькі як літаратара, а і як дзеяча нацыянальнай культуры шырокага дыяпазону». Гэтыя словы можна цалкам аднесці і да самога П. Ф. Глебкі, паэта і вучонага, які пакінуў значны след у беларускай навуцы.

У дадзенае выданне ўключана толькі частка навуковай спадчыны П. Ф. Глебкі — яго працы па мовазнаўству, гісторыі, філасофіі, фалькларыстыцы, этнаграфіі, мастацтвазнаўству.

Складальнікі палічылі патрэбным уключыць у кнігу рад водгукаў на дысертацыі маладых вучоных, каб паказаць і той «схаваны» бок шматграннай дзейнасці паэта і акадэміка, клапатлівага і патрабавальнага выхавальніка навуковай моладзі. Гэтыя водгукі (у архіве паэта іх захоўваецца шмат) яшчэ раз гавораць аб шырокім навуковым дыяпазоне П. Ф. Глебкі, аб яго ўменні арыентавацца ў самых складаных пытаннях чалавеказнаўства, аб правільным разуменні ім ролі і значэння навукі ў развіцці сацыялістычнага грамадства.

*К. Цвірка*

# ВЯЛІКАЯ КАСТРЫЧНІЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І РАЗВІЦЦЁ ГРАМАДСКІХ НАВУК У БЕЛАРУСІ

## ДАКЛАД НА ЮБІЛЕЙНАЙ СЕСІІ АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКІХ НАВУК АН БССР, ПРЫСВЕЧАНАЙ 50-ГОДДЗЮ БССР І КПБ

Год з нечым таму назад працоўныя Савецкай краіны ўрачыста адзначалі 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая паклала пачатак новай эры ў развіцці чалавечага грамадства. Зараз беларускі народ горача рыхтуецца сустрэць новую знамянальную дату — пяцідзесятую гадавіну БССР і Кампартыі Беларусі.

Абедзве гэтыя ўрачыстасці непарыўна звязаны ў жыцці беларускага народа, як непарыўна звязаны ў яго гісторыі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Іменна толькі дзякуючы перамозе Кастрычніка, ленінскай нацыянальнай палітыцы нашай партыі, брацтву народаў Расіі беларусы дабіліся сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення, атрымалі сваю дзяржаўнасць і сталі роўнымі сярод роўных у дружнай сям'і будаўнікоў камуністычнага грамадства.

Багатымі здабыткамі сустракаюць працоўныя Беларусі сваё вялікае свята як у галіне народнай гаспадаркі, так і ў галіне культуры. Сёння наша рэспубліка за пяць дзён выпускае столькі прамысловай прадукцыі, колькі да рэвалюцыі Беларусь давала за цэлы год. А хіба ж можна нашы сучасныя прамысловыя гіганты, абсталяваныя самай перадавой тэхнікай, параўнаць з тымі невялічкімі, часта саматужнага тыпу прадпрыемствамі, якія былі характэрны для Беларусі ў дарэвалюцыйны час?!

Сацыялістычная індустрыялізацыя краіны забяспечыла перабудову на новых асновах і сельскай гаспадаркі рэспублікі. Беларусь стала краінай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, узброенай высокай машыннай тэхнікай.

У працэсе сацыялістычнага будаўніцтва шпаркімі тэмпамі адбывалася ў рэспубліцы культурная рэвалюцыя. Тэрыторыя рэспублікі пакрылася густой сеткай агульнаадукацыйных школ, сярэдніх і вышэйшых навучальных і культурна-асветных устаноў. Выраслі кадры беларускай савецкай інтэлігенцыі.

Усе гэтыя велізарныя гістарычныя працэсы ў палітычным і гаспадарчым, у сацыяльным і духоўным жыцці беларускага народа выклікалі патрэбу іх навуковага асэнсавання і абагульнення і ў сваю чаргу спрыялі і стваралі грунт для развіцця ў рэспубліцы навукі, у тым ліку, а можа быць, і перш за ўсё — і навукі аб грамадстве.

Аглядаючы пройдзены пяцідзесяцігадовы шлях рэспублікі, мы заканамерна параўноўваем нашы дасягненні з тым, што было ў нас да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Калі ж размова ідзе аб развіцці ў рэспубліцы навукі, мы адчуваем, што, як сказаў на нядаўняй агульнаакадэмічнай сесіі наш прэзідэнт, нам, па сутнасці, дасягненні беларускага народа ў гэтай галіне няма з чым і параўноўваць, альбо, дакладней кажучы, адлік даводзіцца рабіць амаль ад нуля.

У чым жа справа?

Як вядома, творчыя здольнасці кожнага народа не абмежаваны ні ў сваёй патэнцыяльнай сіле, ні ў разнастайнасці формаў свайго праяўлення. Але магчымасці іх развіцця і дастасавання да практычнай дзейнасці цалкам залежаць ад канкрэтных гістарычных умоў.

Таленавітасць беларускага народа заўсёды і няспынна шукала сабе выйсця ў мастацкай і навуковай творчасці, але, закутая ланцугамі сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, рэдка вырывалася на свабодныя прасторы. І сёння, калі мы адзначаем пяцідзесяцігадовы юбілей рэспублікі, мне хочацца яшчэ і яшчэ раз падкрэсліць тое выключнае значэнне, якое мела перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі для развіцця ўсіх, у тым ліку і грамадскіх, навук. І справа тут не толькі ў тым, што ў выніку гэтай перамогі былі створаны ўсе матэрыяльныя і духоўныя перадумовы для шырокага развіцця навукі. Справа перш за ўсё ў тым, што іншым стала само прызначэнне навукі ў грамадстве.

«Раней,— гаварыў у 1918 г. У. І. Ленін,— увесь чалавечы розум, увесь яго геній тварыў толькі для таго, каб даць адным усе даброты тэхнікі і культуры, а іншых пазбавіць самага неабходнага — асветы і развіцця. Цяпер

жа ўсе цуды тэхнікі, усе заваёвы культуры стануць агульнанародным здабыткам і ад гэтага часу ніколі чалавечы розум і геній не будуць ператвораны ў сродкі насілля, у сродкі эксплуатацыі»[1].

У савецкіх умовах навука становіцца на службу народу ў яго гераічных намаганнях па будаўніцтву камуністычнага грамадства. Яна ў сваіх грамадскіх разгалінаваннях складае тэарэтычную аснову гэтага будаўніцтва, а ў сваім прыродазнаўчым напрамку ўсё больш і больш становіцца непасрэднай вытворчай сілай. Іменна гэтае высакароднае прызначэнне навукі ў нашым грамадстве і натхняе яе творцаў на смелыя пошукі і вялікія здзяйсненні.

Нарэшце, мы ніколі не павінны забывацца, што сваімі навуковымі поспехамі мы абавязаны вялікаму вучэнню марксізма-ленінізма, якое складае тэарэтычную і метадалагічную аснову сацыялістычнай навукі.

Ідэі марксізма-ленінізма мелі ў Беларусі даволі значнае пашырэнне і да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аднак толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла для народа ўсё багацце вялікага вучэння Маркса — Энгельса — Леніна.

Творы класікаў марксізма-ленінізма пасля Кастрычніка пачалі выходзіць і ў перакладзе на беларускую мову. За гады Савецкай улады на беларускай мове выдадзены Збор твораў У. І. Леніна і важнейшыя працы Маркса і Энгельса, у тым ліку Выбраныя творы Маркса і Энгельса ў двух тамах, «Маніфест Камуністычнай партыі», «Капітал», «Анты-Дзюрынг», «Дыялектыка прыроды» і многія іншыя.

Нельга пераацаніць значэнне навуковай спадчыны класікаў марксізма-ленінізма для развіцця грамадскіх навук. Маркс і Энгельс узброілі навуку дыялектычна-матэрыялістычным метадам, з'явіліся заснавальнікамі тэорыі навуковага сацыялізма. У. І. Ленін, стаўшы выдатным прадаўжальнікам вучэння Маркса — Энгельса, па праву ўвайшоў у гісторыю як геніяльны тэарэтык пралетарскай рэвалюцыі і сацыялістычнага пераўтварэння грамадства. Абагульняючы на падставе марксізма-ленінізма практыку сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва, КПСС і яе Цэнтральны Камітэт нязменна ўзбагачаюць нашы

[1] В. И. Ленин. Соч., т. 22. М.— Л., 1929, стар. 225.

грамадскія навукі новымі важнейшымі тэарэтычнымі палажэннямі.

Усё гэта стварае той непахісны і спрыяльны грунт, на якім зарадзіліся, раслі і развіваюцца далей грамадскія навукі ў нашай краіне, у тым ліку і ў Беларусі, пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Таварышы! Я не магу ў сваім кароткім дакладзе даць падрабязны аналіз развіцця грамадскіх навук у Беларусі за 50 гадоў, якія мінулі з дня ўтварэння БССР. Для гэтага патрэбна — і я думаю, што час ужо такі наспеў — напісаць цэлую гісторыю развіцця грамадскіх навук у нашай рэспубліцы. Я не магу нават пералічыць той навуковай прадукцыі, якая з'явілася за гэтыя гады. Ды я думаю, што ў гэтым і няма асаблівай патрэбы. Для вас, бадай, усіх не менш за мяне вядома, як складвалася і развівалася ў нас грамадазнаўства — гісторыя і філасофія, эканоміка і этнаграфія, мовазнаўства і літаратуразнаўства. Апрача таго, неўзабаве з друку выйдзе кніга аб развіцці навукі ў Савецкай Беларусі, дзе даецца калі не гісторыя, дык даволі падрабязны бібліяграфічны агляд літаратуры па ўсіх, бадай, дысцыплінах грамадскіх навук.

Аднак напярэдадні слаўнага пяцідзесяцігоддзя мы не маем права забыць тых, якія закладвалі пачаткі грамадскіх навук у рэспубліцы і многіх з якіх няма ўжо сярод нас, таксама як нельга не ўспомніць хоць бы некаторых важнейшых прац, напісаных ужо ў пасляваенныя гады.

Развіццё грамадскіх навук у нашай рэспубліцы пачалося з моманту стварэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інбелкульта і іншых навучальных і даследчых устаноў. Гэта было ў пачатку дваццатых гадоў ва ўмовах пасляваеннага разбурэння і нястач у памяшканнях, у абсталяванні, у жыллі. Камуністычная партыя і Савецкі ўрад нямала прыклалі намаганняў і праявілі клопату, каб у тым краі, дзе да рэвалюцыі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, стварыць універсітэт, забяспечыць яго навуковымі кадрамі, літаратурай. Рускі народ, яго перадавая інтэлігенцыя аказалі і на гэты раз беларускаму народу самую шчодрую брацкую дапамогу. У Беларусь у якасці прафесараў і выкладчыкаў вярнуліся некаторыя яе ўраджэнцы, а таксама прыехалі многія відныя рускія вучоныя. Далёка не ўсе яны стаялі або сталі адразу пасля Кастрычніка на марксісцкіх пазіцыях. І тут нельга зноў не адзначыць той дальнабачнасці і палітыч-

най мудрасці, з якой У. І. Ленін вучыў адносіцца да старой інтэлігенцыі, калі гаварыў: «Трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і з яе пабудаваць сацыялізм. Трэба ўзяць усю навуку, тэхніку, усе веды, мастацтва. Без гэтага мы жыццё камуністычнага грамадства пабудаваць не можам. А гэта навука, тэхніка, мастацтва — у руках спецыялістаў і ў іх галовах» [2]. І з гэтага палажэння Ленін рабіў адзіна правільны ў тых умовах вывад: беражна ставіцца да старой інтэлігенцыі, імкнуцца наладжваць з ёю на прынцыповых савецкіх пазіцыях супрацоўніцтва, старацца заваяваць яе на бок Савецкай улады.

Зразумела, што рашаючую ролю ў перавыхаванні навуковай інтэлігенцыі дарэвалюцыйнай фармацыі, у пераглядзе ёю сваіх ранейшых поглядаў, у яе шчырым у пераважнай большасці імкненні служыць працоўнаму народу сыграла наша савецкая рэчаіснасць. Але немалое значэнне ў гэтым мела і праца вучоных-марксістаў.

Ужо ў сакавіку 1922 г. у Мінску ўтварылася Навуковае таварыства марксістаў Беларусі, якое аб'ядноўвала філосафаў, эканамістаў, гісторыкаў, юрыстаў і значна садзейнічала даследчай рабоце ў галіне дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму. Актыўны ўдзел членаў таварыства ў шматлікіх дыскусіях па пытаннях сацыялістычнага будаўніцтва, культурнай рэвалюцыі, нацыянальных адносін, шляхоў развіцця беларускай літаратуры і мастацтва спрыялі развіццю не толькі філасофіі, а і многіх іншых грамадскіх навук у марксісцкім напрамку. Значны след у гісторыі грамадскіх навук Беларусі яны пакінулі і сваімі апублікаванымі працамі. Тут можна б назваць працы С. Вальфсона, С. Кацэнбогена, П. Маўрадыядзі, П. Панкевіча, Р. Выдры, Б. Быхаўскага і інш.

У галіне гістарычных навук у перадваенныя гады ў Беларусі праводзілі вялікую навуковую працу такія выдатныя вучоныя, як акадэмікі У. Пічэта, М. Нікольскі, У. Перцаў, археолагі А. Ляўданскі, К. Палікарповіч, этнограф І. Сербаў.

Утварэнне Беларускай ССР, арганізацыя планавай сацыялістычнай гаспадаркі паставілі вялікія задачы перад вучонымі-эканамістамі і юрыстамі Беларусі. Сярод іх трэ-

[2] В. И. Ленин. Соч., т. 24. М. — Л., 1929 стар. 65.

ба назваць М. Грэдынгера, Н. Канапліна, Г. Гарэцкага, І. Равуна, Я. Ракава і інш.

Вялікае значэнне для развіцця маладога беларускага літаратуразнаўства мела дзейнасць акадэміка І. Замоціна, А. Вазнясенскага, якія поруч з такімі беларусаведамі, як М. Піятуховіч, М. Гарэцкі, Я. Барычэўскі нямала ўвагі ўдзялялі як гісторыі, так і сучасным праблемам беларускай літаратуры.

Моцная група вучоных працавала і ў галіне беларускага мовазнаўства, у тым ліку прафесар П. Бузук, І. Воўк-Левановіч, працы якіх не страцілі пэўнай вартасці і да нашых дзён. Нельга тут абмінуць і тых мовазнаўцаў, якія шмат удзялялі ўвагі практычным патрэбам беларускай мовы і ўслед за аўтарам першай беларускай граматыкі Б. Тарашкевічам напісалі рад падручнікаў па беларускай мове (К. Гурскага, М. Жыркевіча і інш.).

Меншай колькасцю прац і аўтараў у даваенны час было прадстаўлена беларускае савецкае мастацтвазнаўства. Аднак і ў гэтай галіне ўжо ў першыя гады Савецкай улады быў пакладзены добры пачатак. Я маю на ўвазе ў галіне архітэктуры і выяўленчага мастацтва працы М. Шчакаціхіна, а ў музыказнаўстве працы Ю. Дрэйзіна.

Я не схільны перабольшваць навуковае значэнне ўсіх абсалютна прац тых аўтараў, якіх я назваў, асабліва ў сэнсе іх метадалогіі. У гэтым плане многія з іх [прац] не пазбаўлены сур'ёзных недахопаў, а пэўная частка мае і памылкі іншага характару. Але поруч з гэтым сярод іх былі і такія працы, якія і сёння мы можам залічыць у свой актыў, як, напрыклад, даследаванні таго часу У. Пічэты, М. Нікольскага, У. Перцава, С. Вальфсона, П. Бузука і некаторых іншых.

З вялікай удзячнасцю мы павінны прыгадаць сёння і той факт, што дзейнасць гэтых вучоных выяўлялася не толькі ў даследчай працы, а і ў падрыхтоўцы тых маладых кадраў, многія з якіх складаюць сёння цвет і гонар нашых грамадскіх навук і самі ўжо ў сваю чаргу рыхтуюць сабе маладую навуковую змену.

Зразумела, што сённяшняе развіццё грамадскіх навук у Беларусі ні па размаху навуковых даследаванняў, ні па колькасці навукова-даследчых устаноў і даследчыкаў ні ў якое параўнанне не можа ісці з даваенным. Сёння толькі ў саставе Акадэміі навук БССР працуе шэсць паўнакроўных інстытутаў, доследы якіх ахопліваюць, бадай,

усе важнейшыя напрамкі грамадскіх навук. Значную навукова-даследчую работу вядуць у рэспубліцы ў галіне грамадскіх навук ведамасныя даследчыя ўстановы, а таксама шматлікія кафедры грамадскага профілю вышэйшых навучальных устаноў.

Непараўнальна з даваенным часам выраслі навуковыя кадры грамадазнаўцаў. На 1 студзеня 1967 г. у рэспубліцы было 53 дактары і 1052 кандыдаты грамадскіх навук, што адпаведна складае амаль адну пятую дактароў і амаль адну трэцюю кандыдатаў навук усіх спецыяльнасцей.

Аб шырокім развіцці грамадскіх навук сведчыць і шматлікая і разнастайная навуковая прадукцыя. Я ўжо сказаў, што я не маю магчымасці не толькі ахарактарызаваць, а нават і пералічыць усе працы, хоць бы толькі супрацоўнікаў нашага аддзялення. Назаву толькі некаторыя, на маю думку, найбольш важныя, выкананыя, як правіла, калектыўна і пераважна ў апошнія гады.

У галіне філасофіі — гэта трохтомная калектыўная праца аб сацыяльнай структуры савецкага грамадства Беларусі, калектыўная ж «Развіццё беларускай сацыялістычнай культуры», дзве кнігі К. П. Буслава «Праблемы сацыяльнага прагрэсу ў працах У. І. Леніна» і «Аб крытэрыі ўнутрыкласавых адрозненняў у СССР», А. І. Галаўнёва «Камунізм і культура», Д. І. Шыраканава «Дыялектыка неабходнасці і выпадковасці», В. І. Сцяпанава «Філасофскія і сацыялагічныя погляды В. Р. Бялінскага», зборнік «З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі», у якім змешчаны дбайна выбраныя і пракаменціраваныя калектывам супрацоўнікаў Інстытута філасофіі і права творы філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі XVI — пачатку XIX ст.

Шырока прадстаўлена ў навуковай літаратуры і прававая частка работы Інстытута філасофіі і права. У якасці прыкладу можна назваць такія кнігі, як калектыўная манаграфія «Пытанні агульнанароднай дзяржавы і права БССР», «Дзяржаўнае будаўніцтва БССР у гады аднаўлення народнай гаспадаркі» С. П. Маргунскага і многія іншыя.

Добрымі вынікамі сваёй працы сустракаюць свята вучоныя-эканамісты. З іх апублікаваных прац трэба назваць такія, як калектыўныя даследаванні «Пытанні стымулявання працы ў сацыялістычным грамадстве», «Асноўныя

фонды прамысловасці і іх выкарыстанне», «Эканоміка Беларусі ў эпоху імперыялізму», «Эканоміка Савецкай Беларусі 1917—1967 гг.», «Рэзервы прадукцыйнасці працы і зніжэнне сабекошту ў прамысловасці БССР», манаграфія Ф. Марцінкевіча «Размяшчэнне і спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларускай ССР», кнігі М. Вядуты «Эканамічная эфектыўнасць новай тэхнікі», Ф. Дронава «Эфектыўнасць выкарыстання асноўных фондаў прамысловасці» і многія іншыя.

Карыстаючыся ўлюбёным словам эканамістаў «эфектыўнасць», хачу падкрэсліць таксама, што на падставе сваіх даследаванняў эканамісты ўнеслі ў міністэрствы і ведамствы рад вельмі каштоўных і эфектыўных прапаноў і рэкамендацый, якія з поспехам выкарыстоўваюцца ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы рэспублікі.

Вялікую колькасць кніг выдалі ў апошнія гады супрацоўнікі Інстытута гісторыі. Рэгламент не дазваляе мне назваць нават важнейшыя з іх, і я адзначу толькі такія капітальныя працы, як апублікаваная ўжо двухтомная і завершаная ў гэтым годзе пяцітомная гісторыя БССР [...] Гэта самае значнае даследаванне нашых гісторыкаў не толькі па аб'ёму, а і па распрацоўцы вузлавых пытанняў гістарычнага развіцця беларускага народа, угрунтаванае на папярэдніх манаграфічных даследаваннях, праведзеных Н. Каменскай, І. Краўчанкам, К. Шабуняй, З. Капыскім, І. Марчанкам, В. Чапко і многімі другімі беларускімі гісторыкамі.

Вялікую работу правялі ў пасляваенныя гады нашы археолагі. Працы ў гэтым кірунку К. Палікарповіча, В. Тарасенкі, У. Будзько, У. Ісаенкі, А. Мітрафанава, Л. Побаля і многіх іншых археолагаў дазваляюць па-новаму асвятліць рад пытанняў, звязаных з даўно мінулымі эпохамі.

Важныя пытанні гісторыі Беларусі распрацоўвалі і нашы этнографы, вынікам чаго з'явіліся такія працы, як «Беларусы» М. Грынблата, кнігі А. Залескага, прысвечаныя вывучэнню побыту сельскага насельніцтва на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі Беларусі, а таксама даследаванні В. Бандарчыка па гісторыі беларускай этнаграфіі.

Да этнаграфічнага напрамку прымыкаюць і даследаванні беларускага фальклору, якія праводзіліся І. Гутаравым, М. Грынблатам, К. Кабашнікавым, С. Майхрові-

чам, А. Фядосікам і другімі фалькларыстамі. У выніку гэтага апублікаваны і завершаны як калектыўныя працы па сучаснаму і дарэвалюцыйнаму фальклору, так і асобныя манаграфіі К. Кабашнікава, С. Майхровіча, А. Фядосіка і інш.

Вялікая работа ў галіне гісторыі беларускай мовы, дыялекталогіі, лексікаграфіі, анамастыкі, а таксама некаторых агульных пытанняў славістыкі праведзена супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства. У ліку найбольш важных вынікаў мовазнаўчых даследаванняў трэба назваць такія калектыўныя працы, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», беларуска-рускі і руска-беларускі слоўнікі, двухтомную граматыку беларускай мовы, а таксама рад кніг, апублікаваных Ю. Мацкевіч, Н. Вайтовіч, М. Булахавым, А. Жураўскім, М. Бірылам, М. Суднікам, В. Мартынавым, М. Лобанам і іншымі супрацоўнікамі інстытута.

Надзённымі і актуальнымі праблемамі сучаснай беларускай літаратуры займаюцца нашы літаратуразнаўцы — В. Барысенка, В. Івашын, Ю. Пшыркоў, Н. Перкін, А. Адамовіч, П. Дзюбайла, А. Коршунаў, А. Мальдзіс і многія іншыя. Каб толькі пералічыць іх працы, спатрэбілася б не менш часу, чым мне адведзена для гэтага даклада. І таму я назаву толькі такія грунтоўныя калектыўныя працы, як чатырохтомная гісторыя беларускай літаратуры, а таксама апошнія два даследаванні, адно з якіх прысвечана сучаснай беларускай прозе, а другое — паэзіі [3].

Не магу я абмінуць у сваім дакладзе і тых даследаванняў, якія праводзяць прадстаўнікі самага маладога напрамку ў нашых грамадскіх навуках — мастацтвазнаўства. Нягледзячы на сваю маладосць, гэты напрамак мае ўжо даволі багатыя вынікі. Перш за ўсё тут вызначаюцца грунтоўныя працы па гісторыі беларускага тэатра У. Няфёда, а таксама даследаванні М. Кацара па беларускай архітэктуры і выяўленчаму мастацтву. Да іх трэба далучыць кнігі маладзейшых даследчыкаў: у галіне тэатразнаўства — А. Сабалеўскага, С. Пятровіча, А. Саннікава, С. Міско, А. Лабовіча; у галіне кінамастацтва — А. Кра-

[3] Відаць, маюцца на ўвазе працы: П. К. Дзюбайла, В. П. Жураўлёў, М. П. Луфераў. Праблемы сучаснай беларускай прозы. Мінск, 1967; Сучасная беларуская паэзія. Мінск, 1970. (Заўвага складальнікаў.)

сінскага і В. Смаля; у галіне выяўленчага мастацтва — Л. Дробава і І. Ялатамцавай.

Важнае месца ў музыказнаўстве Беларусі займаюць грунтоўныя працы В. Ялатава, прысвечаныя меладычным асновам беларускай музыкі. Цікавыя даследаванні па гісторыі беларускай музычнай культуры праводзіць Б. Смольскі. Новы напрамак у беларускай харэаграфіі развівае ў сваіх доследах Ю. Чурко.

[...] Па ўсіх напрамках грамадскіх навук вялікая праца праводзіцца ў БДУ і ў іншых навучальных і навукова-даследчых установах рэспублікі. Вялікае і важнае месца ў развіцці грамадскіх навук займаюць даследаванні Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Сіламі яго супрацоўнікаў напісана і выдадзена двухтомная гісторыя неадрыўнай, састаўной часткі вялікай Ленінскай партыі— Камуністычнай партыі Беларусі, слаўнае пяцідзесяцігоддзе якой наш народ адзначае разам з юбілеем рэспублікі. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ праводзіць таксама шырокія даследаванні па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайны, усенароднай партызанскай барацьбы за незалежнасць і свабоду нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны.

Многа зроблена даследчыкамі-грамадазнаўцамі рэспублікі ў галіне вывучэння і абагульнення вялікага гістарычнага вопыту нашага народа, яго барацьбы і творчай працы ў імя сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення, у імя перамогі сацыялізма і камунізма.

Але мы яшчэ ў вялікім даўгу перад сваім народам і партыяй, якія стварылі ўсе ўмовы для развіцця савецкай навукі і клапатліва дбаюць аб яе няспынным далейшым росце і росквіце. Перад грамадскімі навукамі Беларусі стаіць яшчэ шмат нявырашаных важных праблем.

Мы ідзём насустрач вялікаму юбілею рэспублікі і Кампартыі Беларусі з добрымі дасягненнямі. Але мы заўсёды павінны помніць мудры наказ У. І. Леніна аб тым, што найлепшы спосаб дастойна адзначыць юбілей — гэта сканцэнтраваць сваю ўвагу і работу на невырашаных яшчэ пытаннях. І мы гэта павінны здзейсніць.

Беларуская савецкая навука, як і ўся навука нашай краіны, паспяхова развівалася пад сцягам марксізма-ленінізма. Пад гэтым непераможным зорным сцягам яна пойдзе і далей па шляху повага росквіту і славы.

*1968 г.*

# КУЛЬТУРА ТРУДОВОГО НАРОДА

Нынешнее лето в Белоруссии было холодным и дождливым. Но первого сентября, словно по заказу неугомонной детворы, день выдался ясный и теплый. На улицах белорусских городов и деревень запестрели цветы, заалели пионерские галстуки, засияли улыбки — дети шли в школу...

Перед моими глазами картина встала не случайно, когда я начал писать настоящую статью: грамотность народа составляет основу его культуры. Трудными путями к нынешнему ее расцвету пришел белорусский народ. Многое в его культурном развитии кажется нам парадоксальным, но остается историческим фактом. Как один из прямых наследников великой культуры Киевской Руси, он издревле обладал высоко развитой письменностью. В 1517 г. в Белоруссии появилось книгопечатание. И несмотря на это, через четыреста лет накануне Великой Октябрьской социалистической революции свыше 80 процентов белорусского населения было неграмотно. Школ на белорусском языке не было совершенно.

Получив в результате Октябрьской революции подлинное социальное и национальное освобождение, белорусский народ начал строительство своей новой национальной культуры с ликвидации неграмотности. В республике повсеместно создаются кружки ликбеза, организуются многочисленные курсы подготовки учителей, грамотное население в порядке трудовой повинности привлекается к обучению неграмотных.

Усилия Коммунистической партии и Советской власти в области развития белорусской культуры вскоре принесли свои богатые плоды. Уже к началу сороковых годов в Советской Белоруссии в основном была ликвидирована неграмотность среди взрослого населения и полностью охвачены учебой дети школьного возраста. Развернулось бурное строительство высших и средних учебных заведений. На основе крупных достижений экономики и народного просвещения пышно расцвела национальная по форме и социалистическая по содержанию культура белорусского народа.

Не могу не привести в качестве иллюстрации этого положения некоторых весьма показательных сравнений. До Октябрьской революции в Белоруссии не было ни одного

высшего учебного заведения, а в 1940 г. их насчитывалось уже двадцать пять с количеством студентов свыше 21 тысячи. В 1913 году на территории нынешней Белорусской ССР была издана 261 книга и из них только одна на белорусском языке, а в 1940 г. вышло в свет 772 книги и из них больше половины на белорусском языке. В дореволюционное время в Белоруссии не было ни одного научно-исследовательского учреждения, если не считать двух маленьких опытных сельскохозяйственных станций, на которых работало 10—12 специалистов. А в 1940 г. в республике уже было свыше пятидесяти исследовательских учреждений, объединяющих 2227 научных работников.

Подобные сравнительные примеры, иллюстрирующие разительный скачок народа из капиталистического царства тьмы в социалистические просторы света, можно бы приводить бесконечно, называя любую область белорусской культуры: литературу, печать, искусство, театры, кино, клубы, музеи — все то, что составляет подлинные культурные ценности цивилизованного мира. Эти примеры убедительно показывают, что только в условиях советской действительности творческий гений белорусского народа, подавленный в прошлом социальным и национальным гнетом, по-настоящему смог расправить свои крылья, что только вдохновленный великими идеями коммунизма он смог в такой короткий исторический срок достичь таких больших свершений.

Однако часто, когда называешь эти примеры, за рубежом находятся люди, которые, будучи не в силах опровергнуть факты, стараются «объяснять» их на свой лад. «Ну что же,— говорят они,— время движется, народы прогрессируют, не удивительно, что и в Белоруссии за тридцать или сорок лет есть свои достижения».

Я полагаю, что для польского читателя нет нужды опровергать подобные «объяснения». Трудящиеся Польши по собственному опыту хорошо знают, как «работало время» на развитие родной их культуры в период господства помещиков и буржуазии и как оно работает сейчас, когда страна вступила на путь социализма. Польский народ был также живым свидетелем жизни населения Западной Белоруссии и Западной Украины в составе польского буржуазного государства. Он хорошо знает, что годы текли одинаково как над просторами Западной, так и Восточной Белоруссии. Однако если в Советской Белоруссии культура ее

народа действительно развивалась наравне с веком, то в Западной Белоруссии она не только не прогрессировала, а была отброшена к худшим временам средневековья. И если кое-где и вспыхивали маленькие очажки подлинно национальной культуры, если где и проявлялись ростки, так только благодаря мужественной совместной борьбе трудящихся Польши и Западной Белоруссии против их общего врага и угнетателя — польского империализма. Именно в этой совместной борьбе, при братской поддержке и внимании передовых сил польской литературы складывались и крепли таланты белорусских писателей Западной Белоруссии — М. Танка, П. Пестрака, В. Тавлая.

Воссоединение в 1939 г. Западной Белоруссии в едином Белорусском советском государстве положило начало широкому культурному строительству и в западных областях республики. Мощные силы всей Советской страны были направлены на то, чтобы помочь этим областям в короткий срок покончить с вековой отсталостью и выравняться в экономическом и культурном развитии с восточными областями.

Вторжение гитлеровских полчищ помешало полностью осуществить эти задачи. Фашистская оккупация на несколько лет приостановила бурное развитие белорусской культуры не только в западных областях, но и во всей республике. Ворвавшись в Белоруссию, гитлеровские варвары уничтожили здесь все высшие и средние учебные заведения, сожгли свыше шести тысяч школьных зданий, разграбили библиотеки и лаборатории, разрушили клубы и театры. Но погасить неопалимые очаги белорусской социалистической культуры они не смогли. Эвакуированные из Белоруссии дети продолжали заниматься в школах братских республик Советского Союза. На не занятой врагом обширной территории Советской страны работали белорусские театры, Академия наук, университет и другие научные и культурно-просветительные учреждения.

Народы Советского Союза оказали огромную помощь Белоруссии и в послевоенный период, когда началось в республике восстановление разрушенного войной народного хозяйства и культуры. Благодаря этой помощи белорусский народ залечил нанесенные войной раны, и его экономика и культура получили дальнейшее развитие.

Я не имею возможности назвать все то, на что мне хотелось бы обратить внимание польских друзей, говоря о




Сярод дэлегатаў 1-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР 5-га склікання, 1959 г.

сегодняшней жизни Белоруссии. Культура, как известно, явление живое, движущееся, развивающееся. Статистика обычно не успевает за ее движением, тем более если культурная жизнь народа развивается такими бурными темпами, какие характерны для современного развития Советского Союза. Однако я приведу все же некоторые данные, хотя отдельные из них уже и устарели. Там же, где нельзя выразить то или другое явление в цифрах, я назову хотя бы отдельные факты.

Сейчас в республике работает около 13 тысяч школ, в которых обучается, по-видимому, около полутора миллиона человек. Я говорю «по-видимому», так как подсчитать, сколько детей впервые переступило в этом году порог школы, дело трудное. Я пытался это сделать, когда они 1 сентября с цветами в руках, с пышными бантами в волосах, с красными галстуками на шеях шли по улицам Минска, но дело оказалось безнадежным — их было очень много, даже Министерство просвещения еще не знает точно — сколько. Одно можно сказать точно: по количеству учащихся на 10 000 человек населения Белорусская ССР идет впереди таких стран, как Англия, Франция, Италия.

С каждым годом растет в республике и количество высших и специальных средних учебных заведений. В 1960—1961 учебном году в них обучалось свыше 120 тысяч студентов. Надо надеяться, что студенческая семья за прошлый и нынешний годы также значительно выросла. Радостно отметить, что среди студентов белорусских учебных заведений есть граждане не только многих республик Советского Союза, но и некоторых зарубежных стран, в том числе и Польши. В свою очередь белорусская молодежь получает образование не только в своей республике, а и в учебных заведениях Москвы, Ленинграда, Киева и других городов Советского Союза [...]

Сейчас в Белоруссии нет почти такого городка, в котором не было бы учебного заведения. Многие польские граждане знают, наверно, и помнят Пружаны—небольшой и глухой в прошлом городок в Западной Белоруссии. В 1954 г. в Пружанах открыт сельскохозяйственный техникум, который ежегодно выпускает свыше 100 агрономов, зоотехников, механиков. В этом же городке работает и музыкальная школа.

Уже тот факт, что в таких небольших городках, как Пружаны, появляются художественные учебные заведе-

ния, является ярким свидетельством не только широкого развития общего образования народа, но и его искусства. И это действительно так. Белорусская республика имеет в настоящее время свою консерваторию, театрально-художественный институт, музыкальные школы и училища и некоторые другие средние художественные учебные заведения.

Горячим ключом бьет в Белоруссии и театральная жизнь. В республике работает ныне 11 профессиональных театров, в том числе такие замечательные коллективы, как театр оперы и балета и драматические театры имени Я. Купалы и Я. Коласа. Несколько дней тому назад они начали новый театральный сезон. Приятно отметить, что в репертуаре их имеют место и произведения польских творцов. Так, например, театр оперы и балета снова покажет в нынешнем сезоне замечательную оперу гениального польского композитора С. Монюшко «Страшный двор». Театр имени Я. Купалы намечает поставить пьесу польского драматурга Петра Хопловского «Движущиеся пески».

С участием видных солистов Советского Союза начала свой новый сезон Белорусская филармония. А в скором времени нашу республику посетит замечательный музыкальный коллектив братского украинского народа Государственный симфонический оркестр Украинской ССР. Минчане с нетерпением ждут также приезда цирковой труппы из Польской Народной Республики. Широкой популярностью у минчан пользуется открытая в Минском художественном музее выставка произведений художников Советского Союза, выполненных в последние 3—4 года.

Обмен художественными ценностями между братскими республиками Советского Союза и странами народной демократии укрепляет дружбу народов и способствует еще большему развитию белорусского национального искусства.

После летних каникул оживилась и закипела работа в творческих союзах республики. Писатели готовятся к Всесоюзному совещанию молодых литераторов в Москве. Горячие дискуссии ведутся вокруг произведений талантливых молодых белорусских прозаиков В. Быкова и Б. Саченко, поэтов Р. Бородулина и А. Навроцкого. Порадовали читателей новыми произведениями и писатели старшего поколения. Лауреат Ленинской премии П. Бров-

ка и лауреат Государственной премии А. Кулешов написали циклы новых стихов. И. Мележ опубликовал получивший теплые отзывы роман «Люди на болоте». С большим творческим активом вернулись из отпусков поэты М. Лужанин и П. Панченко, А. Велюгин и М. Калачинский, прозаики Я. Брыль и Т. Хадкевич, драматурги А. Макаёнок и А. Мовзон.

Белорусская литература за годы Советской власти выросла в крупное художественное явление народной жизни. Многие лучшие ее произведения переведены не только на языки народов Советского Союза, но и зарубежных стран. Мастерам белорусского слова по плечу стали и переводы великих творений классиков мировой литературы. На белорусском языке полновесно зазвучали произведения Шекспира и Гете, Байрона и Шиллера, Пушкина и Мицкевича, Гоголя и Толстого, Чехова и Шевченко.

Белорусские писатели в годы Советской власти значительно расширили жанровые рамки белорусской литературы. Рядом с прекрасными произведениями художественной прозы и поэзии, основоположниками которой были Я. Купала и Я. Колас, появилась и молодая драматургия, ставшая основой успешного развития национального театра. Именно на лучших образцах национальной драматургии проявили свой талант и выросли в замечательных мастеров сцены народные артисты СССР Г. Глебов, П. Молчанов, В. Владомирский, Б. Платонов, Л. Ржецкая и др.

После глубокого и замечательного истолкования на белорусской сцене лучшие пьесы белорусских драматургов К. Чорного, К. Крапивы, Э. Самуйленка, А. Макаёнка и других обошли многие сцены Советского Союза. Одна из пьес К. Крапивы была поставлена и в Польской Народной Республике.

Крупные успехи в своей работе имеют и композиторы Белоруссии: Н. Чуркин, Е. Тикоцкий, Н. Аладов, А. Богатырев, В. Оловников и многие другие, создавшие национальные оперные, балетные и симфонические произведения.

Богатую галерею живописных произведений, отображающих борьбу и труд народа, написали художники Белоруссии А. Волков, И. Ахремчик, Е. Зайцев, В. Суховерхов, Е. Тихонович, В. Цвирко, А. Шибнёв, И. Стасевич и другие. Заслуженной славой пользуются произведения бе-

лорусских скульпторов З. Азгура, А. Бембеля, А. Глебова, С. Селиханова.

Из всех видов искусства, получивших в Белоруссии в годы Советской власти подлинный расцвет, самым молодым является кино. Но и в этой области есть уже значительные успехи. В качестве примера можно назвать такие белорусские кинофильмы, как «11-е июля», «Первый взвод», «Красные листья», «Часы остановились в полночь», «Девочка ищет отца» и др.

Картина художественной жизни Белоруссии будет далеко не полной, если не сказать хотя бы несколько слов о развитии в республике народного творчества. По неполным данным сейчас в Белоруссии работает не меньше чем 20 тысяч хоровых, драматических, танцевальных и музыкальных самодеятельных коллективов, студий и кружков изобразительного и декоративно-прикладного искусства. Многие из этих кружков выросли в крепкие художественные коллективы. На базе лучших из них в республике создано уже 38 народных театров, в которых с успехом ставятся такие сложные пьесы, как «Без вины виноватые» и «Доходное место» А. Островского, «Егор Булычов и другие» М. Горького, «Кремлевские куранты» и «Цветы живые» Н. Погодина, «Иркутская история» и «Таня» А. Арбузова, «Лявониха на орбите» А. Макаёнка и другие.

Говоря о развитии белорусской культуры, я ограничился только немногими цифрами и фактами, даже не упомянув, например, об огромной научной работе, которую ведет великая армия белорусских ученых в многочисленных институтах и лабораториях во главе с Академией наук БССР. Но мне кажется, что даже из этих отдельных замечаний можно получить представление об огромном историческом пути, который прошла белорусская культура, о ее огромных масштабах и целенаправленности...

Выступая в Москве во время проходившего там Международного конгресса за разоружение и мир, французский писатель Жан-Поль Сартр высказал интересную мысль о единстве и всеобщности культуры. Он говорил: «Люди, которые хотят войны, добиваются раскола культуры. И этот раскол ведет к тому, что современную культуру используют в качестве оружия. Мы наблюдаем, как наша культура разрушается изо дня в день потому, что

художественные и научные ценности пытаются превратить в средства взаимной борьбы».

Белорусская культура свободна от всех тех пороков, о которых говорит Ж.-П. Сартр. Будучи культурой одного из самых миролюбивых народов, какими являются все народы Советского Союза, белорусская социалистическая культура проникнута подлинным гуманизмом и человеколюбием. Она всей своей идейной направленностью служит великому делу мира и дружбы между народами. И в этом она едина со всеми другими прогрессивными культурами человечества. Она не является плодом праздных любителей абстрактной красоты и не обслуживает никчемную горсточку тунеядцев, а создается талантами трудового народа и является его всеобщим благом.

И на этом пути белорусская культура достигнет нового небывалого расцвета, который предначертан культуре советского общества великой Программой коммунистического строительства.

*1963 г.*

# ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАРЛА МАРКСА

## ВЫСТУПЛЕННЕ Ў ВІЦЕБСКУ НА ВЫЯЗНОЙ СЕСІІ ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР

Таварышы! 5 мая спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння геніяльнага мысліцеля, заснавальніка новага вучэння аб прыродзе і грамадстве, настаўніка і правадыра сусветнага пралетарыяту К. Маркса.

Гэтая дата адзначаецца народамі сацыялістычных краін, шырокімі коламі прагрэсіўнага свету як трыумф марксізма-ленінізма, пад сцягам якога перамагла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, пачаўшы новую эпоху ў развіцці чалавецтва — эпоху пераходу ад капіталізму да сацыялізма ў сусветным маштабе.

У тэзісах, апублікаваных Інстытутам марксізма-ленінізма пры ЦК КПСС да 150-годдзя з дня нараджэння К. Маркса, гаворыцца: «Веліч Маркса заключаецца ў тым, што ён даў адказы на пытанні, якія былі пастаўлены ў парадак дня ўсім ходам гістарычнага развіцця. Маркс здзейсніў найвялікшы пераварот у грамадскай свядомасці чалавецтва, выпрацаваў навуковы светапогляд пралетарыяту, які правільна адлюстроўвае законы гістарычнага развіцця. Ён ператварыў сацыялізм з утопіі ў навуку, абгрунтаваў непазбежнасць гібелі капіталізму і перамогі камунізма. К. Маркс узброіў рабочы клас разуменнем яго гістарычнай місіі як далакопа эксплуататарскага ладу і творца сацыялістычнага грамадства, паказаў шляхі спалучэння рэвалюцыйнай тэорыі з масавым рабочым рухам».

Вялікая і вечна жывая навуковая і рэвалюцыйная спадчына К. Маркса. У супрацоўніцтве са сваім саратнікам і другам Ф. Энгельсам ён стварыў цэласнае і стройнае вучэнне аб прыродзе і грамадстве, якое (вучэнне) уключае ў сябе дыялектыка-матэрыялістычную філасофію, навуковую палітычную эканомію і навуковы сацыялізм.

Вучэнне Маркса і Энгельса, творча развітае ў новых гістарычных умовах У. І. Леніным, ахоплівае сабой усе сферы чалавечай дзейнасці, у тым ліку і мастацкую творчасць, якая і складае сёння асноўны прадмет нашага абмеркавання на гэтым сходзе.

Ворагі марксізма-ленінізма, калі гутарка заходзіць аб марксісцкай філасофіі мастацтва, аб марксісцка-ленінскай эстэтыцы, звычайна спасылаюцца на тое, што Маркс, Энгельс і Ленін не былі філолагамі або мастацтвазнаўцамі і не напісалі спецыяльных прац па гэтых пытаннях. Яны забываюцца, а лепш сказаць, свядома ігнаруюць той факт, што заснавальнікі марксізма-ленінізма стварылі і пакінулі нам у спадчыну больш важнае і вялікае — свой метад падыходу да аналізу рэчаіснасці, сваю тэорыю пазнання і асваення чалавекам свету, сваю філасофію дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму, на падставе якой і магчыма адзіна правільнае і сапраўды навуковае асэнсаванне як з'яў прыроды, так і з'яў матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Стваральнікі марксісцка-ленінскага вучэння былі людзьмі шырокай і глыбокай эрудыцыі, і ў сферу іх на-

вуковай увагі нароўні з іншымі працэсамі грамадскага жыцця ўваходзілі і працэсы развіцця мастацтва і літаратуры. К. Маркс выдатна ведаў літаратуру і мастацтва антычнасці і сярэднявечча, эпохі Адраджэння і Асветніцтва, не гаворачы ўжо аб сучасных яму мастацтве і літаратуры. Залатымі скарбамі ў многіх творах Маркса рассыпаны важнейшыя тэарэтычныя палажэнні і глыбокія заўвагі аб паасобных творах літаратуры і мастацтва, пачынаючы ад народнай творчасці і старажытнага эпасу, ад «Слова аб палку Ігаравым» і трагедый Шэкспіра і канчаючы англійскімі пісьменнікамі-рэалістамі першай паловы XIX ст. і больш познімі пісьменнікамі і мастакамі — сучаснікамі Маркса.

З твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, з іх перапіскі вырастае стройная сістэма эстэтычных поглядаў, якія ствараюць аснову нашай марксісцка-ленінскай эстэтыкі. Перш за ўсё гэта палажэнне К. Маркса аб рашаючым значэнні працы ў з'яўленні і фарміраванні эстэтычных густаў чалавека, у працэсе якой ён набывае здольнасці распазнаваць хараство рэальнага свету і пачынае тварыць па законах хараства.

Па-другое, гэта вучэнне аб грамадскай прыродзе мастацтва, аб яго класавым характары ў класавым грамадстве, развітае Леніным у вучэнні аб партыйнасці літаратуры і мастацтва. Па-трэцяе, гэта марксісцкая тэорыя пазнання, на якой грунтуецца рэалістычны метад мастацтва, сфармуляваны Энгельсам як праўдзівы паказ тыповых характараў у тыповых абставінах.

Я назваў далёка не ўсе важнейшыя палажэнні і тым больш прыватныя выказванні К. Маркса і яго саратнікаў, вучняў і прадаўжальнікаў аб мастацтве і літаратуры, якія сталі асноватворчымі палажэннямі нашай марксісцка-ленінскай навукі.

Класікі марксізма-ленінізма надавалі мастацтву і літаратуры важнейшае грамадскае значэнне. Вялікую ролю адводзіць ім у жыцці савецкага народа, у яго выхаванні ў камуністычным духу наша ленінская партыя. Дзякуючы яе клопатам і кіраўніцтву наша літаратура і мастацтва развіваюцца на здаровай аснове, з'яўляючыся вострай зброяй народа ў яго барацьбе за камунізм, за мір, за дружбу народаў.

Вось чаму імперыялісты, ведучы барацьбу супроць камунізма, супроць вызвалення прыгнечаных народаў, шы-

рокім фронтам вядуць наступ і на нашу ідэалогію, на нашу літаратуру і мастацтва, прасякнутыя глыбокімі пачуццямі пралетарскага інтэрнацыяналізму і гуманізму. Яны вядуць не толькі адкрытую вайну ва В'етнаме і на Блізкім Усходзе, яны вядуць і тайную ідэалагічную вайну, каб раз'яднаць краіны сацыялістычнага лагера, каб падарваць іх знутры.

Але марныя іх надзеі і намаганні. Народы нашай краіны, народы іншых сацыялістычных краін цесна аб'яднаны пад сцягам пралетарскага інтэрнацыяналізму непарушнай дружбай і брацтвам.

Тыдзень таму назад (9—10 красавіка) адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС, які заслухаў і абмеркаваў даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева «Аб актуальных праблемах міжнароднага становішча і барацьбе КПСС за згуртаванасць сусветнага камуністычнага руху» і прыняў па гэтаму пытанню пастанову. Пленум цалкам і поўнасцю адобрыў палітычную лінію і практычную дзейнасць Палітбюро ЦК у галіне міжнароднай палітыкі і ў сусветным камуністычным руху, адзначыўшы, што «дзякуючы паслядоўнаму ажыццяўленню курсу, выпрацаванага XXIII з'ездам КПСС і развітага далей у рашэннях снежаньскага (1966 года) і чэрвеньскага (1967 года) Пленумаў ЦК, яшчэ больш умацаваліся знешнепалітычныя пазіцыі нашай краіны; узрастаючыя магутнасць і аўтарытэт Савецкай дзяржавы ўсё больш актыўна служаць інтарэсам міру і сацыялізма, барацьбе супроць палітыкі імперыялізму; у цесным супрацоўніцтве з брацкімі партыямі дасягнут важны вынік у барацьбе за згуртаванасць міжнароднага камуністычнага руху».

Поруч з гэтым у пастанове красавіцкага Пленума ЦК КПСС адзначаецца, што «сучасны этап гістарычнага развіцця характарызуецца рэзкім абвастрэннем ідэалагічнай барацьбы паміж капіталізмам і сацыялізмам. Увесь велізарны апарат антыкамуністычнай прапаганды нацэлены зараз на тое, каб аслабіць адзінства сацыялістычных краін, міжнароднага камуністычнага руху, раз'яднаць перадавыя сілы сучаснасці, паспрабаваць падарваць сацыялістычнае грамадства знутры».

У гэтых умовах, указваецца ў пастанове Пленума ЦК КПСС, непрымірымая барацьба з варожай ідэалогіяй, рашучае выкрыццё разнастайных падкопаў імперыя-

лістычных сіл, камуністычнае выхаванне працоўных, узмацненне ўсёй ідэалагічнай дзейнасці набываюць асабліваe значэнне. Неабходна адзіным фронтам тэарэтыкаў і гісторыкаў мастацтва і яго практыкаў, творчых работнікаў, весці рашучы наступ супроць буржуазнай ідэалогіі, актыўна выступаць супроць буржуазнай ідэалогіі, актыўна выступаць супроць спробаў працягнуць у асобных творах мастацтва і літаратуры погляды, чужыя, варожыя сацыялістычнай ідэалогіі савецкага грамадства.

У барацьбе за ідэйную чысціню і высокія мастацкія якасці, за інтэрнацыяналізм і пралетарскі гуманізм, за партыйнасць і народнасць савецкай літаратуры і мастацтва, за шырокія кірункі іх развіцця на шляху сацыялістычнага рэалізму марксізм-ленінізм заўсёды быў, ёсць і будзе самай вострай і самай надзейнай нашай зброяй.

Правядзенне мерапрыемстваў у сувязі са 150-годдзем з дня нараджэння К. Маркса і падрыхтоўка да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, гаворыцца ў пастанове Пленума ЦК КПСС, павінны паслужыць магутным стымулам уздыму ідэалагічнай працы, шырокай прапаганды вялікіх ідэй марксізма-ленінізма.

Маецца на ўвазе, таварышы, што гэтай мэце ў пэўнай ступені павінны паслужыць і тыя даклады і паведамленні, якія тут будуць зроблены і якія прысвячаюцца ў асноўным вучэнню К. Маркса аб літаратуры і мастацтве. Зразумела, што гэтымі дакладамі і паведамленнямі далёка не вычэрпваецца ўся веліч і глыбіня многіх палажэнняў і заўваг К. Маркса аб мастацтве, якія ляглі ў аснову марксісцка-ленінскай эстэтыкі, эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму. Аднак мне думаецца, што пры ўсім гэтым абмен думкамі па гэтых пытаннях з творчымі і навуковымі работнікамі г. Віцебска будзе карысны. Віцебск мае свае добрыя традыцыі ў нашым мастацтве, асабліва ў тэатральным і выяўленчым.

Мы з вялікай прыемнасцю і глыбокай удзячнасцю адзначаем тую жывую прыхільнасць, з якою Віцебскі абком КПБ, а таксама гарком партыі і іншыя ўстановы і арганізацыі вобласці і горада сустрэлі нашу прапанову аб гэтай сустрэчы.

*1968 г.*

# ПЕРАД НАМІ — СКЛАДАНЫЯ ЗАДАЧЫ

## УСТУПНАЯ ПРАМОВА НА АДКРЫЦЦІ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ АКАДЭМІІ НАВУК БССР ПА ПЫТАННЮ: «СТАН І ЗАДАЧЫ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛАРЫСТЫКІ»

Народы Савецкага Саюза адсвяткавалі саракавую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая прынесла ім сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, забяспечыла самыя шырокія магчымасці для эканамічнага і культурнага развіцця, адкрыла дарогу ў новы свет сацыялізма. Разняволеная энергія працоўных мас за сорак год Савецкай улады стварыла сапраўдныя цуды як у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, так і ў галіне навукі і культуры. Вянцом нястомных пошукаў і смелых здзяйсненняў савецкіх вучоных, інжынераў і рабочых з'явіўся запуск напярэдадні кастрычніцкіх свят двух спадарожнікаў Зямлі.

Самыя заядлыя ворагі савецкага ладу і самыя адчайныя песімісты вымушаны былі прызнаць, што Савецкі Саюз перагнаў у навуковым і тэхнічным развіцці самыя перадавыя капіталістычныя краіны. Я знаходзіўся ў гэты час у ЗША і быў сведкам той разгубленасці, з якой ідэолагі капіталізму сустрэлі гэты факт. Уся амерыканская прэса некалькі тыдняў запар з крыкам і роспаччу абмяркоўвала перамогу навуковай думкі і тэхнічнага ўмельства савецкага народа. Амерыканскія спецыялісты і вучоныя нястомна шукалі прычын свайго адставання. І нарэшце «знайшлі». Прызнаючы перавагу Савецкага Саюза ў развіцці дакладных навук, ідэолагі капіталізму растлумачылі сваё адставанне тым, што яны быццам бы ўдзяляюць больш увагі развіццю навук гуманітарных, у галіне якіх яны нібыта маюць большыя дасягненні, чым Савецкі Саюз.

Я думаю, няма патрэбы гаварыць, што і гэтая пахвальба не мае пад сабою ніякіх падстаў. Я асабіста вельмі добра пераканаўся, што азначае, напрыклад, славутая буржуазная «свабода» творчасці. У. І. Ленін з уласцівай яму геніяльнасцю ахарактарызаваў яе вельмі трапна: «Свабода буржуазнага пісьменніка, мастака, актрысы ёсць толькі

замаскаваная (або такая, якая крывадушна маскуецца) залежнасць ад грашовага мяшка, ад подкупу, ад утрымання» [1].

Сведчаннем гэтага з'яўляецца, у прыватнасці, сучаснае амерыканскае мастацтва і літаратура. Назаву толькі некалькі прыкладаў. У амерыканскім кіно, па тэлебачанні, у тэатры кожны дзень, на кожным кроку можна ўбачыць, як здольная актрыса або акцёр, выканаўшы той ці іншы мастацкі нумар, пачынаюць рэкламаваць аўтамабілі Форда, сігарэты «Кэмэл», аўтаматычныя ручкі Паркера, падцяжкі «Эласцік». Хочуць таго акцёры ці не хочуць, іначай рабіць яны не могуць, таму што праграма канцэрта або спектакля арганізавана і закуплена адпаведнай фірмай.

Гэта толькі адна з форм той залежнасці так званага «свабоднага» буржуазнага мастацтва ад грашовага мяшка, ад подкупу, ад утрымання, аб якой гаварыў У. І. Ленін. А існуюць іх дзесяткі і сотні. Некаторыя з іх нельга ўспрыняць іначай, як здзек з мастацтва, як цынічнае кашчунства. Для гэтага не трэба нават хадзіць на 42-ю стрыт глядзець бурлеск, а даволі толькі пабываць у такіх паважных установах у цэнтры Нью-Йорка, як мюзік-холы «Радыёсіці» або «Роксі», дзе здольныя, прыгожыя, маладыя танцоўшчыкі і танцоўшчыцы на пацеху таго ж грашовага мяшка вымушаны грымаснічаць, крыўляцца і нявечыць сваё цела.

А як, калі не цынічным кашчунствам, можна назваць такія прыёмы амерыканскай тэатральнай рэкламы, якім пачаўся ў гэтым годзе оперны сезон у Нью-Йорку. Прэм'ерай ішла опера, якая з'яўляецца святыняй не толькі для кожнага савецкага чалавека, а для ўсіх культурных людзей усяго свету,— ішоў бессмяротны твор П. І. Чайкоўскага «Яўгеній Анегін». Трэба аддаць справядлівасць, што і пастаноўшчык і ўсе іншыя ўдзельнікі спектакля працавалі над операй з усёй сваёй сумленнасцю. Але тэатральным прадпрыемцам здалося, што для грашовага поспеху гэтага мала, і быў прыдуманы такі прыём рэкламы.

Па амерыканскай традыцыі дырэктар тэатра пры адкрыцці новага сезона частуе гледачоў кофе. На гэты раз кофе быў заменены віскі. І вось назаўтра ў газеце «Нью-Йорк таймс» з'явіўся амаль на ўсю старонку фотаздымак, але не спектакля, а гледачоў, якія стаялі ў чарзе да дырэк-

[1] Ленин о культуре и искусстве. М., 1956, стар. 44—45.

тара, каб пакаштаваць, як гаварыў подпіс пад здымкам, «рускай водкі».

Крывадушная маскіроўка фальшывай буржуазнай «свабоды» творчасці вельмі выразна праяўляецца і ў выяўленчым мастацтве ЗША. Я не гавару ўжо аб ідэйным змесце твораў. Як вядома, у сучасным амерыканскім мастацтве пануюць і знаходзяць гарачую падтрымку з боку мецэнатаў мастацтва з асяроддзя фінансавых магнатаў самыя крайнія формы абстракцыянізму. Аднак багатыя прыхільнікі абстракцыянізму для ўласных калекцый патрэбныя творы набываюць не вельмі ахвотна, а калі і набываюць, дык зараз жа перадаюць іх «у дар» музеям і галерэям. І ў такіх установах вы, бадай, на кожным кроку сустрэнеце мадэрнісцкія творы з надпісамі на таблічках: падарунак Ракфелера, Дзюпона, Форда і г. д.

Характэрна таксама, што прыкладное мастацтва, прызначанае не для ідэалагічнага выхавання амерыканскага абывацеля, а для задавальнення жыццёвых патрэб буржуазіі, як, напрыклад, афармленне аўтамабіляў, прыватных памяшканняў, мэблі, тэлевізараў, прыёмнікаў, не мае нічога агульнага ні з якім мадэрнізмам. Тут нават калі сустракаюцца і новыя павевы, дык і яны вызначаюцца строгай і выразнай формай.

Такім чынам, карыстаючыся так званай «свабодай» творчасці, буржуазныя мастакі карыстаюцца па сутнасці толькі свабодай двурушнічаць, калі пішуць свае карціны ў стылі абстракцыянізму і забываюць пра яго ў творах прыкладнога мастацтва, прызначанага абслугоўваць буржуазію. Я не гавару пра невялікую колькасць сумленных творцаў, я гавару пра большасць буржуазных мастакоў, якія, бадай, усе вымушаны дзеля заробку працаваць на патрэбы розных фірмаў.

Так выглядае славутая буржуазная «свабода» творчасці. І калі паглядзіш на разбэшчанае, прадажнае, не адухоўленае ніякай жывой ідэяй, пазбаўленае ўсялякага сэнсу і красы сучаснае буржуазнае мастацтва, радасна становіцца ад тых поспехаў, якіх дасягнула сацыялістычнае мастацтва і якія мы, часамі несправядліва, жадаючы яшчэ большага, называем вельмі скромнымі. Я кажу «называем часамі несправядліва» таму, што на агульным сярэднім узроўні нашай літаратуры і мастацтва мы маем і вельмі высокія вяршыні. Сучасныя літаратуры мала якіх буржуазных краін могуць назваць такія імёны, як У. Маякоўскі,

М. Шолахаў, К. Транёў, А. Фадзееў, Я. Купала, А. Упіт, Я. Колас, А. Ісаакян і рад паэтаў і пісьменнікаў маладых савецкіх рэспублік, якія з такой пранікнёнасцю і глыбінёй выразілі душу свайго народа. А з якім тэатрам можна параўнаць МХАТ! А прыгадайце савецкі балет, лепшых савецкіх музыкантаў, роўных якім няма, бадай, у свеце.

Я думаю, што і нашы гуманітарныя навукі, не гаворачы ўжо пра нашу самую перадавую ў свеце марксісцка-ленінскую філасофію, а маючы на ўвазе толькі такія галіны, як літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства, занялі ў свеце перадавыя пазіцыі, вызначаючыся не толькі сваёй самай правільнай марксісцка-ленінскай метадалогіяй, а і сваім шырокім ахопам з'яў і фактаў, сваім глыбокім і markednabakowym — 

Мы ўпэўнены, што геній савецкага народа, даўшага свету першых спадарожнікаў, дасць і ў галіне іншых навук, і ў галіне мастацкай творчасці новыя шэдэўры. Зарука гэтаму — невычарпальныя творчыя сілы савецкіх народаў, неабмежаваныя магчымасці для творчасці, дадзеныя савецкім ладам, нястомныя штодзённыя клопаты нашай партыі і ўрада аб развіцці навукі, мастацтва і культуры.

Савецкая мастацкая інтэлігенцыя, як паказалі нарады, праведзеныя ў многіх гарадах нашай краіны, у тым ліку і ў Мінску, прыняла ўказанні партыі як наказы ўласнага сэрца, бо інтарэсы народа, інтарэсы партыі — яе родныя, яе кроўныя інтарэсы. Яна адзінадушна заявіла аб сваёй непарушнай вернасці ленінскім прынцыпам партыйнасці літаратуры і мастацтва, ведаючы, што толькі на гэтым шляху яе чакаюць сапраўдныя творчыя перамогі.

Перад савецкімі пісьменнікамі і мастакамі пастаўлены партыяй і народам адказныя задачы. У вырашэнні іх павінны прыняць чынны ўдзел і вучоныя, спецыялісты адпаведных профіляў і ў першую чаргу спецыяльныя навуковыя ўстановы, якой з'яўляецца і наш малады Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

Наш інстытут створаны ў другой палавіне мінулага года. Раней вывучэннем беларускага мастацтва ў сістэме Акадэміі навук БССР займаўся сектар мастацтва ў складзе Інстытута літаратуры. А вывучэннем этнаграфіі і фальклору — сектар этнаграфіі ў складзе Інстытута гісторыі. На базе гэтых двух невялікіх сектараў рашэннем партыі і ўрада і быў створаны наш інстытут. Мы з удзячна-

сцю адзначаем гэты акт як новае праяўленне клопатаў партыі і ўрада аб развіцці беларускага мастацтва, народнай творчасці, а таксама мастацтвазнаўчай навукі, фалькларыстыкі і этнаграфіі. Нам дадзены вялікія магчымасці, але перад намі пастаўлены і складаныя задачы.

У складзе нашага інстытута ўтвораны чатыры сектары — сектар тэатра, кіно і музыкі, сектар выяўленчых мастацтваў, сектар этнаграфіі і сектар фальклору. Такім чынам, наш інстытут павінен займацца вывучэннем гісторыі і сучаснага становішча беларускага тэатра, кіно і музыкі ва ўсіх яе адгалінаваннях, жывапісу, скульптуры, графікі, прыкладнога народнага і прамысловага мастацтва, вуснай творчасці народа, яго побыту і матэрыяльнай культуры.

Дыяпазон навуковых галін у нашым інстытуце вельмі шырокі, і на першы погляд можа здацца, што яны нават нічым не звязаны паміж сабой. Але гэта не так. Як вядома, усе мастацтвы звязвае адзінства іх вобразнай прыроды, якая хоць і вырашаецца рознымі матэрыяльнымі сродкамі, але грунтуецца на аднолькавых эстэтычных асновах. Вытокамі ж усякага мастацтва і яго жыватворчай крыніцай з'яўляецца народная творчасць. Нарэшце, усякая мастацкая творчасць — і прафесійная і так званая самадзейная або народная — грунтуецца на жыцці народа, адлюстроўвае яго побыт і характар, іначай кажучы, тыя рысы, якія з'яўляюцца прадметам вывучэння этнаграфіі.

Такім чынам, тая разнастайнасць профіляў нашага інстытута, якая на першы погляд здаецца нічым не апраўданай, мае пад сабой пэўны грунт. Аднак ад гэтага задачы, якія стаяць перад нашым інстытутам, не памяншаюцца, а павялічваюцца. Мы гэта выразна ўяўляем сабе і добра разумеем, што без цеснай сувязі з грамадскасцю, якая мае непасрэднае дачыненне да работы нашага інстытута, без яе шчырай дапамогі нам цяжка, а то і проста немагчыма будзе часамі справіцца з усёй сукупнасцю задач, пастаўленых перад інстытутам. Мы таксама маем пры гэтым на ўвазе і маладосць нашага інстытута, маладосць і нешматлікасць нашых навуковых кадраў. Вось чаму, ужо на першых парах работы інстытута, абмяркоўваючы яго планы і задачы, мы і склікалі гэтую нараду, запрасіўшы на яе вопытных вучоных з братніх рэспублік, і работнікаў мастацтваў, і пісьменнікаў, і работнікаў музеяў і дамоў народнай творчасці, і фалькларыстаў, і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Справа развіцця беларускага ма-

стацтва і народнай творчасці, справа іх вывучэння і папулярызацыі — наша агульная справа.

Мы чакаем ад нашых дарагіх гасцей, вопытных вучоных Масквы, Ленінграда, Кіева, Вільнюса, што яны шчодра падзеляцца з намі сваім багатым вопытам, дапамогуць нам у далейшым кадрамі і выхаваннем іх праз нашу аспірантуру, і сваімі добрымі парадамі.

Мы спадзяемся, што творчыя работнікі рэспублікі будуць не толькі нашымі дарагімі і частымі гасцямі, а і прымуць непасрэдны ўдзел у нашай рабоце. Гісторыя беларускай літаратуры дае ў гэтым сэнсе добры прыклад: першымі даследчыкамі яе былі самі пісьменнікі, як, напрыклад, М. Багдановіч, Ц. Гартны і інш.

Мы чакаем, што работнікі абласных аддзелаў культуры, дамоў народнай творчасці, музеяў, удзельнікі мастацкай самадзейнасці разам з намі і ў дапамогу нам разгорнуць збор фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, напішуць нам агляды калектываў мастацкай самадзейнасці, будуць нашымі сталымі карэспандэнтамі і збіральнікамі каштоўных скарбаў народнай творчасці.

Мы думаем, што работнікі мастацкай прамысловасці таксама не забудуць падзяліцца з намі ўзорамі сваіх мастацкіх вырабаў, думкамі аб іх далейшым развіцці і ўдасканаленні.

Мы спадзяемся, што ўсе вы, таварышы, будзеце трымаць цесную сувязь з інстытутам і будзеце аказваць яму сапраўдную сяброўскую дапамогу і добразычлівай крытыкай яго працы, і добрай парадаю.

*1958 г.*

## ПРАМОВА НА ЎРАЧЫСТЫМ СХОДЗЕ ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 10-ГОДДЗЮ З ДНЯ ЯГО ЗАСНАВАННЯ

Дарагія таварышы! Мы адзначаем дзесяць гадоў працы нашага інстытута напярэдадні слаўнага пяцідзесяцігоддзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

На першы погляд можа здавацца, што гэтае радаснае для нас супадзенне — шчаслівая выпадковасць. Але мне здаецца, што ў гэтым ёсць і свая заканамернасць. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору быў створаны напярэдадні таксама круглай даты пераможнага поступу сацыялістычнай рэвалюцыі. Сорак гадоў няспынных клопатаў партыі аб шчасці беларускага народа, сорак гадоў яго нястомнай працы, сорак гадоў братэрскай дружбы і ўзаемадапамогі савецкіх народаў далі свой багаты плён. Адбыліся велізарныя гістарычныя змены ў жыцці нашага народа, у яго побыце; пышна расцвіла яго культура, яго мастацтва, яго творчасць. І гэта выклікала да жыцця наш інстытут, «мабілізаваны і прызваны» вывучаць і абагульняць вялікую і разнастайную практыку мастацкай творчасці народа.

Відаць, стварэнне падобнай інстытуцыі магло б адбыцца і раней, каб гэтаму не перашкодзіла вайна, трохгадовая акупацыя Беларусі гітлераўскімі захопнікамі і суровыя цяжкасці першых пасляваенных гадоў.

Але мы добра помнім, што дзесяць гадоў таму назад мы пачыналі сваю працу не на голым месцы. Беларускае савецкае мастацтвазнаўства, этнаграфія і фалькларыстыка, выкарыстоўваючы прагрэсіўныя здабыткі дарэвалюцыйнай навукі, пачалі развівацца ўжо з самых першых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аснову іх мы закладвалі з дапамогай вучоных Расіі і другіх брацкіх народаў. Значны след у развіцці гэтых навук пакінулі ў 20—30-я гады Ю. Дрэйзін, М. Шчакаціхін. Яны ўвайшлі ў гісторыю развіцця беларускага музыказнаўства, этнаграфіі, мастацтвазнаўства, фалькларыстыкі як родныя, свае, беларускія вучоныя.

Шчырая дапамога вучоных брацкіх рэспублік не спынялася і не спыняецца да гэтага часу, асабліва ў галіне падрыхтоўкі і выхавання для нашага інстытута навуковых кадраў. Мы гаворым гэта, у нізкім паклоне схіляючы галовы перад брацкімі народамі, і з глыбокай падзякай адзначаем бескарыслівую працу нашых даўніх прыяцеляў — вучоных Масквы, Ленінграда, Кіева.

Таварышы! Мы добра помнім таксама, што наш інстытут нарадзіўся з нетраў Інстытута літаратуры, які ўзначальвае член-карэспандэнт АН БССР В. В. Барысенка, і Інстытута гісторыі, на чале якога стаяў тады член-карэспандэнт АН БССР І. С. Краўчанка. У сістэме гэтых інсты-



Нарада ў дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР П. Ф. Глебкі па пытаннях фальклору

тутаў закладваліся пачаткі нашых цяперашніх сектараў — этнаграфіі, фальклору, тэатра і выяўленчага мастацтва.

У асяроддзі гэтых інстытутаў пачалі сваю працу, раслі і выхоўваліся старэйшыя супрацоўнікі нашага інстытута доктар мастацтвазнаўства прафесар У. І. Няфёд, доктар гістарычных навук прафесар А. І. Залескі, доктар гістарычных навук В. К. Бандарчык, кандыдат філалагічных навук К. П. Кабашнікаў.

Праўда, у той час яны яшчэ не мелі такіх гучных тытулаў і званняў, але задаткі заваяваць права на іх выразна праявіліся ў іх здольнасцях, ведах і працы ўжо ў той час.

З гэтых жа інстытутаў гісторыі і літаратуры прыйшлі да нас ужо з вучонымі ступенямі доктар мастацтвазнаўства прафесар М. С. Кацар і старэйшы фальклярыст і этнограф рэспублікі М. Я. Грынблат.

Як бачыце, мы атрымалі ад нашых суседніх інстытутаў не вельмі шмат дыпламаваных супрацоўнікаў, але атрымалі галоўнае — уважліва падабраных людзей, таленавітых, здольных і прызвычаеных ужо ў пэўнай ступені

да навуковай працы. З удзячнасцю да В. Барысенкі і да І. Краўчанкі мне хочацца сказаць гэта сёння перад усім нашым калектывам.

З глыбокім жалем, што яго ўжо няма сярод нас у гэты ўрачысты дзень, і з самай вялікай пашанай да яго працы, кіпучай энергіі і смелых навуковых пошукаў я ўспамінаю члена-карэспандэнта АН БССР, доктара філалагічных навук І. Гутарава, які прыйшоў у наш інстытут з БДУ і аддаў тут даследчай, навукова-арганізацыйнай рабоце і падрыхтоўцы маладых навуковых кадраў нямала сваіх сіл і энергіі [...]

Таварышы! Пры сваёй арганізацыі ў палове 1957 г. наш інстытут складаўся з 4 сектараў: сектара тэатра, кіно і музыкі — 8 супрацоўнікаў, з іх 1 кандыдат навук (У. Няфёд); сектара выяўленчага мастацтва — 4 супрацоўнікі, з іх адзін доктар навук (М. Кацар); сектара этнаграфіі — 7 супрацоўнікаў, з іх два кандыдаты навук (А. Залескі, Л. Малчанава); сектара фальклору — 6 супрацоўнікаў, з іх адзін доктар навук (І. Гутараў) і два кандыдаты (М. Грынблат і К. Кабашнікаў) — усяго 25 навуковых супрацоўнікаў, з іх толькі сем дыпламаваных — два дактары навук і 5 кандыдатаў.

За 10 гадоў праз аспірантуру інстытута прайшло добрых чатыры дзесяткі чалавек, з якіх 31 абараніў кандыдацкія дысертацыі. За гэты ж час тры чалавекі абаранілі доктарскія дысертацыі (У. Няфёд, А. Залескі, В. Бандарчык).

Падрыхтавалі доктарскія дысертацыі да абароны М. Грынблат, К. Кабашнікаў, Л. Малчанава, працуюць над доктарскімі дысертацыямі або ўжо нават на падыходзе да іх завяршэння В. Ялатаў, А. Фядосік і інш.

Апрача таго, пры інстытуце займаецца 23 чалавекі ў аспірантуры і некалькі чалавек падрыхтавалі або рыхтуюць кандыдацкія дысертацыі без адрыву ад вытворчасці [...]

Да ранейшых чатырох сектараў інстытута дабавіўся пяты — сектар музыкі. Зараз у інстытуце працуе 63 старшыя і малодшыя навуковыя супрацоўнікі, у тым ліку 4 дактары і 25 кандыдатаў.

Трэба сказаць, што росту нашага інстытута, падрыхтоўцы яго кадраў, усёй яго навукова-даследчай рабоце вялікую ўвагу ўдзялялі бюро Аддзялення грамадскіх навук, прэзідыум АН БССР, а таксама ЦК КПБ [...]

Я думаю, што мы смела можам заявіць, што з тымі задачамі, якія ўскладзены на наш інстытут у справе вывучэння праблем развіцця беларускага мастацтва, этнаграфіі і фальклору, мы спраўляліся ў асноўным нядрэнна.

*1967 г.*

# ТЭМА ВАЙНЫ Ў НАВУКОВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯХ СУПРАЦОЎНІКАЎ ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР

Тэма Вялікай Айчыннай вайны займае вялікае месца ў навуковых даследаваннях супрацоўнікаў нашага інстытута. Дастаткова назваць работы, якія ўжо пайшлі ў народ, як «Быт беларускіх сялян у партызанскім краі» (выдана ў 1960 г.), «Савецкі патрыятызм сялянства ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі» (доктарская дысертацыя, абаронена ў 1963 г.), «У партызанскіх краях і зонах» (выдана ў 1962 г.) А. І. Залескага, кнігу У. І. Няфёда «Тэатр у вогненныя гады» (выдана ў 1959 г.), кнігу І. В. Гутарава «Барацьба і творчасць народных мсціўцаў» (выдана ў 1949 годзе), каб пераканацца ў гэтым.

Займаючыся даследаваннем жыцця і побыту беларускага народа ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі, А. І. Залескі ў сваіх працах паказаў вялікую разнастайнасць форм народнай барацьбы з ворагам і даказаў важнейшае палажэнне аб тым, што барацьбу савецкіх людзей на акупіраванай тэрыторыі нельга зводзіць толькі да гісторыі партызанскага руху. Гэтым А. І. Залескі палажыў пачатак новаму напрамку ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Работа Залескага карысна тым, што ён шырока карыстаецца этнаграфічнымі метадамі збору жывога канкрэтнага матэрыялу сярод насельніцтва рэспублікі.

Беларускаму тэатральнаму мастацтву ў гады вайны прысвяціў сваю асобную работу У. І. Няфёд. Ён паказаў, што творчасць дзеячоў беларускага тэатра ў гэты перыяд была непарыўна звязана з агульнай барацьбой усяго савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аналіз спектакляў, пастаўленых беларускімі тэатрамі ў гады вайны, расказ аб выступленнях тэатральных брыгад на фронце і творчасці партызанскіх артыстаў на акупірава-

най тэрыторыі, падмацаваныя багатым дакументальным матэрыялам і жывымі ўспамінамі ўдзельнікаў гэтых падзей, робяць кніжку У. Няфёда карыснай і цікавай.

Свой уклад у распрацоўку тэмы Вялікай Айчыннай вайны ўнеслі таксама і нашы кіназнаўцы. У кнізе А. Красінскага, В. Смаля і Г. Тарасевіча «Беларускае кіно» (выдана ў 1962 г.) шырока прааналізаваны дакументальныя і мастацкія фільмы, створаныя беларускімі кінаработнікамі. Асобныя пытанні ваеннай кінатэматыкі распрацавалі ў сваіх дысертацыях маладыя вучоныя В. Смаль, В. Нячай, Г. Падбярэзскі, Г. Ратнікаў.

Звяртаюцца да тэм Вялікай Айчыннай вайны ў сваіх работах і супрацоўнікі сектара музыкі. Аналізу оперных спектакляў аб Айчыннай вайне прысвяціла асобную главу сваёй кандыдацкай дысертацыі Галіна Куляшова. У кнізе Б. С. Смольскага «Беларускі музычны тэатр» маецца некалькі глаў, якія расказваюць аб музыцы Вялікай Айчыннай вайны. Аб фарміраванні новых музычных традыцый у беларускім музычным фальклоры расказвае ў сваёй рабоце В. І. Ялатаў.

Ваенная тэма знайшла адлюстраванне і ў беларускім выяўленчым мастацтве. Аналізу твораў беларускага жывапісу, графікі і скульптуры гадоў Айчыннай вайны прысвечаны работы М. С. Кацара, Л. Н. Дробава, І. М. Яламцавай.

Вялікую работу па збіранню і даследаванню твораў народнага мастацтва перыяду вайны праводзіць сектар фальклору. Выданы ў 1961 годзе зборнік «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны» з'явіўся вынікам шматгадовай работы ўсяго калектыву нашых фалькларыстаў. Вялікую ўвагу вывучэнню фальклору Айчыннай вайны ўдзяляюць у сваёй рабоце І. В. Гутараў і М. Я. Грынблат. Аб гэтым сведчаць шматлікія артыкулы ў часопісах і газетах, прысвечаныя гэтай тэме.

І сёння супрацоўнікі нашага інстытута прадаўжаюць актыўную работу над вывучэннем гэтага важнага перыяду ў гісторыі культуры нашага народа. С. А. Пятровіч распрацоўвае ў адным з раздзелаў сваёй планавай работы пытанне аб тэатры ў тыле ворага, М. С. Кацар працуе над манаграфіяй «Партызанская графіка Беларусі Вялікай Айчыннай вайны». Уносяць уклад у гэту тэму і іншыя супрацоўнікі і аспіранты нашага інстытута.

*1964 г.*

## НЕПАРУШНАЯ ДРУЖБА

Нядаўна, у час месячніка польска-савецкай дружбы, у адной з тэатральных залаў Палаца культуры і навукі паказваў свае спектаклі Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Купалы. Адначасова ў сталіцы Польскай Народнай Рэспублікі выступалі салісты Беларускага тэатра оперы і балета і беларускія пісьменнікі. Сустрэчы польскіх працоўных з прадстаўнікамі беларускага мастацтва і літаратуры выліліся ў яркую дэманстрацыю гарачай і шчырай дружбы паміж народамі Польшчы і Савецкага Саюза. У сувязі з гэтым прыемна ўспомніць, што дружба паміж працоўнымі людзьмі нашых краін мае сваю даўнюю гісторыю і вытрымала многія выпрабаванні.

Польскі народ і тры найбольш шматлікія народы Савецкага Саюза — рускія, украінцы, беларусы — з'яўляюцца суседзямі і ўваходзяць у адну сям'ю славянскіх народаў. Яшчэ ў далёкія мінулыя часы яны часта аб'ядноўваліся для таго, каб агульнымі сіламі даць належны адпор сваім ворагам, калі тыя квапіліся іх заняволіць.

Аднак на працягу многіх стагоддзяў паміж працоўнымі Польшчы і нашай краіны, якія заўсёды з адкрытым сэрцам імкнуліся жыць у дружбе, часта станавіліся варожыя сілы — феадалы і капіталісты абедзвюх краін. Яны імкнуліся ў сваіх вузкакарыслівых класавых мэтах пасварыць нашы народы і нацкаваць іх адзін на аднаго. Асабліва напружанымі сталі адносіны паміж Польшчай і нашай краінай пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі польскія памешчыкі і капіталісты страцілі на ўсходніх землях Украіны і Беларусі свае маёнткі і заводы. Нянавісць да краіны сацыялізма штурхала рэакцыйныя польскія ўрады ў абдымкі самых заядлых антысавецкіх авантурыстаў аж да гітлераўцаў уключна.

Ці мог польскі рабочы клас і польскае працоўнае сялянства спачуваць такой палітыцы і падтрымліваць яе? Безумоўна, не. Польскі народ добра разумеў, што толькі апіраючыся на Савецкі Саюз, ён захавае сваю нацыянальную незалежнасць і даб'ецца сваіх сацыяльных правоў. І ён насіў у сваім сэрцы запаветную мару аб самай вернай дружбе з народамі Савецкага Саюза. А мару гэтую сагравалі многія прыклады з мінулых добрасуседскіх адносін і брацкага яднання перадавых людзей польскага і рускага народаў.

Зварушлівы малюнак такога яднання намаляваў А. Міцкевіч, расказаўшы ва ўступе да трэцяй часткі «Дзядаў», як аднойчы ўвечары ў Пецярбургу, узяўшыся за рукі, укрыўшыся адным плашчом ад дажджу, стаялі два юнакі. Адзін з іх быў вандроўнік з Захаду, ахвяра царскага самаўладства А. Міцкевіч, а другі — паэт рускага народа, «славуты песнямі на ўсёй Поўначы» А. Пушкін. Яны стаялі перад помнікам Пятру I і думалі аб тых часах, калі засвеціць сонца свабоды і згіне тыранія.

А. Пушкін у вершы, прысвечаным А. Міцкевічу, успамінаючы пра вялікага польскага паэта і яго прабыванне ў Расіі, зазначыў:

Он между нами жил<br>
Средь племени ему чужого, злобы<br>
В душе своей к нам не питал, и мы<br>
Его любили. Мирный, благосклонный,<br>
Он посещал беседы наши. С ним<br>
Делились мы и чистыми мечтами,<br>
И песнями...

І далей:

...Он говорил о временах грядущих,<br>
Когда народы, распри позабыв,<br>
В великую семью соединятся.

Сведчанне А. Пушкіна аб сардэчных пачуццях польскага паэта да рускага народа ёсць праўдзівае сведчанне аб гэтых жа пачуццях шырокіх народных мас Польшчы, таму што А. Міцкевіч быў голасам свайго народа.

З вялікай любасцю ставіўся А. Міцкевіч да рускага народа ў сваіх лекцыях па славянскіх літаратурах. Ён шчыра сябраваў з дзекабрыстамі і з многімі рускімі паэтамі. Ён цёпла маляваў прадстаўнікоў рускага народа ў сваіх творах. Такім, напрыклад, намалёван вобраз чэснага і чалавечнага капітана Рыкава ў паэме «Пан Тадэвуш».

З глыбокім братэрскім пачуццём сардэчнасці ставіўся А. Міцкевіч і да літоўскага, і да ўкраінскага, і да беларускага народаў. З беларускім народам А. Міцкевіч быў звязаны асабліва цесна. Ён вывучаў яго жыццё і побыт, захапляўся беларускай прыродай, любіў і выкарыстоўваў беларускія народныя легенды і песні. Надзвычай высокую ацэнку ў лекцыях па славянскіх літаратурах А. Міцкевіч даў беларускай мове, назваўшы яе «самай багатай і чыстай гаворкай», поўнай «узвышанай прастаты». Беларускі

народ любіў і любіць блізкую яму творчасць А. Міцкевіча. Нядарам у некаторых варыянтах ананімнай беларускай паэмы першай паловы XIX стагоддзя «Тарас на Парнасе» імя вялікага польскага паэта стаіць поруч з імёнамі любімых беларускім народам рускіх пісьменнікаў А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Гогаля. Аб шырокай папулярнасці твораў А. Міцкевіча сярод беларускіх чытачоў сведчыць і той факт, што ўжо ў сярэдзіне мінулага стагоддзя В. Дунін-Марцінкевіч зрабіў першую спробу перакласці паэму «Пан Тадэвуш» на беларускую мову.

Высока цанілі вялікага нацыянальнага паэта польскага народа рускія дзекабрысты і літаратары таго часу. З брацкім спачуваннем ставіліся яны і да барацьбы польскага народа за яго незалежнасць. Асабліва горача падтрымлівалі гэту барацьбу рускія рэвалюцыйныя дэмакраты. А. Герцэн гаварыў: «Мы з Польшчай, таму што мы за Расію. Мы на баку палякаў, таму што мы рускія. Мы хочам незалежнасці Польшчы, таму што мы хочам свабоды Расіі. Мы з палякамі, таму што адзін ланцуг скоўвае нас абодвух».

Барацьбу польскага народа ў паўстанні 1863 года падтрымлівалі многія афіцэры рускай арміі. У гэтай барацьбе разам ішлі перадавыя людзі Польшчы, Беларусі і Літвы. І нашым абодвум народам дарагі імёны выдатных паплечнікаў таго часу — Яраслава Дамброўскага і Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага і Валерыя Урублеўскага, якія праславілі сябе ў барацьбе супраць царскай тыраніі.

Мы не можам не прыгадаць сёння і дружбы многіх вядомых дзеячоў культуры польскага і беларускага народаў. Выдатны беларускі першадрукар і асветнік доктар Георгій Скарына вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. У Кракаве ж і Познані былі надрукаваны першыя кнігі беларускага паэта-дэмакрата Ф. Багушэвіча. Ф. Багушэвіч, цкаваны мясцовымі і польскімі панамі за яго беларускую, «мужыцкую», як яны называлі, творчасць, знаходзіў гарачую падтрымку з боку прагрэсіўнай польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, якая гаварыла, што творы нашага паэта «маюць нейкае асаблівае хараство», і называла Ф. Багушэвіча «прыгожым талентам».

Такую ж абарону ад нападак рэакцыйнага панства атрымаў у польскім друку і В. Дунін-Марцінкевіч у асобе свайго земляка, выдатнага польскага паэта ЛюдвігаКанд-

ратовіча. В. Дунін-Марцінкевіч быў у цеснай дружбе таксама з геніяльным польскім кампазітарам Станіславам Манюшкам, і іх брацкае сяброўства знайшло свой адбітак у творчым супрацоўніцтве, у выніку якога С. Манюшка напісаў па лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча оперу «Сялянка», пастаўленую ўпершыню ў Мінску.

Прыкладаў брацкага супрацоўніцтва паміж польскім народам і народамі нашай краіны, у тым ліку і беларускім народам, можна прывесці многа. Усе яны гавораць аб тым, што напоперак жаданням пануючых класаў раздзяліць нашы народы, пасеяць паміж імі варожасць працоўныя масы нашых краін заўсёды былі звязаны цеснымі повязямі агульных інтарэсаў і нязменна імкнуліся жыць у дружбе і згодзе. З новай сілай гэта праявілася, калі на гістарычную арэну выступіў рабочы клас, на чале якога стала ленінская партыя. Ужо ў першай буржуазна-дэмакратычнай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг. рабочы клас Расіі і Польшчы выступіў адзіным фронтам. На забастоўкі ў рускіх гарадах забастоўкамі салідарнасці адклікаліся рабочыя Лодзі і Варшавы, Чанстахова і Беластока. Мы не можам забыць таксама, што пасля паражэння першай рускай рэвалюцыі многія рускія рэвалюцыянеры, вымушаныя эміграваць за граніцу, знайшлі брацкі прытулак на польскай зямлі. На гэтай зямлі, сярод польскіх сяброў, пэўны час жыў і працаваў вялікі правадыр працоўных усяго свету, геній рускага народа У. І. Ленін.

Верныя гістарычнаму лозунгу — за вашу і нашу незалежнасць — дзесяткі тысяч палякаў прымалі ўдзел і ў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Імя рыцара рэвалюцыі, сына польскага народа Фелікса Дзяржынскага, імёны Юльяна Мархлеўскага, Браніслава Весалоўскага, Кароля Свярчэўскага і многіх іншых назаўсёды застануцца ў гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы за вялікую справу працоўных Расіі і ўсяго свету.

У выніку перамогі Кастрычніка ў нашай краіне была створана першая ў свеце сацыялістычная дзяржава рабочых і сялян, якая абвясціла палітыку міра і дружбы, роўнасць і суверэннасць усіх народаў Расіі. Дэкрэтам Савецкага ўрада ад 29 жніўня 1918 года былі скасаваны і дагаворы царскага ўрада аб падзелах Польшчы. Гэта быў першы акт, які лёг у аснову польска-савецкай дружбы.

З вялікай удзячнасцю паставіўся да гэтага акта Савецкай улады польскі рабочы і селянін. Яны разумелі, што

цяпер традыцыйная дружба з народамі Расіі павінна яшчэ больш расці, бо толькі на гэтым шляху польскі народ будзе мець сапраўдную незалежнасць і нацыянальную свабоду і даб'ецца сацыяльнага вызвалення.

І калі легіёны Пілсудскага рушылі на маладую савецкую рэспубліку, сотні тысяч польскіх рабочых выступілі супраць ганебнай захопніцкай палітыкі сваіх капіталістаў і памешчыкаў. Беларускі народ высока шануе памяць Станіслава Берсана, Конрада Шчапанскага, Рамана Яблонскага і многіх іншых сыноў польскага народа, якія мужна загінулі пры абароне Мінска.

Кроў, пралітая сынамі польскага і савецкага народаў у змаганні з царызмам і замежнай інтэрвенцыяй, кроў, пралітая імі ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі за незалежнасць і свабоду нашых народаў, звязала нас навекі з нашымі польскімі братамі. Мы, беларусы, з удзячнасцю ўспамінаем, што першыя польскія вайсковыя часці, уступіўшыя ў бой пад Леніна, разам з савецкімі войскамі першымі ступілі на нашу беларускую зямлю, несучы ёй вызваленне ад фашысцкай няволі. Мы з гонарам гаворым, што сыны Беларусі і ў доблесных радах Савецкай Арміі і ў партызанскіх атрадах поруч з польскімі салдатамі і партызанамі змагаліся за вызваленне Польшчы.

Справа вызвалення Польшчы была кроўнай справай усіх народаў Савецкага Саюза. І сягоння мы з захапленнем аглядаем дасягненні польскага народа, здабытыя ім на свабоднай польскай зямлі, у брацкім супрацоўніцтве і пры сяброўскім удзеле нашага савецкага народа.

Адносіны брацкай дружбы і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры, устаноўленыя паміж нашымі дзяржавамі,— прыклад новых, невядомых у гісторыі адносін свабодных народаў, якія маюць агульную мэту і ідуць адным шляхам да супольнага шчасця і працвітання.

Вось чаму дасягненні польскага народа радуюць нас.

Нашы польскія сябры, як і мы, рады дзяліцца сваімі дасягненнямі. На гэтым грунце дружбы ўстанавіўся паміж нашымі народамі шырокі абмен матэрыяльнымі і культурнымі каштоўнасцямі. Тое, аб чым марылі нашы польскія выдатныя культурныя дзеячы, стала явай. У нас бывалі дэлегацыі польскіх рабочых, сялян, работнікаў культуры і мастацтва. І наадварот, дэлегацыі народаў Савецкага Саюза сталі частымі гасцямі ў Польшчы.

Няма магчымасці не толькі назваць усе факты, але нават пералічыць разнастайныя формы брацкай узаемасувязі польскага і савецкага народаў. Я прыгадаю толькі некаторыя моманты.

Сталы абмен наладзіўся паміж нашымі літаратурамі. У Мінску ў апошні час выдадзены на беларускай мове кніга Г. Сянкевіча, многія вершы сучасных польскіх паэтаў, друкуецца аднатомнік А. Міцкевіча. У Польшчы ў сваю чаргу выдаюцца творы Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. У нашых перыядычных выданнях супрацоўнічаюць польскія пісьменнікі і журналісты. І наадварот, нашы літаратары часта выступаюць на старонках польскай перыёдыкі.

Наладжана брацкая творчая сувязь паміж вучонымі Беларускай акадэміі навук і польскіх навукова-даследчых інстытутаў. Летам гэтага года мінскія навуковыя супрацоўнікі чыталі ў Польшчы курс лекцый па беларускай літаратуры і мове. У Беларускім дзяржаўным універсітэце навучаюцца дзеці польскіх рабочых і сялян.

Асабліва шырокія сувязі ўстанавіліся паміж работнікамі польскага і беларускага мастацтва. Мінчане з захапленнем слухалі ў Мінску выступленні польскага ансамбля «Мазоўша», глядзелі выстаўку польскага мастацтва, польскія фільмы. Зараз вялікім поспехам карыстаецца ў Мінску выстаўка дасягненняў Польскай Народнай Рэспублікі і выступленні ансамбля песні і танца «Шлёнск».

У нашага народа ёсць прыказка: «Калі ты мой друг, аддам за цябе і дух». Мы бачым, што гэта знаходзіць праяўленне і ў нашай дружбе з польскім народам, і мы пасяброўску шчодра абменьваемся не толькі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, але і духоўнымі каштоўнасцямі нашых душ і сэрцаў. І мы ўпэўнены, што польскія браты чуюць нашы сэрцы, напоўненыя бязмежнай любоўю да польскага народа, ведаюць нашы думы, якія так добра выказаў у эпілогу да паэмы «Рыбакова хата» Я. Колас:

> Мае браты, мае суседзі,
> Свабодны, новы польскі люд!
> Няхай жа песняй звонкай медзі
> Красуе наша дружба тут!
> Няхай жа стане тленню, прахам
> Жыцця мінулага ярмо!
> Мы пойдзем далей новым шляхам,
> Друг другу руку падамо!

*1955 г.*

# ЗА ТВОРЧУЮ ДРУЖБУ ЎСІХ ДЗЕЯЧОЎ КУЛЬТУРЫ [1]

Партыя і народ патрабуюць ад нас, работнікаў мастацтва і літаратуры, няспыннага росту нашай творчасці, павышэння майстэрства. Мы павінны даваць народу такія творы, якія б пашыралі яго ідэйны кругагляд і выхоўвалі высокі эстэтычны густ.

Але для гэтага мы самі павінны глыбока авалодаць усімі лепшымі здабыткамі мастацтва, выдатнымі скарбамі культуры.

На вялікі жаль, эстэтычнае выхаванне, без якога не можа быць сапраўднага пісьменніка, мастака, музыканта, акцёра, не пастаўлена ў нас высока. Вельмі мала можна назваць прыкладаў, калі б нашы паэты цікавіліся жывапісам, а кампазітары — архітэктурай або выяўленчым мастацтвам.

А між тым гісторыя развіцця вялікага рускага мастацтва і літаратуры вельмі багата фактамі ўзаемаўзбагачэння і ўзаемаўплыву мастацтва і літаратуры.

Пушкіна мы ведаем як паэта. Але, апрача таго, ён быў тонкім знаўцам музыкі і жывапісу. Пушкінскія аўтографы, якія захаваліся да нашых дзён з іх шматлікімі рысункамі — характэрнымі, яркімі і па-свойму майстэрскімі,— гавораць аб тым, што іх аўтар меў назіральнае вока рысавальшчыка, знаўцы выяўленчага мастацтва.

Шаўчэнка быў жывапісцам. Гогаль сам асабіста афарміў вокладку першага выдання сваіх «Мёртвых душ».

Шаляпін быў цудоўным рысавальшчыкам. Рэпін любіў музыку і захапляўся ёю. Пералік падобных прыкладаў можна было б прадоўжыць. Усе яны гавораць аб тым, што нашы вялікія продкі — стваральнікі рускага мастацтва — былі ў эстэтычных адносінах людзьмі ўсебакова развітымі, што пастаянную сувязь з усімі галінамі мастацтва яны лічылі справай першай неабходнасці. І ўжо самым яркім гістарычным сведчаннем цеснай узаемасувязі прадстаўнікоў усіх галін мастацтва з'яўляецца прыклад стасаўскага асяроддзя. Дзейнасць Стасава тым і вызначаецца, што ён перш за ўсё зблізіў і аб'яднаў вакол сябе многіх выдатных

[1] Артыкул напісаны сумесна з Я. Коласам, П. Малчанавым, Я. Цікоцкім, З. Азгурам, Р. Шырмай. (Заўвага складальнікаў.)

прадстаўнікоў розных галін мастацтва, даў ім магчымасць лепш пазнаць адзін аднаго, мацней пасябраваць.

У гэтым моцным творчым яднанні нарадзіліся і выкрышталізаваліся тыя шэдэўры літаратуры, жывапісу, скульптуры, музыкі, якія да гэтага часу захапляюць глыбінёй думкі, дасканаласцю формы, сілай эстэтычнага ўздзеяння.

На працягу ўсёй гісторыі рускага мастацтва пісьменнікі, мастакі, музыканты, артысты, кампазітары заўсёды падтрымлівалі творчую і сяброўскую ўзаемасувязь паміж сабой. Магчыма, гэтым і тлумачыцца той факт, што ў вершах Пушкіна і Лермантава гучыць магутная, чароўная музыка, што карціны рускай прыроды, створаныя Гогалем у яго літаратурных творах, могуць сапернічаць паводле яркасці, прыгажосці і сілы ўздзеяння з палотнамі лепшых пейзажыстаў, што грымы Шаляпіна сваёй характарнасцю нагадвалі геніяльныя рэпінскія мазкі.

Сярод значнай часткі беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў імкненне да ўсебаковага эстэтычнага развіцця і выхавання таксама вялікае. Аднак творчую сувязь прадстаўнікоў розных галін мастацтва Беларусі нельга назваць масавай з'явай, традыцыяй.

На сімфанічных канцэртах вельмі рэдка даводзіцца бачыць пісьменнікаў і мастакоў, у майстэрнях жывапісцаў і скульптараў амаль не сустрэнеш кампазітараў і артыстаў (выключаючы тыя выпадкі, калі ім трэба пазіраваць для партрэтаў), на спектаклях драматычных і опернага тэатраў пісьменнікі і мастакі — рэдкія госці. Кансерваторыя не ведае, чым жыве тэатральны інстытут, кафедра сцэнічнага мастацтва не мае сувязі з кафедрай жывапісу і скульптуры, хоць абедзве яны з'яўляюцца часткамі аднаго інстытута; архітэктары не звязаны з музычным, тэатральным і пісьменніцкім асяроддзем. Мы не ведаем такіх фактаў, калі ў абмеркаванні новай паэмы прынялі б удзел кампазітары, архітэктары, а на праслухоўванне новай сімфоніі былі б запрошаны паэты, мастакі, артысты.

Мала, вельмі мала звязаны паміж сабой работнікі мастацтва рэспублікі. Гэтая адасобленасць у некаторых выпадках даходзіць да таго, што, напрыклад, паэт, выступаючы ў Саюзе пісьменнікаў і гаворачы аб прозе, абавязкова зазначыць: «Я, таварышы, не празаік, а паэт і ў прозе дрэнна разбіраюся...» або «Я, таварышы, не дра-

матург, а празаік...» У Саюзе мастакоў тое ж самае: «Я жывапісец, я ў скульптуры нічога не разумею». Такія выказванні не рэдкасць, і непрыемна тое, што на іх ніхто не звяртае ўвагі, іх лічаць нармальнай з'явай. Артыст драматычнага тэатра паціскае плячыма і апраўдвае сваю баязлівасць выказацца адносна балетнага спектакля фразай: «Я ў балеце нічога не разумею, я драматычны артыст».

Думаецца, што ў значнай меры іменна гэтым тлумачыцца той факт, што ў беларускім жывапісу яшчэ вельмі мала паэзіі, у вершах паэтаў часамі нестае музыкі, у музыцы — паэтычнасці, а наогул у мастацтве не хапае эстэтычнай глыбіні і прыгажосці.

Думаецца, што калі б штодзённая творчая ўзаемасувязь людзей усіх галін мастацтва стала традыцыяй — гэта прынесла б вялікую карысць кожнаму працаўніку мастацтва паасобку і ўсяму беларускаму мастацтву ў цэлым. Штодзённая творчая сувязь — неабходная ўмова плённай працы кожнага працаўніка мастацтва.

Што ж перашкаджае такой сувязі?

Перашкаджае тое, што прадстаўнікі розных галін мастацтва пакуль што маюць магчымасць сустракацца адзін з адным толькі ў сябе дома або на юбілеях. Гэтага мала.

Для таго каб пастаўленыя пытанні маглі быць ажыццёўлены, трэба, каб справа творчай вучобы, творчага супрацоўніцтва ўсіх работнікаў мастацтва набыла арганізаваны характар .

Належала б узяцца за гэта Беларускаму тэатральнаму таварыству, праўленням і секцыям нашых творчых саюзаў, Інстытуту літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, карціннай галерэі, тэатрам і, нарэшце, Упраўленню па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР, якое мае вялікія магчымасці, але вельмі рэдка радуе сваёй карыснай і цікавай ініцыятывай.

Нарэшце, патрэбна месца — будынак, які быў бы спецыяльна прыстасаваны для гэтай мэты, дзе была б вялікая глядзельная зала з добрай сцэнай, канцэртная зала і бібліятэка, і пастаянная выстаўка навінак жывапісу, графікі і г. д. Гэта дало б магчымасць праводзіць цікавыя творчыя сустрэчы, размовы, дыскусіі па надзённых праблемах літаратуры і мастацтва.

Але пакуль у Мінску не пабудаваны Дом мастацтва, прадстаўнікі мастацтва самі павінны шукаць формы творчай сувязі.

Можна і трэба наладжваць абмеркаванне выставак, новых спектакляў сталічных і абласных тэатраў, асобных твораў кампазітараў, мастакоў, пісьменнікаў з удзелам самай шырокай мастацкай грамадскасці, а не ў вузкіх колах творчых секцый, як гэта робіцца цяпер.

Пры жаданні можна знайсці шмат розных форм творчай сувязі, якія дапамаглі б адзіным фронтам рухаць наперад беларускае мастацтва і літаратуру.

Гэта — справа саміх работнікаў літаратуры і мастацтва, справа тых, хто адказвае за развіццё нашай культуры.

*1955 г.*

# НАТАТКІ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРНУЮ МОВУ

Мова з'яўляецца адной з самых выразных адзнак нацыянальнай формы. Адначасна з гэтым мова, паводле вызначэння У. І. Леніна, з'яўляючыся адным з важнейшых сродкаў чалавечых зносін, служыць магутнай зброяй класавай барацьбы і выхавання мас. Вось чаму, дбаючы аб развіцці сацыялістычнай культуры і аб выхаванні працоўных мас у камуністычным духу, бальшавіцкая партыя і Савецкая ўлада нястомна і штодзённа клапаціліся і клапоцяцца аб развіцці нацыянальных моў [...]

Моўнае будаўніцтва ў БССР ішло і развівалася на падставе ленінскага вучэння аб нацыянальнай культуры — сацыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме, і на гэтым шляху яно дасягнула такіх поспехаў, якіх нельга нават і параўноўваць са станам нашай мовы ў мінулым. Гэта поўнасцю тычыцца таксама і ўсіх галін беларускага мовазнаўства—лексікаграфіі, правапісу і інш. [...]

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адкрыла перад народамі Расіі самыя шырокія магчымасці для развіцця іх нацыянальнай культуры, мовы. За гады Савецкай улады, дзякуючы мудрай ленінскай нацыянальнай палітыцы, мовы народаў Савецкага Саюза, адчуваючы на сабе плённы ўплыў магутнай мовы вялікага рускага народа, атрымалі сваё далейшае развіццё і літаратурнае завяршэнне.

Велізарныя дасягненні ў галіне моўнага будаўніцтва мае і беларускі народ. Створана граматыка беларускай мовы, распрацаваны арфаграфічны кодэкс, створаны слоўнікі, выпрацавана ў значнай ступені тэрміналогія па розных галінах ведаў.

Для разгортвання работы ў галіне беларускай мовы, у тым ліку і ў галіне лексікаграфіі, былі створаны ўсе матэрыяльныя і навуковыя перадумовы. Адразу ж пасля ўтварэння БССР пры Наркамасветы Беларусі пачала працаваць тэрміналагічная камісія. Пазней гэта камісія працягвала сваю работу ў Інбелкульце і выдала звыш дваццаці тэрміналагічных зборнікаў па розных галінах навукі.

Поруч з гэтым было апрацавана і надрукавана некалькі руска-беларускіх і беларускіх слоўнікаў, а таксама некалькі так званых краёвых слоўнікаў, якія змяшчалі ў сабе лексіку паасобных раёнаў і абласцей.

Да рэвалюцыі беларуская проза ў асноўным не падымалася вышэй бытавога апавядання і гумарэскі. Не дзіва, што і мова гэтых твораў стаяла на ўзроўні бытавізму. Першы шырокую апавядальнасць мове мастацкай прозы надаў Я. Колас. Па яго ўзору працаваў К. Чорны, і ў яго творах простая бытавая мова набыла яшчэ шырэйшае эпічнае гучанне. У Чорнага дасканалы і беларускі сінтаксіс. І шкада, што некаторыя нашы празаікі мала вучацца на мове Чорнага.

Сэнсавай дакладнасцю і граматычнай выразнасцю вызначаецца мова К. Крапівы, які таксама, шырока выкарыстоўваючы народнае багацце, умее надаць звычайнай фразе і лірычнае, і дасціпнае, і з'едлівае гучанне.

Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў. У яго творах мы знаходзім і надзвычай паказальныя ўзоры іранічнай мовы. Шмат цікавага і трапнага ў своеасаблівай лынькоўскай лексіцы.

Шырока і ўмела карыстаўся ў сваіх творах элементамі публіцыстычнай мовы Э. Самуйлёнак. Аб гэтым таксама забываюць нашы маладыя празаікі, і толькі ў Я. Брыля ў «Граніцы» я з прыемнасцю знайшоў некалькі цудоўных старонак, напісаных у падобным характары.

Шмат зрабілі для абнаўлення і пашырэння паэтычнага слоўніка нашы паэты П. Броўка і А. Куляшоў, М. Танк і П. Панчанка, М. Лужанін і В. Вітка і інш. П. Броўка першы ўнёс у нашу паэзію стыхію індустрыяльнай мовы і «грубага» бытавізму, рассоўваючы межы традыцыйнай, так званай паэтычнай мовы (я маю на ўвазе «Цэхавыя будні», «Праз горы і стэп», «1914» і інш. творы). У меншай ступені, але ж гэтая моўная плынь была характэрна на пэўным этапе і для А. Куляшова (паэма «Аманал», напрыклад). Пошукі новых лексічных сродкаў



Кабінет П. Ф. Глебкі ў яго кватэры

для абодвух паэтаў не прапалі марна. Яны навучыліся валодаць і бытавым і «празаічным» словам так, што яно арганічна ўваходзіць у іх паэтычную тканіну. У гэтым сэнсе асабліва паказальная творчасць А. Куляшова.

Яшчэ далей у гэтым кірунку ідзе П. Панчанка. Яго і слоўнік і фразеалогія, калі параўнаць іх з нашай традыцыйнай паэтычнай мовай, стаяць на мяжы з публіцыстычнай мовай, але ніколі да яе не зніжаюцца.

Асаблівае месца ў мове нашай паэзіі займае мова М. Танка. Ён таксама карыстаецца надзвычай шырокім і разнастайным слоўнікам (часта таксама і бытавога і публіцыстычнага характару), але шырокая пабудова яго фразы (часта з многімі даданымі сказамі) надае яго мове своеасаблівы, узнёслы характар.

Чысцінёй і арыгінальнасцю лексічнага складу і граматычнай пабудовы вызначаецца мова М. Лужаніна і В. Віткі.

Я не маю магчымасці пералічыць тут усяго арыгінальнага, што ўносіць у нашу літаратурную мову кожны пісьменнік. Не магу, аднак, не адзначыць цікавага і зусім адменнага слоўніка паэтаў К. Кірэенкі, А. Зарыцкага і А. Вялюгіна.

Пашырэнне тэматыкі нясе з сабою пашырэнне лексікі. Тут можна прыгадаць слоўнік А. Кулакоўскага ў «Гартаванні», М. Паслядовіча ў «Цёплым дыханні» і асабліва ў «Святле над Ліпскам», дзе аўтару ўдалося шырокую новую сельскагаспадарчую тэрміналогію арганічна ўплесці ва ўсю моўную тканіну.

Я думаю, што калі не злоўжываць гэтым, тэхнічная тэрміналогія можа і павінна быць таксама крыніцай пашырэння нашай літаратурна-мастацкай лексікі. Больш таго, тут нашы пісьменнікі павінны выступаць і творцамі беларускай тэхнічнай і навуковай тэрміналогіі.

Акадэмік М. Я. Мар гаварыў, што «тэрміналогія — гэта мова будучага», разумеючы пад гэтым пераход пры сацыялізме тэрмінаў у бытавыя словы ў сувязі з укараненнем дасягненняў тэхнікі і навукі ў быт.

Але не адным гэтым павінна абмяжоўвацца работа пісьменніка над далейшым развіццём і ўдасканаленнем беларускай літаратурнай мовы. Задачы далейшага будаўніцтва сацыялістычнай культуры патрабуюць далейшага ўсебаковага развіцця мовы.

Тварцом мовы з'яўляецца народ. Пісьменнік чэрпае моўныя скарбы з народных крыніц. Але ён выступае тут не ў ролі пасіўнага спажыўца, а ў ролі адборшчыка і шліфавальшчыка народных скарбаў. Пісьменнік як бы ўпаўнаважаны грамадствам быць у пэўным сэнсе заканадаўцам у галіне мовы. З шматлікіх і разнастайных лексічных і граматычных формаў ён выбірае найбольш прыдатныя і каштоўныя і надае ім сілу агульнанацыянальнай літаратурнай нормы.

Між тым у нас бываюць абыякавыя і нядбайныя адносіны да беларускай мовы. Я праслухаў аднойчы па радыё адну невялікую нататку і пачуў там такія моўныя перлы: *абастраць, закаручка, рашано; калі ў вас ёсць чэсць, дык не абраніце і маю.* А колькі падобных перлаў вылятае з мікрафонаў кожны дзень, а колькі іх сустракаецца на старонках нашых выданняў! Тут, безумоўна, вінавата і АН БССР, якая да гэтага часу не выдала добрага слоўніка, не ўладкавала правапісу, не распрацавала беларускай арфаэпіі.

Якія найбольш слабыя месцы нашай літаратурнай мовы выявіліся пры ўкладанні руска-беларускага слоўніка? У першую чаргу — гэта адсутнасць пэўнай, цвёрдай літаратурнай нормы. Так, напрыклад, ужываюць: *цялё, пара-*

*сё, ягнё, куранё* і — *цяля, парася* і г. д.; *будаваны, мураваны, схаваны, абрабаваны* і — *будованы, мурованы* і г. д.; *курганы, туманы, кайданы* і — *курганы, туманы* і г. д.; *паседжанне, палепшанне, паходжанне* і — *пасяджэнне, паляпшэнне* і г. д.; *сівы, цяжкі, буйны, стары* і — *сівы, цяжкі* і г. д.; *несці, весці* і — *нясці, вясці; гучаць* — *гучэць, пішчаць* — *пішчэць; стынуць* — *стыгнуць; каротка*— *коратка, погляд* — *пагляд, спіна* — *спіна, промень* — *прамень, больніца* — *бальніца, палоса* — *паласа; поезд* — *цягнік, мінута* — *хвіліна; ільны* — *ляны, ільды* — *ляды, абруса* — *абруса, млына* — *млына.*

У нас ужываюць *шынель* і *мядаль* у мужчынскім і жаночым родзе і скланяюць у родным склоне: *мядаля* і *медаля.*

Такіх дублетных форм маса. Гэтага ў нарматызаванай літаратурнай мове не павінна быць. Якім формам аддаць перавагу, цяжка сказаць. Нашы пісьменнікі не выказаліся аб гэтым, нібы нікому няма і справы да таго, як піша другі.

Не звяртаюць нашы пісьменнікі ўвагі і на яўна няправільныя формы, спакойна слухаюць і самі нават пішуць: *беларусы, таварышы,* калі трэба: *беларусы, таварышы.*

Дапускаюцца ў нас парушэнні і граматыкі. К. Кірэенка піша *белюць,* калі трэба *беляць,* паколькі гэта дзеяслоў другога спражэння. У М. Лынькова ў «Векапомных днях» мы знаходзім выраз *небяспека паменшыла,* г. зн. дзеяслоў неपераходны *паменшаць* зблытаны з дзеясловам пераходным *паменшыць.*

Вельмі часта ў нас сустракаецца няправільнае ўжыванне адмоўнай часцінкі *не.* Гэтая часцінка ў беларускай мове патрабуе роднага склону, тым часам у нас пішуць: *ніхто не даў такі загад* (А. Вялюгін) замест *ніхто не даў такога загаду; вымаўляць без хвалявання гэта слова не магу* (А. Куляшоў) замест *вымаўляць без хвалявання гэтага слова не магу.*

Яшчэ часцей няправільна ўжываецца прыназоўнік *па.* Гэты прыназоўнік пры абазначэнні месца, накіраванасці і да т. п. у рускай ужываецца з давальным склонам, а ў беларускай — у множным ліку толькі з месным, а ў адзіночным таксама амаль заўсёды з месным. Між тым знаходзім: у А. Куляшова — *па рукам* (замест *па руках*), у А. Вялюгіна — *па цёмнаму бору* (замест *па цёмным ба-*

*ры*), у І. Шамякіна — *па ўсяму відаць* (замест *па ўсім відаць),* і так вельмі і вельмі часта.

У беларускай мове словы *акно, дзяўчына, камень* і інш. у множным ліку маюць формы: *вокны, дзяўчаты, каменні.* Але пры лічэбніках *два, тры, чатыры* яны ўжываюцца ў форме: *два акны, тры дзяўчыны, чатыры камяні.* А між тым у літаратуры мы сустракаем: *па вуліцы ішлі дзяўчыны* (замест *дзяўчаты*) і *дзве дзяўчаты* (замест *дзяўчыны*) і падобнае.

Часта блытаюць у нас вышэйшую ступень прыраўнавання ад прыслоўя і ад прыметніка — асабліва ў перакладах з рускай, паколькі ў рускай мове гэтыя формы падобныя. Напрыклад, ад прыслоўя *высоко* і ад прыметніка *высокий* вышэйшая ступень у рускай мове будзе *выше: он стоит выше* (прыслоўе), *он выше товарища* (прыметнік). Так часта і па-беларуску і ў адным і ў другім выпадку перакладаюць словам *вышэй*, хоць у першым выпадку трэба *ён стаіць вышэй* (прыслоўе), а ў другім выпадку — *ён вышэйшы* (прыметнік) *за таварыша.* Блытаніну гэтых форм мы знаходзім у многіх пісьменнікаў. Напрыклад, П. Броўка піша: *праз годы яшчэ прыгажэй краявід* (замест *прыгажэйшы*); М. Лыньком: *ён куды хітрэй і небяспечней, чым камендант* (замест *хітрэйшы* і *небяспечнейшы).*

Адсюль і найвышэйшую ступень прыраўнавання блытаюць з вышэйшай: замест рускага *крупнейший* (найвышэйшая ступень) ужываюць па-беларуску *буйнейшы* (форма вышэйшай ступені), у той час, як трэба *найбуйнейшы.*

Злоўжываюць нашы пісьменнікі і дзеепрыметнікамі ад дзеясловаў цяперашняга часу, якія не ўласцівы беларускай мове. Асабліва грашыць гэтым М. Танк: *сінеючы бэз, палаючы дзень, нержавеючыя словы* і інш.

Нямала «агрэхаў» сустракаецца і ў сінтаксісе нашых пісьменнікаў. Гаворачы пра стылістыку таго ці іншага аўтара, гэтыя «агрэхі» часамі адзначаюць, і таму я падрабязна на іх не спыняюся. Аднак не магу абмінуць самых «крыклівых узораў», якія калі не аўтар, дык рэдакцыі павінны былі б выправіць. М. Калачынскі піша:

> Калі хто прыходзіць з дарогі,
> Ён спіць, як гавораць, у смак.
> І праўда: расталі трывогі
> Вайны, не бывае атак.

У гэтым выпадку замест *не бывае* трэба сказаць *няма*, іначай тут няма ніякага дапасавання. Таксама без усякага дапасавання пабудавана і такая фраза ў М. Калачынскага: *ён едзе, туды пазірае, дзе з фронта сустрэча была.*

Пазбаўлены ўсялякай лагічнасці і такія сказы Р. Сабаленкі: *каб я, насіўшы іх, засоп* (замест *носячы*); *каб да змяркання пелі колы, вазіўшы копы да гумна* (замест *возячы*).

Нашы пісьменнікі дапускаюць часамі і недакладнае ўжыванне слоў, г. зн. не ў тым значэнні, якое за імі замацавана ў мове. Напрыклад, пішуць: М. Паслядовіч: *толькі не загадвайце дзікай цаны;* М. Лынькоў: *апантаны адной неадчэпнай думкай;* А. Бялевіч: *не расце гэткі ў лукаткі лён.*

Злоўжываюць нашы пісьменнікі і непатрэбнымі абласнымі (дыялектнымі) словамі і формамі: *затоілі дух* замест *затаілі* (М. Лынькоў); *бераць* замест *бярэ* (П. Броўка); *высънуў* замест *выснаваў* (М. Танк); *успатнеў* замест *успацеў* (М. Ткачоў) і інш.

Дыялектныя словы і формы маюць права на існаванне тады, калі няма адпаведных слоў у літаратурнай мове або калі яны перадаюць мову героя. І пры гэтым патрэбен надзвычай уважлівы лексічны і фразеалагічны адбор, каб не засмечваць мову і тым самым не перашкаджаць устанаўленню нарматыўнасці літаратурнай мовы. А гэта задача — адна з асноўных задач нашага мовазнаўства і літаратуры. Трэба хутчэй канчаць з такім становішчам, калі не толькі мы кожны пішам так, як у нас гавораць, але і ў кожнай школе вучаць дзяцей так, як гавораць у іх.

У барацьбе за цвёрдую нарматыўнасць літаратурнай мовы, за яе чысціню і ўдасканаленне роля пісьменнікаў і нашых літаратурных выданняў надзвычай вялікая і адказная. На жаль, нашы крытыкі (я разумею не толькі прафесіяналаў, а ўсіх пісьменнікаў, што пішуць аб літаратуры) аб мове зусім не гавораць у сваіх рэцэнзіях і артыкулах. Мы слаба вывучаем і народную мову (жывую і адлюстраваную ў багатым беларускім фальклоры). Мы і самі не запісваем цікавых слоў і выразаў. Мы не чытаем слоўнікаў. Мы недастаткова вывучаем мову беларускіх перакладаў твораў Леніна, твораў рускай класічнай літаратуры. Чаму, напрыклад, не абмеркаваць перакладаў на беларускую мову «Яўгенія Анегіна» ці «Гора ад розу-

му», якія зроблены А. Куляшовым і М. Лужаніным? А хто з пісьменнікаў заглядае калі ў беларускія падручнікі, хто знаёмы з той тэрміналогіяй, якая там даецца? Баюся, што ніхто. А мы павінны ведаць усё багацце беларускай мовы. Трэба дамагчыся, каб крытыка, гаворачы аб творы, заўсёды гаварыла і аб яго мове. Трэба завесці раздзел у газеце «Літаратура і мастацтва» па канкрэтных пытаннях мовы — ужывання таго ці іншага слова, вымаўлення і г. д. Трэба, каб нашы літаратурныя выданні («Літаратура і мастацтва», «Полымя», «Беларусь») сталі ўзорам літаратурнай мовы. Цяжкія для перакладу словы, выразы, пошукі новых тэрмінаў і слоў, кожны ўдалы ці няўдалы наватвор павінны зрабіцца прадметам калектыўнага абмеркавання работнікаў рэдакцый і пісьменнікаў.

Партыя і народ давяраюць нам адзін з найбагацейшых скарбаў — мову народа, і мы павінны ставіцца да яе з найвялікшай адказнасцю і з найвялікшай любоўю.

*1950 г.*

## АБ ПРАВАПІСЕ

### ВЫСТУПЛЕННЕ НА НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ АН БССР ПА ПЫТАННЯХ СУЧАСНАГА БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

Маё выступленне не з'яўляецца дакладам па канкрэтных пытаннях правапісу, а мае быць толькі некаторым уступам да тых паведамленняў, якія будуць тут зроблены па асобных раздзелах падрыхтаванага праекта змен і ўдакладненняў беларускай арфаграфіі.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адкрыла перад народамі Расіі самыя шырокія магчымасці для развіцця іх нацыянальнай культуры і мовы. За гады Савецкай улады мовы народаў Савецкага Саюза, адчуваючы на сабе плённы ўплыў магутнай мовы вялікага рускага народа, атрымалі сваё далейшае развіццё і літаратурнае завяршэнне [...]

Пры Савецкай уладзе непараўнальна вырасла лексічнае багацце беларускай мовы. У адпаведнасці з новымі паняццямі, выкліканымі вялікімі сацыялістычнымі зрухамі ў жыцці, з'явіліся і сталі ўвайшлі ў побыт народа новыя словы. Па ўсіх галінах навукі і тэхнікі выпрацавала-

ся ў асноўным беларуская тэрміналогія. Створана беларуская граматыка. Распрацаваны і з году ў год удасканальваецца арфаграфічны кодэкс нашай мовы.

Шпаркае развіццё эканомікі і культуры БССР нязменна цягне за сабой і стымулюе далейшае развіццё мовы.

Аднак тэарэтычнае абагульненне моўных з'яў часта адстае ад моўнай практыкі. Жыццё ўносіць у мову такія моўныя факты, якія абвяргаюць або прыходзяць у супярэчнасць і з некаторымі існуючымі правіламі нашага правапісу. Мы ўсе адчуваем, што ўжо даўно наспела патрэба перагледзець многія правілы арфаграфіі, якія або не пацвердзіліся практыкай, або прыйшлі ў супярэчнасць з ёю і выклікаюць цяпер масу непаразуменняў. Да такіх найбольш неўладкаваных момантаў нашага правапісу належаць:

а) правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў;

б) правапіс слоў іншамоўнага (неславянскага) паходжання;

в) правапіс складаных слоў;

г) правапіс канчаткаў роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду і некаторыя іншыя.

ЦК КП(б)Б і Урад БССР яшчэ да вайны даручылі Акадэміі навук і Наркамасветы БССР перагледзець паасобныя правілы правапісу і ўдакладніць і палепшыць іх. Але напад на нашу краіну варожых полчышчаў перапыніў распачатую ў гэтым кірунку работу. Яна, па дырэктыве ЦК КП(б)Б і Урада БССР, аднавілася толькі пасля вайны. І вось сягоння на вашу ўвагу падаецца праект змен і ўдакладненняў, распрацаваных сектарам мовы Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук БССР.

Пры пераглядзе сістэмы беларускай арфаграфіі меліся на ўвазе ў першую чаргу два моманты:

1) набліжэнне яе да рускай арфаграфічнай сістэмы, паколькі руская мова стала нашай другой роднай мовай і паколькі ў выніку гэтага адбываецца ўсё большае і большае збліжэнне нашых брацкіх моў;

2) захаванне асаблівасцей сваёй роднай мовы ў такой меры, каб напісанне не супярэчыла, а як мага больш набліжалася да жывога вымаўлення.

Ідэальным правапісам быў бы правапіс, які адлюстраваў бы ўсе фанетычныя і граматычныя моманты жывой мовы. На жаль, такі правапіс на практыцы немагчымы.

Як вядома, існуюць тры прынцыпы, на якіх звычайна будуюцца арфаграфічныя сістэмы: фанетычны, марфалагічны і гістарычны.

У аснове рускай арфаграфічнай сістэмы ляжыць *марфалагічны* прынцып. Але поруч з гэтым мы сустракаем у ім элементы і іншых прынцыпаў: гістарычнага (правапіс такіх слоў, як *шило, жито*) і фанетычнага (у правапісе, напрыклад, прыставак: *рассказать, распространить* і г. д.).

У аснове беларускай арфаграфічнай сістэмы перш за ўсё ляжыць фанетычны прынцып (правапіс галосных славянскага паходжання) і марфалагічны (правапіс зычных і ў некаторай ступені галосных у іншамоўных словах).

Фанетычны прынцып, безумоўна, мае пэўную нязручнасць, якая заключаецца ў тым, што пры напісанні паводле гэтага прынцыпу немагчыма выразіць этымалагічнае сваяцтва некаторых формаў. Прафесар Г. П. Сердзючэнка ў сувязі з гэтым выказваў у сваім артыкуле ў «Правде» (11 лістапада 1949 г.) здзіўленне: чаму *опера* пішацца праз *о*, а *аперэта* праз *а* і незаслужана абвінавачваў у неіснуючых грахах укладальнікаў беларускага арфаграфічнага слоўніка М. Р. Судніка і М. І. Лобана.

Найбольш выразнымі, я сказаў бы, агульнанацыянальнымі асаблівасцямі беларускай мовы з'яўляюцца: аканне-яканне, дзеканне-цеканне. Калі адмовіцца ад абазначэння на пісьме гэтых асаблівасцей, можна перайсці да марфалагічнага прынцыпу (па-руску, напрыклад, пішуць *вода, голова,* а вымаўляюць *вада, галава)*. Пераход на марфалагічны прынцып, апрача таго, што пры ім устанаўліваецца большае збліжэнне з рускім правапісам, робіць больш лёгкім і паслядоўным напісанне геаграфічных назваў і ўласных імён і складаных і чужаземных слоў.

Трэба мець на ўвазе, што іменна напісанне іншамоўных слоў і складае адну з асноўных цяжкасцей нашага марфалагічнага пісьма. Па-другое, пры напісаннях паводле фанетычнага прынцыпу словы іншамоўнага паходжання, асабліва больш новыя, трацяць свой воблік.

На канферэнцыі ў Маскве па пытаннях правапісу і графікі, якая адбылася ў канцы мінулага года, некаторыя выступаўшыя і прапанавалі для беларускай мовы паслядоўна марфалагічны прынцып.

Аднак супраць гэтага ёсць, як мне здаецца, вельмі грунтоўныя пярэчанні, якія прадстаўнікамі ад БССР у не-

каторай ступені і былі выказаны на гэтай канферэнцыі. Зводзяцца яны ў асноўным да наступнага.

Гісторыя беларускай літаратурнай мовы і яе правапіс у параўнанні з гісторыяй рускай літаратурнай мовы і правапісам мае сваю асаблівасць. Калі руская мова, убіраючы ў сябе разнастайныя ўласныя дыялекты і некаторыя іншамоўныя элементы, развівалася непарыўна і паслядоўна ад стараславянскай і да сучаснай, дык гісторыя беларускай літаратурнай мовы гэтай паступовасці не мела. Паміж старажытнай літаратурнай беларускай мовай і яе правапісам і новай мовай і правапісам быў разрыў на цэлых два стагоддзі (XVII і XVIII), за якія старыя традыцыі былі канчаткова забыты і на фарміраванне нашай сучаснай мовы і на ўстанаўленне правапісу ніякага ўплыву не мелі.

Пры такім становішчы, безумоўна, устанавіць практычна першапачатковы этымалагічны гук у цэлым радзе беларускіх слоў надзвычай цяжка. Возьмем для прыкладу такія словы, як *гаспадарка, каханне, частаваць.* Прапануйце школьнікам устанавіць тут першапачатковае этымалагічнае *о* ці *э,* і наўрад ці яны зробяць гэта. Сапраўды, трэба ведаць словы *господи, господен,* каб устанавіць у слове *гаспадар* этымалагічнае *о;* трэба ведаць польскае *кохаць,* каб устанавіць *о* у слове *каханне.* Што ж тычыцца слова *частаваць,* дык усё адно, не парушаючы жывой мовы, нельга захаваць у вытворных ад яго паслядоўна этымалагічнае *э,* паколькі яно ў слове *пачостка* пасля зацвярдзелага зычнага пераходзіць у *о.*

Больш таго, мы ведаем у беларускай мове такую з'яву, як пераход этымалагічнага *а* ў *о — штаны*, але *штонікі; дар*, але *дорыць.* Тут мы не гарантаваны ад таго, што дзеці і словы *падарунак* і *штаны* будуць пісаць праз *о.*

Ёсць сур'ёзныя пярэчанні і супраць адмаўлення ад абазначэння на пісьме дзекання і цекання. Па-першае, існуе таксама рад слоў, дзе практычна вельмі цяжка ўстанавіць, што трэба пісаць — *ц* ці *т*: *цвік, цвікля, цераз* і інш. Па-другое, пры падваенні *ц* у дзеясловах яго, відаць, давядзецца пакінуць: будзе пісацца — *рабіть,* але *рабіцца, чытать,* але *чытацца.* Іначай, пры адсутнасці ў нас распрацаванай арфаэпіі, ёсць надзвычай вялікая пагроза, што жывое вымаўленне будзе страшна каверкацца.

Нарэшце, мы не можам адкінуць і вялікую традыцыю графічнага абазначэння на пісьме найбольш адметных асаблівасцей нашай мовы.

М. Р. Суднік у сваім дакладзе на канферэнцыі ў Маскве прыводзіў вельмі цікавыя назіранні над перадачай акання-якання, дзекання-цекання і іншых асаблівасцей нашай мовы ў пісьменнасці XVI, XIX і пачатку XX стагоддзяў. Я дазволю сабе тут некаторыя з гэтых назіранняў паўтарыць, а сям-там і папоўніць.

Назіранні над правапісам у I, II і III кнігах судовых спраў «Літоўскай метрыкі» 1506—1528 гг., «Літоўскага Статута» 1529, а таксама надрукаванага ў 1562 годзе «Катэхізіса», перакладзенага на беларускую мову Сымонам Будным, з усёй відавочнасцю паказваюць, што ў XVI стагоддзі яшчэ не было сталага напісання, якое паслядоўна адлюстроўвала б гукавыя асаблівасці беларускай мовы. І як вынік гэтага адны і тыя ж з'явы ў розных месцах указаных помнікаў арфаграфічна фіксуюцца па-рознаму. У адным выпадку ненаціскное *о* перадаецца праз *а* (аканне фіксуецца): *тавар, тавариш, паганство, манастырь, манета* і інш.; а ў другім — ненаціскное *о* захоўваецца: на *дарозе,* у *опеце,* от *вышшого, боронечи, оповедал, повет, позычыли, потреба* і інш. Аналагічная з'ява і з перадачай на пісьме так званага якання, г. зн. пераходу *е* перад націскам у *я.* Тут мы сустракаем такія прыклады, як *лякарства, цяпер, в дзяцинстве, дзяржали* і побач словы, у якіх *е* ў першым складзе перад націскам захоўваецца: *нехай, меняли, небожчык, мешчане, грабежи* і інш.

Не менш супярэчлівае арфаграфічнае адлюстраванне ў тых жа помніках і другой асаблівасці беларускай мовы — дзекання і цекання. З аднаго боку, назіраецца пераход зычных *д* і *т* перад галоснымі пярэдняга рада ў *дз, ц,* як, напрыклад, у словах *будзець, дзяцинство, дзяржали, водзицы, хацели.* З другога боку, зычныя *д* і *т* у тым жа становішчы захоўваюцца.

Цікавым з'яўляецца той факт, што пісцы дзяржаўнай канцылярыі, ведучы перапіс войска літоўскага, уласныя імёны іншамоўнага паходжання размяжоўвалі ў напісанні з імёнамі рускімі. Пры гэтым, бясспрэчна, трымаючыся вымаўлення іх, захоўвалі зычныя *д* і *т* цвёрдым шляхам напісання пасля іх літары *ы,* а не *и:* Матыас, Себестыян, Авкгуштын і нават Радывил («Книга публичных дел», ч. 3, стар. 246), і побач рускія імёны ў такім запісе: Владимир, Мартин, Тимофей, Валентин.

Некалькі больш паслядоўным у адзначаных помніках з'яўляецца правапіс зацвярдзелых зычных (гутарка ідзе

аб гуках *ж, ч, ш, р, дж*, якія ў адрозненне ад цвёрдых зычных у беларускай мове ніколі мяккімі не бываюць). Празмерна выразная цвёрдасць гэтых гукаў у вымаўленні, чым галоўным чынам і кіраваўся пісец, знайшла сваё адлюстраванне і ў напісанні. Пасля *ж, ч, ш, р* у разглядаемых тэкстах усё часцей і часцей сустракаецца гук *ы*. Больш таго, надстрочныя заўвагі ў II кнізе судовых спраў сведчаць аб тым, што пісцы ў рэестрах спецыяльна выпраўлялі *и* на *ы* пасля зычных *ш, ч, ж, р*. Такія выпраўленні зроблены ў словах: *выслухавшы, грошы, небожчык, отыскавшы, иншыи, Флорыян, Борысовича, пытаючы, держачы, убачыли* і інш.

Бясспрэчна, пад уплывам жывога вымаўлення прагрэсіравала напісанне і прыметнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку без *й* (*и* кароткага) на канцы: бискуп *Киевски*, староста *Слонимски*, бискуп *Виленски*, пан *Камински*, староста *Гомельски* и *Шерешовски*, новет *Новогородски* и да т. п. Хоць у гэтых жа помніках паралельна ўжываюцца і няўсечаныя канчаткі прыметнікаў.

Фіксацыя на пісьме жывых асаблівасцей беларускай мовы, якая намецілася яшчэ ў XVI стагоддзі, у XIX стагоддзі, калі на грунце жывой народнай мовы пачала фарміравацца літаратурная мова, становіцца адным з асноўных прынцыпаў беларускай арфаграфіі.

В. Д[упін]-Марцінкевіч у «Шчароўскіх дажынках», выдадзеных у 1857 годзе, паслядоўна праводзіць дзеканне-цеканне і аканне-яканне паслядоўна ва ўсіх складах перад націскам: *салавейка, гасцінец, багаты, ачуняла, вясёлы, вянок, дзяўчата, непагляд і г. д.* Непаслядоўна, але ў многіх выпадках ён перадае аканне-яканне і ў паслянаціскным становішчы: *біця ж чалом, пастойця, падступіця, Тадорца* (давальны склон), але *Агатцэ, дзеўцэ, пры дарожцэ, пры ахвоце.*

Цікава, што таго ж правапісу ў асноўным трымаўся і Ф. Багушэвіч у кнізе «Дудка беларуская», выдадзенай у 1891 годзе ў Кракаве. Там таксама паслядоўнае дзеканне-цеканне і аканне-яканне (у перадпаціскным становішчы) і непаслядоўнае пасля націску: *земля, уцякаць, цяпер, без прыгод*, але *дурэнь, цягне, вялікіе, цёмные* і *пісаныя, друкованыя; на дудца, на рэчца* і *па гаворцэ, па руцэ* і г. д.

Зычныя як у аднаго, так і ў другога пісьменніка перадаюцца паводле марфалагічнага прынцыпу. У гэтым сэнсе

пісьмо пачатку XX стагоддзя пайшло значна далей, пашыраючы фанетычны прынцып і на зычныя.

Перыядычныя беларускія выданні 1906—1913 гадоў «Наша ніва» і «Наша доля», а таксама стваральнікі беларускай літаратурнай мовы Янка Купала і Якуб Колас у гэты перыяд пішуць, кіруючыся галоўным чынам жывым народным вымаўленнем. Паводле вымаўлення пішуцца не толькі галосныя, але і канчаткі назоўнікаў у месным склоне: *на сходзі, у коміні, на стрэсі, пры дарозі, на свецi, на ніві, у хаці* і г. д. Даволі часта сустракаюцца выпадкі фанетычнай перадачы на пісьме і зычных. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца такія прыклады, як *грась, скрось, прозьба, отпісаць, ланцух, Пецербурх, найвышшый, ліфлянтскі* і інш.

Такім чынам, традыцыя фанетычнага прынцыпу пісьма ў нашай літаратуры мае вельмі вялікую даўнасць. Укладальнік першай беларускай граматыкі Б. Тарашкевіч не мог не лічыцца з гэтай традыцыяй. Заўважу, дарэчы, што ў сваёй прадмове да «Беларускай граматыкі» 1918 г. Б. Тарашкевіч зазначае, што акадэмік А. А. Шахматаў «няспынна кіраваў работай» аўтара, а акадэмік Я. Ф. Карскі аказаў «значную помач» (ён прагледзеў працу і даў найбольшую частку беларускай граматычнай тэрміналогіі). Такім чынам, такія вучоныя-лінгвісты, як А. А. Шахматаў, Я. Ф. Карскі, у пэўнай ступені санкцыяніравалі прынцып пабудовы граматыкі Б. Тарашкевіча, у аснову якой лягла, як піша аўтар, «найбольш характэрная і найбольш чыстая гутарка беларускай мовы, што мае цвёрдае *р* і вялікае аканне».

Грандыёзныя задачы культурнага будаўніцтва ў савецкую эпоху выклікалі пэўныя змены ў беларускім правапісе, якія ў заканадаўчым парадку і былі праведзены ў 1934 г. і якія ўсім вам вядомы. Аднак фанетычны прынцып і на гэты раз застаўся ў аснове напісання галосных. Трэба сказаць, што гэты прынцып на пэўным этапе гістарычнага развіцця беларускай савецкай культуры адыграў надзвычай станоўчую ролю. У той час, калі партыя праводзіла беларусізацыю савецкіх устаноў, калі школы пераходзілі ў выкладанні на беларускую мову, фанетычны прынцып нашага пісьма, паводле якога, як не зусім дакладна гаварылі, «як чуецца, так і пішацца», дапамог шырокім масам беларускай савецкай інтэлігенцыі хутчэй авалодаць беларускай мовай. І цяпер, калі мы абмяркоўваем пытан-

не аб пераходзе з фанетычнага прынцыпу нашага пісьма на марфалагічны, трэба мець гэта на ўвазе і ўлічваць той факт, што на нашым фанетычным у сваёй аснове правапісе вывучылася беларускай грамаце некалькі пакаленняў. Канчатковы разрыў з папярэднімі традыцыямі нашага пісьма, безумоўна, не можа не адбіцца на граматнасці гэтых пакаленняў.

Многія з гэтых меркаванняў былі выказаны М. Р. Суднікам у яго дакладзе на канферэнцыі, а таксама ў нашых прыватных гутарках з маскоўскімі вучонымі. У выніку гэтага канферэнцыя рэкамендавала перагледзець наш правапіс, улічваючы пераход на марфалагічны прынцып там, дзе гэта магчыма.

У адпаведнасці з гэтым і складзены праект, які з'яўляецца прадметам нашага сённяшняга абмеркавання. Гэта праект не кардынальнай рэформы, а толькі некаторых змен і ўдакладненняў правапісу. Аднак, калі ў таварышаў будуць больш радыкальныя прапановы, просім іх выказаць. У праекце не закрануты таксама многія дробныя недакладнасці нашага правапісу, якія могуць быць вырашаны пры ўкладанні падручніка па арфаграфіі. Аднак і па ўсіх незакранутых у праекце момантах нашага правапісу мы просім выказацца, калі ў таварышаў ёсць аб гэтых момантах пэўныя меркаванні. Трэба памятаць, што змены правапісу — рэч вельмі складаная, што правапіс робіцца не на год, а на многія гады, і патрэбна падысці да гэтага з усёй адказнасцю, якая ўскладаецца на нас партыяй і ўрадам, і з усёй любоўю, з якою народ ставіцца да сваёй мовы.

*1952 г.*

## ПРАБЛЕМЫ НАВУКОВАЙ РАБОТЫ НАД ПЕРАКЛАДНЫМ РУСКА-БЕЛАРУСКІМ СЛОЎНІКАМ

### ДАКЛАД НА ЮБІЛЕЙНАЙ СЕСІІ АН БССР, ПРЫСВЕЧАНАЙ 30-ГОДДЗЮ ЎТВАРЭННЯ БССР

Беларускі народ у выніку Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі атрымаў сваю дзяржаўнасць і адначасова з гэтым самыя шырокія магчымасці для развіцця і ўдасканалення сваёй мовы [...] На падставе ленін-

скага вучэння аб нацыянальнай культуры — сацыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме — адбывалася бурнае і паспяховае развіццё беларускай мовы ў савецкі час. Паспяхова развівалася таксама беларуская лексікаграфія. Каб уявіць сабе больш выразна поспехі беларускай савецкай лексікаграфіі і размах навуковай работы ў гэтай галіне, я дазволю сабе зрабіць кароткі экскурс у мінулае.

Пачаткам беларускай лексікаграфіі можна лічыць тыя заўвагі, якія даваў яшчэ Георгій Скарына на палях сваіх кніг, тлумачачы незразумелыя царкоўнаславянскія словы словамі з тагачаснай жывой беларускай мовы. А праз некалькі дзесяткаў год, у 1596 г., у Вільні выйшаў слоўнік, складзены Лаўрэнціем Зізаніем пад назваю: «Лексіс сирѣчь речения, въкратцѣ събранны и из Словенского языка на простый Рускій діялектъ истолкованье».

У 1627 г. у Кіеве выйшаў з друку «Лексиконъ славеноросскій» Памвы Бярынды, у аснову якога ў значнай ступені быў пакладзены «Лексіс» Лаўрэнція Зізанія. Як у першым, так і ў другім слоўніках незразумелыя царкоўнаславянскія словы перакладаюцца або тлумачацца адпаведнымі словамі старадаўняй літаратурнай заходнееўрапейскай мовы, якой карысталіся вышэйшыя колы грамадства ў Беларусі і на Украіне. Паміж пададзенымі там словамі нямала сустракаецца і такіх, якія і да гэтага часу бытуюць у беларускай жывой мове.

На працягу XVI—XVIII стагоддзяў на Беларусі з'явілася яшчэ некалькі розных слоўнікаў, як, напрыклад, рукапісны славяна-лацінскі слоўнік, які Н. Д. Іванішаў называе «Белорусским словарем», «Лексикон, сиречь словесник Словенский, имеющъ въ себе словеса первее Словенскія азбучныя, по семъ же Польскія», надрукаваны ў 1722 годзе ў Супраслі, і некаторыя іншыя.

Усе гэтыя слоўнікі, калі не лічыць вельмі нязначных элементаў, нічога агульнага з жывой беларускай мовай не маюць. Толькі ў XIX стагоддзі этнографы і мовазнаўцы, і ў першую чаргу рускія вучоныя, цікавячыся беларускім фальклорам, пачынаюць вывучаць беларускую мову, працуючы таксама і ў галіне беларускай лексікаграфіі. Першнаперш тут трэба назваць кароткі слоўнічак беларускіх слоў, пададзены ў артыкуле К. Калайдовіча «О белорусском наречии», надрукаваным у 1822 годзе ў «Трудах Общества любителей российской словесности» (ч. I, кн. 1). Такі ж невялічкі слоўнічак беларускіх слоў прыводзіцца і

ў зборніку беларускіх народных песень Яна Чачота, выдадзеным у 1848 годзе ў Вільні. Падобныя ж кароткія слоўнічкі беларускіх слоў у сярэдзіне мінулага стагоддзя былі сабраны і надрукаваны і радам іншых асоб, напрыклад: «Собрание белорусских слов» С. Сакалова ў «Могилевских губернских ведомостях», «Белорусские слова» С. Мікуцкага ў «Материалах для объяснительного и сравнительного словаря русского языка и других славянских наречий» і інш. Некалькі невялічкіх зборнічкаў беларускіх слоў захавалася ў бібліятэцы Акадэміі навук СССР у рукапісах, як, напрыклад, «Словарь белорусского наречия» П. Шпілеўскага, «Наблюдения над языком простого народа, живущего в Гродненской губернии» П. Рафаловіча і некаторыя іншыя.

Як бачым, на працягу XIX стагоддзя распачалася і праводзілася даволі значная работа па збіранню беларускай лексікі. Аднак як па сваёй паўнаце, так і асабліва па метадах укладання і апрацоўкі названыя зборнічкі беларускіх слоў ні ў якім разе нельга лічыць пачаткам сур'ёзнай працы ў галіне беларускай лексікаграфіі. Такім пачаткам з'яўляецца, безумоўна, толькі «Словарь белорусского наречия» І. І. Насовіча, над укладаннем якога аўтар працаваў 16 год і які быў выдадзены ў 1870 годзе Расійскай акадэміяй навук.

Слоўнік І. І. Насовіча змяшчае звыш 30 000 слоў. Пры ўкладанні гэтага слоўніка аўтар багата выкарыстаў народную творчасць: зборнікі слоў, запісаных ім у Магілёўшчыне, Міншчыне і Гродзеншчыне, многія словы са старажытных беларускіх актаў, а таксама некаторыя лексічныя матэрыялы, надрукаваныя раней у розных выданнях. У якасці ілюстрацый у слоўніку досыць багата прыведзены ўрыўкі з народных песень, прыказкі і пагаворкі, а таксама закончаныя фразы з жывой народнай мовы. Па свайму характару слоўнік І. Насовіча з'яўляецца беларуска-рускім перакладным слоўнікам з некаторым ухілам да тыпу тлумачальнага слоўніка ў тых месцах, дзе аўтар, не даючы адэкватнага перакладу беларускаму слову, тлумачыць яго значэнне некалькімі рускімі. Апошняя акалічнасць парушае яго аднатыповасць і зніжае яго навуковую лексікаграфічную вартасць.

Апрача таго, слоўнік І. Насовіча мае яшчэ рад іншых, больш буйных недахопаў, на якія ў свой час указваў яшчэ акадэмік Я. Карскі. «У склад слоўніка,— пісаў Я. Кар-

скі,— увайшло больш 30 000 слоў. Калі разгледзець іх уважліва, то выявіцца, што сярод іх не хапае вельмі многіх беларускіх слоў (хоць бы *маці, дзіця, кашолка* і г. д.), не кажучы ўжо аб тым, што не пералічаны словы, агульныя беларускаму дыялекту з велікарускім і маларускім; у слоўніку шмат лішніх слоў, якія зусім невядомы беларускаму народу і паявіліся дзе-небудзь сярод беларускай шляхты, якая выхоўвалася ў езуіцкіх вучылішчах і духоўных уніяцкіх (*гавет, пэза, адыстар, вота, каналька* і г. д.)».

Магчыма, што са сцверджаннем Карскага, нібы ўсе прыведзеныя ім словы «зусім невядомы беларускаму народу», не зусім можна згадзіцца (напрыклад, слова *адыстар* і слова *вота* маюць у народзе досыць шырокае распаўсюджанне), аднак у асноўным заўвага яго вельмі слушная.

Яшчэ больш слушнымі з'яўляюцца заўвагі Карскага аб арфаграфіі слоўніка. «Для арфографаў,— гаворыць Карскі,— прынята напаўэтымалагічнае пісьмо, але яно як паўмера не задаволіць ні філолагаў, ні гісторыкаў літаратуры. Так, з аднаго боку, у слоўніку ўсюды правільна праведзена дзеканне і цеканне, але з другога — замест *у* усюды *в*, усюды літаратурнае размежаванне цвёрдага і мяккага *р*, галосныя ненаціскныя захаваны без змен».

Такім чынам, адзначаючы вялікае агульнакультурнае і лексічнае значэнне слоўніка І. Насовіча для беларускай мовы, мы, на жаль, не можам абапірацца на яго навуковыя прынцыпы ў нашай сучаснай лексікаграфічнай рабоце.

Шырокае і сапраўднае развіццё, заснаванае на больш цвёрдых навуковых прынцыпах, беларуская лексікаграфія атрымала толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У сувязі з ператварэннем беларускай мовы ў выніку ўтварэння БССР у мову дзяржаўную і бурным развіццём беларускай савецкай нацыянальнай культуры адразу ж паўстала вялікая патрэба ў разнастайных слоўніках і ў першую чаргу ў руска-беларускім і беларуска-рускім перакладных слоўніках. Савецкая ўлада стварыла ўсе матэрыяльныя і навуковыя прадпасылкі для разгортвання работы ў галіне беларускай мовы, у тым ліку і ў галіне лексікаграфіі. Адразу ж пасля ўтварэння БССР пры Наркамасветы Беларусі пачала працаваць тэрміналагічная камісія, якая выдала звыш дваццаці тэрміналагічных зборнікаў па розных галінах навукі.

Пазней у Акадэміі навук БССР вялася таксама вялікая работа па збіранню і рэгістрацыі слоўных багаццяў бела-



П. Ф. Глебка і К. К. Крапіва ў час работы над «Руска-беларускім слоўнікам»

рускай мовы. Быў набыты каштоўны рукапіс беларуска-польска-рускага слоўніка Я. Ціхінскага, працаваўшага над гэтым слоўнікам усё жыццё і зарэгістраваўшага каля 150 000 беларускіх слоў. Калектывам навуковых работнікаў АН БССР была створана велізарная картатэка беларускай лексікі, змяшчаўшая перад вайной каля 2 мільёнаў картак.

Поруч з гэтым было апрацавана і надрукавана некалькі руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, а таксама некалькі так званых краёвых слоўнікаў, якія змяшчалі ў сабе лексіку паасобных раёнаў і абласцей [...]

У 1937 годзе Акадэмія навук БССР выдала новы «Руска-беларускі слоўнік», які вельмі выгадна адрозніваецца ад папярэдніх слоўнікаў удалым адборам рускіх слоў і ў значнай ступені трапнымі перакладамі іх на беларускую мову.

Але гэты слоўнік мае буйныя недахопы. Па-першае, ён вельмі няпоўны (складаецца ўсяго толькі з 35—40 тысяч слоў). Пры гэтым амаль, як правіла, у ім адсутнічаюць словы, найбольш цяжкія для перакладу, як напрыклад: *благоприобретенный, долженствовать, излияние, наст, предпочтительный, тяготиться* і г. д.

Па-другое, у слоўніку 1937 года амаль зусім не распрацаваны значэнні слоў. Напрыклад, *больно* перакладаецца толькі ў адным значэнні словам *балюча*. Але ў рускай мове гэтае слова ўжываецца яшчэ і ў сэнсе *очень, слишком*: «Хлеб там, в Ташкенте, больно дешевый» (Неверов). Па-беларуску гэтую фразу трэба перакласці так: «Хлеб там, у Ташкенце, вельмі (надта) танны».

Слова *бежать* перакладаецца таксама ў адным толькі значэнні словам *бегчы*. У такім выпадку фразу *Революционеру удалось бежать из тюрьмы* мы павінны б перакладаць так: *Рэвалюцыянеру ўдалося бегчы з турмы*. А на самай справе яе трэба перакласці такім чынам: *Рэвалюцыянеру ўдалося ўцячы з турмы*.

Слова *кружок* перакладзена ў слоўніку словам *гурток*. У значэнні кружок як арганізацыя — гэта правільна. Але кружок, выразаны, скажам, з паперы, ніхто па-беларуску гуртком не назаве.

Рускі дзеяслоў *питать* перакладзены трыма беларускімі словамі: *карміць, харчаваць, жывіць*. Пэўныя значэнні рускага слова *питать* гэтымі словамі перадаць можна. Але калі, у якім значэнні якое слова трэба ўжываць, не паказана. Апрача таго, усе гэтыя тры беларускія словы поўнасцю не вычэрпваюць усіх значэнняў рускага дзеяслова *питать*.

Скажам, як перакласці з дапамогаю іх такія рускія фразы: *науки юношей питают, я питаю надежду, он питает к ней самые нежные чувства?* Па слоўніку выходзіць так, што можна перакласці: *навукі юнакоў харчуюць, я жыўлю надзею, ён корміць да яе самыя пяшчотныя пачуцці*. Але чалавек, які хоць трохі ведае беларускую мову, так не перакладзе. Хутчэй за ўсё ён скажа: *навукі жывяць юнакоў, я маю надзею, ён пачувае да яе самую вялікую пяшчотнасць*.

Падобных прыкладаў, якія сведчаць аб надзвычай благой распрацоўцы значэнняў слова, са слоўніка 1937 г. можна прывесці вельмі многа.

Трэцяй заганай гэтага слоўніка з'яўляецца таксама дрэнная распрацоўка прыназоўнікаў. Напрыклад: рускі прыназоўнік *в, во* перакладаецца беларускім *у* (*ў*). Але ён можа перакладацца таксама і беларускімі прыназоўнікамі *на* (*во весь голос — на ўвесь голас*), *пад* (*во внимание — пад увагу*), *а* (*в четыре часа — а чацвёртай гадзіне*). Прыназоўнік *к* перакладаецца беларускімі *к, да, на*.

Але з якімі склонамі і ў якіх выпадках ужываецца каторы прыназоўнік — не ўказана.

У слоўніку 1937 г. адсутнічае таксама ўсякая граматычная характарыстыка слова. Напрыклад, рускія словы *конопля, крупа* перакладаюцца адпаведна беларускімі *каноплі, крупы,* але пры гэтым не ўказана, што гэтыя словы ў беларускай мове адзіночнага ліку не маюць. Рускія дзеясловы *благодарить, смеяться, издеваться* перадаюцца адпаведна беларускімі *дзякаваць, смяяцца, здзекавацца.* Але асаблівасці кіравання пры гэтым таксама не ўказаны. А між тым па-беларуску кажуць не *дзякаваць каго, а дзякаваць каму,* не *смяяцца над кім,* а *смяяцца з каго.*

Нарэшце, вялікай заганай слоўніка 1937 г. з'яўляецца адсутнасць у ім фразеалогіі і ідыяматычных выразаў, якімі так багата руская мова. З прычыны гэтага пры перакладах такіх стабілізаваных выразаў, як *вне себя от восторга, поставить во главу угла, как следует* і многіх падобных, слоўнік 1937 г. не можа нам аказаць ніякай дапамогі. Сапраўды, як можна перакласці *вне себя от восторга,* калі пад словам *вне* даецца толькі беларускае *знадворку* і *па-за*, а пад словам *восторг* — толькі *захапленне.* Камбінацыяй гэтых слоў мы ні ў якім разе не можам дасягнуць адэкватнага перакладу рускага *вне себя.* Тое ж самае і пры слове *следовать* мы знаходзім толькі беларускія пераклады *ісці*, *выходзіць*, *вынікаць*, *пераймаць.* Як з дапамогаю іх перакласці рускі выраз *как следует* — нам невядома.

Няма патрэбы спыняцца тут на ўсіх недахопах слоўніка 1937 г., бо і з прыведзеных прыкладаў досыць ясна, што гэты слоўнік не мог і не можа задаволіць нашы выраслыя запатрабаванні. Усе, каму даводзілася карыстацца ім пры перакладах з рускай мовы на беларускую, адчувалі гэта даўно. Ужо за некалькі год перад вайной у Акадэміі навук БССР была закончана праца над укладаннем двухтомнага руска-беларускага слоўніка. Аднак каварны напад нямецка-фашысцкіх полчышчаў на нашу Радзіму не дазволіў выпусціць у свет гэтую працу. Рукапіс слоўніка і багатая двухмільённая слоўнікавая картатэка, аб якой я гаварыў раней, загінулі ў пажары вайны. Тым часам патрэба ў руска-беларускім слоўніку надзвычай вялікая. І Савецкі ўрад, нястомна дбаючы аб развіцці беларускай культуры і мовы, паставіў перад Акадэміяй навук БССР задачу скласці новы руска-беларускі слоўнік, які адпавядаў бы апошнім запатрабаванням савецкай лексікаграфіі.

Нельга абмінуць тут тыя цяжкасці, якія сустрэў наш калектыў пры ўкладанні новага руска-беларускага слоўніка. Калектыў быў вельмі невялікім, складаўся ўсяго толькі з пяці чалавек. Ніхто з яго ўдзельнікаў ніколі раней слоўнікавай працай не займаўся і не меў ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі ў гэтай галіне. Нашы работнікі не мелі пад рукамі не толькі ніякай слоўнікавай картатэкі, а нават і надрукаваных раней руска-беларускіх слоўнікаў і тэрміналагічных зборнікаў. І не зважаючы на гэта, укладанне слоўніка размерам у 150 друкаваных аркушаў, з лікам слоў да 85 тысяч у канцы 1948 года ў асноўным было закончана.

Што ж сабою прадстаўляе новы руска-беларускі слоўнік? Па свайму характару, як паказвае ўжо яго назва, гэты слоўнік з'яўляецца перакладным. Яго прызначэнне — быць у першую чаргу неабходным дапаможнікам пры перакладах з рускай мовы на беларускую, дапамагаць мала знаёмаму з беларускай мовай чытачу ў рабоце над навуковай, грамадска-палітычнай і мастацкай літаратурай. Нарэшце, слоўнік гэты павінен з'явіцца таксама, у пэўным сэнсе, арфаграфічным даведнікам пры напісанні таго ці іншага слова.

Як пры адборы рускай лексікі, фразеалогіі і ілюстрацыйных прыкладаў, так і пры перакладзе іх на беларускую мову ў аснову нашай работы былі пакладзены ўказанні У. І. Леніна як непасрэдна па пытаннях мовы, так і ў сувязі з пытаннямі аб формах масавай прапаганды. Як вядома, У. І. Ленін клапаціўся аб чыстаце рускай мовы і перасцерагаў ад спрашчэння яе.

Пры адборы рускай лексікі асноўнай крыніцай быў чатырохтомны «Толковый словарь русского языка» пад рэдакцыяй Д. М. Ушакова. Пры распрацоўцы значэнняў рускіх слоў быў шырока выкарыстаны «Русско-французский словарь» акадэміка Л. У. Шчэрбы. Былі скарыстаны таксама і іншыя слоўнікі, як «Технический словарь» пад рэдакцыяй Л. К. Мартэнса, «Толковый словарь» пад рэдакцыяй У. І. Даля, а ў апошні час, пры рэдакцыі слоўніка, і «Руска-ўкраінскі слоўнік».

Новы руска-беларускі слоўнік адрозніваецца ад аналагічных папярэдніх слоўнікаў у першую чаргу сваёй паўнатой. Ён адрозніваецца таксама яшчэ і наступным:

1) удакладненым перакладам слоў на аснове жывой гутарковай і літаратурнай мовы беларускага народа, а

таксама наватвораў і запазычанняў з іншых моў, і ў першую чаргу з рускай;

2) расшыранай сінанімікай слоў беларускай мовы;

3) павялічанай колькасцю слоў і выразаў грамадска-палітычнага характару, а таксама большым лікам слоў і тэрмінаў з дыпламатычнай і ваеннай галіны, у тым ліку і тых, якія паявіліся зусім нядаўна (*противотанковое ружье, пикировщик, светомаскировка, катюша* і г. д.);

4) значнай колькасцю слоў — геаграфічных назваў, уключаючы па СССР абласныя, а па БССР і раённыя цэнтры;

5) унясеннем у слоўнік фразеалогіі і ідыяматыкі.

Вось асноўнае, што адрознівае гэты слоўнік ад папярэдніх у сэнсе яго лексічнага складу.

У слоўнік уключаны па магчымасці ўсе словы, якія бытуюць у сучаснай рускай мове — літаратурнай, навуковай, тэхнічнай і гутарковай, за выключэннем вузкіх правінцыялізмаў і слоў штучных.

Для выгаднасці карыстання слоўнік мае быць выдадзены ў адным томе. У мэтах яго партатыўнасці і эканоміі месца ён складзены па гнездавой сістэме. Гняздо прадстаўляе сабою разгорнуты слоўнікавы артыкул, дзе кожнае слова адпаведна яго значэнням перакладаецца адным альбо некалькімі адэкватнымі беларускімі словамі і ілюструецца, калі патрэбна, прыкладамі. Рускае слова пры гэтым бярэцца ва ўсёй паўнаце яго значэнняў і дыферэнцыяцыі іх, якая падаецца пад адпаведнымі арабскімі цыфрамі.

Словы-амонімы падаюцца як зусім самастойныя словы пад рымскімі цыфрамі.

У слоўнік унесены таксама і словы скарочаныя — абрэвіятуры, прычым некаторыя з іх перакладаюцца (исполком — выканком, соцсоревнование — сацспаборніцтва, ООН — ААН, вуз — вну), а некаторыя застаюцца без перакладу (ВОКС, МОПР), але і ў тым і ў другім выпадках у дужках даецца і па-руску і па-беларуску расшыфроўка іх.

Фразеалагічныя выразы змяшчаюцца ў слоўніку пад тым словам, якое ў дадзеным злучэнні нясе на сабе найбольшую сэнсавую нагрузку. Напрыклад, фразеалагічны выраз «Дела давно минувших дней» падаецца пад словам *дела* і перакладаецца так: «Падзеі дзён даўно мінулых»; выразы: «вне себя от радости, от восторга» і г. д. — пад словам *вне* і перакладаюцца: «не чуючы (не помнячы)

сябе ад радасці, ад захаплення» і г. д.; выраз «как следует» — над словам *следовать* і перакладаецца: «як мае быць».

У правапісных адносінах як руская, так і беларуская палавіны слоўніка будуюцца па прынцыпах арфаграфіі, устаноўленай адпаведнымі ўрадавымі палажэннямі. Словы, якія ў рускай мове не маюць адзіночнай правапіснай формы, даюцца ў абодвух варыянтах і на сваім адпаведным месцы ў алфавіце, напрыклад: *масленый* і *масляны*.

У мэтах правільнага як рускага, так і беларускага вымаўлення над рускімі і беларускімі словамі ставіцца знак націску. У тых выпадках, калі слова аднолькава ўжываецца з двума націскамі, абодва націскі адзначаюцца. Выключэнне складаюць беларускія дзеепрыметнікі тыпу *будаваны* і *будованы, мураваны* і *мурованы,* якія падаюцца толькі з суфіксамі *-аван* і націскам на *-аны,* але ў прадмове робіцца агаворка, што яны могуць ужывацца таксама і з суфіксам *-ован* з націскам на *о*. Не ставіцца націск у тых выпадках, калі ён падае на *ё*. У выпадку пераходу націску на канчатак ён таксама адзначаецца.

У новым руска-беларускім слоўніку ў адрозненне ад папярэдніх даецца таксама і пэўная граматычная характарыстыка беларускага слова. У характарыстыку назоўнікаў уваходзіць указанне на канчатак роднага склону, на род, а ў адпаведных выпадках і на адзіночны ці множны лік і на прыналежнасць слова да імён зборных. Напрыклад, пры рускім слове *разум* даецца беларускі пераклад *розум,* затым ідзе канчатак роднага склону з апошняй нязменнай зычнай *-му*, а затым указанне на род, які ў дадзеным выпадку памячаецца літарай *м.* (мужчынскі род). Калі слова не скланяецца, робіцца таксама адпаведная паметка *нескл.* (нескланяемае).

Для характарыстыкі прыметнікаў даюцца іх родавыя канчаткі ў назоўным склоне. Субстантываваныя прыметнікі, г. зн. тыя, якія набылі значэнне назоўнікаў, як *рабочы, сталовая* і т. п., адзначаюцца паметкай *сущ.* (существительное).

Пры дзеясловах, калі яны маюць свае асаблівасці кіравання, адметныя ад рускага, робіцца таксама ўказанне на гэтыя асаблівасці.

У слоўніку даецца таксама і стылістычная характарыстыка слоў. Па сваёй прыналежнасці абазначаюцца заўсёды тэрміны розных галін навукі і тэхнікі: *зоол., мед.,*

*тех., эл.* і г. д. У стылістычную характарыстыку ўваходзіць таксама ўказанне на прамы і пераносны сэнс слова, на яго даўнасць (*уст., дорев.*), круг ужывання (*простореч., обл., поэт.*) і інш.

Такім чынам, новы руска-беларускі слоўнік адрозніваецца ад папярэдніх не толькі лексічным складам рускай і беларускай частак, не толькі багатай фразеалогіяй, але і наяўнасцю цэлага рада граматычных і стылістычных характарыстык слова, якія заключаюць у сабе як арфаэпічныя, так і арфаграфічныя нарматыўныя моманты. І ў гэтым сэнсе слоўнік безумоўна будзе спрыяць нарматывізацыі беларускай літаратурнай мовы.

Аднак ні ўкладчыкі, ні рэдактары слоўніка не цешаць сябе думкай, што ўсё ў гэтым слоўніку зроблена бездакорна. Гэта, па сутнасці, толькі першая спроба лексікаграфічнай работы, угрунтаванай на высокіх дасягненнях савецкай лексікаграфіі. Перад беларускімі мовазнаўцамі ў гэтым кірунку яшчэ непачаты край работы. У бліжэйшыя гады неабходна скласці беларуска-рускі слоўнік, у якім трэба па магчымасці зарэгістраваць усё лексічнае багацце беларускай мовы. Неабходна таксама папоўніць картатэку выпісамі слоў і фразеалогіі з сучаснай і дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры. Толькі на аснове гэтых матэрыялаў можна і патрэбна будзе распачаць работу над яшчэ больш поўным і дакладным руска-беларускім перакладным слоўнікам.

Высокая культура і магутная мова вялікага рускага народа з'яўляецца невычэрпнай крыніцай духоўнага абагачэння беларускага народа. Задача ў галіне руска-беларускай лексікаграфіі заключаецца ў тым, каб у адэкватных беларускіх формах поўнасцю перадаць багацце і красу рускай мовы.

*1949 г.*

## ПРАМОВА НА АДКРЫЦЦІ МІЖРЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛЕКСІКАЛОГІІ І ЭТЫМАЛОГІІ

Дарагія таварышы! Міжрэспубліканская канферэнцыя па беларускай лексікалогіі і этымалогіі сабралася ў знамянальны для нашай рэспублікі час. У канцы гэтага года, а дакладней кажучы — 1 студзеня наступнага года, спаў-

няецца 50 гадоў з дня абвяшчэння БССР. Беларускі народ дзейсна рыхтуецца да гэтай слаўнай даты, падводзіць вынікі 50-гадовага развіцця дзяржаўнасці, эканомікі і культуры рэспублікі, вызначае свае далейшыя задачы і абавязкі ў брацкім супрацоўніцтве па будаўніцтву камунізма ў нашай краіне.

Я думаю, у гэтай аўдыторыі няма патрэбы гаварыць, як пышна расквітнела за гэтыя гады родная мова нашага народа, якую некалі праследавалі і забаранялі. Яна стала дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай рэспублікі, мовай урадавых актаў і школы, мовай літаратуры і навукі.

Разам з развіццём беларускай мовы шырокае развіццё атрымала і наша мовазнаўства. Выраслі кадры даследчыкаў беларускай мовы, якія толькі за пасляваенны час падрыхтавалі і апублікавалі нямала добрых прац па граматыцы, дыялекталогіі, гісторыі беларускай мовы.

Але гаворачы пра здабыткі нашых мовазнаўцаў, мы не можам абмінуць і слабых месц у іхняй рабоце. Да іх, мне здаецца, перш за ўсё адносіцца недастатковая распрацоўка беларускай лексікалогіі і, у прыватнасці і асабліва, этымалогіі. Праўда, гэтыя пытанні зусім не абміналіся, іх закраналі нашы мовазнаўцы пры лексікаграфічнай рабоце, у нарысах па гісторыі беларускай мовы і ў некаторых іншых працах. Аднак ушчыльную гэтымі пытаннямі беларускія мовазнаўцы заняліся толькі ў самыя апошнія гады. Сведчаннем гэтага з'яўляецца і наша канферэнцыя, спецыяльна прысвечаная праблемам беларускай лексікалогіі і этымалогіі, дзе, паводле намечанай праграмы, значнае месца займаюць даклады і паведамленні беларускіх лінгвістаў.

Мы рады, што, як і раней, пры распрацоўцы іншых праблем беларускага мовазнаўства, у цяперашняй нашай рабоце прымаюць чынны ўдзел і аказваюць нам дапамогу вучоныя-мовазнаўцы брацкіх рэспублік [...]

*1968 г.*

## ПРАМОВА НА АДКРЫЦЦІ КАНФЕРЭНЦЫІ ПА ПЫТАННЯХ АНАМАСТЫКІ

Таварышы! Тры месяцы таму назад ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб мерах па далейшаму развіццю грамадскіх навук і павышэнню іх ролі ў камуністычным будаўніцтве».



П. Ф. Глебка сярод супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР

Высока ацэньваючы дасягненні грамадскіх навук, іх уклад у сацыялістычнае і камуністычнае будаўніцтва, ЦК у сваёй пастанове ставіць перад вучонымі-грамадазнаўцамі задачу паглыбіць развіццё тэарэтычнай думкі, павысіць эфектыўнасць навуковых даследаванняў. Анамастыка належыць да ліку грамадскіх навук, і, як бы гэта не паказалася каму-небудзь дзіўным, патрабаванні, выказаныя ў пастанове ЦК, маюць непасрэднае дачыненне і да анамастыкі.

У шырокай праграме, намечанай для абмеркавання на гэтай канферэнцыі, ёсць нямала дакладаў метадалагічнага і практычнага характару, у якіх, напэўна, задачы, пастаўленыя перад грамадскімі навукамі, будуць канкрэтызаваца і ў адносінах да анамастыкі.

Таму я лічу, што мне няма патрэбы падрабязна спыняцца на гэтых задачах, і, адкрываючы нашу канферэнцыю, у сваім кароткім уступным слове я хачу звярнуць вашу ўвагу толькі на некаторыя паасобныя пытанні.

Калі патрэбна было б нарысаваць дыяграму, у якой мы захацелі б паказаць анамастыку, або анаматалогію, у суадносінах з іншымі грамадскімі навукамі, дык я нарысаваў бы трыкутнік, які прымыкае сваімі бакамі да мовазнаўства, гісторыі (у шырокім значэнні гэтага слова) і геаграфіі. Імена, мне здаецца, спецыфіка анамастыкі як

навукі і заключаецца ў тым, што яна цесна мяжуецца з імі, бярэ сабе ад іх для перапрацоўкі сыры матэрыял і вяртае ім жа дасканалыя сродкі навукова-даследчай вытворчасці.

Вось чаму над указаннем ЦК КПСС аб тым, што «тэарэтычны ўзровень і эфектыўнасць навуковых даследаванняў зніжаюцца тым, што Акадэмія навук СССР, акадэміі навук саюзных рэспублік недастаткова выкарыстоўваюць новыя формы арганізацыі, планавання і каардынацыі навукова-даследчых работ у галіне грамадскіх навук», трэба вельмі і вельмі сур'ёзна задумацца і на гэтай канферэнцыі. Я рад буду памыліцца, але мне здаецца, што да гэтага часу ў галіне анамастыкі мовазнаўцы працавалі асобна, гісторыкі асобна і географы таксама. Вельмі добра было б, каб ужо на гэтай нарадзе былі выпрацаваны ці хоць намечаны канкрэтныя формы цеснага супрацоўніцтва паміж гэтымі атрадамі вучоных-анамастыкаў.

Другое пытанне, на якое я хацеў бы звярнуць увагу, тычыцца практычнай рэалізацыі, практычнага выкарыстання навуковых доследаў па анамастыцы. У нас зараз у рэспубліцы пачалася работа над стварэннем Беларускай Савецкай энцыклапедыі. Гэта першая праца падобнага роду ў гісторыі беларускага народа. І няма ніякага сумнення, што тут будзе нямала цяжкасцей, і ў тым ліку цяжкасцей, звязаных з напісаннем уласных імён — геаграфічных і асабістых. Доследы вучоных-анамастаў, іх парады могуць аказаць тут нашым энцыклапедыстам велізарную дапамогу.

Таварышы! Як указваецца ў пастанове ЦК КПСС, за апошнія гады ў нас створаны вельмі спрыяльныя ўмовы для развіцця грамадскіх навук ва ўсіх іх разнастайных галінах. Штодзённыя клопаты партыі аб развіцці марксісцка-ленінскай тэорыі ўзброілі нашу навуку самай перадавой, самай выпрабаванай метадалогіяй. І няма ніякага сумнення, што грамадскія навукі з усё большым поспехам будуць спраўляцца з тымі задачамі, якія пастаўлены перад імі нашай партыяй.

Дазвольце прывітаць гасцей з Масквы, Ленінграда, Украіны, Прыбалтыкі і на гэтым канферэнцыю па пытаннях анамастыкі абвясціць адкрытай і пажадаць добрых поспехаў у яе рабоце.

*1967 г.*

## АБ МОВЕ ПАЧЫНАЮЧЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

З фабрык і заводаў, з калгасаў і саўгасаў у літаратуру штодзённа прыходзяць усё новыя і новыя людзі. Зразумела, што не кожны, хто прыносіць у рэдакцыю свае творы, будзе пісьменнікам. З соцень выкрышталізуюцца адзінкі. Аднак гэта не значыць, што нас не павінна цікавіць творчасць усёй арміі пачынаючых літаратараў, асабліва мова іх твораў. Трэба сказаць адкрыта, што нашы кваліфікаваныя пісьменнікі слаба звязаны з прадпрыемствамі і калгасамі, слаба ведаюць быт рабочага і калгасніка. Адгэтуль, зразумела, яны дрэнна ведаюць і сённяшнюю мову працоўных мас, дрэнна ведаюць тое новае, што прынесла рэвалюцыя, скажам, у лексіку палескага селяніна.

Творчасць пачынаючых пісьменнікаў, людзей, якія штодзённа працуюць і жывуць у рабочым або ў калгасным калектыве, пэўным чынам (не поўна і не заўсёды) адлюстроўвае новыя з'явы ў сённяшняй мове працоўных мас.

Трэба памятаць таксама, што беларуская літаратурная мова знаходзіцца яшчэ ў працэсе сваёй крышталізацыі. Мы можам узяць з народнай мовы, з асобных правінцыяльных гутарак надзвычай шмат трапных слоў, зваротаў, у якіх мы адчуваем патрэбу і якія абагацяць нашу літаратурную мову. Пачынаючыя пісьменнікі ідуць у літаратуру з усіх куткоў БССР і вельмі часта нясуць у сваёй творчасці гэтыя патрэбныя словы і звароты. Мова пачынаючых можа быць для кваліфікаванага пісьменніка пэўнай крыніцай. З гэтых меркаванняў мы і павінны цікавіцца мовай пачынаючых літаратараў, вывучаць яе. Тут няма нічога крыўднага для кваліфікаванага работніка літаратуры, асабліва для нас — маладых работнікаў. Аляксей Максімавіч Горкі гаварыў, напрыклад, што «маладым літаратарам, асабліва тым з іх, якія, больш-менш нядрэнна напісаўшы два-тры апавяданні, задзіраюць угару нос і хвост, лічачы сябе ўжо літаратурных спраў майстрамі і зусім перастаюць вучыцца,— такім літаратарам таксама не шкодзіла б пачытаць кніжкі ўдарнікаў і падумаць над імі».

Але ў гэтым артыкуле я хачу гаварыць аб мове пачынаючых пісьменнікаў не з гэтага пункту гледжання, а з пункту гледжання вучобы саміх пачынаючых. Я ўжо сказаў, што з соцень і тысяч пачынаючых можа дзесятак-два стане пісьменнікамі. Але ж цяжка сказаць, каторы з тысячы — талент. Гэта выявіцца толькі ў працэсе самой ра-

боты з пачынаючымі літаратарамі. Значыць, мы павінны ўважліва ставіцца да творчасці і, у прыватнасці, да мовы кожнага пачынаючага. З гэтых іменна меркаванняў я і паставіў сабе мэтаю зрабіць невялікі агляд мовы пачынаючых пісьменнікаў. Я разглядаю тут і ненадрукаваныя творы, прысланыя на кансультацыю ў кабінет ударніка ССП БССР і ў рэдакцыю часопіса «Полымя рэвалюцыі», але асноўны націск раблю на творы, ужо надрукаваныя («Ударнікі», кн. III. «Полымя рэвалюцыі» і газета «Л[ітаратура] і м[астацтва]» за 1934 г.).

Наколькі разнастайны сам сацыяльны склад і кваліфікацыя пачынаючых літаратараў, нагэтулькі ж разнастайная і іхняя мова. Мы маем людзей, якія толькі прабуюць свае сілы ў літаратуры, якія не ведаюць яшчэ нават элементарных прынцыпаў будовы мастацкага твора, якія часта проста яшчэ непісьменныя. Мы маем і больш кваліфікаваных, якія пішуць і граматна і ў рыфму, але твораў якіх нельга назваць мастацкімі. Ёсць і трэцяя катэгорыя. Гэта, безумоўна, здольныя людзі, але ім яшчэ трэба надзвычай шмат працаваць і над сабою, над узняццем свайго агульнакультурнага ўзроўню, і над тэхнікаю і мовою сваіх твораў, каб іх можна было надрукаваць. Нарэшце, чацвёртую катэгорыю складаюць пачынаючыя пісьменнікі, якія ўжо друкаваліся ў нашым цэнтральным друку.

Большасць пачынаючых пісьменнікаў — калгаснікі, рабочыя, чырвонаармейцы, студэнты, вучні. І кідаецца адразу ў вочы, што лексіка пачынаючага пісьменніка-рабочага насычана словамі з вытворчага жыцця, рабочага быту, тэхнічнымі тэрмінамі (*прамфінплан, ударнік, завод, вагранкі, трансмісіі, ток, сталовая, клуб, чытальня* і г. д. і г. д.).

Творчасць пачынаючага пісьменніка-чырвонаармейца характарызуе ўжо зусім іншая лексіка (*вінтоўка, патроны, рота, граніца, абарона, баявая вучоба* і г. д.).

У творах пачынаючых пісьменнікаў-калгаснікаў першае месца займаюць словы: *трактар, межы, насенне, плуг, коні* і інш. Гэта, зразумела, не толькі таму, што сама тэматыка выклікае гэтую лексіку, а не іншую. Зусім не. Узяць, напрыклад, вершы здольнага пачынаючага паэта М. Бацюшкова. Ён піша верш («Ударнікі», кн. III, стар. 21) пра вёску, праўда, тэма распрацавана крыху адцягнена. І ўсё ж лексіка ў Бацюшкова зусім іншая, як лексіка ў пачынаю-

чага паэта калгасніка Курбацкага (той жа зборнік «Ударнікі»). Курбацкі ніколі не даў бы такой, скажам, метафары:

> Так радасна сціскаць у пальцах лом,
> Цвікамі дзён збіваючы эпоху.

*Лом, цвікі* і іншыя словы рэзка адрозніваюць у дадзеным выпадку лексіку аднаго паэта ад другога. Гэта вельмі яскрава відаць у творчасці менш кваліфікаваных пачынаючых пісьменнікаў, слоўнік якіх больш абмежаваны. І ў гэтым вялікі недахоп пачынаючых: на якую б тэму яны ні пісалі, лексіка іх амаль заўсёды адна і тая ж, а значыць, і метафара пэўным чынам становіцца штампам. Як прыклад можна прывесці вершы, змешчаныя ў газеце «Л[ітаратура]і м[астацтва]» ад 12 лютага 1934 года: верш Васілеўскага «У дазоры», верш Гінюка «Надзейная варта» і верш Гайдукевіча «Перабежчык». У Васілеўскага некалькі разоў паўтараецца: *трывожна, трывога, шорах, слых*. У Гінюка: *трывожна, трывога, шэпт, слых*. У Гайдукевіча: *трывога, трывожна, шум*. Я ўзяў толькі некалькі слоў, але амаль увесь слоўнік ва ўсіх трох паэтаў падобны. Больш таго, цэлыя радкі падобны.

У Васілеўскага:

> Скрынка бомб,
> Сістэмы Мільса
> З маўзерам ляжыць.

У Гінюка:

> Кожны трымаў наган,
> З боку ляжалі патроны.

Так канчаюцца вершы ў абодвух паэтаў. Я прыводжу гэты прыклад для таго, каб звярнуць увагу пачынаючых на вузкасць, на абмежаванасць іхняй лексікі. Добра, што маладыя аўтары ўносяць у нашу літаратурную мову свежыя і новыя словы, звязаныя з вытворчасцю, з калгасамі. Але гэтым не трэба захапляцца, не трэба перагружаць твор тэхнічнымі тэрмінамі, не трэба абмяжоўваць лексіку тэхнічную лексікай свайго цэха, сваёй прафесіі. Вось Янка Гуцаў напісаў верш «Я — варашылаўскі стралок» [1]. Тры першыя страфы маюць не больш 40 слоў, і сярод іх

[1] «Літаратура і мастацтва», 31 сакавіка 1934 г.

каля палавіны прафесійных: *гарно* (трэба між іншым — *горан), колер сталі, звон сталёвага ліцця, у сталь разцы ўпіліся, трос, трансмісіі, гігант-завод, цэх* і інш. У выніку верш робіць уражанне нейкага тэхнічнага даведніка, а не мастацкага твора.

Для вельмі вялікай колькасці пачынаючых літаратараў характэрна яшчэ сухая, газетная мова. Пра іх можна сказаць словамі Максіма Горкага, што яны, «аглушаныя сухім трэскам мовы артыкулаў, зусім не чуюць гукавых капрызаў мовы жывой гутаркі». Гэта асабліва ярка выступае ў творах, напісаных на агульныя тэмы («наогул» аб будаўніцтве і дасягненнях), на так званыя міжнародныя тэмы (рэвалюцыйныя падзеі ў Нямеччыне, у Польшчы і г. д.). Вось прыклады. У вершы пачынаючага паэта Гарбачова: «Дзесяткі лозунгаў, плакатаў, дыяграм да працы творчай заклікаюць», «Наш бальшавіцкім робіцца калгас, а кожны з нас становіцца заможным». У вершы другога пачынаючага паэта Манцэвіча: «Край мой родны, ты ўжо скора станеш краем першае бяскласавае грамады». Іменна таму, што думкі ў вершах гэтых таварышаў выказаны сухой, газетнай моваю (*робіцца, становіцца*), яны слаба даходзяць да чытача. Мастацкая мова павінна быць жывою, метафарычнаю моваю.

Сухая мова найбольш характэрна для творчасці малакваліфікаваных аўтараў і пераважна аўтараў вясковых. Для іх характэрна і другая, процілеглая з'ява — сантыментальна-саладкаватая мова, сюсюканне, непатрэбныя правінцыялізмы [...]

Пачынаючыя вясковыя аўтары ў параўнанні з пачынаючымі рабочымі пісьменнікамі надзвычайна мала чытаюць сучасную беларускую савецкую літаратуру і, вядома, не могуць пазбавіцца ўплыву старой літаратуры, якую і ў школах і дома яны чыталі больш. Зразумела, што трэба вучыцца ў лепшых майстроў нашай дарэвалюцыйнай літаратуры, як Купала, Колас, але да іх творчасці трэба падыходзіць вельмі крытычна. Справа ў тым, што наша жыццё зусім адменнае ад дарэвалюцыйнага жыцця і наша сённяшняя літаратурная мова зусім адменна ад мовы дарэвалюцыйнай. Некрытычна пераносіць цалкам лексіку, фразеалогію тагачаснай літаратурнай мовы ў сённяшнюю — шкодна; гэтае перанясенне супярэчыць новаму зместу нашай літаратуры. Прыклады гэтага прыводзіць Кузьма Чорны ў артыкуле «Маладыя празаікі» («Ударні-

кі», кн. III): «ветрык, мякка ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыраватую»; «іскрынкамі-лункамі паблісквае электрычная лямпачка»; «шыр паднябесная раскінулася неабмерна-шырокая»; «поле, ой, поле — дыванам белым заслана».

Падобных прыкладаў сантыментальна-саладкаватай мовы шмат можна было б прывесці з ненадрукаваных твораў пачынаючых пісьменнікаў. Змяншальную форму слоў (*сонейка, вочкі, палоскі, жытцо, ячмянёк, месік* і г. д.) мы сустракаем у іх творчасці на кожным кроку, а гэта іменна і дае сантыментальна-саладкаватую афарбоўку мове. Яе (афарбоўку) узмацняюць словы, што выражаюць не рэчавыя паняцці, а абстрактна-адцягнутыя. Вось прыклады з верша Калачынскага «Вечар на калгасным сенакосе» («Ударнікі», кн. III, стар. 92): «люстрана-бяздонныя воды», «ружовае трымценне», «вячэрняе сонейка», «зялёная пялёнка», «юны месік», «істужкі-пракосы» і г. д.

Для пачынаючых вясковых аўтараў вельмі небяспечным з'яўляецца ўжыванне непатрэбных правінцыялізмаў, што засмечваюць літаратурную мову, правінцыялізмаў антыгустоўных, «скукожаных», слоў, што перадаюць не сэнс, а толькі бразгаюць, «хліпкаюць»:

> Хліпка пахлёбкаю ліпкая гразь
> Хліпатам дых лагчын...
>
> *Зомерфельд*

Тут нездаровая пагоня за «арыгінальнасцю» мовы, за голымі алітэрацыямі.

Самым важным для ўсёй нашай савецкай літаратуры, у тым ліку і для пачынаючых пісьменнікаў, з'яўляецца змаганне за якасць твораў, за чыстату, за сэнсавую дакладнасць мовы. Лепшы майстра слова Максім Горкі гаварыў, што «змаганне за чыстату, за сэнсавую дакладнасць, за вастрыню мовы ёсць змаганне за зброю культуры». Шмат якія пачынаючыя пісьменнікі не разумеюць гэтага. Абыякава ставяцца часта да гэтага і рэдакцыі, друкуючы творы з вялікімі моўнымі недахопамі. Я спынюся з гэтага пункту гледжання на вершах пачынаючых, змешчаных у газеце «Літаратура і мастацтва» за гэты год.

У вершы Гайдукевіча «Перабежчык» («Л[італатура] і м[астацтва]», 12 лютага 1934 г.) ёсць такія звароты: «Калоціцца сэрца што раз гарачэй». Сэрца можа калаціцца

мацней, але не гарачэй; у дадзеным выпадку адсутнічае сэнсавая выразнасць.

Язэп Васілеўскі ў вершы «У дазоры» (той жа нумар «Л[ітаратуры] і м[астацтв]а») гаворыць: «Чутны слых савы». Гэта бяссэнсіца, бо слых не гук, і ён не можа быць чутны. «Стрэл, напоўніўшы трывогай, разарваў цішу». Што стрэл напоўніў трывогай? — Трэба думаць, што цішу. Але тады, як ён яе мог разарваць, калі яе ўжо не было, бо цішыня, напоўненая трывогай, не ёсць цішыня. Зноў адсутнічае сэнс.

У вершы Гінюка «Надзейная варта» (той жа нумар «Л[ітаратуры] і м[астацтв]а») мы чытаем: «Пальцы мацней упіліся». Але ў што яны ўпіліся — невядома, аўтар не гаворыць. Далей:

Штось затрашчала блізка,
Нехта відаць паўзе,
І, прытуліўшыся нізка,
Ворага ўзяў на прыцэл.

Выходзіць, што ворага ўзяў на прыцэл «нехта», а Гінюк хацеў сказаць якраз адваротнае, што гэты «нехта» — вораг, і яго ўзяў на прыцэл наш вартавы. Сказ пабудаваны няправільна. Нельга таксама «нізка прытуліцца», нізка можна прыгнуцца, а прытуліцца можна блізка, шчыльна. Ёсць у Гінюка яшчэ такое месца: «Ён не пакінуў пост і ў крыві нагатове». Што гэта павінна азначаць— невядома. Сказ пабудаваны няправільна, алагічна. Гінюк ужывае таксама слова «нібыццам»; такога слова ў літаратурнай мове няма, ёсць словы «быццам» і «нібыта».

У вершы Гваздова «Кавалак берлінскай ночы» («Л[ітаратура] і м[астацтва]», 12 сакавіка 1934 г.) мы чытаем: «Вось чаму апусціла на рукі Матыльда цяжэўшую думамі голаў». Гэта падобна на «цяжарную думамі голаў». Трэба было сказаць: «ацяжэўшую ад дум галаву».

Гумавы стэк
І фашысцкае права —
Многа дзён —
Як сюды, у сутарэнне, прыходзілі.

Сказ пабудован надта закавырыста, але і надта няўдала. У мастацкім творы гэтага дапусціць нельга.

«Ён бяссільна шавеліць бяскроўныя вусны». Што ён пальцамі ці палачкай шавеліць гэтыя бяскроўныя вусны? Вуснаў ніхто не шавеліць, шавеляць вуснамі.

> Хутка Матыльда
> Бегла з квартала,
> Але ўсё ж не магла
> З сэрцам угнацца.

За кім яна не магла з сэрцам угнацца? Аўтар пэўна разумеў, што Матыльда не магла за сэрцам угнацца, бо яно так шпарка білася, але і ў такім разе словы не перадаюць сэнсу, бо за сваім сэрцам ніхто не гоніцца.

Тав. Бурдзель у вершы «Другое спатканне» («Л[ітаратура] і м[астацтва]», 31 сакавіка 1934 г.) піша: «Пасля расстання пальцы сцяў балюча». Сцяць можна галаву, можна, вядома, адцяць і пальцы, але ў дадзеным выпадку Бурдзель разумеў «сціснуць пальцы», аднак напісаў чамусьці «сцяць». Далей: «І ворага з вінтоўкі збіць умеў». Тут можна двояка тлумачыць: першае — вораг сядзіць на вінтоўцы, і яго трэба ўмець збіць з яе; другое — збіць ворага з вінтоўкі (страляючы ў яго беспераступку) на горкае яблыка. Так можна разумець гэты сказ. На самай жа справе па сэнсу папярэдніх радкоў дагадваешся, што Бурдзель хацеў сказаць, што трэба ўмець страляць у ворага з вінтоўкі.

Н. Макаёў у вершы «Вялікі паход» піша: «Два месяцы плавала сто чалавек, ад сушы стыхіяй адбітыя». Калі ўжо «плавала сто чалавек», дык трэба, каб было слова «адбітыя» ўзгоднена са склонам, у якім стаяць словы «сто чалавек», іначай кажучы, слова «адбітыя» трэба паставіць не ў назоўным склоне, а ў вінавальным. А далей Макаёў піша: «Скрозь туманы і стынь» у сэнсе «праз туманы і стынь». Сказаць «скрозь» — гэта значыць сказаць «усюды», а не «праз».

Вельмі часта пачынаючыя паэты для рытму альбо для рыфмы мяняюць націскі ў словах, ставяць іх не там, дзе ім належыць стаяць. Аляксеенка, напрыклад, піша: не «прыходзіла», а «прыхадзіла», не «збажына́», а «збажына» і інш.

Як бачым з паданага, пачынаючыя пісьменнікі, нават найбольш здольныя і кваліфікаваныя з іх, мала яшчэ працуюць над мовай. Мы не адмаўляем таго, што разам са свежаю тэматыкаю пачынаючыя літаратары нясуць часта

ў нашу літаратуру вельмі шмат каштоўных слоў, свежых зваротаў, метафар (узяць хоць бы верш Бацюшкова ў № 3 «Ударнікаў» або верш Гайдукевіча ў № 7 «Л[ітаратуры] і м[астацтв]а»). Вось чаму мы і гаварылі, што і кваліфікаванаму пісьменніку варта і трэба прыглядацца да творчасці і мовы пачынаючых. Але гэта не значыць, што мова пычынаючых надзвычаіі добрая, наадварот, яна яшчэ вельмі далёкая ад чыстай літаратурнай мовы, і трэба жорстка крытыкаваць пачынаючых пісьменнікаў за пераручванне слоў, за няўдалыя, алагічныя звароты, за некрытычнае выкарыстанне лексікі старой літаратуры. Ні ў якім разе не трэба ставіцца да мовы пачынаючых як да мовы выключна «народнай», звязанай з вытворчасцю, а значыць, цалкам добрай, бо на мову пачынаючых робіць уплыў самая разнастайная моўная стыхія, і пад націскам яе пачынаючыя часта механічна пераносяць чужыя твору словы. Я зноў прывяду словы Аляксея Максімавіча Горкага: «Калі мы прызнаем, што працэс механістычнага абагачэння лексікона і ёсць працэс творчасці новай мовы, якая нібыта адпавядае цалкам новым думкам і настроям,— мы гэтым прызнаем і ўпэўнім рабселькораў і маладых літаратараў, што яны выстарчальна багаты слоўным матэрыялам і зусім правільна «словатвораць». Гэта будзе няправільна і шкодна».

Вось гэтае ўказанне Горкага і трэба мець на ўвазе, разглядаючы мову пачынаючых пісьменнікаў і беручы ад яе ўсё тое новае і свежае, што гэтыя пісьменнікі нясуць з працоўных глыбінь.

*1934 г.*

# З ВОДЗЫВУ АБ КАНДЫДАЦКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ Г. Д. ЖЫЛУНОВІЧ «ДЗЕЯСЛОЎНАЕ КІРАВАННЕ Ў БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ»

За пасляваенныя гады напісана і апублікавана даволі шмат прац, прысвечаных розным пытанням беларускай мовы. Лінгвістычная навука папоўнілася многімі добрымі даследаваннямі. Аднак і дагэтуль аб некаторых пытаннях

развіцця беларускай мовы сказана вельмі скупа або нічога. Да ліку іх належыць і пытанне аб кіраванні, яго прыродзе і ўласцівасцях. Таму выбар Г. Д. Жылуновіч гэтай тэмы для дысертацыі трэба толькі вітаць. Праўда, дысертантка абмежавала сваё даследаванне, калі меркаваць па назве дысертацыі, толькі супастаўленнем дзеяслоўнага кіравання ў беларускай і рускай мовах, але на справе яно далёка выходзіць за рамкі гэтай тэмы і мае не толькі вялікае практычнае значэнне, а і значную навуковую цікавасць.

Г. Д. Жылуновіч на працягу многіх гадоў працуе ў галіне беларуска-рускай лексікаграфіі, назапасіла многа цікавых і глыбокіх назіранняў над суадносінамі кіравання ў беларускай і рускай мовах, якія (назіранні) і леглі ў аснову яе працы. Аднак матэрыял, на якім пабудавана дысертацыя, гэтым, зразумела, не абмяжоўваецца. Дысертантка шырока выкарыстала творы беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, а таксама значную колькасць рускай літаратуры. Даволі сказаць, што картатэка вывучаных дзеясловаў, як адзначае даследчыца, складае 18 тысяч. Акрамя таго, шырока выкарыстаны матэрыялы фундаментальных картатэк тлумачальнага і гістарычнага слоўнікаў беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР (звыш 30 тысяч дзеясловаў), перакладныя руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі, а таксама перакладныя і тлумачальныя слоўнікі рускай і польскай моваў.

Дысертацыя Г. Д. Жылуновіч будуецца таксама на шырокім вывучэнні навуковай літаратуры па мовазнаўству — як спецыяльна прысвечанай кіраванню, так і агульнатэарэтычнай. Бібліяграфія, прыкладзеная да дысертацыі, складае звыш 260 назваў.

Канкрэтызуючы задачу свайго даследавання, Г. Д. Жылуновіч зазначае, што аб'ектам яго з'яўляюцца беларускія і рускія прама-пераходныя і ўскосна-пераходныя дзеясловы з несупадаючым кіраваннем моцнага тыпу.

У адпаведнасці з гэтай задачай дысертацыя складаецца з двух вялікіх раздзелаў, у першым з якіх разглядаецца кіраванне прама-пераходных дзеясловаў, а ў другім — ўскосна-пераходных. Апроч таго, у дысертацыі, як гэта ўжо прынята, ёсць уводзіны, заключэнне, спісы ўмоўных скарачэнняў і выкарыстаных крыніц, а таксама бібліяграфія.

Аднак ад прынятай традыцыйнай формы ў дысертацыі Г. Д. Жылуновіч ёсць і прыемнае адступленне. Я маю на ўвазе характар і змест уводзін да дысертацыі. Тут не толькі разглядаюцца задача даследавання, гісторыя і літаратура пытання, а падаецца і вялікі, на 65 старонках, тэарэтычны ўступ да працы, сціпла названы даследчыцай «Некаторыя заўвагі аб сувязі паміж лексічным значэннем, пераходнасцю дзеясловаў і іх кіраваннем». Між тым гэты ўступ, на маю думку, мог бы скласці не толькі асобны трэці раздзел дысертацыі, а і стаць пры невялікім яго пашырэнні самастойным і вельмі цікавым навуковым даследаваннем.

Адзначыўшы, што, нягледзячы на працяглы час распрацоўкі пытання, у навуковай літаратуры дагэтуль няма адзінага погляду на прыроду кіравання, Г. Д. Жылуновіч паставіла перад сабой задачу разабрацца ў гэтым пытанні і выказаць свае меркаванні. У дысертацыі прыводзяцца выказванні вучоных, якія хаця і не адмаўляюць зусім важнасці лексічнага значэння, аднак лічаць, што кіраванне дзеясловаў залежыць ад іх граматычных уласцівасцей.

Існуе, як вядома, і падаецца ў дысертацыі і другі погляд, прыхільнікі якога звязваюць кіраванне дзеясловаў з іх лексічным значэннем.

Нарэшце, трэцяя група даследчыкаў займае прамежкавую пазіцыю, лічачы, што ў адным выпадку кіраванне дзеяслова будзе лексічным фактарам, у другім — граматычным.

Падрабязна разгледзеўшы розныя погляды на прыроду кіравання, Г. Д. Жылуновіч слушна заўважае, што вучоныя да гэтага часу не прыйшлі тут да адзінай думкі. «Наадварот, з цягам часу іх погляды ўсё больш разыходзяцца».

Няма, адзначае далей дысертантка, сярод вучоных адзінай думкі і аб катэгорыі пераходнасці і непераходнасці дзеясловаў, якая (катэгорыя) мае цесную сувязь з кіраваннем. Вось чаму, не прэтэндуючы на канчатковае вырашэнне пытання, аўтар дысертацыі спрабуе ўстанавіць суадносіны паміж лексічным значэннем дзеясловаў, іх пераходнасцю і кіраваннем.

Не адкідаючы безуважліва самых разнастайных меркаванняў вучоных аб пастаўленых пытаннях, наадварот, абапіраючыся на іх, Г. Д. Жылуновіч прааналізавала вя-

лікую колькасць беларускіх і рускіх дзеясловаў з пункту погляду залежнасці паміж іх лексічным значэннем, трываннем, марфалагічнай будовай, пераходнасцю і кіраваннем. Дысертантка прыйшла да наступных, вельмі, на маю думку, абгрунтаваных і слушных вывадаў.

Пераходнасць дзеяслова залежыць ад яго лексічнага значэння, кіраванне ў сваю чаргу залежыць ад пераходнасці; граматычныя ўмовы (трыванне і марфалагічная будова) не ўплываюць на пераходнасць і кіраванне. І далей даследчыца ўстанаўлівае паміж паняццямі «лексічнае значэнне», «пераходнасць» і «кіраванне» наступную суадноснасць:

а) пераходнасць — такія ўзаемаадносіны паміж дзеясловам і залежным словам, пры якіх залежнае слова выступае як аб'ект;

б) кіраванне — гэта граматычнае выражэнне пераходнасці, абумоўленай канкрэтным лексічным значэннем дзеяслова. Іменна таму мнагазначным дзеясловам можа быць уласцівы не адзін від пераходнасці і адпаведна не адно кіраванне. Толькі ў выпадку адназначнасці дзеяслова кіраванне з'яўляецца характарыстыкай усяго слова;

в) двухбаковасцю гэтых адносін слоў пры пераходнасці тлумачыцца тое, што від кіравання залежыць не толькі ад уласцівасцей дзеяслова, але і ад аб'ектных уласцівасцей залежнага слова, якія аб'яднаны ў розных значэннях той ці іншай склонавай формы;

г) і значыць, склонавая форма кіруемага слова абумоўліваецца як відам пераходнасці слова, так і тымі граматычнымі сродкамі, якія ўжываюцца для выражэння пераходнасці (непасрэднае і пасрэднае кіраванне).

Як я ўжо сказаў, тэарэтычны ўступ да дысертацыі напісаны Г. Д. Жылуновіч грунтоўна, з шырокім, уважлівым і ў той жа час крытычным выкарыстаннем навуковай літаратуры і з'яўляецца ў пэўным сэнсе новай трактоўкай закранутых пытанняў. Трэба толькі пашкадаваць, што, ставячы пераходнасць і кіраванне ў залежнасць ад лексічнага значэння дзеяслова, дысертантка, на жаль, не дала свайго разумення гэтага лексічнага значэння. Вось чаму, знаёмячыся з дыфэрэнцыяцыяй значэнняў, прыведзеных у прыкладах, часамі ўзнікае сумненне — а ці сапраўды гэта асобнае значэнне?

Першы раздзел дысертацыі Г. Д. Жылуновіч прысвечаны разгляду кіравання прама-пераходных дзеясловаў.

Не спыняючыся падрабязна на яго змесце, адзначу толькі тыя асноўныя пытанні, якія ў ім разглядаюцца. Гэта — кіраванне прама-пераходных дзеясловаў вінавальным прамога аб'екта ва ўмовах, калі беларускаму монасемічнаму дзеяслову адпавядае рускі монасемічны дзеяслоў; затым, калі беларускаму монасемічнаму дзеяслову адпавядае асобнае значэнне рускага полісемічнага дзеяслова; пасля, калі адпаведнікамі з'яўляюцца асобныя значэнні беларускага і рускага полісемічнага дзеяслова, калі асобнаму значэнню беларускага полісемічнага дзеяслова адпавядае рускі монасемічны дзеяслоў і, нарэшце, калі беларускаму монасемічнаму дзеяслову адпавядае рускае словазлучэнне. Другая, вельмі значная частка першага раздзела дысертацыі прысвечана разгляду прама-пераходных дзеясловаў з адмоўем.

Прааналізаваўшы даволі вялікую колькасць беларускіх дзеясловаў, супастаўляючы іх з рускімі адпаведнікамі, Г. Д. Жылуновіч адзначае, што такіх выпадкаў, калі беларускія прама-пераходныя дзеясловы разыходзяцца з рускімі адпаведнікамі ў кіраванні, нямнога. Часцей за ўсё разыходжанні ў кіраванні наглядаюцца ў асобных значэннях полісемічных дзеясловаў. Яшчэ больш частыя разыходжанні маюць месца ў кіраванні беларускіх і рускіх прама-пераходных дзеясловаў з адмоўем. Тлумачацца гэтыя разыходжанні тым, што ў беларускай мове больш захаваліся старажытныя нормы, для якіх было ў такіх умовах характэрна ўжыванне роднага склону.

У другім раздзеле дысертацыі Г. Д. Жылуновіч асобна разглядаюцца ўскосна-пераходныя дзеясловы з беспрыназоўнікавым і прыназоўнікавым кіраваннем. У выніку праведзеных назіранняў дысертантка адзначае, што «беларускія ўскосна-пераходныя дзеясловы даюць намнога больш выпадкаў разыходжання ў кіраванні з рускімі адпаведнікамі, чым прама-пераходныя дзеясловы. Асабліва многа несупадзенняў сустракаецца сярод дзеясловаў з прыназоўнікавым тыпам кіравання».

Аналіз матэрыялу як у першым, так і ў другім раздзелах праведзен у дысертацыі вельмі падрабязна і ўважліва. Супастаўляючы беларускія дзеясловы з рускімі адпаведнікамі, дысертантка не абмяжоўваецца канстатацыяй разыходжання або супадзення ў іх кіраванні. Кожны раз яна імкнецца растлумачыць прычыны гэтых разыходжанняў, робіць экскурсы ў гісторыю мовы, бадай у кожным

выпадку дае супастаўленні з польскай мовай. Акрамя таго, амаль заўсёды даецца самая шырокая лексічная, граматычная, а часта і стылістычная характарыстыка дзеяслоўных адпаведнікаў, аналізуюцца іх семантыка, марфалагічная будова, паказваюцца сфера ўжывання і перавага той ці іншай формы ў літаратурнай мове.

Усё гэта вельмі каштоўныя моманты дысертацыі, якія маюць безумоўнае практычнае значэнне для павышэння культуры беларускай літаратурнай мовы і яе далейшай нармалізацыі. Пры ўсім гэтым яшчэ раз трэба падкрэсліць навуковае значэнне дысертацыі як у яе тэарэтычнай частцы, так і ў двух асноўных раздзелах, важных для развіцця беларускай лексікалогіі і параўнальнага вывучэння структуры і граматыкі адной і другой мовы.

У дысертацыі Г. Д. Жылуновіч ёсць, безумоўна, і недахопы. Вельмі шкада, напрыклад, што, супастаўляючы факты беларускай і рускай мовы і прыводзячы параўнанні з польскай, дысертантка абыходзіць поўным маўчаннем украінскую, хаця беларуская мова развівалася ў суседстве іменна гэтых трох моў.

Выклікае здзіўленне таксама той факт, што сярод шырокага спісу твораў беларускай мастацкай літаратуры чамусьці не знайшлося месца для ананімных паэм і гутарак, твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў XIX ст. Я думаю, што выкарыстанне гэтых твораў дапамагло б дысертантцы больш паслядоўна паказаць працэс развіцця кіравання ў беларускай мове без таго правалу, які адчуваецца цяпер у дысертацыі паміж фактамі старажытнай беларускай мовы і сучаснай, без фактаў XIX ст.

Пры выбары матэрыялу з літаратурных твораў наўрад ці варта было карыстацца таксама перакладнымі творамі, прыклады з якіх, безумоўна, у падобнай працы заўсёды выклікаюць насцярожанасць.

Ёсць у дысертацыі і некаторыя недакладнасці. Так, напрыклад, дысертантка піша: «У беларускіх вершаваных творах больш ранняга перыяду дзеяслоў «здрадзіць» сустракаецца з вінавальным прамога аб'екта». Чаму толькі ў вершаваных творах? Мне здаецца, што для таго часу гэта была, бадай, норма [...]

*1966 г.*

# З ВОДЗЫВУ АБ КАНДЫДАЦКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ І. М. ШЧАРБАКОВАЙ «ФОРМЫ НАЗОЎНАГА І ВІНАВАЛЬНАГА СКЛОНАЎ НАЗОЎНІКАЎ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ МНОЖНАГА ЛІКУ АСНОЎ НА *-о*, *-jo* Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ»

Каштоўнасць навукова-даследчай працы вызначаецца перш за ўсё тымі новымі адкрыццямі, якія яна ўносіць у адпаведную навуку. У гэтым сэнсе даследчыкі нераспрацаваных ці маларапрацаваных праблем заўсёды знаходзяцца ў больш выгадным становішчы ў параўнанні з тымі, хто бярэцца за вывучэнне пытанняў, якія ўжо не раз і не два з'яўляліся прадметам навуковых доследаў. Да такіх пытанняў належыць і пытанне аб формах назоўнага і вінавальнага склонаў мужчынскага роду множнага ліку, якое І. М. Шчарбакова абрала тэмай сваёй дысертацыі. Праўда, шырокіх спецыяльных даследаванняў гэтых з'яў у іх поўным аб'ёме і гістарычным развіцці да гэтага часу ў нашым мовазнаўстве яшчэ не было. Тым не менш у навуковай літаратуры яны ўжо закраналіся і атрымалі даволі грунтоўнае апісанне і пэўнае вытлумачэнне ў працах рускіх вучоных (агульнарускі перыяд), а таксама ў «Беларусах» Я. Ф. Карскага, у доктарскай дысертацыі «Іменнае скланенне ў беларускай мове» М. А. Жыдовіч і ў некаторых выдадзеных у апошнія гады агульных курсах па беларускаму мовазнаўству (перыяд беларускай народнасці і нацыі).

Вось чаму, не прэтэндуючы на ролю першаадкрывальніка і на зусім новыя навуковыя вывады, І. М. Шчарбакова ставіць у сваёй дысертацыі больш сціплую задачу. Яна імкнецца [...] прасачыць працэс развіцця форм назоўнага і вінавальнага склонаў мужчынскага роду множнага ліку ў перыяд існавання мовы беларускай народнасці і нацыі, устанавіць, якія з гэтых форм увайшлі ў сучасную сістэму скланення назоўнікаў. і ў адпаведнасці з наяўнымі моўнымі фактамі ўнесці неабходныя карэктывы ў вывады ранейшых даследчыкаў гэтага пытання.

Трэба сказаць, што пастаўленая задача заслугоўвае, безумоўна, сур'ёзнага даследавання, і дысертантка правяла яго з поспехам [...]

Як сам тэкст работы, так і бібліяграфічны даведнік паказваюць, што даследчык добра знаёмы з літаратурай прадмета, у тым ліку і з некаторымі найбольш важнымі працамі замежных лінгвістаў. Дысертантка аперыруе таксама вельмі шырокімі і разнастайнымі моўнымі матэрыяламі розных перыядаў і жанраў. Ёю выкарыстаны многія помнікі агульнарускай і старажытнарускай пісьменнасці і вялікая колькасць старых помнікаў беларускага паходжання, у тым ліку заходнерускія юрыдычныя акты, летапісы, перакладныя рыцарскія аповесці, рэлігійна-палемічныя творы і інш. У сваёй рабоце дысертантка абапіраецца таксама на шырокія дыялектныя матэрыялы, як апублікаваныя ў розныя дарэвалюцыйныя часы, так і сабраныя нядаўна ў выніку суцэльнага дыялекталагічнага абследавання Беларусі, праведзенага Інстытутам мовазнаўства АН БССР і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі рэспублікі.

Вузей скарыстаны ў дысертацыі моўныя матэрыялы сучаснай мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, дзе І. М. Шчарбакова абмежавалася творамі В. Д[уніна]-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, А. Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, К. Крапівы, К. Чорнага, М. Лынькова і Р. Мурашкі і зусім пакінула без увагі творчасць пісьменнікаў малодшага пакалення, калі не лічыць асобных прыкладаў з твораў хаця і цікавых па мове, але ўсё ж такі даволі выпадкова выбраных аўтараў — А. Бачылы і А. Якімовіча. І вельмі шкада, што па-за ўвагай даследчыка засталіся такія арыгінальныя і самабытныя ў сваёй мове пісьменнікі, як Э. Самуйлёнак, Хв. Шынклер, Я. Брыль і П. Пестрак, М. Танк і Я. Скрыган і многія іншыя, тым больш што некаторыя з іх з'яўляюцца якраз выхадцамі з тых дыялектных раёнаў, якія не прадстаўлены названымі ў дысертацыі пісьменнікамі. Між тым Э. Самуйлёнак, П. Броўка, напрыклад, маглі б быць вельмі цікавыя як прадстаўнікі паўночнага ўсходу Беларусі; М. Зарэцкі, А. Куляшоў — паўднёвага ўсходу; П. Пестрак — паўднёвага захаду і г. д. Аднак пры ўсіх гэтых хібах фактычны моўны матэрыял, выкарыстаны І. М. Шчарбаковай, вельмі, як я ўжо сказаў, багаты і разнастайны і з поўнай верагоднасцю ілюструе палажэнні яе работы [...]

У кароткіх уводзінах да дысертацыі аўтар вызначае задачы даследавання, тлумачыць структурныя прынцыпы работы і поруч з гэтым дае сціслы агляд крыніц і навуко-

вай літаратуры. У першым раздзеле разглядаюцца формы назоўнага і вінавальнага склонаў мужчынскага роду множнага ліку ў агульнарускай мове, у прыватнасці тут закранаюцца такія пытанні, як замена форм назоўнага множнага на *-і* формамі на *-ы*, канчатак *-і* замест старажытнага *-е* (ѣ), катэгорыя адушаўлёнасці, агульны працэс уніфікацыі цвёрдага і мяккага адрозненняў назоўнага і вінавальнага склонаў. Дысертантка адзначае, што па пытанню аб замене старых форм назоўнага множнага мужчынскага роду на *-і* формамі на *-ы* ў лінгвістычнай навуцы існуюць два пагляды. Адны вучоныя лічаць, што супадзенне форм назоўнага і вінавальнага ў назоўніках мужчынскага роду множнага ліку з'явілася ў выніку ўплыву вінавальнага на назоўны, другія тлумачаць гэтае супадзенне ўплывам назоўнікаў жаночага роду з канчаткам у назоўным множнага ліку на *-ы*. Дысертантка займае ў гэтым пытанні сярэднюю пазіцыю, адзначаючы, што ў працэсе супадзення форм назоўнага і вінавальнага мужчынскага роду множнага ліку сыгралі ролю абедзве згаданыя прычыны. Апрача таго, гэты працэс цесна звязаны з агульным працэсам аб'яднання форм цвёрдага і мяккага адрозненняў скланення назоўнікаў мужчынскага роду. Гэтую сваю думку дысертантка абгрунтоўвае той акалічнасцю, што развіццё формы на *-ы* храналагічна супадае з перыядам, калі адбываўся працэс уніфікацый форм цвёрдага і мяккага адрозненняў, і прыходзіць да сцвярджэння, што развіццё форм назоўнага множнага на *-ы* ў назоўніках мужчынскага роду трэба разглядаць як адзін з прыватных выпадкаў гэтага працэсу. Поруч з гэтым супадзенне форм назоўнага і вінавальнага множнага ў сваю чаргу выклікала выцясненне формы вінавальнага множнага формай роднага множнага спачатку ў скланенні назоўнікаў, якія абазначалі людзей, а потым наогул ва ўсіх адушаўлёных прадметах.

У другім раздзеле дысертацыі І. М. Шчарбаковай разглядаецца далейшы лёс і далейшае развіццё форм назоўнага і вінавальнага склонаў у старажытнай і сучаснай беларускай мове. Выходным палажэннем гэтага раздзела з'яўляецца сцвярджэнне, што сістэма скланення назоўнікаў так, як яна склалася ў агульнарускі перыяд, бадай, без асаблівых карэнных змен пераходзіць у старажытнабеларускую мову. На прыкладах беларускіх помнікаў XIV — XVII стст. дысертантка паказвае, што новая флексія *-ы*

займае ў назоўным множнага ліку галоўнае месца, хаця поруч з ёю, асабліва ў літаратуры рэлігійнага зместу, сустракаецца яшчэ і не цалкам страчаная старая форма назоўнага склону на *-і*. Даволі шырокае распаўсюджанне ў беларускай мове таго часу набывае канчатак *-ове*. У адрозненне ад рускай мовы, дзе формы назоўна-вінавальнага на ѣ замяняюцца з XIV ст. формамі на *-і*, у беларускай мове гэтая флексія ахапіла ў назоўным склоне як назоўнікі мяккага, так і цвёрдага адрозненняў. Апрача таго, прыблізна з XV ст. да адзначаных канчаткаў назоўнага склону далучаецца канчатак на *-а*, хаця і ўжываецца ён рэдка, пераважна ў словах іншамоўнага паходжання і пры злучэнні назоўніка з лічэбнікам *два*, а часамі — *тры*.

Вінавальны склон у беларускай мове старажытнага перыяду атрымаў у неадушаўлёных назоўніках форму, агульную з назоўным, а ў адушаўлёных — з родным. Аднак многія беларускія помнікі XIV — XVII стст. захоўваюць у значнай колькасці і стары вінавальны. Дысертантка падрабязна адзначае ў сваёй рабоце таксама рад іншых своеасаблівых выпадкаў ужывання ў беларускай мове таго часу форм назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку.

Дэталёва і грунтоўна апісаны ў дысертацыі формы назоўнага і вінавальнага множнага ліку мужчынскага роду ў беларускіх гаворках. На жаль, як я ўжо сказаў упачатку, аналіз гэтых форм у сучаснай літаратурнай мове зроблены даволі скупа[...] Калі ж гаварыць аб недахопах, я хацеў бы апрача ўжо адзначанага скупога выкарыстання ў дысертацыі сучаснай мастацкай літаратуры звярнуць увагу яшчэ на адзін момант.

У нашай мовазнаўчай літаратуры, калі гаворка ідзе аб утварэнні трох братніх моваў з адзінага агульнарускага кораня, да гэтага часу чамусьці абмяжоўваюцца сцверджаннем, што беларуская і ўкраінская народнасці і іх мовы ўтварыліся ў выніку таго, што гэтыя народы апынуліся ў розных эканамічных і палітычных умовах. І ніхто пры гэтым не паспрабаваў яшчэ канкрэтызаваць і вытлумачыць, чаму ў адных і тых жа ці прынамсі ў вельмі падобных умовах — спачатку ў складзе Літоўскага княства, а затым польскай Рэчы Паспалітай — украінцы і беларусы ўтварылі дзве асобныя народнасці са сваімі асобнымі мовамі. Не пазбегла гэтай хібы і І. М. Шчарбакова, абмежаваўшыся тым жа агульным указаннем, што «асобныя част-

Операй «Пікавая дама» дырыжыраваў Георгій Ваіч. Партыю Лізы з натхненнем і майстэрствам выканала выдатная спявачка Драгіца Марцініс. Партыю Германа добра праспяваў Іосіп Госціч. Высокую вакальную і сцэнічную культуру паказаў Іосіп Госціч у оперы «Эро з таго свету». Дырыжыраваў гэтай операй сам аўтар, кампазітар Якаў Гатовац. Як музыка оперы, напісанай па народных матывах, так і дырыжорскае майстэрства Якава Гатоўца выразна сведчыць, што ў яго асобе харвацкі народ мае вельмі здольнага кампазітара і дырыжора. Наогул кажучы, музыкальная культура ў Харватыі стаіць на вялікай вышыні. Тлумачыцца гэта ў значнай ступені тым, што ў Загрэбе працуе музычная акадэмія, а ў першую чаргу тым, што ў Харватыі надзвычай багатая народная музычная творчасць, узоры якой мы мелі радасць бачыць на гэтым жа спектаклі.

Агляд харвацкай сялянскай песні і танца быў наладжаны мясцовымі арганізацыямі харвацкага сялянскага асветнага таварыства «Сялячка слога» («Сялянская еднасць»). У аглядзе прыняло ўдзел дваццаць калектываў мастацкай самадзейнасці з розных мясцін Харватыі. Тут былі прадстаўлены музычныя, харавыя і танцавальныя калектывы, а таксама гусляры і паасобныя выдатныя народныя спевакі.

Не маючы магчымасці перадаць чароўнасць народнай харвацкай музыкі, я не магу ўтрымацца ад таго, каб не прывесці некалькіх слоўных тэкстаў харвацкай песні. У іх шмат агульнага з народнымі песнямі іншых славянскіх народаў. У той жа час у іх сваё непаўторнае хараство і адметнасць, уласцівая толькі той краіне, у якой яны нарадзіліся і бытуюць. Вось адна з такіх песень, выкананая калектывам з вёскі Дрэнаў Бок у Паўночнай Славеніі:

Ой ты, яблыня — цвет белы,
Што ж ты гэтак паблядиела?
— Нада мною гудуць пчолы,
На вяршыні сядзіць сокал,
Паглядае ў стэп шырокі,
Дзе агонь гарыць у полі.
Ля агню танцуюць кола,
А ў тым коле скача Мар'я,
Мар'я скача і гаворыць:
«А ці ёсць з майго хто роду,
Хай маёй наказа маці,
Каб сястры не аддавала
За ўдаўца і ў адзіноту.

Як мяне, сястру таксама,
Хай аддасць у тую хату,
Дзе ёсць свёкар і свякруха,
Дзе ёсць дзевер і ятроўка,
Дзе залвіцы маладыя.
Як іду да маці ў госці,
Пірагі пячэ свякроўка,
Торбу складвае ятроўка,
Ніжуць пацеркі залвіцы,
Убіраюць маладзіцу.

Захоўваючы агульны каларыт, уласцівы народным песням, гэтая песня, аднак, значна адрозніваецца па сваіх матывах ад нашых беларускіх песень, прысвечаных долі замужняй жанчыны. Тут ёсць малаўласцівая падобным беларускім песням гуллівасць, і выконваецца гэта песня адначасна з танцам.

З сапраўдным майстэрствам была выканана тым жа калектывам з вёскі Дрэнаў Бок другая песня — жартаўлівая. Скупасць і выразнасць мастацкіх сродкаў, зграбнасць пабудовы, слоўная мілагучнасць і асабліва сціпласць і цеплыня ў гэтай песні надзвычайныя. У перакладзе гэтыя якасці значна трацяцца, аднак у якасці прыкладу падобных жартаўлівых харвацкіх песень я дазваляю сабе яе прывесці:

Ой, дачка мая, дачушка,
Хочаш спаць са мною, птушка?
— Не хачу, мая ты маці,
Мне з табой сцюдзённа спаці.
Сівер вее, снегам сее,
Тваё цела слаба грэе,
Не малая зараз ноч,
Будзе холадна ўсю ноч.
— Ой, дачка мая, дачушка,
Ці не хочаш замуж, птушка?
— Ой, хачу, мая ты маці,
З мілым добра будзе спаці.
Сівер вее, снегам сее,
Яго цела моцна грэе,
Не малая зараз ноч,
Будзе цёпла цэлу ноч.

Гуллівасць і гумар — з'ява ў югаслаўскіх песнях, як і ў песнях іншых славянскіх народаў, даволі шырокая. Аднак з прычыны цяжкіх гістарычных умоў жыцця югаслаўскага народа песня яго, у тым ліку і харвацкая, вельмі часта мае характар журботны. Гэта асабліва выразна адчуваецца ў песнях лірычных. У гэтым сэнсе асобна

стаяць суровыя, мужныя, пранікнутыя глыбокім патрыятызмам песні гераічныя. Адну з такіх песень выканаў гусляр з вёскі Врліка (Сярэдняя Далмацыя) Пётра Эфендзіч:

П'е гарэлку Томіч Міхавіла
На гары высокай — стромкім Вране,
Шэсцьдзесят сяброў з ім выпівае.
Падымае чарку Міхавіла:
«Добры дзень, харобрая дружына!
Не за ваша і маё здароўе —
Выпіваю за таго малойца,
Што ў каменнае паедзе Ліўна,
Волава і пораху дастане,
Кожнаму лапцей па добрай пары,
А Міяту боты па калена».
Як закончыў Міхавіла мову,
Апусцілі вочы ўсе малойцы
І на дол маўкліва паглядаюць.
Паглядаюць, як трава ўзыходзіць,
Як буяюць дзяцеліны кветкі,
Быццам грудзі маладой дзяўчыны.
Той у рулю стрэльбы пазірае,
Той глядзіць на лапці і аборы,
Той на гузікі свае на світцы —
Ці не адарваўся з іх каторы.
Не глядзіць адзін Мар'ян нікуды,
Ён у вочы дзядзьку пазірае:
«Што шукаеш ты яго ў дружыне,
Раз малойца выгадаваў дома?
Вось дык нарадзіла маці хлопца,
Што ў каменнае паедзе Ліўна,
Волава і пораху дастане,
Прынясе лапцей па добрай пары
На гару высокую дружыне!»
Шпарка зрушыўся Мар'ян адважны
І пайшоў на росную раўніну,
А за ім гукае Міхавіла:
«Не хадзі туды, Мар'ян адважны!
На табе Цынтарыча кальчуга,
Патрановіча старога світка,
Знатнага Атлагіча кашуля,
Урабковіча кінжал адметны.
Як пазнаюць янычары-туркі,
У турму да іх ты пападзешся,
Галаву загубіш у няволі».
Не паслухаўся Мар'ян адважны,
Паімчаўся з Врана ён, аж покуль
Не дайшоў да ліўненскага поля.
Як да белага дабраўся Ліўна,
Там сустрэлі ліўненскія туркі,
Сталі ладзіць розныя забавы:
Кідаюць з пляча яны камені
І змагаюцца — хто далей скочыць.

Падышоў да іх Мар'ян адважны,
Пажадаў зычліва: «Бог на помач!»
Туркі адказалі прывітаннем.
«Я прашу дазволу кінуць камень,
Скочыць спрытна маладзецкім скокам».
«Дазваляем, незнаёмы волат!»
Ухапіў Мар'ян найбольшы камень,
Раз кідае — ледзь не дакідае,
Два кідае — шмат перакідае,
Мог бы янычар навек усмерціць —
Гэтакі зрабіў скачок вялікі,
І пайшоў сабе спакойна ў Ліўна.
Тут цыган Сулля з'явіўся раптам,
Скочыў спрытна маладзецкім скокам,
Што Мар'яна мог навек усмерціць.
Прыкра стала туркам-ліўначанам,
Паімчаліся вярнуць Мар'яна:
«Гэй, вярніся, незнаёмы волат,
Тут у нас цыган Сулля з'явіўся,
Лепш, як ты, каменні ён кідае,
Скача спрытна маладзецкім скокам!»
Малады Мар'ян назад вярнуўся,
Ён з плячэй сваіх скідае світку
Светлую сваю здымае зброю,
Падымае камень і кідае.
Раз кідае — ледзь не дакідае,
Два кідае — шмат перакідае,
Мог бы цыгана навек усмерціць —
Гэтакі зрабіў скачок вялікі.
Бог і шчасце памаглі Мар'яну,
Што нікім ён тут не быў пазнаны.
Светлую сваю бярэ ён зброю,
Апранае на сябе ён світку
І ў каменнае адходзіць Ліўна.

Мужнасць югаслаўскага народа, апетая ў яго песнях, памагла яму ў часіны суровых гістарычных выпрабаванняў адстаяць сваю нацыянальную незалежнасць, захаваць і данесці да нашых дзён скарбы народнай творчасці. У новай, дэмакратычнай Югаславіі гэта творчасць расквітнела і перайшла з сялянскай хаты і на тэатральныя падмосткі, і ў раскошныя палацы, збудаваныя народам, і стала цяпер ягоным здабыткам. Мы былі сведкамі, як удзельнікі харвацкай вясковай самадзейнасці пасля выступлення ў тэатры выступалі ў той жа вечар на ўрадавым прыёме ў Банскім палацы. Тут спявала Луца Мустапіч, простая сялянка з вёскі Даляны (Паўднёвая Герцагавіна); тут вадзілі карагод дзяўчаты з вёскі Задубраўле (Ніжняя Славенія); тут звінелі шпорамі, выконваючы «лінджа», танцоры з Долаў (Паўднёвая Далмацыя); тут пераліваліся

ўсімі сваімі колерамі, пачынаючы ад чорнага і белага і канчаючы самымі яркімі і бліскучымі, нацыянальныя ўборы ўсіх народнасцей Югаславіі. Сардэчна і шчыра віталі прадстаўнікі харвацкага ўрада сваіх народных спевакоў і танцораў, якія дбайна берагуць звычаі бацькоў — так, як гэта выказана ў адной харвацкай песні:

> Маці навучыла мяне ткаць
> І старых заўсёды шанаваць,
> Любячыся з хлопцам — не празябнуць,
> У сялянскім коле танцаваць,
> Селавыя песні шанаваць.

Пасля нядоўгага, але багатага ўражаннямі прабывання ў Загрэбе 12 снежня ўночы мы выехалі ў Любляну [...] У Любляне працуе універсітэт, Акадэмія навук і мастацтваў, тэатры. Мы слухалі ў канцэрце салістаў люблянскай оперы (Эльзу Карловаць, Вільму Буковец, Рудольфа Франкля, Фрыдэрыка Лупшу), слухалі аркестр пад кіраваннем Баяна Адаміча, іхняя творчасць пакінула на нас такое ж добрае ўражанне, як і творчасць работнікаў Белградскага і Загрэбскага тэатраў [...]

Пасля трох дзён падарожжа па краіне мы зноў вярнуліся ў Белград. Адбылося яшчэ некалькі гарачых сустрэч з белградскай грамадскасцю. Адной з такіх сустрэч быў канцэрт народнай артысткі СССР і БССР Ларысы Пампеёўны Александроўскай.

Канцэрт адбыўся ў нядзелю 15 снежня 1946 г. у зале Белградскага універсітэта. На канцэрце прысутнічалі прадстаўнікі югаслаўскага ўрада, удзельнікі Славянскага кангрэсу, афіцэры, рабочыя, інтэлігенцыя, студэнты горада. Канцэрт быў яркай дэманстрацыяй дружбы і культурнай сувязі беларускага народа з іншымі славянскімі народамі і зрабіў на прысутных велізарнейшае ўражанне. Газета «Борба» пісала аб гэтым выступленні Александроўскай: «Александроўская ў першым аддзяленні праграмы спявала творы вялікіх класікаў Чайкоўскага, Рахманінава, Мусаргскага, Сен-Санса, Гліера з найдасканалай тэхнікай, якая дае ёй магчымасць з дзівоснай лёгкасцю перамагаць найцяжэйшыя рэчы. Яе голас, цудоўнага каларыту, крыштальных вышынь і багатай паўнаты ў ніжніх танах, выдае спявачку вялікіх спелых здольнасцей, артыстку ў поўнай творчай сіле.

Партызанскімі і народнымі песнямі другога аддзялення праграмы, праз творы сучасных савецкіх кампазітараў Цікоцкага, Блантэра, Пукста, Сакалоўскага, Волкава, Любана, прагаварыла савецкая зямля, яе глыбокая людская душа, яе раненае геройскае сэрца, волаты фронту і партызанскія арлы, любоў народа да партыі і Радзімы, жыццё новага чалавека — савецкага калгасніка, які спявае аб вызваленай працы і радасцях жыцця, ясны гумар якога падымае і бадзёрыць.

Даносячы без намагання, без лішніх жэстаў і эфектаў тэкст песень, пранікаючы глыбока ў кожную песню, Александроўская з велізарнейшай сілай кранае душу слухача і ажыўляе перад нашымі вачыма цяжкія, але вялікасныя дні крыві і барацьбы, пакут і геройства, пяшчотных пачуццяў і імкнення да красы, гордасці і ўсведамлення сілы савецкай краіны».

Такімі шчырымі і цёплымі пачуццямі сустрэла белградская грамадскасць выступленне артысткі з братняй Беларусі. Такой жа сардэчнай уважлівасцю было адзначана ўсё наша прабыванне ў Югаславіі і ад'езд з Белграда [...]

*1947 г.*

# ДА 1100-ГОДДЗЯ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

У другой палове XX ст., калі граматнасць стала самай неабходнай жыццёвай патрэбай чалавека, калі на задавальненне гэтай патрэбы працуе паліграфічная тэхніка самай высокай дасканаласці, мы не можам без пачуцця глыбокай пашаны не ўспомніць тых далёкіх продкаў, якія з'явіліся піянерамі ў гэтай справе і паклалі пачатак нашай славянскай пісьменнасці. Да ліку іх у першую чаргу належаць выдатныя культурныя дзеячы ранняга сярэдневечча, славутыя асветнікі балгарскага народа Кірыла і Мяфодзій. Праўда, ёсць некаторыя гістарычныя звесткі, што славянскія народы, у прыватнасці народы старажытнай Русі, яшчэ раней, да пачатку дзейнасці Кірылы і Мяфодзія, мелі ўжо сваю пісьменнасць. Аднак, калі гэта нават і так, няма ніякага сумнення ў тым, што дзейнасць гэтых першых вядомых нам славянскіх асветнікаў паставіла справу развіцця славянскай пісьменнасці на больш шыро-

кі і трывалы грунт і зрабіла яе моцнай зброяй у барацьбе славянскіх народаў супраць чужаземнай экспансіі.

Не выпадкова зараджэнне славянскай пісьменнасці звязваецца з гісторыяй славянскіх народаў старажытнай Балгарыі і Маравіі. У перыяд ранняга сярэдневечча Балгарскае царства дасягнула найбольшага эканамічнага і палітычнага развіцця ў параўнанні з іншымі славянскімі народамі таго часу. Балгарыя мела непасрэдныя і найбольш блізкія сувязі з народамі антычнай культуры. На яе тэрыторыі ў г. Салуні і нарадзіліся выдатныя асветнікі Кірыла і Мяфодзій. У 862 г. па запрашэнню мараўскага князя Расціслава яны накіраваліся ў Маравію, дзе і разгарнулі сваю асветніцкую работу, стварыўшы адменную славянскую азбуку і перакладаючы кнігі на славянскую мову.

Дзейнасць іх іменна ў Маравіі была выклікана тым, што там з асаблівай сілай адчуваўся ўплыў паўднёвых германскіх лацінiстаў...

Гісторыкам дакладна невядомы год пачатку іхняй работы. Але, як гаворыць сказанне «жыція» Кірылы, з'явіўшыся ў 862 г. у Маравію, Кірыла і Мяфодзій прынеслі з сабой свяшчэнныя і багаслужэбныя кнігі на славянскай мове. Адсюль можна меркаваць, што зараджэнне іх дзейнасці адносіцца да пачатку 860-х гадоў. Такім чынам, можна сказаць, сёння мы адзначаем 1100-ю гадавіну заснавання славянскай пісьменнасці.

Усе славянскія народы з пачуццём глыбокай удзячнасці балгарскаму народу адзначаюць гэтую дату. Радасна адзначыць, што балгарскі народ, даўшы славянству сваіх выдатных асветнікаў, народ высокай старажытнай культуры, пазбыўшыся шматвяковай турэцкай няволі, вызвалены ад фашысцкага ярма, сёння ідзе ў першых радах краін сацыялістычнага лагера, з'яўляецца нястомным барацьбітом за мір, за дружбу і прагрэс народаў.

*1962 г.*

## О ПОЕЗДКЕ В ЮГОСЛАВИЮ НА ПРАЗДНОВАНИЕ 1050-ЛЕТИЯ СО ДНЯ СМЕРТИ КЛИМЕНТА ОХРИДСКОГО

Основные торжества, посвященные 1050-летию со дня смерти одного из создателей славянской письменности Климента Охридского, проводились в Югославии (точнее в Македонии) 10—12 сентября 1966 года. Торжества носи-

ли международный характер. В них принимали участие представители научных учреждений республик Югославии и всех славянских стран (за исключением Украины), а также слависты Англии, Австрии, Венгрии, Германии, Италии, США, Финляндии и др. Среди участников кроме официальных делегатов много было зарубежных туристов. От Советского Союза в праздновании участвовали член-корреспондент АН СССР директор Института этнографии Ю. В. Бромлей и я, а также советник нашего посольства в Югославии тов. Киселев.

Празднование началось 10 сентября в Охриде, где проходила основная деятельность Климента Охридского, встречей гостей в гостинице «Палас», устроенной ректором Скопльского университета Ксенте Ботоевым. Мы не смогли присутствовать на этой встрече, так как прибыли из Белграда в Охрид только в другой половине дня.

В тот же день в пять часов дня на могиле Климента Охридского состоялся митинг, на котором с речью выступил председатель Исполнительного Совета Македонии Никола Минчев. Вечером 10 сентября на торжественном собрании в Доме культуры доклад о жизни и деятельности Климента Охридского прочел председатель Комитета по проведению юбилея видный македонский писатель и ученый Блаже Кониски.

11 сентября Скопльский университет устроил в Охриде научное собрание с участием общественности, на котором с короткими речами, посвященными Клименту Охридскому, выступали представители разных стран исключительно на славянских языках. Я выступил на белорусском языке. Речь была принята хорошо, в сокращенном виде она напечатана 13 сентября в республиканской газете «Нова Македонија». (Имеется в виду опубликовать все речи в сборнике, для чего текст моего выступления я посылаю сейчас в Скопле). В тот же день состоялось открытие выставки славянской письменности, а затем прием, устроенный председателем Исполнительного Совета Македонии Николай Минчевым.

Следующий день празднества (12 сентября) начался приемом, устроенным Македонским митрополитом Досифеем, а затем состоялась поездка по Охридскому озеру в монастырь св. Наума, сподвижника Климента Охридского. На этом официальные торжества закончились. После это-

го мы с Ю. В. Бромлеем побывали еще в Скопле, выезжали оттуда в македонскую деревню, осматривали памятники старины. В Белграде мы побывали в Институте этнографии. Встречали нас повсюду дружески и радушно.

Торжества в Охриде проходили, можно сказать, хорошо, под знаком укрепления дружбы между народами.

В заключение хочется высказать пожелание, чтобы на юбилей 450-летия белорусского книгопечатания были приглашены представители Македонии, в частности профессор Блаже Кониски.

*1966 г.*

## ПРАМОВА НА НАВУКОВЫМ СХОДЗЕ Ў СКОПЛЬСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ Ў ОХРЫДЗЕ (ЮГАСЛАВІЯ) 11 ВЕРАСНЯ 1966 г.

Паважаныя таварышы, дарагія сябры! Паступальнае развіццё чалавечай культуры ніколі не адбываецца па роўнай і прамой лініі. Аднак гэта лінія заўсёды з'яўляецца суцэльным і непарыўным ланцугом, з якога нельга выключыць ні аднаго звяна. Асабліва важны і дарагі чалавецтву пачатковыя звенні гэтага ланцуга, падключаючыся да якіх народы і нэрошчваюць безупынны рух прагрэсу.

У гісторыі развіцця культур усіх народаў такімі важнейшымі пачатковымі звеннямі з'яўляецца пісьменнасць, якая дазваляе вопыт і здабыткі папярэдніх пакаленняў перадаваць наступным. У гэтым сэнсе высакародная дзейнасць Клімента Охрыдскага, якога мы па праву называем, услед за яго настаўнікамі Кірылам і Мяфодзіем, заснавальнікам славянскай пісьменнасці, была і вечна будзе гордасцю ўсіх славянскіх народаў.

Вялікі асветнік, першы самабытны пісьменнік славянскага свету, Клімент Охрыдскі нястомна сеяў тыя добрыя зерні, з якіх брала пачатак і старажытная літаратура Кіеўскай Русі — агульнай калыскі трох сучасных усходнеславянскіх брацкіх народаў: рускага, украінскага і беларускага. Вось чаму ўрачыстасці, прысвечаныя вялікаму

сыну славянскіх народаў Балканскіх краін, з'яўляюцца сапраўдным святам і нашай беларускай пісьменнасці і літаратуры, святам і нашага беларускага народа.

Мне ў гэтыя ўрачыстыя дні выпаў высокі гонар пакланіцца ад імя беларускага народа гэтай свяшчэннай зямлі, дзе праходзіла асноўная дзейнасць вялікага асветніка, і выказаць вам, яго патомкам і наследнікам, глыбокую падзяку за ваша запрашэнне на гэтае свята, за тое, што нашы народы так свята шануюць памяць выдатнага дзеяча і так руплівa множаць яго багацці.

Беларускі народ нароўні з іншымі ўсходнеславянскімі народамі на світанні развіцця сваёй пісьменнасці і літаратуры карыстаўся гэтымі багаццямі. Можна б напомніць, напрыклад, аб шматлікіх перакладах з моваў балканскіх славян на старадаўнюю беларускую мову. У сваю чаргу беларускі народ таксама шчодра дзяліўся сваімі культурнымі каштоўнасцямі з народамі цяперашняй Югаславіі. Ужо ў далёкім мінулым сярод паўднёвых славян былі вядомы і творы Кірылы Тураўскага, і Мялеція Сматрыцкага, і іншых беларускіх дзеячоў.

Узаемаадносіны нашых брацкіх народаў складаюць працяглы і вельмі плённы працэс узаемных культурных уплываў і ўзаемнага ўзбагачэння. Бессмяротная спадчына Кірылы і Мяфодзія, Клімента і Навума і іншых славянскіх першаасветнікаў, прымножаная і ўзбагачаная ў тысячы і тысячы крат таленавітымі славянскімі народамі, паставіла іх культуру на адно з выдатных месц ва ўсім свеце.

На працягу многіх вякоў, баронячы сваю незалежнасць, славянскія народы пільна берaглі сваю вялікую культурную спадчыну, сваё права на далейшае яе самабытнае развіццё і росквіт. Я думаю, няма патрэбы прыгадваць сёння гэтую барацьбу. Але трэба прыгадаць, як у гэтай сумеснай барацьбе заўсёды расла, мацнела і гартавалася дружба нашых народаў.

У наш час перад нашымі краінамі стаяць агульныя задачы і мэты — будаўніцтва сацыялістычнага і камуністычнага грамадства. Гэта яшчэ больш зблізкае нашы народы, цэментуе іх дружбу, пашырае магчымасці культурнага абмену.

Перадаючы вам шчырае, сардэчнае прывітанне беларускага народа, віншуючы ад яго імя са слаўным 1050-гадовым юбілеем Клімента Охрыдскага, я жадаю працавітаму

і таленавітаму народу Македоніі і ўсім народам брацкай Югаславіі вялікага шчасця ў жыцці і ў працы.

Няхай дружба паміж народамі Савецкага Саюза і народамі Югаславіі будзе нашай вечнай радасцю!

*1966 г.*

# ФРАНЦЫСК (ГЕОРГІЙ) СКАРЫНА І ЯГО ДЗЕЙНАСЦЬ

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА СЕСІІ АН БССР, ПРЫСВЕЧАНАЙ 450-ГОДДЗЮ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ, 16 ЖНІЎНЯ 1967 г.

У гэтыя дні па ўсёй нашай рэспубліцы мільёны вуснаў вымаўляюць імя Францыска (Георгія) Скарыны. Газеты і часопісы друкуюць аб ім артыкулы, па радыё і тэлебачанні расказваюць пра яго жыццё і дзейнасць. Імя яго авеяна легендамі — легендамі і добрымі і не вельмі прыемнымі. Бо калі мы легендарнай называем гістарычную веліч асобы Ф. Скарыны, так шматгранна праяўленую ім у разнастайнай культурнай і навуковай дзейнасці, калі справа ідзе аб легендарным па сіле ўздзеянні яго на далейшы разумовы прагрэс у краіне,— гэта добрая, заслужаная ім легендарнасць. Але калі мы часамі высокімі легендамі думаем запоўніць прабелы ў вывучэнні жыцця і спадчыны Ф. Скарыны — гэта не вельмі прыемная легендарнасць. У такія моманты хочацца звесці вялікага асветніка з гэтай псеўдалегендарнай вышыні на нашу рэальную зямлю, на якой ён жыў, працаваў, змагаўся і для росквіту якой аддаваў свой талент, розум і веды.

Я думаю, што Аддзяленне грамадскіх навук АН БССР правільна зрабіла, калі, заслухаўшы і абмеркаваўшы ўдумлівы і дакументальна абгрунтаваны даклад старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства кандыдата філалагічных навук Аркадзя [Іосіфавіча] Жураўскага, ліквідавала адну з такіх невядома кім і калі створаных легенд і пастанавіла называць нашага першадрукара Францыск (Георгій) Скарына, аддаючы перавагу пры скарочаным напісанні і вымаўленні першаму імені — Францыск. Учора пра гэта падрабязна гаварыў акадэмік П. У. Броўка, таму я не буду тут прыводзіць аргументацыі, але паўтараю, таму што для нас гэта вельмі важна.

Цэнтральны Камітэт КПБ і грамадскасць рэспублікі падтрымалі прапанову Аддзялення. Не спадабалася яна толькі «заступнікам» за Скарыну за акіянам. Ну што ж, палемізаваць з імі мы не збіраемся, бо ў гэтым нашаму народу няма патрэбы. Шануючы свайго вялікага земляка, дакранаючыся да пятленных старонак ягоных кніг, беларускі народ хоча адчуваць не толькі тытанічную працу свайго сына, а і яго рэальны, жывы вобраз чалавека з пэўным імем, якое ўвайшло ў гісторыю і праз яго кнігі, і праз шматлікую літаратуру, прысвечаную яго жыццю і дзейнасці.

Кім жа ўсё-такі быў Фр[анцыск] (Георгій) Скарына?

Пэўных і верагодных даных пра гэтага выдатнага чалавека засталося небагата. Але і на падставе іх мы з пэўным правам можам услед за вядомым даследчыкам кнігі чл.-кар. АН СССР А. А. Сідаравым паўтарыць выдатную характарыстыку, дадзеную ім нашаму земляку:

«Скарына,— падкрэслівае ён,— выдавец, а не тыпаграфшчык, не друкар, не работнік станка. Ён — вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ён — ідэёлаг, рэдактар, мовавед і грамадскі дзеяч. Ён перш за ўсё патрыёт і асветнік» (Книга IX, 15).

Я, зразумела, не стаўлю перад сабой мэты ахапіць усю рознабаковую дзейнасць Ф. Скарыны, тым больш не магу дапоўніць вельмі скупых даных якімі-небудзь новымі фактамі. Я хачу толькі падкрэсліць, што вывучэнне жыцця і дзейнасці Скарыны патрабуе і заслугоўвае вялікіх калектыўных намаганняў, патрабуе нястомных новых і новых пошукаў, якія вельмі часта, калі справа ідзе аб новых фактах, могуць і не ўвянчацца канкрэтнымі поспехамі. Перафразуючы словы паэта, можна сказаць, што расшуканні ў гэтым напрамку падобны на здабычу радыя — «в грамм добыча — в год труды». Але кожная крупінка, якая дабаўляе штосьці новае ў нашы веды пра Ф. Скарыну, дарагая не толькі для вучоных, а і для нашага народа.

Я з вялікай удзячнасцю хачу адзначыць у сувязі з гэтым нястомную працу нашага паважанага госця выдатнага вучонага з Чэхаславакіі Антонія Васільевіча Флароўскага, які сваімі доследамі, новаадкрытымі дакументамі і ўсё новымі і новымі пошукамі ўнёс і ўносіць плённы ўклад у справу вывучэння жыцця і дзейнасці Скарыны.

На падставе падобных глыбокіх даследаванняў, найбольш грунтоўны пачатак якім перш за ўсё паклаў калісь-

ці сваёй манаграфіяй «Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык» П. В. Уладзіміраў і якія затым былі прадоўжаны і вядуцца і зараз рускімі, украінскімі, беларускімі і іншымі вучонымі, мы маем ужо сёння пэўную біяграфічную канву Ф. Скарыны, аналіз яго дзейнасці і асэнсаванне яе гістарычнага значэння. Зразумела, што гэтыя даследаванні грунтуюцца не толькі на добра вядомых і пэўных дакументах, але і ў іх выказваюцца часта і тыя ці іншыя здагадкі, меркаванні, аднак заснаваны яны не на беспадстаўных легендах, а на супастаўленні праўдзівых фактаў і матэрыялаў. І тут, вядома, могуць быць розныя погляды, якія патрабуюць далейшага абмеркавання, вывучэння і пошукаў.

У гэтым плане я і хачу закрануць некаторыя пытанні, звяртаючы ўвагу нашых беларускіх вучоных на неабходнасць больш глыбокага і ўсебаковага вывучэння спадчыны Ф. Скарыны і яе значэння ў гісторыі культуры нашага народа.

Я мяркую, што няма патрэбы расказваць пра тую біяграфічную канву Скарыны, якая дзякуючы пошукам даследчыкаў усталявалася ўжо грунтоўна. Аднак нельга абысці момантаў, якія патрабуюць удакладненняў і далейшага [вывучэння].

Дакладная дата нараджэння Ф. Скарыны нам невядома. Даследчыкі вызначаюць яе дзесьці паміж васьмідзесятымі — дзевяностымі гадамі XV ст. Пры гэтым разбежка бывае вельмі значная. Гэтымі днямі я прачытаў у адным часопісе катэгарычнае сцвярджэнне, што Скарына нарадзіўся ў 1490 г., без усялякіх агаворак. Часопіс дзіцячы, і я разумею і апраўдваю яго катэгарычнасць, але і для навуковых мэт патрэбна ўсё ж зменшыць гэтую разбежку, якая прасціраецца на добрых дзесяць год. Адны вучоныя сцвярджаюць, што Скарына нарадзіўся ў 80-х гадах XV ст. (Флароўскі, Неміроўскі і інш.), другія, што ў 90-х ці каля 1490 г. (Уладзіміраў, Карскі і інш.).

Наўрад ці далейшыя пошукі дакладнай даты нараджэння Скарыны дадуць дадатныя вынікі. Аднак для практычных мэт такая дата патрэбна. Вось чаму, выступаючы супраць неабгрунтаваных легенд, я ўсё ж хацеў бы звярнуць увагу даследчыкаў на меркаванне Шчакаціхіна, які на падставе астранамічных вылічэнняў назваў такой датай 6 сакавіка 1486 г. У свой час гэта дата была названа фантастычнай, але гэтага дапушчэння ніхто грунтоўна не раз-



У час закладкі помніка Францыску (Георгію) Скарыне ў Полацку, 1967 г.

глядаў і не абверг. Тым больш яно патрабуе далейшага даследавання, што і вылічэнні другіх даследчыкаў блізкія да гэтага 1486 г. Так, А. В. Флароўскі зазначае ў адным месцы, што ў 1517 г. Скарыне магло быць ужо каля трыццаці гадоў. Калі падлічыць, акажацца, што гэта і будзе 1486 або 1487 г.

Маладаследаванымі ў біяграфіі Скарыны з'яўляюцца і яго знаходжанне ў Кракаве і паездка ў Кёнігсберг, дзе, мне здаецца, для вывучэння, скажам, кракаўскага універсітэцкага асяроддзя матэрыялаў значна больш.

Вельмі важным з'яўляецца таксама высвятленне пытання аб тым, у якога епіскапа быў сакратаром Скарына — праваслаўнага ці каталіцкага, таму што гэта можа праліць святло на веравызнанне Скарыны, а гэта ў сваю чаргу дапаможа вытлумачыць і каталіцкае імя Скарыны і некаторыя матывы яго дзейнасці. Пошукі ў віленскіх і іншых архівах у гэтым напрамку могуць, можна спадзявацца, даць дадатныя вынікі.

Найважнейшымі дакументамі аб жыцці і дзейнасці Скарыны з'яўляюцца яго кнігі. Толькі на падставе падрабязнага, усебаковага, глыбокага вывучэння іх мы можам намаляваць сапраўды праўдзівы вобраз Скарыны. Вось чаму вельмі важна высветліць тыя мэты, якія ставіў перад сабой Скарына, выдаючы Біблію.

Мы па справядлівасці называем Скарыну асветнікам і гуманістам. Для гэтага дае нам пэўныя падставы яго праца на карысць народа, яго любоў да народа, яго, безумоўна, прагрэсіўны для свайго часу светапогляд. Аб Скарыне як мысліцелю будзе спецыяльны даклад. Але паколькі пры даследаванні дзейнасці Скарыны гэты момант з'яўляецца адным з цэнтральных, я не магу таксама яго абысці.

Бадай усе даследчыкі пагаджаюцца, што Скарына не выйшаў і не мог выйсці за межы рэлігійнай ідэалогіі, характэрнай для ўсяго духоўнага жыцця таго часу. І гэта правільна. Але, калі пры гэтым Скарыну называюць папярэднікам Рэфармацыі ў Беларусі і тут жа гавораць аб поўнай адсутнасці ў яго крытычных адносін да св[ятога] пісання, мы натыкаемся на яўныя супярэчнасці.

Для высвятлення гэтага пытання патрэбна больш глыбокае даследаванне як прадмоў Скарыны, так і ўсяго саставу яго біблейскіх кніг; толькі ў выніку гэтага перад намі больш выразна паўстануць і мэты яго выдавецкай справы.

Як вядома, Ветхі Завет складаецца з 39 кніг, якія, штучна спалучаючы, лічаць або за 22 (па колькасці літар яўрэйскага алфавіта), або за 24 (па колькасці літар грэчаскага алфавіта). Скарына ў прадмове «во всю Библию» зазначае: «Закон ветхий имать в собе двадесать и четыре книги». Затым пералічае іх, даючы кароткі змест ці характарыстыку прыблізна ў тым парадку, у якім яны ідуць у кананічнай Біблії. Выключэнне робіцца для Кнігі Іова, якую ён пераносіць з 18-га месца і ставіць адразу за Пяцікніжжам.

Мы ведаем, што і пры друкаванні сваіх кніг Скарына не прытрымліваўся парадку кананічнай Біблії, надрукаваўшы спачатку Псалтыр, затым Кнігу Іова, Прытчы Саламона, Прамудрасць Сіраха, Эклезіяст, Песню Песняў, Прамудрасць Саламона і г. д.

Чым выкліканы гэтыя перастаноўкі? Выразнага адказу ў даследчыкаў на гэта няма. А. В. Фламоўскі ў сваёй працы «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і

пісьменнасці» на адной з старонак, між іншым, піша, што «выйшлі ў свет асобнымі выпускамі і ў *выпадковым* парадку наступныя кнігі Ветхага Завету» (ст. 166), і далей пералічвае гэтыя выпускі. Калі гэту выпадковасць трэба разумець у адносінах да кананічнага парадку — справа адна, а калі ў адносінах да планаў і мэт Скарыны — дык тут з паважаным Ант[оніем] Вас[ільевічам] наўрад ці можна пагадзіцца. Мне здаецца, што Скарына кіраваўся тут як сваімі асветніцкімі мэтамі, так і сваім упадабаннем да той ці іншай кніжкі ў адпаведнасці з яе зместам і, я дазволю сабе сказаць, яе мастацкімі якасцямі.

Так, Скарына перш за ўсё выдаў Псалтыр у мэтах навучання па ім грамаце і ўважаючы на тое, што гэта кніга, як ён гаворыць у прадмове, «едина вси тые речи в собѣ замыкаеть і всех тых учить и все проповедуеть,— суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгых скарбов» и г. д.

З скарынінскай характарыстыкі Псалтыра праз рэлігійную абалонку прабіваецца сцвярджэнне псалмаў як паэзіі: «Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пѣнием веселить, а душу учить» (Хр., стар. 172).

І тут жа, раскрываючы значэнне слова «псалтыр», Скарына па сутнасці здымае з яго свяшчэнную афарбоўку: «А зовѣется Псалтырь гудба, едина подобна к гуслям», указвае на розніцу паміж імі: «Ест же той роздел Псалтыри от гуслей. Гуслѣ имеють много струн, Псалтырь же толико имать десеть струн...» (Хр., 172).

Такім чынам, незразумелае для простага чалавека слова «псалтыр», ахутанае свяшчэннай таемнасцю, становіцца ў тлумачэнні Скарыны не набажэнскай кнігай, а назвай музычнага інструмента.

Ці маглі пры рэлігійных мэтах мець месца падобныя тлумачэнні? Безумоўна, не.

Высокую ацэнку дае Скарына і Кнізе Іова, і не толькі таму, што яна вучыць разумець логіку, распазнаваць праўду і крыўду, што яна ёсць «зерцало долготерпения», а і ўважаючы на тое, што ўсе словы ў гэтым зерцале «полны суть розуму», «стихами и гаданием» (г. зн. дыялогам, у размоўнай форме) напісаны «и о воскресении тел наших из мертвых наясней пророкуеть».

Сапраўды, прыпомнім гэту, адну з самых, можа быць, паэтычных кніг Бібліі, прасякнутую, па сутнасці, байранаўскімі багаборчымі матывамі, калі Іоў, звяртаючыся да

бога, гаворыць: «Скажу богу: не обвиняй меня; объяви мне, за что ты со мною борешься? Хорошо ли для тебя, что ты угнетаешь, что презираешь дело рук твоих, а на совет нечестивых посылаешь свет?»

Прыпомнім, якую высокую ацэнку даваў Кнізе Іова М. Горкі, і мы зразумеем і правільна ацэнім упадабанне Скарыны да гэтай кнігі. Зразумела, што Скарына не разглядаў Біблію, як мы разглядаем, расцэньваючы яе як зборнік старажытнаяўрэйскіх гістарычных і публіцыстычных твораў, аповесцей і міфаў, песень і павучанняў. Ён бачыў у ёй безумоўна рэлігійную кнігу, але падкрэсліваў і адкрываў найбольш тыя стораны, якія адзначаем і мы.

Месца Бібліі не толькі ў гісторыі рэлігіі, а і ў гісторыі літаратуры. Яна аказала велізарнейшы ўплыў на сярэдневякоўе і тады, ды і пазней натхняла многіх паэтаў і мастакоў, на яе сюжэты напісаны многія творы. Здзіўляе і тое, што лепшыя вобразы ўражаюць сваёй жыццёвасцю і зараз.

І важна, што гэтыя літаратурныя — мастацкія — стораны Скарына адкрыў ужо тады ў кнігах, якія для многіх былі толькі рэлігійныя.

Сапраўды, прадстаўнік эпохі позняга Рэнесансу, Скарына быў чалавекам усебаковых інтарэсаў і кіпучай энергіі. І ён пакінуў яскравы след геніяльнасці свайго розуму і кіпучай энергіі ва ўсіх галінах культуры,— ад кнігадрукавання, права да тэатра. Я не абмовіўся — іменна тэатра...

Калі мы ўважліва прыгледзімся да скарынінскіх прадмоў і супаставім іх са зместам біблейскіх кніг, высунутых ім на першы план, мы заўважым, што падбор і парадак друкавання кніг у Скарыны не выпадковы, што трактоўка іх не царкоўная, а свецкая, хоць і не пазбаўлена традыцыйнай рэлігійнай афарбоўкі, што ў гэтым выявіліся крытычныя адносіны Скарыны да Бібліі.

Мне здаецца, што гэтым крытычным падыходам трэба тлумачыць і тое, што Скарына не завяршыў усёй Бібліі, у прыватнасці, не выдаў ніводнай кнігі Новага Завету, калі не лічыць Апостала, пра які А. А. Сідараў правільна заўважае, што Апостал таксама не збор малітваў і песнапенняў або прытчаў і расказаў аб цудах, што ён не быў напрастольнай «святою» кнігай, да якой прыкладаюцца, цалуюць веруючыя. Такой святой кнігай цудаў было Евангелле ў адрозненне ад кніг Старога Завету, якія духа-

венства, як сведчаць пастановы рымскіх папаў і царкоўных саноўнікаў, простаму народу забараняла чытаць.

Праўда, у некаторых даследаваннях выказваюцца думкі, што Скарына, хоць і не выдаў, але пераклаў усю Біблію. Спасылаюцца пры гэтым на падабенства перакладаў некаторых рукапісаў са скарынінскімі выданнямі. Гэтае меркаванне таксама патрабуе далейшага больш глыбокага вывучэння, як і меркаванне аб прычынах, па якіх Скарына спыніў сваю друкарскую дзейнасць. Мне думаецца, што тут галоўную ролю сыгралі не матэрыяльныя і сямейныя акалічнасці, а ідэйныя разыходжанні паміж Скарынам і яго віленскімі апекунамі, у прыватнасці іхнія розныя погляды на тое, якую літаратуру патрэбна друкаваць. Безумоўна, што Скарына трымаўся сваіх асветніцкіх мэт, у той час як асобам, якія фінансавалі яго прадпрыемства, выгадней было выдаваць літаратуру набажэнскую. Вывучэнне саставу скарынінскай Бібліі, характарыстыка асобных яе кніг павінны стаць у цэнтры ўвагі пры даследаванні дзейнасці Скарыны, яе мэт і значэння.

З часу, калі адзначалася чатырохсотгоддзе беларускага кнігадрукавання, і да нашых дзён з'явілася нямала прац, прысвечаных Ф. Скарыне. У Скарыніяне А. В. Флароўскага, якую ён перадаў нашай Акадэміі для апублікавання і з якою я меў магчымасць азнаёміцца, падаецца вельмі шырокая бібліяграфія.

Многа цікавых і каштоўных прац, а таксама раздзелаў, прысвечаных Скарыне, з'явілася ў рускім друку ў сувязі з адзначэннем 450-годдзя рускага кнігадрукавання.

Значную актыўнасць у вывучэнні спадчыны Скарыны праявілі і нашы беларускія вучоныя: гісторыкі, філосафы, моваведы, літаратуразнаўцы. З'явіліся не толькі асобныя артыкулы, а і манаграфіі Алексютовіча, Майхровіча і іншых.

Але ў гэтым напрамку працы яшчэ непачаты край. Трэба пашырыць вывучэнне мовы скарынінскіх выданняў, у прыватнасці, трэба правесці шырокі і канкрэтны супастаўны аналіз яго перакладаў, параўноўваючы іх з тэкстамі, якімі мог карыстацца Скарына, з папярэднімі беларускімі і агульнаславянскімі літаратурнымі помнікамі розных стыляў.

Ад гісторыкаў грамадскасць чакае даследаванняў скарынінскай эпохі, тагачасных эканамічных, культурных і іншых сувязей беларусаў з Маскоўскай дзяржавай, з

Чэхіяй, з Польшчай і з іншымі краінамі. Толькі на гэтым шырокім гістарычным фоне можна зразумець і правільна абрысаваць веліч скарынінскіх здзяйсненняў.

Вялікую работу належыць правесці філолагам па вывучэнню скарынінскага вершаскладання, яго поглядаў на мастацкае, на паэзію, для чаго спадчына Скарыны дае немалыя матэрыялы. Я ўжо не гавару пра вывучэнне скарынінскіх гравюр, якімі пасля Шчакаціхіна ў нас, бадай, ніхто не займаўся. Між тым многія з іх, як, напрыклад, партрэт Скарыны (дарэчы, якіх у Бібліі не два, а тры), як многія застаўкі і буквіцы, з'яўляюцца ўзорамі тагачаснай графікі і ацэнены выдатным рускім мастацтвазнаўцам Стасавым як каштоўнейшы ўклад у наша мастацтва.

Нашы кнігаведы і мастацтвазнаўцы павінны зрабіць падрабязнае апісанне скарынінскіх выданняў, правесці аналіз шрыфтоў, тэхнікі друкавання і інш.

Патрэбна таксама выдаць усе дакументы, якія маюць дачыненне да жыцця і дзейнасці Скарыны.

На падставе асобных даследаванняў, праведзеных агульнымі намаганнямі вучоных рэспублікі, можна і трэба выдаць нарэшце фундаментальную манаграфію пра Скарыну, якая б з марксісцкіх пазіцый асвятляла тагачасную эпоху, дзейнасць і значэнне ў гісторыі народа выдатнага пачынальніка друкаванага слова, чалавекалюбца, сейбіта дабра і святла, які пакінуў нам у спадчыну найвялікшае дасягненне чалавецтва — кнігу.

Кніга — гэта вечны незгасальны агонь людскога сэрца і розуму. На працягу вякоў яна была адзіным з самых пэўных сродкаў перадачы вопыту ад пакалення ў пакаленне. Яна адзіны жывы сведка чалавечага прагрэсу. Не зважаючы на новыя тэхнічныя сродкі фіксацыі і перадачы гэтага вопыту ў нашу эпоху, кніга і цяпер служыць і надалей будзе нязменна служыць чалавеку. Асабліва вялікая яе роля ў нашым сацыялістычным грамадстве, калі ўсеагульная пісьменнасць і адукаванасць людзей, калі шырокі размах выдавецкай і бібліятэчнай справы зрабілі яе даступнай усім і кожнаму. Вось чаму савецкія народы так глыбока шануюць пачынальнікаў кнігадрукавання, якім у нашай краіне, поруч з іншымі падзвіжнікамі гэтай справы, з'яўляецца і выдатны сын беларускага народа Францыск (Георгій) Скарына.

*1967 г.*

# ЛЮБІМЫ ГОРАД

Стоячы на парозе другой паловы XX стагоддзя, людзі з цікавасцю імкнуцца заглянуць у далячынь і ўявіць сабе — што ж будзе праз наступныя пяцьдзесят год? Я ведаю, што нават самая крылатая фантазія не можа ахапіць ва ўсёй канкрэтнай рэальнасці воблік чалавечай будучыні. Аднак прыгледзьцеся да сучаснасці нашай Радзімы, прыгадайце яе гераічны ратны і працоўны шлях за мінулыя пяцьдзесят год, і перад вамі пачне разгортвацца вялікасная карціна будучыні.

Пачатак нашага стагоддзя быў адзначаны непагаснай ленінскай «Искрой», з якой разгарэлася полымя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі [...] За кароткі параўнальна гістарычны час савецкія народы пад выпрабаваным кіраўніцтвам партыі Леніна прайшлі велізарны гістарычны шлях — ад цемры капіталістычнай і феадальнай мінуўшчыны да сонца сацыялістычнай сучаснасці.

Вячыстыя адбіткі гэтага магутнага поступу эпохі ляжаць на камені гарадскіх вуліц і на грунце палявых дарог. Мы ва ўсёй паўнаце адчуваем гэта, калі глядзім на поступ беларускай сталіцы — аднаго з самых старых і самых маладых гарадоў нашай рэспублікі.

Хтосьці сказаў, што гарады, як і людзі, маюць свае аблічча, свой характар, сваю душу. З гэтым, бадай, нельга не пагадзіцца. Аднак аблічча не заўсёды адпавядае характару.

Мы ўсе добра яшчэ памятаем малюнак, які часта трапляўся ў старых кнігах аб Мінску. На здымку адкрываўся від на «Высокае Месца» горада (цяперашняя плошча Свабоды) з паўночнага боку, з-за Свіслачы. На пярэднім плане відаць быў драўляны паркан, за ім — дахі дробных будынкаў, а над імі — вежы касцёла.

Такі выгляд меў калісьці Мінск, і аблічча яго амаль не мянялася на працягу дзесяцігоддзяў. Але гэты знешні выгляд горада, мне здаецца, не перадаваў поўнасцю яго характару і тым больш яго душы. Варта толькі перагарнуць старонкі гісторыі, і мы пераканаемся, што наш любімы горад — гэта горад-воін і горад-будаўнік.

Нямецка-фашысцкія варвары ў сваёй шалёнай нянавісці да людской славы і гордасці імкнуліся знішчыць не толькі наша сучаснае, але і наша мінулае. Стары Мінск амаль цалкам пахаваны пад руінамі і попелам. Але перад

намі нясцынна ўзнімаецца новы Мінск, і яго дарагія нам рысы мужнага воіна і нястомнага будаўніка раскрываюцца цяпер ва ўсёй сваёй красе і велічы. Відаць, што душа горада жыве не толькі і не столькі ў яго халодным камені, колькі ў гарачых сэрцах лепшых людзей, а праўда ж аб іх перадаецца з пакалення ў пакаленне, падобна да легенды.

Слаўнае імя нашага горада ўпамінаецца ўпершыню ў гісторыі каля дзевяцісот гадоў таму назад, і ўпамінаецца яно ў сувязі з баявымі дзеяннямі мінчан. З тых дат на Мінск пасягала нямала захопнікаў, і ўсе разбівалі свае галовы аб яго цвярдыні.

У 1249 годзе мінчане непадалёку ад горада нашчэнт разбілі татарскага палкаводца Кайдана. На працягу доўгага часу татарскія орды не раз яшчэ прабавалі завалодаць горадам. Для абароны ад ворага воіны і будаўнікі Мінска акружылі яго земляным валам, збудавалі на Свіслачы і Нямізе замак і ўсцераглі горад ад чужаземнага заняволення.

У час вайны са шведамі акружны гарадскі вал быў разбураны. Але горад не здаўся на літасць ворага. Мінчане надпальвалі гарадскія склады і свае ўласныя будынкі, сустракаючы шведскіх захопнікаў агнём і партызанскімі налётамі.

Адважнай партызанскай барацьбой у ваколіцах Мінска сустрэлі і правялі нашы продкі і полчышчы Напалеона.

Ужо з самых даўніх часоў мінчане вызначаліся не толькі як адважныя воіны, але і як выдатныя майстры. Яшчэ ў мінулым стагоддзі ў рове, які акружаў некалі старажытны Мінскі замак, было знойдзена каменнае ядро велічынёй да двух метраў у акружыне. Ужо адно гэта гаворыць аб высокім майстэрстве ваенных вырабаў мінчан. Яшчэ на вышэйшым узроўні стаялі гамарныя, срэбныя, валюшныя і іншыя вырабы старажытных мінскіх рамеснікаў.

Беларуска-літоўскія і польскія магнаты на працягу стагоддзяў жорстка эксплуатавалі і нявечылі гэтыя самародныя таленты.

Загляніце ў любы даведнік, і вы прачытаеце, чым вызначаўся дарэвалюцыйны Мінск. У ім было пару гарбарань, дзве салатопні, піваварня і яшчэ некалькі дробных прадпрыемстваў, найбольшы лік рабочых у якіх рэдка да-

сягаў пяцідзесяці чалавек. Затое ў горадзе было два манастыры, пятнаццаць цэркваў, дваццаць пяць сінагог, чатыры касцёлы, дзве кірхі...

Цяпер, калі ў Мінску налічваюцца дзесяткі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў; калі тут вядзе сваю работу Акадэмія навук і іншыя даследчыя інстытуты з тысячамі супрацоўнікаў; калі горад мае выдатныя бібліятэкі, тэатры і кіно; калі тут працуюць сотні настаўнікаў і ўрачоў, інжынераў і тэхнікаў,— цяпер нам страшна чытаць старыя даведнікі аб Мінску.

Перад рэвалюцыяй у нашым горадзе было толькі пяцьшэсць сярэдніх школ і ніводнай вышэйшай. Адзінай «навуковай інстытуцыяй» з'яўляўся арганізаваны ў 1909 годзе «Царкоўны гісторыка-археалагічны камітэт», у якім засядаў архіерэй, пару папоў і чыноўнікаў і адна велікасвецкая дама. Бібліятэка гэтай, з дазволу сказаць, «навуковай інстытуцыі» складалася з ахвяраваных рознымі асобамі 490 кніг, а гадавыя выдаткі на «навуку» дасягалі 80 рублёў 59 капеек. Нядарам дасціпныя мінчане смяяліся, што на абаранках у трох архіерэйскіх карчмах больш зарабляюць не ў год, а ў дзень.

Чыноўніцкі і купецкі Мінск аб'ядаўся, апіваўся, разводзіў плёткі і драмаў.

Гандляры таварам і чалавечым сумленнем, усе гэтыя пустыя фанабэрыстыя франты і тупыя купцы зіхацелі сваім золатам і самацветамі на паверхні горада, а золата чалавечых душ было ўтаптана ў гразь і замуравана ў сутарэннях. Але святло чалавечага розуму прабівалася на свет і адтуль. Ненавідзячы ўсю гэтую дваранска-купецкую цвіль, працоўныя мінчане мужна ўступілі ў адкрытую барацьбу за свае чалавечыя правы. І мы ганарымся слаўнымі справамі нашых продкаў.

Мы ганарымся тым, што ў Мінску ў сакавіку 1898 года адбыўся першы з'езд РСДРП. Мы дбайна аднавілі просты домік пры Круглай плошчы, у якім адбывалася гэтая падзея, і захаваем яго для патомства.

Мы ганарымся моцным і дружным мінскім атрадам рабочага класа, які ў 1905 годзе асвяціў сваёй крывёю брук Прывакзальнай плошчы.

Мы не забудзем бурных, вялікасных падзей, якія адбываліся ў Мінску ў 1917 годзе. Тут выдавалася першая ў Беларусі бальшавіцкая газета «Звязда». Тут выступалі сярод рабочых і салдат Арджанікідзе, Валадарскі і Нагін.

Тут працаваў у тыя дні верны ленінец М. В. Фрунзе. Пад яго кіраўніцтвам рабочыя і салдаты Мінска ліквідавалі ў горадзе царскія парадкі, грудзьмі сваімі абаранялі свабоду ад карнілаўскіх мяцежнікаў і старанна рыхтаваліся да сацыялістычнай рэвалюцыі. Мы ганарымся, што савецкая ўлада ў Мінску была абвешчана ў той жа сёмы дзень лістапада, што і ў Петраградзе.

З тых дат і навекі разняволены творчыя сілы нашага народа. Праўда, неўзабаве працоўным Мінска зноў давялося ўзяць у рукі вінтоўкі, каб абараняць свой горад. І наш горад-воін зноў унісаў залатыя старонкі ў гісторыю змагання за свабоду беларускага народа. Мінск у час першай нямецкай акупацыі быў цэнтрам падпольнай работы беларускіх бальшавікоў. Тут нелегальна выходзіла бальшавіцкая газета «Падпольная праўда». Тут у 1918 годзе па Школьнай вуліцы адбылася першая падпольная канферэнцыя РКП(б) Мінскага раёна. Тут праходзілі забастоўкі і дэманстрацыі, накіраваныя супраць нямецкага панавання.

У нашых сэрцах і дагэтуль гучаць словы Я. М. Свярдлова, сказаныя ім у Мінску ў цяперашнім тэатры імя Я. Купалы на 1-м Усебеларускім з'ездзе Саветаў:

— Рускі пралетарыят ніколі не забудзе таго, што Вы першымі прынялі на сябе ўдары і націск германскага імперыялізму, спыніўшы яго прасоўванне ў глыб краіны.

З гэтымі словамі пераклікаюцца і не моўкнуць у сэрцах мінчан словы незабыўнага ўсесаюзнага старасты М. І. Калініна, сказаныя ім на пасяджанні мінскіх савецкіх і прафсаюзных арганізацый у 1919 годзе.

«Я не сумняваюся,— гаварыў М. І. Калінін,— што ва ўсе цяжкія моманты на Заходнім фронце Расія будзе вас абараняць. Гэты саюз дасць вам магчымасць перамагчы нашых ворагаў і ўмацаваць уладу абедзвюх сацыялістычных савецкіх рэспублік».

Калі ворагу ўдалося ўварвацца ў горад, бальшавікі Мінска нястомна працавалі ў падполлі. У закінутым доміку на Мала-Татарскай вуліцы была абсталявана падпольная друкарня. У Козараве быў створаны штаб партызанскай арганізацыі.

Мужныя патрыёты свайго народа і свайго любімага горада, мінскія партызаны самаахвярна змагаліся з ашалелымі бандамі пілсудчыкаў. У памяці мінчан дагэтуль жывуць імёны Васіля Пагірэйчыка і яго таварышаў, якія,

ідучы на кару, перад тварам немінучай смерці адважна спявалі на вуліцах Мінска:

> Загіне няволя, паўстане народ,
> Вялікі, магутны, свабодны...

І няволя загінула. Чырвоная Армія вызваліла сталіцу Беларусі. Вялікі, магутны, свабодны беларускі народ паўстаў да свабоднай творчай працы. Расла і квітнела наша рэспубліка ў сям'і раўнапраўных савецкіх рэспублік. Рос і квітнеў і наш родны, любімы горад. Але на краіну сацыялізма насунулася новая навала—нямецка-фашысцкія орды.

У барацьбе з гітлераўскімі полчышчамі сталіца нашай рэспублікі ўпісала ў сваю гісторыю самую бліскучую старонку. Пад Мінскам браніраваныя армады Гудэрыяна страцілі сотні сваіх танкаў і дзесяткі тысяч салдат. Толькі пасля таго, як Мінск быў акружаны, фашыстам удалося ўварвацца ў горад.

Але мінчане не склалі зброі. Узнятыя і арганізаваныя Камуністычнай партыяй (бальшавікоў) Беларусі і яе ЦК, яны працягвалі барацьбу з гітлераўскімі захопнікамі і ў акупіраваным горадзе. У Мінску ўзніклі першыя падпольныя арганізацыі. У Мінску быў арганізаваны выпуск газеты «Звязда». У Мінску зарадзіліся многія партызанскія брыгады. Тут знайшлі сваю ганебную пагібель тысячы фашысцкіх разбойнікаў і гвалтаўнікоў.

Мы вярнуліся ў Мінск пасля вызвалення яго Савецкай Арміяй на папялішчы і руіны. Вуліцы былі аблытаны калючым дротам і перакрыжаваны дотамі. Дагаралі апошнія будынкі. А калі патухлі пажары, начамі стаяла непраглядная цемра. Горад здаваўся вымершым. Але з усіх уцалеўшых сцен рваўся голас чалавечай душы:

— Мы цябе адбудуем, родны горад!

Мінчане стрымалі сваю клятву. Яшчэ зусім нядаўна, чатыры-пяць год таму назад, мы марылі аб тым, якім будзе Мінск. Сягоння ён такім уступае ў другую палову XX стагоддзя. Мінск стаў магутным індустрыяльным і культурным цэнтрам рэспублікі. Трактары і аўтамабілі, станкі і кафля, веласіпеды і радыёпрыёмнікі, сукно і абутак — усё гэта выпрабляецца цяпер у нашым горадзе.

Калісьці нават цэнтральныя магістралі Мінска забудоўваліся па крывой ломанай лініі, якую пракладаў першы падарожны. Мы выпрамляем не толькі вуліцы горада,

а і яго долю. Знешні яго воблік пачынае цяпер поўнасцю адпавядаць яго душы. Горад выдатных змагароў і будаўнікоў, горад мужных партызан і працавітых стаханаўцаў стаў горадам самых прыгожых і магутных збудаванняў. Над ім не змаўкаюць гудкі заводаў і фабрык. Зімой уздоўж яго вуліц у срэбных уборах стаяць дрэвы. Летам ён зелянее ў парках і садах. Над яго возерам кружаць белакрылыя чайкі.

Мінск паўстаў з руін і попелу дзякуючы клопатам нашай партыі, дзякуючы брацкай дапамозе ўсіх савецкіх народаў, дзякуючы нашай нястомнай працы. Любімы свой горад будуе ўся рэспубліка — віцябляне і магілёўцы, гродзенцы і гамяльчане — муляры і цеслі з усіх канцоў Беларусі.

Гледзячы на яго другое нараджэнне, не цяжка ўявіць, якой будзе яго сталасць. Ён пройдзе стагоддзе, як і ўступіў у яго. І ў гэтым яго сіла, краса і шчасце цяпер і ў будучым.

*1951 г.*

## КАШТОЎНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ [1]

### ПЕРШАЯ МАНАГРАФІЯ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна выпусціла ў свет кнігу І. М. Лушчыцкага, прысвечаную гісторыі развіцця грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX стагоддзя [2]. Кніга не можа не выклікаць глыбокай цікавасці з боку нашай грамадскасці, што абумоўлена не толькі актуальнасцю самой тэмы і адсутнасцю сур'ёзных даследаванняў у гэтай галіне, але і значнасцю праблемы, характарам яе вырашэння, навізной матэрыялу, свежасцю думак аўтара. Трэба зазначыць, што пытанні гісторыі грамадскай думкі не атрымалі яшчэ ў нас свайго шырокага асвятлення — толькі ў апошні час яны пачынаюць з'яў-

[1] Рэцэнзія напісана ў сааўтарстве з Л. Фіглоўскай.

[2] І. М. Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX стагоддзя. Мінск, 1958.

ляцца прадметам спецыяльнага вывучэння. А між тым марксісцкае іх вывучэнне мае і гістарычнае, і жыццёва важнае палітычнае значэнне. Яно аднаўляе аб'ектыўную праўду развіцця беларускай культуры і абвяргае ілжывыя меркаванні аб адсутнасці быццам бы ў беларускага народа ўласнай грамадска-палітычнай і філасофскай думкі.

Праца І. М. Лушчыцкага — першае манаграфічнае даследаванне на гэтую тэму, пабудаванае на вялікім архіўным матэрыяле.

У кнізе пераканаўча паказваецца, як беларускі народ пры падтрымцы вялікага рускага народа няўхільна змагаўся за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і як у гэтай барацьбе нараджалася, расла і развівалася ў другой палавіне XIX стагоддзя грамадска-палітычная і філасофская думка.

З гэтай мэтай аўтар, што з'яўляецца зусім правамерным, не абмяжоўвае сваё даследаванне вырашэннем толькі ўласна філасофскіх (гнасеалагічных) пытанняў, а прыцягвае для вывучэння самыя разнастайныя формы выражэння грамадскай думкі, пачынаючы з вуснай народнай творчасці і канчаючы мастацкімі творамі найбольш выдатных пісьменнікаў таго часу.

Аўтар спыняецца на асноўных этапах развіцця перадавой грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі на працягу другой палавіны XIX стагоддзя (перыяд падрыхтоўкі і правядзення рэформы 1861 года, паўстання 1863 года, развіцця капіталізму ў 70—90-я гады). Такім чынам, праца І. М. Лушчыцкага ахапляе ў асноўным разначынны, або буржуазна-дэмакратычны, этап вызваленчага руху.

У пачатку кнігі даецца характарыстыка агульнапалітычнага становішча Беларусі ў перыяд рэвалюцыйнай сітуацыі 1859—1861 гадоў.

На вялікім архіўным матэрыяле ў апублікаваных дакументах пераканаўча паказваецца рост сялянскіх хваляванняў у краіне і даводзіцца, што рэформа 1861 года не паслабіла, а, наадварот, узмацніла сялянскі вызваленчы рух.

Узмоцненая класавая барацьба спрыяла ў сваю чаргу развіццю грамадскай думкі і надавала ёй усё больш востры палітычны характар.

За сацыяльна-палітычнай характарыстыкай у кнізе ідзе аналіз вуснай народнай творчасці з пункту гледжан-

ня адлюстравання ў ёй антыпрыгонніцкіх і антысамадзяржаўных ідэй. І гэта заканамерна не толькі таму, што ва ўмовах праследавання нацыянальнай культуры фальклор быў галоўнай скарбніцай духоўнага багацця народа. Незалежна ад таго ён меў усе падставы быць прадметам філасофскага вывучэння. Адлюстроўваючы грамадска-эканамічныя ўмовы жыцця народных мас, фальклор з'яўляўся найважнейшай крыніцай пазнання іх грамадска-палітычнай думкі. І не выпадкова А. М. Горкі ўказваў, што «сапраўдную гісторыю працоўнага народа нельга ведаць, не ведаючы вуснай народнай творчасці...»

На жаль, нашы даследчыкі яшчэ не падышлі непасрэдна да вывучэння народнай творчасці ў плане раскрыцця ў ёй філасофскіх поглядаў народа. І. М. Лушчыцкі зрабіў у гэтых адносінах першую ўдалую спробу. Ён паказаў, як у беларускім фальклоры знайшлі сваё адлюстраванне глыбокія філасофскія думкі аб паходжанні сацыяльнай няроўнасці, выявіліся агульнапалітычныя погляды народа і яго этычныя ўяўленні — уяўленні пра дабро і зло, праўду і крыўду.

Каштоўным з'яўляецца і тое, што аўтар спыняецца ў працы на філасофскіх поглядах выдатных беларускіх казачнікаў (Рэдкі, Аземша і інш.), якіх А. К. Сержпутоўскі называе сапраўды народнымі мудрацамі.

Побач з вуснай народнай творчасцю ў манаграфіі ў плане пастаўленых у ёй задач разглядаецца ананімная мастацкая літаратура. І. М. Лушчыцкі правільна падкрэслівае, што ўжо сам факт з'яўлення ананімных мастацкіх твораў дэмакратычнага характару сведчыць аб далейшым развіцці перадавой грамадска-палітычнай думкі ў краіне. У працы паказваецца, што гэтыя творы, у прыватнасці так званыя гутаркі, былі накіраваны супраць самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу. Аўтары некаторых з іх (напрыклад, «Разгавор двух валуйскіх мужыкоў» — твор, які ўпершыню ўведзены даследчыкам у шырокі літаратурны абыходак) узнімаюцца ад крытыкі паасобных момантаў феадальнай рэчаіснасці да ўсведамлення непрымірымасці класавых супярэчнасцей тагачаснага грамадства ў цэлым.

Даводзячы гэтую думку, І. М. Лушчыцкі паказвае, што рост перадавых грамадскіх поглядаў праходзіць у напружанай барацьбе супраць самадзяржаўна-прыгонніцкай і ліберальнай ідэалогіі. Ён выкрывае рэакцыйную літара-

турную пісаніну А. Кісяля і Ф. Блуса, у якой аўтары яе імкнуліся расхваліць перад сялянамі рэформу 1861 года.

Аднак працоўныя сяляне добра зразумелі грабежніцкі характар рэформы 1861 года — у адказ на яе па ўсёй Расіі ўзняліся новыя сялянскія хваляванні. У Беларусі і Літве гэтыя хваляванні перараслі ў масавыя сялянскія паўстанні 1863—1864 гадоў. У манаграфіі дэталёва апісваецца падрыхтоўка і ўвесь ход паўстання, антыпрыгонніцкі, рэвалюцыйны характар якога пераканаўча паказваецца і архіўнымі матэрыяламі, і складам удзельнікаў паўстання, а таксама ацэнкай яго з боку Ф. Энгельса.

У сувязі з паўстаннем 1863 года перадавая грамадска-палітычная і філасофская думка ў Беларусі ўзбагачаецца новымі ідэямі. У даследаванні паказваецца, якое шырокае распаўсюджанне атрымліваюць у краіне часопісы, пракламацыі, адозвы і іншая рэвалюцыйна-дэмакратычная руская літаратура. Ідэі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, і перш за ўсё Чарнышэўскага і Дабралюбава, становяцца праграмай рэвалюцыйнай дзейнасці беларускіх дэмакратаў.

Найбольш яскравым выразнікам гэтых ідэй у Беларусі быў К. Каліноўскі. Раздзел, прысвечаны Каліноўскаму як ідэолагу і кіраўніку паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве, з'яўляецца адным з лепшых у кнізе. У ім упершыню жыццё і дзейнасць, гісторыка-палітычныя і філасофскія погляды К. Каліноўскага атрымалі шырокае і, як нам здаецца, найбольш правільнае асвятленне.

Даследчык сабраў, сістэматызаваў, тэарэтычна асэнсаваў і абагульніў багаты, і не толькі апублікаваны, але і архіўны, матэрыял аб жыцці і дзейнасці К. Каліноўскага. У манаграфічным даследаванні даводзіцца, што светапогляд беларускага сялянскага рэвалюцыянера фарміраваўся пад непасрэдным уплывам ідэй рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, што ў поглядах Каліноўскага на самадзяржаўе, на антынародны, грабежніцкі характар рэформы 1861 года, на вырашэнне сялянскага пытання рэвалюцыйным шляхам, на будучае народаў Расіі шмат агульнага з поглядамі вялікіх рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў.

У гэтай сувязі трэба ўказаць на грунтоўны аналіз пісем Каліноўскага і нелегальнай газеты «Мужыцкая праўда», які паказвае, што думкі, сфармуляваныя ў гэтых дакументах, былі шмат у чым сугучныя ідэям рускіх рэва-

люцыйных пракламацый і адозваў 60-х гадоў, ідэям прац Герцэна, Агарова.

Аўтар манаграфіі характарызуе і арганізатарскую дзейнасць Каліноўскага ў Беларусі і Літве, стварэнне ім нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гродна, дзе прымаў удзел Валерый Урублеўскі (пазней генерал Парыжскай Камуны), раскрывае кіпучую энергію, накіраваную на арганізацыю паўстання сялян, сялянскай рэвалюцыі.

Больш агульна распрацаваны сацыялагічныя погляды Каліноўскага. Аднак трэба заўважыць, што тут асвятляюцца пытанні, якія ў такой сістэматызаванай форме яшчэ не асвятляліся ў нашай літаратуры, як, напрыклад, разуменне Каліноўскім класавай барацьбы, рухаючых сіл грамадскага развіцця, нацыянальнага пытання і г. д.

І. М. Лушчыцкі абвяргае нацыяналістычную легенду аб тым, што К. Каліноўскі быццам бы змагаўся за адлучэнне Літвы і Беларусі ад Расіі і стварэнне самастойнай Літоўска-Беларускай ці Беларускай дзяржавы. Аднак аўтар працы не затушоўвае і слабых бакоў у светапоглядзе К. Каліноўскага. Ён паказвае яго абмежаванасць у вырашэнні нацыянальнага, сялянскага, рэлігійнага і некаторых іншых пытанняў.

Непасрэднымі пераемнікамі рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй К. Каліноўскага ў манаграфіі справядліва называюцца Ф. Багушэвіч і А. Гурыновіч, у творчасці якіх выявіліся моцныя і слабыя бакі масавага сялянскага руху, перадавой грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі другой палавіны XIX стагоддзя. У кнізе паказваецца барацьба Багушэвіча і Гурыновіча супраць самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, крытыка імі капіталізму, абарона асветы, прапаганда нацыянальна-вызваленчых ідэй і рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў, а таксама разглядаюцца іх грамадскія ідэалы. Змястоўнымі, напрыклад, з'яўляюцца тыя старонкі аб Багушэвічу, дзе даследчык, кіруючыся вучэннем класікаў марксізма-ленінізма аб мове, упершыню дакладна размяжоўвае выказванні паэта, указваючы, дзе Багушэвіч правільна трактуе пытанні мовы і дзе памыляецца.

Новыя моманты ўносяцца аўтарам манаграфіі і ў асвятленне грамадска-літаратурнай дзейнасці Адама Гурыновіча. На падставе меркаванняў некаторых даследчыкаў і новых архіўных матэрыялаў І. М. Лушчыцкі даводзіць,

што А. Гурыновіч быў найбольш паслядоўным беларускім рэвалюцыянерам-дэмакратам, які ўнёс значны ўклад у развіццё грамадскай думкі.

Такі ў асноўным змест і характар трактоўкі пытанняў, якім прысвечана манаграфія І. М. Лушчыцкага [...]

Манаграфія І. М. Лушчыцкага не пазбаўлена і некаторых недахопаў. Так, у першым раздзеле, дзе трактуюцца сацыяльна-эканамічныя ўмовы Беларусі, слаба паказваецца ідэйная барацьба памешчыцка-ліберальнага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагераў грамадскай думкі.

Характарызуючы развіццё перадавой грамадскай і філасофскай думкі ў яе пераемнасці, у яе паступовым развіцці, даследчык чамусьці не спыніўся на групе «Гоман», да якой належаў І. Грынявіцкі.

Засталіся незакранутымі і пытанні грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў перыядычным друку.

Аднак гэтыя і некаторыя іншыя недахопы не могуць зменшыць агульнага значэння нарысаў І. М. Лушчыцкага. У іх з пазіцый марксісцка-ленінскай метадалогіі асвятляюцца важнейшыя этапы перадавой грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі другой палавіны XIX стагоддзя ў цеснай сувязі з вызваленчай барацьбой беларускага народа, з рускім рэвалюцыйным рухам.

*1958 г.*

## СКАРБЫ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

За многія вякі, ад сівой старажытнасці да нашых дзён, на шырокіх прасторах савецкай зямлі прайшла вялікая гісторыя. У сваёй стваральнай гістарычнай дзейнасці народы нашай краіны бліскуча праявілі свае самабытныя таленты, сваю працавітасць, свой розум. Яны першыя ў свеце ажыццявілі сацыялістычную рэвалюцыю, у выніку якой самі сталі гаспадарамі ўсіх створаных імі каштоўнасцей і атрымалі небывалыя магчымасці для новых творчых здзяйсненняў.

Аб усіх гэтых падзеях, якія адбываліся на землях Радзімы, нямала засталося добрых сведак — выдатных помнікаў гісторыі, мастацтва і культуры, памятак рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы нашага народа.

За гады Савецкай улады зроблена надзвычай многа для захавання і засваення багатай культурнай спадчыны

мінулага. Работа ў гэтым напрамку пачалася па ўказанні У. І. Леніна адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. І ўсё ж, па вялікі жаль, не ўсе яшчэ добрыя помнікі нашай культуры выяўлены і маюць належную ахову і догляд. Недастаткова вядзецца і прапаганда іх. Нават найбольш выдатныя з іх далёка не вядомы яшчэ не толькі ўсяму свету, а і многім людзям нашай краіны, аддзеленым тэрытарыяльна ад гэтых помнікаў вялікімі адлегласцямі.

У мэтах поўнага навуковага асвятлення, дбайнай аховы і шырокай прапаганды гістарычнай і мастацкай спадчыны народаў нашай краіны Акадэмія навук і Міністэрства культуры СССР прынялі ў кастрычніку 1967 г. сумесную пастанову аб падрыхтоўцы і выданні «Зводу помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР». Аналагічныя пастановы прыняты рэспубліканскімі акадэміямі навук і міністэрствамі культуры, у тым ліку і ў нас у Беларусі. Для ажыццяўлення навуковага кіраўніцтва па складанні і выданні Зводу створаны Саюзны і рэспубліканскія рэдакцыйна-выдавецкія саветы.

Паводле распрацаваных навукова-метадычных асноў мяркуецца, што Звод будзе шматтомным выданнем, блізкім па сваім характары да навуковай энцыклапедыі. У Звод павінны быць уключаны помнікі культуры, архітэктурныя або іншыя аб'екты, якія маюць гістарычную, эстэтычную або этнаграфічную каштоўнасць. Да іх адносяцца помнікі археалогіі, гісторыі, архітэктуры і мастацтва, помнікі рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны, мемарыяльныя помнікі, найбольш выдатныя творы сучасных архітэктараў, а таксама работы мастакоў і скульптараў, звязаныя з канкрэтнымі помнікамі архітэктуры або архітэктурнымі ансамблямі.

Звод помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР павінен стаць найбольш поўным навуковым, факталагічным і даведачным выданнем. У працэсе падрыхтоўкі матэрыялаў да Зводу маецца на ўвазе правесці поўнае выяўленне, фіксацыю і вывучэнне ўсіх помнікаў ад старажытнасці да нашых дзён незалежна ад таго, знаходзяцца яны на дзяржаўным уліку ці не.

Гэтая акалічнасць выклікае асаблівыя цяжкасці пры складанні тамоў, прысвечаных нашай рэспубліцы. Як вядома, Беларусь, як і кожная нацыянальная рэспубліка або вобласць, мае ў гэтых адносінах свае пэўныя асаблівасці. Беларускі народ ніколі не быў бедны на таленты, але на

працягу многіх вякоў, аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі, гісторыя яго складалася такім чынам, што ён не заўсёды меў шырокія магчымасці праявіць свае здольнасці ва ўсёй іх сіле і красе. Аднак і пры ўсім гэтым, нягледзячы на шматвяковы сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, беларускі народ стварыў нямала выдатных мастацкіх каштоўнасцей. Гісторыя абышлася з імі бязлітасна. На працягу XIV—XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі тачыліся няспынныя войны паміж польскімі і рускімі, літоўскімі і мясцовымі феадаламі; у пачатку XIX стагоддзя па яе зямлі пракаціўся вал напалеонаўскага нашэсця; нарэшце, ужо на нашай памяці тут грымелі раскаты першай сусветнай вайны, гарцавалі наезнікі Пілсудскага, тры гады гаспадарылі грабежнікі Гітлера. Велізарнейшыя скарбы народа былі раскрадзены і разрабаваны, зруйнаваны гарматамі і пажарамі. А ў выніку атрымалася так, што зямля Беларусі, на якой адбываліся велізарнейшыя гістарычныя падзеі сусветнага значэння, аказалася без яскравых сведак гэтых падзей — без многіх выдатных матэрыяльных і духоўных помнікаў сваёй гісторыі і культуры.

Вось чаму мы, як ніхто іншы, з асаблівай увагай і руплівасцю павінны паставіцца да выяўлення, вывучэння і аховы сваёй культурнай спадчыны. Мы нямала крытыкавалі і дзяржаўныя ўстановы, і грамадскія арганізацыі, крытыкавалі саміх сябе і нашых бліжніх за нядбайныя адносіны да тых вячыстых помнікаў народа, якія яшчэ засталіся жывыя на нашай зямлі. Крытыка прынесла сваю карысць. Работа па ўліку помнікаў і іх ахове ў рэспубліцы ў апошнія гады ажывілася. Міністэрства культуры праводзіць у гэтым кірунку работу і далей. У рэспубліцы створана таксама добраахвотнае грамадскае Таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры, якое налічвае ўжо тысячы членаў. Падрыхтаваны і ўносіцца на разгляд Вярхоўнага Савета БССР праект закона «Аб ахове помнікаў гісторыі і культуры». Велізарнейшую работу прарабілі ў апошні час партыйныя і савецкія арганізацыі, калектывы працоўных па ўвекавечанні памяці змагароў за рэвалюцыю, воінаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны, па ўстанаўленні мемарыяльных помнікаў і памятак на месцах вялікіх гістарычных падзей, на месцах нашай гераічнай барацьбы і перамог.

Цяпер ад нас, ад гісторыкаў і этнографаў, ад мастацтвазнаўцаў і архітэктараў, ад усіх работнікаў культуры,

залежыць, каб выдатныя помнікі творчага генія нашага народа, каб вячыстыя памяткі яго гістарычнай дзейнасці і славы сталі даступнымі і нашым суайчыннікам і добрым людзям усяго свету. Трэба, каб у выяўленне і апісанне новых помнікаў уключыліся студэнты вышэйшых навучальных устаноў і члены Таварыства па ахове помнікаў.

Звод помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР будзе канструіравацца паводле геаграфічнага прынцыпу ў адпаведнасці з тэрытарыяльным падзелам рэспублік і абласцей. Пры абмеркаванні гэтага пытання на канферэнцыі склалася думка, што кожнай вобласці Беларусі трэба прысвяціць асобны том. Справа гонару самай шырокай грамадскасці абласцей і раёнаў, каб помнікі іх родных мясцін знайшлі ў Зводзе самае поўнае і глыбокае адлюстраванне.

Маецца на ўвазе таксама асобны том прысвяціць гораду Мінску. Не толькі таму, што Мінск — сталіца рэспублікі, а і таму, што важнейшыя гістарычныя падзеі ў жыцці нашага народа ў значнай ступені звязаны з горадам Мінскам. Апрача таго, хоць, можа быць, у параўнанні з іншымі гарадамі рэспублікі ў Мінску і менш уцалела старажытных збудаванняў і помнікаў, але затое ў ім нямала мемарыяльных памятак, звязаных з дзейнасцю выдатных рэвалюцыйных, грамадскіх і культурных дзеячоў Беларусі. Багата ў Мінску таксама і новых архітэктурных збудаванняў, важных як гістарычныя і як мастацкія помнікі, напрыклад: домік 1-га з'езда РСДРП, будынак ЦК КПБ, Дом урада, Музей Вялікай Айчыннай вайны, мемарыяльныя музеі Я. Купалы і Я. Коласа і многія іншыя.

Не будзе адчувацца недахопаў у помніках і ў іншых гарадах і абласцях рэспублікі, калі да выяўлення і рэгістрацыі іх падысці руплiва і па-гаспадарску. Зараз зарэгістравана ў Беларусі каля 6 тысяч помнікаў, з іх каля 600 знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай. У спісе зарэгістраваных некалькі сот археалагічных помнікаў, звыш 4600 помнікаў рэвалюцыйнай і баявой славы, 308 помнікаў Уладзіміру Ільічу Леніну. Праўда, сярод апошніх ёсць і арыгінальныя, ёсць і тыражыраваныя. Але ўсе яны ў той ці іншай форме, мне здаецца, павінны ўвайсці ў Звод як сведчанне любві нашага народа да вялікага правадыра і вернасці яго ідэям.

Няма сумнення, што ў працэсе работы над Зводам выявіцца нямала новых помнікаў беларускай гісторыі і культуры, якія заслугоўваюць увагі патомкаў і павінны быць пастаўлены пад ахову дзяржавы.

Такім чынам, праблема заключаецца не ў тым, ці дастаткова будзе належных аб'ектаў для сямі беларускіх тамоў у Зводзе, а ў тым, як падысці да іх адбору і якімі крытэрыямі пры гэтым карыстацца.

У дачыненні да помнікаў старасветчыны адным з крытэрыяў пры адборы аб'ектаў Зводу павінна быць такая акалічнасць: чым з больш старажытнага часу паходзіць помнік, тым большае права ён мае на месца ў Зводзе, асабліва, калі помнік унікальны, вельмі рэдкі або адзіны, хоць ён і не захаваўся ў належным выглядзе. Такім чынам, напрыклад, поруч з Каложскай царквой у Гродна размова пра такія, скажам, помнікі, як руіны Навагрудскага або Лідскага замкаў, павінна ісці не ў агульным нарысе, а ім павінны быць прысвечаны асобныя артыкулы.

У метадычных асновах зусім слушна гаворыцца, што ў Звод павінны ўключацца помнікі, якія маюць гістарычную, эстэтычную або этнаграфічную каштоўнасць.

Палажэнне вельмі правільнае і абавязковае пры вызначэнні зместу Зводу. Але яно патрабуе вельмі ўважлівага дастасавання пры ацэнцы кожнага канкрэтнага аб'екта. Справа ў тым, што ў сілу іх спецыфікі адных помнікаў захавалася даволі шмат, а другіх вельмі мала. Так, на тэрыторыі Беларусі выяўлена ўжо да дзесятка помнікаў эпохі бронзы, да 2000 гарадзішчаў эпохі жалеза, звыш 200 селішчаў жалезнага веку, некалькі сот старажытнарускіх гарадоў і сельскіх пасяленняў, больш за 30 000 курганаў. Археолагі правялі вялікую работу па іх выяўленні, фіксацыі, апісанні. Ужо выйшла археалагічная карта помнікаў Беларусі каменнага веку. Рыхтуюцца карты і па другіх перыядах. Але, мне здаецца, усе зарэгістраваныя археалагічныя помнікі не могуць увайсці ў Звод. Археолагам Беларусі неабходна распрацаваць па гэтай галіне помнікаў пэўныя крытэрыі іх адбору і падачы ў Зводзе, вызначыць месца археалагічных калекцый і многія іншыя пытанні.

Зусім іначай абстаіць справа з этнаграфічнымі помнікамі, помнікамі народнай архітэктуры. Паколькі яны ў пераважнай сваёй большасці драўляныя, яны мала захаваліся. І зараз задача заключаецца ў тым, каб як мага

больш іх выявіць і зарэгістраваць і ўзяць найбольш выдатныя з іх пад належную ахову. І тут нашым этнографам трэба нямала папрацаваць.

Вялікая работа па Зводу помнікаў нашай рэспублікі кладзецца перш за ўсё на беларускіх гісторыкаў, археолагаў, этнографаў і мастацтвазнаўцаў, у прыватнасці на калектывы Інстытута гісторыі і Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Але сваімі намаганнямі, без стварэння спецыяльнай групы па рабоце над Зводам, без удзелу мясцовых культурных і навуковых сіл такой працы не падняць. І зараз у абласцях павінны быць створаны свае групы па рабоце над Зводам.

На канферэнцыі выказана думка, што ў першую чаргу павінны быць падрыхтаваны тамы Зводу, прысвечаныя Мінску і Брэсцкай вобласці. Я лічу, што прапанова слушная. Мінск — сталіца нашай рэспублікі, яе часта наведваюць савецкія і зарубежныя турысты. Прысвечаны гораду том будзе для іх добрым пуцевадзіцелем і даведнікам. У Мінску дастаткова і навуковых сіл, каб завяршыць работу над томам у бліжэйшыя два-тры гады. Брэст таксама ляжыць на турысцкай дарозе і з'яўляецца варотамі ў нашу краіну. У горадзе ёсць Інжынерна-будаўнічы інстытут, навуковыя работнікі і студэнты якога могуць з поспехам справіцца з працай у бліжэйшыя гады. Аднак нельга адкладаць пачатак работы над Зводам і ў іншых абласцях, паколькі выданне яго запланавана завяршыць на працягу 10—12 гадоў.

Звод гістарычных і мастацкіх помнікаў народаў СССР — справа выключнай культурнай і грамадскай важнасці. Дастойны паказ у гэтай серыі непаўторных у сваёй мастацкай красе і гістарычнай велічы помнікаў гісторыі і культуры беларускага народа — задача адказная і высакародная. У гэтых вячыстых памятках, што дайшлі да нас з далёкай мінуўшчыны або ўслаўляюць нашу гераічную савецкую сучаснасць, увасоблены творчая праца, ратныя подзвігі і светлыя ідэалы народа. І яны, як і служылі продкам, павінны служыць сучаснікам і будучым пакаленням для выхавання ў іх глыбокага патрыятызму, вернасці Радзіме і брацтву народаў.

*1969 г.*

# ВЫСТУПЛЕНИЕ НА ОТКРЫТИИ НАУЧНОЙ КОНФЕРЕНЦИИ ПОЛЬСКИХ И СОВЕТСКИХ ИСТОРИКОВ, ПОСВЯЩЕННОЙ ПРОБЛЕМЕ БОЕВОГО СОДРУЖЕСТВА СОВЕТСКИХ И ПОЛЬСКИХ ВООРУЖЕННЫХ СИЛ В БОРЬБЕ С ГИТЛЕРОВСКОЙ ГЕРМАНИЕЙ (ИЮЛЬ 1969 г.)

Наша конференция, посвященная проблеме боевого содружества советских и польских вооруженных сил в борьбе против гитлеровской Германии, собралась в весьма знаменательное время, на скрещении великих исторических дат и больших событий нашей современности.

В нынешнем году многие города и области нашей страны отметили и отмечают 25-летие своего освобождения от фашистских захватчиков. Несколько дней тому назад 25-ю годовщину освобождения торжественно отпраздновала Белорусская ССР.

22 июля исполняется четверть века со дня образования Польской Народной Республики. В будущем году исполнится 25 лет окончательного разгрома гитлеровских полчищ и всемирно-исторической победы над фашистской Германией. Мы стоим также на пороге 100-летнего юбилея со дня рождения В. И. Ленина, чье имя «стало символом победы Великого Октября, крупнейших революционных свершений, которые в корне изменили социальный облик мира, ознаменовали поворот человечества к социализму и коммунизму» .

Я привел выдержку из Обращения Международного Совещания коммунистических и рабочих партий, которое завершило в прошлом месяце свою работу и явилось величайшим событием нашей современности.

На первый взгляд может показаться, что все эти явления изолированы друг от друга и сосредоточие их во времени представляет случайное совпадение. Но если вдуматься, нетрудно заметить, что все эти события истории и нашей современности являются звеньями одной цепи, важнейшими вехами на ратном поле «исторического противоборства сил прогресса и реакции, социализма и импе-

риализма», символами революционных побед нашей эпохи — эпохи перехода от капитализма к социализму.

В самом деле, возьмем, к примеру, вопросы, связанные с темой нашей конференции. История знает немало случаев не только натянутых или недружелюбных отношений между Россией и Польшей, но на ее страницах записаны и блестящие примеры подлинного боевого содружества, имевшие место в прошлом, начиная с Грюнвальдской битвы. Однако чаще всего это были временные и недолговечные союзы, продиктованные историей перед лицом общего врага, но преследующие правящими классами разные интересы и цели. Только с победой Великой Октябрьской революции историческое дело народов Советского Союза стало кровным делом польского народа, и, наоборот, общие коммунистические идеалы сплотили наши народы в единый трудовой и ратный союз навечно. И это знамение только нашего времени, нашей эпохи.

Советские и польские историки собрались сегодня на совместную конференцию не только для того, чтобы достойно отметить боевое содружество наших народов и почтить воинов и партизан, боровшихся за нашу свободу, за наше братство. Перед лицом новой военной опасности мы оглядываемся на прошлое, чтобы крепить настоящее и лучше видеть будущее. Долг ученых историков перед нынешними и грядущими поколениями заключается в том, чтобы боевые традиции наших народов, исполненные высокого патриотизма и глубокого братского интернационализма, стали всеобщим достоянием и послужили в борьбе за будущее человечества так же верно, как они служили нам в нашей совместной священной борьбе за честь и свободу советского и польского народов.

Товарищи! Общественность нашей республики гордится тем, что конференция видных советских и польских историков собралась у нас в Минске. Мы расцениваем это, как еще одно признание того большого вклада, который внес белорусский народ в дело разгрома гитлеровских полчищ, как еще одно признание его усилий в сплочении советско-польского боевого содружества.

Я сердечно приветствую наших дорогих гостей, ученых ПНР, а также наших советских друзей, ученых Москвы и других городов страны, прибывших на эту конференцию.

С наилучшими пожеланиями плодотворной работы на благо науки и братства народов позвольте научную конфе-



На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

ренцию польских и советских историков, посвященную боевому содружеству советских и польских вооруженных сил в борьбе с гитлеровской Германией, объявить открытой.

## РЕЦЕНЗИЯ НА МОНОГРАФИЮ Я. ПОРЕЦКОГО «СИМОН БУДНЫЙ»

Несколько лет назад Я. Порецким была опубликована небольшая книжка «Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI века». Книжка была благожелательно встречена читателем и быстро разошлась.

Настоящая работа Я. Порецкого является более широким и глубоким монографическим исследованием жизни и деятельности выдающегося белорусского мыслителя. Она основана на детальном изучении произведений С. Будного, написанных на белорусском, польском и латинском языках. На основании откликов современников С. Будного в работе излагаются также некоторые положения, выдвинутые им в его произведениях, которые не сохранились. Таким образом, можно сказать, что в монографии Я. Порецкого (как ни в одной другой работе о

Будном) использованы, пожалуй, все без исключения произведения белорусского мыслителя.

Основная мысль, которую убедительно доказывает в своей работе Я. Порецкий, заключается в том, что С. Будный принадлежит к числу тех деятелей XVI века, которые, решительно разоблачая церковные догматы, наиболее последовательно боролись против идеологических основ феодализма. В своей критике католицизма, в лингвистическом анализе книг священного писания С. Будный, указывает Я. Порецкий, предвосхитил в некоторой мере просветителей Запада. Он указывает, что идеи С. Будного, впитавшие в себя передовые мысли своего времени, представляют в то же время самобытное явление и имели значительное влияние за рубежом в XVI—XVII вв.

Монография Я. Порецкого читается с большим интересом.

*1967 г.*

## ИЗ ОТЗЫВА О ДИССЕРТАЦИИ В. В. СОЛЯНИК «ПРОБЛЕМА ТРАДИЦИЙ И НОВАТОРСТВА В ЭСТЕТИЧЕСКОЙ МЫСЛИ БЕЛОРУССИИ 1917—1932 ГОДОВ»

История эстетической мысли Белоруссии исследована, к сожалению, очень мало. Правда, вопросы, которым посвящена диссертация В. В. Соляник (традиции и новаторство), в той или другой мере затрагивались в некоторых литературоведческих работах, но рассматривались они только применительно к литературе и часто без надлежащего общефилософского обоснования.

В. В. Соляник поставила перед собой задачу проанализировать в своей работе всю совокупность вопросов, связанных с решением проблемы традиций и новаторства, опираясь на теоретические высказывания и художественную практику не только белорусской литературы, но и других видов искусства в период между 1917—1932 годами. В этом отношении исследование В. В. Соляник в молодой эстетической науке Белоруссии является новым и оригинальным. Кроме того, положительным и новым для истории белорусской эстетической мысли является и сам

подход диссертантки к поставленной проблеме, когда она решается не в историко-литературоведческом или историко-искусствоведческом плане, а в плане историко-философском, теоретическом.

В соответствии с поставленной задачей В. В. Соляник в первой главе диссертации рассматривает такие вопросы, как диалектика традиций и новаторства в искусстве, отношение разных групп писателей и художников к классическому наследию, борьба старого и нового искусства в Белоруссии.

Вторая глава диссертации посвящена исследованию проблемы традиций и новаторства в эстетических программах литературно-художественных организаций Белоруссии («Маладняк», БелАПП, «Полымя», «Узвышша» и др.), а также трактовке этих вопросов в литературе 20-х — начала 30-х годов, белорусском театральном искусстве, живописи, музыке.

С построением диссертации в целом можно согласиться. Однако, мне кажется, что целесообразнее было бы в первой главе рассматривать проблему традиций и новаторства не только в первые годы Советской власти, а вплоть до середины 20-х годов, т. е. до первой половины 1925 года, когда появилась известная резолюция ЦК РКП(б) о политике партии в области художественной литературы. Именно эти даты — 1917, 1925 и 1932 гг. (когда было опубликовано постановление ЦК ВКП(б) о перестройке литературно-художественных организаций) являются теми рубежами, с которых в Белоруссии (как и во всей стране) в литературе и искусстве создавались не только новые организационные формы, но в каждом случае появлялись и новые идейно-художественные течения.

Целесообразнее было бы также рассматривать развитие эстетической мысли в Белоруссии не по творческим организациям и отдельным видам искусства, а по идейно-художественным направлениям, так как литературные и художественные организации в те годы никогда не были однородными. В связи с этим вызывает недоумение, что В. В. Соляник рассматривает деятельность художников-формалистов (К. Малевич, М. Шагал и др.) не в первой главе, посвященной проблемам традиций и новаторства в первые годы Советской власти, а во второй.

Однако при всех недочетах, имеющих место в диссертации, в работе В. В. Соляник правильно показывается про-

цесс развития марксистско-ленинского понимания диалектического соотношения традиций и новаторства в эстетической мысли Белоруссии в период 1917—1932 годов. В основу оценки этого процесса и борьбы против различных антимарксистских толкований проблемы традиций и новаторства В. В. Соляник положено ленинское учение о значении для социалистического искусства прогрессивных традиций духовного наследия прошлого. С этих позиций диссертантка рассматривает борьбу в эстетической мысли Белоруссии вокруг вопросов традиций и новаторства, против пролеткультовского и других мелкобуржуазных, формалистических извращений в толковании этой проблемы. При этом она убедительно показывает, как в острой идейно-эстетической борьбе вскрывалась идеалистическая сущность эстетического нигилизма и утверждался марксистско-ленинский принцип отношения к художественному наследию прошлого и решению проблемы традиций и новаторства.

Диссертация В. В. Соляник вносит в изучение истории эстетической мысли Белоруссии много нового и ценного [...]

*1968 г.*

# УСТУПНАЕ СЛОВА НА НАРАДЗЕ ПА ПЫТАННЯХ КААРДЫНАЦЫІ ЗБІРАННЯ І ДАСЛЕДАВАННЯЎ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ

XXII з'езд КПСС паставіў перад савецкімі вучонымі-грамадазнаўцамі задачу абагульняць вопыт нашага народа ў яго рабоце па будаўніцтву камуністычнага грамадства. У вырашэнні гэтай гістарычнай задачы належнае месца павінны заняць і фалькларысты.

Нарада, скліканая ІМЭФ [1] па пытаннях каардынацыі работы ў галіне збірання і вывучэння фальклору ў рэспубліцы, як паказвае намечаная інстытутам праграма яе работы, заклікана падагульніць працу беларускіх фалькларыстаў і вызначыць далейшыя шляхі яе разгортвання і паглыблення. Я думаю, ніхто не будзе адмаўляць, што патрэба ў такой нарадзе наспела даўно. Нашы фалькларысты правялі за пасляваенныя гады значную работу. З кожным годам маштабы яе павялічваюцца і растуць. Само сабой зразумела, што пры такіх умовах фалькларысты не могуць працаваць разрознена, іначай яны міжвольна будуць паўтараць адзін аднаго і пакідаць без увагі вельмі важныя, не закранутыя нікім праблемы і нават цэлыя галіны фалькларыстыкі.

Настаў час для таго, каб нашым фалькларыстам абмяняцца вопытам сваёй работы, вызначыць далейшы яе напрамак і спланаваць нашу дзейнасць хаця б на бліжэйшыя гады сямігодкі.

Як вам вядома, сярод некаторай часткі філолагаў існуе думка, што фальклор у наш час адмірае, што ён не мае ніякіх перспектыў для свайго развіцця. Так гэта ці не

[1] ІМЭФ—скарочана Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

так — фальклярысты павінны разабрацца ў гэтым. Факты, праўда, не вельмі багатыя (і, можа быць, не вельмі багатыя ў сілу таго, што мы іх мала ведаем, не збіраем і не вывучаем), паказваюць, аднак, што ў фальклоры існуюць новыя з'явы, існуе новы, сучасны фальклор.

Але нават калі згадзіцца з прыхільнікамі канчатковага і поўнага адмірання фальклору, калі нават прызнаць існуючае ў сапраўднасці звужэнне грамадскай функцыі фальклору ў наш час, перад фальклярыстамі застаецца шырокае поле дзейнасці.

Па-першае, як я ўжо сказаў, неабходна глыбока разабрацца ў тых працэсах, якія адбываюцца ў сучасным фальклоры, вызначыць яго асаблівасці, і толькі на падставе гэтага можна будзе ствараць пэўныя тэорыі аб спецыфіцы вуснапаэтычнай творчасці народа і яе далейшых перспектывах.

Па-другое, фальклярыстам трэба мець на ўвазе, што і стары, традыцыйны фальклор яшчэ не толькі далёка не вывучаны, але нават і не сабраны. Факты, напрыклад, паказваюць, што насуперак многім ранейшым сцверджанням у беларусаў быў свой эпас, даволі шырока развіваўся рабочы фальклор. Аднак старыя даследчыкі і збіральнікі не ўдзялялі гэтаму, бадай, ніякай увагі. Больш таго, нават калі мець на ўвазе толькі традыцыйны сялянскі фальклор, дык і тут далёка не ўсё зроблена. На карце фальклорных абследаванняў Беларусі нямала яшчэ ёсць белых плям. Ёсць тэрыторыі, на якія не ступала яшчэ нага збіральніка. Далёка не ўвесь і сабраны ў Беларусі фальклор пушчан у навуковы абыходак і да гэтага часу ляжыць мёртвым грузам у розных архіўных сховішчах.

Перад фальклярыстамі рэспублікі стаіць задача паслядоўна абследаваць усю тэрыторыю Беларусі, выявіць і запісаць некранутыя скарбы народнай творчасці, аддаючы пры гэтым асаблівую ўвагу сучаснаму фальклору, падняць з розных сховішчаў старыя фальклорныя багацці, апублікаваць іх і на падставе гэтых матэрыялаў даць глыбокія даследаванні неўміручай народнай творчасці.

У гэтых даследаваннях павінны быць паказаны адлюстраваныя ў фальклоры грамадскія погляды народа, яго мары ў мінулым аб лепшым сацыяльным ладзе грамадства, яго камуністычная накіраванасць у сучасным, яго этычныя і эстэтычныя погляды.



П. Ф. Глебка праводзіць нараду з загадчыкамі сектараў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

Фалькларысты павінны больш увагі надаваць вывучэнню нацыянальных асаблівасцей фальклору і яго ўзаемасувязей з фальклорам іншых народаў.

Свайго вывучэння з пункту погляду марксісцка-ленінскай метадалогіі чакаюць яшчэ і такія пытанні, як гістарычнае развіццё жанраў беларускага фальклору і яго мастацкіх асаблівасцей. Амаль нічога не зроблена ў нас таксама і ў галіне вывучэння вядомых і найбольш выдатных восьбітаў і выканаўцаў вуснапаэтычнай і музычнай творчасці беларускага народа.

Шырока павінны разгарнуцца доследы і па пытанню ўзаемаадносін фальклору і літаратуры, народнай і прафесійнай музыкі і інш.

Як бачым, таварышы, перад фалькларыстамі адкрыта надзвычай шырокае поле дзейнасці. І з гэтымі складанымі і вялікімі задачамі мы здолеем справіцца толькі тады, калі аб'яднаем нашы намаганні, калі будзем працаваць мэтанакіравана і ў адпаведнасці з выпрацаваным загадзя планам.

Наша першая нарада па пытаннях фальклору і ставіць перад сабой, як я ўжо адзначыў, не толькі задачы навуковага вырашэння тых ці іншых праблем, колькі задачу арганізацыі нашай работы ў галіне фалькларыстыкі. Будзем

спадзявацца, што за гэтай першай нарадай пойдуць другія, на якіх мы здолеем паставіць і многія важнейшыя тэарэтычныя праблемы.

*1960 г.*

# АСНОЎНЫЯ РЫСЫ ПАЭТЫКІ БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ

## ДАКЛАД НА СЕМІНАРСКІХ ЗАНЯТКАХ У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

Беларускі фальклор як па сваёй тэматыцы, так асабліва па сваіх мастацкіх прыёмах — надзвычайна багатая і невычарпальная крыніца. Гэта зазначалі і зазначаюць шмат якія вучоныя і паэты, вывучаючы як наогул славянскі фальклор (Вестфаль, Талстой і інш.), так жа і ў пасобку беларускі (Карскі, Піятуховіч, М. Гарэцкі, Сержпутоўскі і г. д.). Амаль усе беларускія паэты (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, З. Бядуля, Я. Пушча, У. Дубоўка і інш.) карысталіся і карыстаюцца дасягненнямі народнай творчасці ў сваёй мастацкай дзейнасці. Літзгуртаванне «Узвышша» ў тэзісах да пытання ўтварэння сваёй арганізацыі зазначае: «Работніцка-сялянская Беларусь мае багатую народную творчасць як сыры (нікім не выкарыстаны) матэрыял і крыніцу нацыянальных формаў для адзінай сацыялістычнай культуры пралетарскага зместу».

Гэта зацікаўленасць ставіць перад вучонымі ў парадак дня разгарнуць шырокае збіранне і ўсебаковае вывучэнне мастацкага фальклору, асабліва яго паэтыкі. Да гэтага часу мы не маем не толькі ў беларускай навуцы, а нават у навуцы СССР дакладна распрацаванай паэтыкі фальклору. Досыць шырокія працы Аляксандра Мік[алаевіча] Весялоўскага, пры ўсіх дадатных баках, пазбаўлены ўсё ж сацыялагічнага тлумачэння. Гэта што датычыцца распрацаваных Весялоўскім некаторых прыёмаў і жанраў фальклору, як эпітэт, паралелізм, духоўны верш і інш. Рытміка ж, вершаскладанне, кампазіцыя, мілагучнасць і зусім не распрацаваны ў гістарычным разрэзе, бо тыя працы, якія мне вядомы, як працы Сразнеўскага «Несколько замечаний об эпическом размере славянских народных песен», «Несколько замечаний по вопросу о пословицах и поговорках», Корша — «О русском народном стихосложе-

кнн» і іншыя яго працы, працы Карскага, нават Патабні і інш.— усе яны носяць, груба кажучы, фармальны характар; у іх скрозь апісальны момант, а калі і спрабуе каторы даць тлумачэнне, дык яно вельмі далёкае ад тлумачэння марксісцкага. Усе гэтыя акалічнасці некаторым чынам адбіліся на маёй працы, і я, паставіўшы сабе ў дакладзе шырокую мэту—асвятліць паэтычныя формы і прыёмы фальклору, з'яўленне форм фальклору з пункту гледжання марксізма і прасачыць іх гістарычную зменнасць, не мог зрабіць гэтага, як, уяўлялася мне, яно павінна было быць зроблена. З аднаго боку, надзвычайна шырокі і вялікі сыры матэрыял, які сабраны і які для даследавання яго паэтыкі павінен быць класіфікаваны для гэтай мэты па пэўных прынцыпах; з другога боку, як я ўжо зазначыў, адсутнасць усялякіх спроб растлумачыць яго з пункту гледжання марксізма адцягнулі маю ўвагу трохі ўбок фармальнага апісання паэтычных прыёмаў. Гэта я заўважыў сам, калі перагледзеў свой даклад. Спыняюся на гэтым для таго, каб папярэдзіць з боку маіх апанентаў жорсткія нападкі і выклікаць у іх строгую, але сумленную ацэнку маёй працы.

Пры разглядзе паэтыкі беларускага фальклору я спыняюся на трох асноўных раздзелах: стылістыка, вершаскладанне і жанрыстыка. У паняцце стылю ўвойдуць: эпітэт з яго разгаліненнямі, паўторы, паралелізм, метафара і параўнанне.

Характэрнай адзнакаю мовы народных твораў з'яўляецца эпітэт. Так, напрыклад, Весялоўскі ў артыкуле «Из истории эпитета» гаворыць: «Если я скажу, что история эпитета есть история поэтического стиля в сокращенном издании, то это не будет преувеличением». Парушан эпітэт у народн[ай] творчасці, мне здаецца, таму, што ён непасрэдна выцякае з самога слова. Усе словы-паняцці некалі, безумоўна, былі вобразамі, азначэннямі стану ці дзеяння рэчы. З цягам часу вобразнасць слова змывалася і заставалася голае паняцце. Тагачаснаму чалавеку з яго вераю ў моц слова здавалася невыстарчальным ужываць адно сухое паняцце, і ён імкнуўся да кожнага слова дадаць эпітэт...

Эпітэт уласцівы не толькі мове паэзіі, ён уласцівы і мове прозы, звычайнай мове, але ў апошняй ён не адыгрывае такой ролі, як у мове паэтычнай. У празаічнай мове эпітэт найчасцей бывае толькі простым азначэннем, у той

час як у паэтыч[най] мове ён з'яўляецца акрасаю слова, яго прыгожым уборам. Адсюль эпітэты можна падзяліць на аздабляючыя і характарызуючыя. Першы від эпітэтаў — аздабляючых — гэта аднабаковае азначэнне слова, што абнаўляе яго найменнае значэнне. Такія эпітэты Весялоўскі называе таўталагічнымі. Сюды належаць эпітэты: *белы* свет, *краснае* сонца і да гэтых падобныя. Па сутнасці эпітэты гэтай катэгорыі ніякай новай ідэі ці адзнакі ў паняцці слова не выражаюць; яны толькі абнаўляюць, падкрэсліваюць, выпукляюць гэта паняцце.

Эпітэты другой катэгорыі — характарызуючыя, наадварот, падаюць паняццю слова новыя зусім рысы, дзе адлюстраваліся народнапсіхічныя погляды, элементы мясцовага бытавання і цэлы шэраг аналогій, што звязаны з дзеяннем прадмета, найменнем якога было тое ці іншае слова.

У аснове гэтых, характарызуючых, эпітэтаў ляжыць альбо адзнака, што лічыцца істотнаю ў прадмеце, альбо адзнака, што характарызуе яго ў дачыненні да практычнага дзеяння ці стану і ідэальнага ўдасканалення. Напрыклад: *шырокае* поле, *чорны* воран, *сіняе* мора. Ясна, што ў аснове гэтых эпітэтаў ляжыць адна з істотных адзнак, што мае ў сабе прадмет. У аснове ж эпітэтаў конь *вараны*, *залясны* сокал, павадкі *шаўковыя*, волікі *паловыя*, сохі *залатыя*, падсошнікі *медзяныя*, паліцы *срабраныя*, падвоі *драцяныя*, *слаўны* пан і да гэтага падобных ляжыць адзнака, якая характарызуе прыстасаванне да ідэальнага дзеяння. Бо, сапраўды ж, нельга паверыць, каб усе коні, на якіх ездзяць героі народных твораў, былі варанымі альбо паны, што мелі дачыненне да народа, былі слаўнымі. Гэта, як бачым, ужо не істотная адзнака, што ляжыць у прадмеце, а выражэнне імкнення да ідэальнага ўдасканалення, ідэалізацыя. Адсюль, кажа Весялоўскі, прага да эпітэта *залаты*. Меркаю для падобных азначэнняў слугуе сацыяльна-эканамічнае, бытавое альбо этнаграфічнае бытаванне. Чаму менавіта ў беларускай народнай творчасці ды й наогул у славянскай пераважаюць дрэвы клён і дуб і азначэнні ад гэтых слоў *кляновы* і *дубовы*: *кляновы* лісточак, *дубовы* лісточак? У дачыненні да гамераўскіх і старафранцузскіх паэм ужыванне эпітэта *ясянёвы* Весялоўскі тлумачыць тым, што лепшым матэрыялам для вожагаў на дзіды лічыўся ясень. У беларускім фальклоры эпітэты *кляновы*, *дубовы* таксама трэба растлумачыць толькі практычным прыстасаваннем гэтых дрэў у бытаванні

беларуса. З эпітэтаў, што азначаюць колер, найчасцей у беларускім фальклоры сустракаюцца *чырвоны, жоўты* і *русы; русы* сустракаем нават у дачыненні да пташачак: *русая* пташачка. Весялоўскі ставіць пытанне: ці гэта эпітэты фізіялагічнага характару, ці гісторыка-культурнага, як спадчына рымскіх густаў, і адказвае, што і тое, і другое.

Мне здаецца, што ўсё ж спадчыны тут ці ўплыву вельмі мала. Чаму менавіта прышчапіліся гэтыя, а не іншыя колеры. Разгадку трэба шукаць толькі ў фізіялагічнай аснове чалавечай істоты: цяга да гэтых колераў ляжала ў патэнцыі чалавечай фізіялогіі і дзякуючы пэўным эканамічным умовам выразілася ў гэтых эпітэтах. Сучасныя доследы ў Амерыцы аб сіле ўплываў колераў на зрок чалавека з мэтай дапасавання гэтых вынаходак у рэкламнай справе гавораць, што самае моцнае ўражанне робіць жоўты колер, на другім месцы стаіць чырвоны, далей ідзе зялёны, чорны. Дзіцё такжа раней усяго распазнае чырвоны і жоўты колеры. Калі прыняць пад увагу закон, што арганізм паўтарае развіццё роду, дык мы ў праве сказаць, што цяга да жоўтага ці чырвонага колеру ляжыць у фізіялагічнай аснове чалавека. Паўтараю, што гэты пачатак з патэнцыяльнага стану пераходзіць у дзейны толькі дзякуючы пэўным эканамічным умовам. Значыць, цягу ў народнай творчасці да эпітэтаў *жоўты, чырвоны, русы* трэба прыпісваць не рымскаму ўплыву, а фізіялагічнай аснове чалавека і тым эканамічным умовам, у якіх ён жыў.

Неабходна яшчэ спыніцца на дзвюх катэгорыях эпітэтаў — эпітэце-метафары і сінкрэтычным. Такія эпітэты, як *горкія* слёзы, *чорная* смага і падобныя маюць ясна пераносны сэнс. Калі трымацца погляду Весялоўскага, дык гэту з'яву можна растлумачыць альбо паралеллю, альбо кантрастам, альбо пераносам рэальнай адзнакі на адцягненую; у першым прыкладзе *горкія* мы маем паралель, паралель дзеяння. Некаторыя горкія рэчы дзейнічаюць на слезаточныя залозы і выклікаюць слёзы. Гэта часовая з'ява пачынае лічыцца ўласцівасцю і пераносіцца з прадмета дзеяння на аб'ект як азначэнне. Другі прыклад *чорная* смага ў аснове свайго зараджэння мае паралельнасць.

Часта ў аснове народнага эпітэта-метафары ляжыць адзнака цэлага да яго частак, напрыкл[ад]: *сіняя* капля. Нам не ясна, чаму сіняя, калі мы не прыгадаем, што гэта перанос на частку эпітэта цэлага: *сіняе мора*.

Можна адзначыць яшчэ адну катэгорыю эпітэта — сінкрэтычныя, як, напрыклад, *яснае* сонца і *ясны* сокал. Нам зразумела, чаму *яснае* сонца, бо гэта адна з істотных адзнак, але чаму *ясны* сокал — мы сабе гэтага не ўяўляем. Мне здаецца, што будзе правільным тлумачыць гэту з'яву не паралельнасцю іх дзеяння, бо тут паралелі няма, а пэўнай асацыяцыяй нашых успрыманняў. Ноч — гэта цемра, цішыня і спакой, дзень, наадварот,— гэта святло, шум і рух. Першабытны чалавек пры адсутнасці лагічнага мыслення па асацыяцыі аб'яднаў гэтыя з'явы двух пачуццяў зроку і слыху і на аснове гэтага стварыў шмат эпітэтаў сінкрэтычнага парадку.

Характэрнаю адзнакаю народнага эпітэта з'яўляецца яго сталасць і яе найвышэйшае выражэнне — акамянеласць. Варта прачытаць толькі казкі, песні і другія віды народнай творчасці, і мы заўважым, што амаль абавязкова пры слове *сокал* будзе стаяць эпітэт *ясны*; дуброва — *зялёная*, поле — *чыстае*, *шырокае*, лес—*цёмны* і г. д. Гэтая сталасць эпітэта тлумачыцца нязменнасцю адзнакі паняцця, як, напрыклад, лес, безумоўна, найчасцей, амаль заўсёды мае цёмны выгляд альбо зялёны. Вось гэта нязменнасць пры вельмі павольным тэмпе псіхічнага развіцця першабытнага чалавека на грунце надзвычай павольнай змены эканамічных умоў, гаспадарчай сістэмы стала не толькі паэтычнай традыцыяй, а я сказаў бы, што нават нейкай забабоннасцю. І вось чаму, калі ў дачыненні да эпітэтаў *цёмны* лес, *зялёная* дуброва іх нязменнасць можа тлумачыцца нязменнасцю рэальнай адзнакі, дык у дачыненні [да] *ясны* сокал гэткае тлумачэнне нам здаецца дзіўным, калі не прыняць пад увагу традыцыі, забабоннасць. Асабліва гэта мае палажэнне пацвярджаюць эпітэты акамянелыя, г. зн. такія эпітэты, якія не толькі не выклікаюцца для тлумачэння паняцця, але й супярэчаць яму. Напрыклад, у нашым фальклоры *свяча сальная воску ярага*, у сербскім — *белая рука*, калі гаворыцца нават пра руку арапа, у стараанглійскіх баладах — *вернае каханне*, хоць гаворыцца якраз, наадварот, пра нявернасць і г. д.

Гэтыя акамянелыя эпітэты можна растлумачыць толькі традыцыйнасцю, карыстаннем раз утворанай формулай пры складанні нават новых твораў. Упамяну яшчэ эпітэт таўталагічны; іх у народнай паэзіі досыць шмат; тут і *краснае сонца*, і *маладая малодка*, і *маладая дзяўчына* і г. д.

З пункту гледжання канкрэтнасці і адцягненасці ў беларускім фальклоры, наколькі мне ўдалося гэта падлічыць, пераважаюць эпітэты канкрэтныя: *чорны* шоўк, *крупен* жэмчуг, *зялёная* рута, *жоўты* цвет, *чырвоная* каліна, *шырокія* лісточкі, *дубовыя* дошкі, *залатыя* замкі і інш. Як бачым, канкрэтныя эпітэты найчасцей зрокавыя, што выражаюць колер; на другім месцы стаяць эпітэты матэрыяльнага характару: *дубовы, шаўковы, кляновы;* і нарэшце, калі можна так сказаць, прасторавыя: *шырокі* ліст, *глыбокая* дамавіна. Эпітэты адцягненыя найчасцей псіхалагічныя: *маладая* ўдава, *сумныя* вочы, *цяжкія* думы, *горкія* слёзы і інш.

Калі я не памыліўся і мае маркаванні, датычныя ў пераважнасці канкрэтных эпітэтаў, правільныя, тады нас трохі гэта дзівіць, і мы ставім пытанне: як гэта можа мірыцца з псіхалогіяй першабытнага чалавека? Як нам вядома, першабытны чалавек і ў дааністычную пару і ў пару анімізму жыў больш адцягненымі паняццямі: адухаўленне прыроды, жывёл — безумоўна, не канкрэтнае з'явішча, а досыць адцягненае. Гэта з нашага пункту гледжання, але з пункту гледжання тагачаснага чалавека гэта былі канкрэтныя з'явы і рэчы. Яны былі блізкія яму, а адцягненага мыслення на тым узроўні псіхалагічнага развіцця не магло быць. Выходзячы з гэтага меркавання, мы можам рабіць здагадкі, што адцягненыя эпітэты — напластаванні больш пазнейшых часоў.

Падагульнім усё сказанае аб эпітэту і растлумачым яго з'яўленне і эвалюцыю.

Эпітэты ў народнай творчасці двух родаў: аздабляючыя і характарызуючыя; да першай катэгорыі блізка падходзіць, але ўсё ж стаіць асобна эпітэт таўталагічны. Зараджэнне эпітэта, трэба лічыць, пачалося ў пару аністычнага мыслення на псіхалагічнай аснове веры ў моц слова.

Гэта псіхалогія зарадзілася на грунце эканамічных умоў пары першабытнага камунізма. Эвалюцыя гаспадарчых форм выклікала эвалюцыю грамадскіх стасункаў і псіхалогіі чалавека, а разам з гэтым і эвалюцыю эпітэта. Такім чынам, эпітэт як першапачатковае паняцце, пасля эпітэт канкрэтны і пазней адцягнены як падмацаванне слова; нарэшце назіраецца разлажэнне эпітэта і ў выніку дзякуючы традыцыі — эпітэт сталы, эпітэт акамянелы. Так мне ўяўляецца зараджэнне і развіццё эпітэта.

Наступным надзвычай пашыраным прыёмам народнай творчасці з'яўляецца паралелізм...

«Параллелизм покоится на сопоставлении субъекта и объекта по категории движения действия как признака волевой жизнедеятельности»,— зазначае Весялоўскі.

...Для чалавека, які адухаўляе прыроду, які не адрозніваў прыроды ад сябе, гэтыя супастаўленні былі рэальна значнымі і з'яўляліся аб'ектамі супастаўлення, а суб'ектам быў чалавек. Вось на аснове паняцця, што і навакольны свет жыве тым жа жыццём, што і чалавек, узнік паралелізм. Але ўзнікшы, безумоўна, ён развіваўся сугучна эканамічнаму развіццю. Весялоўскі на шляху гэтага развіцця адрознівае як бы росквіт і заняпад паралелізму. Да росквіту адносіць насумаванне пераносаў у складзе паралелі. Прыводзіць прыклад з індускай творчасці, дзе месяц і сонца азначаюцца як вока. Тут, гаворыць Весялоўскі, было насумаванне: 1) перыяд: сонца рухаецца; 2) перыяд — да адзнакі руху далучаецца другая — глядзіць, і такім чынам сонца ўжо не толькі ідзе, а і глядзіць. Далейшае разлажэнне паралелізму прыводзіць да таго, што падабенства па адзнаках руху сціраецца, выпадае і застаецца супастаўленне сонца — вока, што на першы погляд не мае ніякага падабенства. Калі можна згадзіцца з другім палажэннем, што паралелізм пры разлажэнні (тэрмін умоўны) траціць свае аналогіі па пэўных і наяўных адзнаках, дык нельга згадзіцца з першым палажэннем, што паралелізм наёсць насумаванне фактычна простай метафары. Якраз наадварот. Разлажэнне паралелізму стварае метафары, а ў пачатку паралелізм быў развінутаю формаю, поўным творам, за што гавораць замовы, дзе паралельнасць вельмі шырокая, як адзін з старэйшых жанраў народнай творчасці. (А што ён старэйшы — гэта я паспрабую давесці ў далейшым.) Такім чынам, больш старою формаю паралелізму быў паралелізм поўны, развінуты ў цэлы твор. Прыкладаў яго мы маем досыць шмат у народнай творчасці...

Мы пазнаёміліся з адным відам паралелізму — поўным. Блізка да яго падыходзіць паралелізм п е р а п л я т а н ы: *Зашумела дубровушка зялёная, заплакала удовушка маладая. Ой, не шумі, дубровушка зялёная, не журыся, удовушка маладая.* Тут мы бачым пераплятанне паралелі. *Зашумела дубровушка зялёная, заплакала удовушка маладая* — адна паралель пераплятаецца з другою — *Ой, не*

*шумі...* У такім перапляценні можа разгортвацца ўвесь твор. Як поўны, так і нераплятаны паралелізм — толькі выпадковыя формы паралелізму, а найбольш пашыраным з'яўляецца просты двухчленны паралелізм, дзе даецца толькі малюнак прыроды і поруч малюнак жыцця чалавека. Напр[ыклад]: *Ішло, ішло сонейка каля лесу, ішла, ішла Мар'ячка каля століка.* Тут паралелізм з'яўляецца толькі як бы запевам, бо ўвесь далейшы змест твора не стаіць у дачыненні да першага члена паралелі...

Некалькі слоў аб паралелізме адмоўным. Такія паралелізмы *ні свет ні світае, ні на зоры займае...* ёсць паралелізмы адмоўныя. Будуюцца яны па такіх прынцыпах: даецца двухчленная формула, але ў адным з яе членаў адмаўляецца, каб падкрэсліць, завастрыць увагу на тым члене, на які адмаўленне не падае. Фармальна ён падобны да станоўчага, але ў змесце іх розныя паняцці. Калі станоўчы паралелізм збліжае, атаясамлівае з'явы па іх знадворнай аналогіі, дык адмоўны паралелізм, адмаўляючы адну падобную з'яву, падкрэслівае другую. «Это,— кажа Весялоўскі,— как бы подвиг сознания, выходящего из смутности сливающихся впечатлений к утверждению единичного, то, что прежде врывалось в него как соразмерное, смежное,— выделено».

Гэта дае нам магчымасць сцвердзіць, што адмоўны паралелізм як мастацкі прыём — здабытак пазнейшага часу, калі свядомасць чалавека стала разрозніваць сваё «я», самога чалавека, і навакольны свет. Гэта форма — рэакцыя на атаясамліванне з'яў.

Па фармальных адзнаках паралелізмы бываюць: катэгорыі дзеяння (*Зялёны дубочак на яр пахіліўся*), катэгорыі якасці рэчаў ці з'яў (*Чым дуб не зялёны*), а могуць быць адначасова і катэгорыі дзеяння і катэгорыі якасці. Акрамя двухчленнага сустракаецца паралелізм і мнагачленны і адначленны. Усе гэтыя віды (мнагачленны, адначленны, двухчленны, просты) ёсць вынік разбурэння паралелізму двухчленнага поўнага. Ад шырока развітай паралелі твора (замовы, песні і г. д.) аднадала награмаджэнне пабочных з'яў і заставалася простае апісанне з'явы, але пабочныя з'явы заставаліся часамі па традыцыі ў пачатку, у запевах (просты паралелізм); часамі пабочныя з'явы з твора награмаджаліся вакол адной паралелі (мнагачленны), а часамі выпадалі (адначленны). Выпадаў часцей член, што азначаў дзеянне з сферы чалавечага жыцця, а

заставаўся пабочны член, што апісваў аналагічную з'яву. Такім чынам, з паралелізму развіўся сімвал [...]

Такім жа чынам утварылася і метафара. Член паралелізму — паняцце — пабывае рысы другога члена — другога паняцця. Дзякуючы метафарычнасці нашай мовы мы метафары нар[одных] твораў не ўспрымаем як паэтычную ўмоўнасць, а як сапраўдн[асць]. Напр[ыклад]: *Із-за лесу цёмнага выходзіў месяц ясны* альбо *Выходзіла красна солнышка* і падобнае. Але-ёсць іншыя метафары (можа, пазнейшыя нават), якія ўжо ўспрыняць як сапраўднасць не можам: *Як пашоў вінаград па загор'іку; як пашла Ліксандра па застольнейку*. Тут ужо вобраз *пашоў вінаград* будзе сімвалам маладога, альбо метафараю: вінаграду надаюцца ўласцівасці жывой істоты. Метафара ўсё ж не вельмі характэрная рыса народнай творчасці, і таму спыняцца на ёй не буду.

Са стылістычных прыёмаў народ[най] творчасці характэрны яшчэ паўтор. Прыём паўтору ўзнік на глебе веры чалавека ў моц слова. Гаварыць не прыходзіцца, бо відома. Зазначу толькі тыя віды, што сустракаюцца ў фальклоры. Акрамя паўтораў у вузкім сэнсе гэтага слова, я дуліаю сюды трэба аднесці і розныя віды зграмаджэння, якія ў паэтыцы носяць назвы пэтыселогіі, плеаназму, таўталогіі і інш. Петыселогія вельмі часта ўжываецца ў фальклоры і асабліва ў замовах. Напрыклад, у замове ад залатніка мы знаходзім трайную пэтыселогію: *жывата не сушыці, крой не марыці, белых костачак не крышыці*. У замовах знаходзім больш як дзе і плеаназмаў: *іду жывот отмоўляці, залатнік загаварыці, каб нылі жылкі, паджылкі, стукнулі, грукнулі* і г. д.

Аб таўталогіі я гаварыў, гаворачы аб таўталагічным эпітэту. Прывяду яшчэ некалькі прыкладаў: *думы думаць, суды судзіць, вазёры слёз наплакала, вечар вечарыцца, вайну ваяваць* і інш. Трэба толькі заўважыць адно, што таўталогія выражае ў пераважнай большасці паняцці адцягненыя, нематэрыяльныя, часта псіхалагічныя (*думы думаць, вечар вечарэе*).

Паўтор у вузкім сэнсе слова сустракаецца ў фальклоры на кожным кроку. Тут можна разрозніваць паўтор прыназоўнікаў (вельмі частая з'ява): *на моры на лукамор'і, на кіяне сінім*. Паўтараецца прыназоўнік *на*. Паўтор іншых дапаможных часцін мовы, ці выклікаў, напрыклад: *ці ні шуміць дуброўка зялёная, ці ні стучыць дарожка шы-*

*рокая, ці ні блішчаць падкоўкі сталёвыя.* Паўтараецца частка *ці*. Вельмі ж часта паўтараецца дзеяслоў: *Не вернецца мой вяночак, не вернецца мой руцьвяны, не вернецца мая цнота*, альбо: *зыбнула мора, зыбнула, там наша Агатка ўтанула*, ці яшчэ: *Ішло, ішло сонейка каля лесу, ішла, ішла Марыська ля стала.* Не менш паўтараецца эпітэт да таго ці іншага слова, а такжа назоўнік: *Ясна, ясна зорачка; красна, красна дзевачка; каса мая, каса русая; Ой, пад дубам, дубам, дубам там зязюля, а пад другім дубам, дубам там другая; ды за лесам, лесам на вялікім полі* і г. д.

Мне здаецца, што паўторы ў народных творах адыгрываюць найвялікшую ролю ў сэнсе надання ім эмацыянальнай згушчанай афарбоўкі. Ясна, што калі б гэта можна было адняць ад песні ўсе іншыя прыёмы, а пакінуць толькі паўторы, дык гэта песня страціла б усялякую мастацкасць, але ў суцэльнасці ўсіх мастацкіх сродкаў кожны адыгрывае сваю ролю.

Вось па якіх меркаваннях я сказаў аб паўторы як аб сродку, што згушчае эмацыянальнасць і ўзмацняе, надае сілу лірызму.

Нам засталося яшчэ разгледзець параўнанне ў народных творах. Працэс, які адбываўся пры развіцці мастацкіх прыёмаў ад псіхалогіі паралелізму да параўнання Весялоўскі вызначае такою формулай: человек; дерево; не дерево, а человек; человек, как дерево. Гэта значыць, што параўнанне вылілася з адмаўлення раўналежнасці з'яў, з адмоўнага паралелізму [...] Пасля, пры развіцці свядомасці гэту раўналежнасць сталі адмаўляць (адмоўны паралелізм), і ўрэшце гэтыя з'явы сталі толькі параўноўваць на аснове адной ці некалькіх агульных адзнак. Што параўнанне — прадукт пазнейшага часу, сведчыць казка. У казцы найбольш параўнанняў, калі не лічыць развінутага параўнання ў замовах. Але гэта развін[утае] параўн[анне] замоў бліжэй стаіць да паралелізму як да параўнання ў вузкім сэнсе слова. Тут не канстатуецца, што дзве з'явы падобны, а гаворыцца, каб яны былі падобны, пажаданне выказваецца ў форме параўнання.

Параўнанне ў вузкім сэнсе трэба лічыць усё ж напластаваннем пазнейш[ых] часоў[...]

# Я. Ф. КАРСКІ
# ЯК ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКАГА ФАЛЬКЛОРУ

## ДАКЛАД НА СЕСІІ АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКІХ НАВУК АН БССР, ПРЫСВЕЧАНАЙ 100-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АКАДЭМІКА Я. Ф. КАРСКАГА

Выдатны сын беларускага народа Я. Ф. Карскі заслужана названы заснавальнікам беларускай філалогіі. Аддаючы заўсёды найбольшую ўвагу вывучэнню беларускай мовы, Я. Ф. Карскі поруч з гэтым ствараў першыя грунтоўныя працы і па іншых раздзелах нашай філалагічнай навукі, пачынаючы ад палеаграфіі і канчаючы літаратуразнаўствам. Больш таго, яго навуковыя інтарэсы ў справе вывучэння культуры роднага народа далёка выходзяць за рамкі адной філалогіі. Я. Ф. Карскі ўнёс каштоўны ўклад і ў вывучэнне этнаграфіі беларускага народа і яго гісторыі.

Будучы сынам свайго веку, выдатны вучоны, зразумела, не пазбег у сваіх працах пэўных заблуджэнняў свайго часу. Але ён горача любіў свой народ, добра ведаў і разумеў яго, і, можна смела сказаць, правільна нарысаваў у сваіх працах духоўны воблік працоўнага беларуса. Праўда, некаторыя погляды вучонага ўжо ўстарэлі для нашага часу, а некаторыя, як я ўжо сказаў, былі памылковымі і раней. Аднак, нягледзячы на гэта, працы Я. Ф. Карскага застаюцца для нас вельмі каштоўнай спадчынай, з якой мы многа чэрпалі, чэрпаем і будзем яшчэ чэрпаць. А калі гэта так, мы павінны ўважліва разабрацца ў гэтай спадчыне. Тут вялікае поле дзейнасці не толькі для нашых філолагаў, а і этнографаў, і гісторыкаў. На жаль, у нас яшчэ мала грунтоўных даследаванняў разнастайных прац Я. Ф. Карскага, у тым ліку і яго выдатных прац па беларускаму фальклору.

Не прэтэндуючы на падрабязны і грунтоўны аналіз работы Я. Ф. Карскага ў гэтай галіне, я маю на мэце ў сваім невялікім дакладзе закрануць толькі некалькі асобных пытанняў, звязаных з работай Я. Карскага як збіральніка, рэдактара і даследчыка беларускага фальклору.

Пытаннямі вуснай паэтычнай творчасці беларускага народа Я. Ф. Карскі цікавіўся на працягу ўсёй сваёй навуковай дзейнасці. Яшчэ будучы студэнтам Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута, Яфім Фёдаравіч сабраў

і апублікаваў у «Рускім філалагічным весніку» за 1884 і 1885 гады 59 беларускіх песень, сабраных ім у сяле Беразавец Навагрудскага павета Мінскай губерні. Затым у 1889 годзе Яфім Фёдаравіч публікуе новы цыкл беларускіх песень, запісаных ад жанчыны з вёскі Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губерні Трокскага павета. Перад тым, як сказаць некалькі слоў аб характары гэтых запісаў, я не магу не адзначыць таго высокага мастацкага густу, з якім выбраны гэтыя песні, адзначаныя па-народнаму простай і ў той жа час цудоўнай вобразнасцю. Вось адзін з прыкладаў гэтай вобразнасці:

Да ў полі сад зялён,
Майго міленькага конь вясёл:
Вочкамі звёзды здымае,
Хвастом зямліцу падмятае,
Капыцечкам крэмень рассякае.

Запісы Я. Ф. Карскага беларускіх народных песень сведчаць, што збіральнік падыходзіў да іх не толькі як да факта свядомасці народа, а як да асаблівай з'явы гэтай свядомасці — іменна мастацкай. Я думаю, што падобнае стаўленне да народнай творчасці павінна служыць прыкладам для нашых збіральнікаў, некаторыя з якіх, на жаль, не заўсёды ўмеюць адрозніваць сапраўдны шэдэўр ад таннай падробкі.

Не страцілі практычнага значэння для нашага часу і многія іншыя прынцыпы, якімі кіраваўся Я. Ф. Карскі як пры збіранні народнай творчасці, так і пры яе публікацыі. У першую чаргу ён патрабаваў ад збіральніка і рэдактара народных твораў глыбокага ведання жыцця народа, яго гісторыі, быту і мовы. Другое патрабаванне — гэта сэнсавая і фанетычная дакладнасць запісу, яго поўная пашпартызацыя, заўвагі аб тых абставінах, у якіх выконваўся твор і інш. Яфім Фёдаравіч не аднойчы выказваў думку, што песні, апрача таго, трэба абавязкова запісваць з мелодыямі.

Трэба сказаць, што запісы песень сяла Беразаўца і вёскі Навасёлкі, зробленыя яшчэ маладым Карскім, бадай, ва ўсіх пунктах адпавядаюць гэтым патрабаванням. Да сваіх запісаў Яфім Фёдаравіч дае невялічкія прадмовы, у адной з якіх ён гаворыць між іншым:

«...Шаноўныя збіральнікі беларускіх песень звярнулі галоўную сваю ўвагу на бытавы бок народа і на змест пе-

сень, дакладная ж перадача асаблівасцей мовы народнай упускаецца ў іх з-пад увагі...»[1]

Сам Яфім Фёдаравіч у сваіх запісах захоўвае дакладную перадачу народнай гаворкі. Больш таго, у падрадковых заўвагах ён аналізуе лексічнае значэнне асобных слоў, дае фанетычны і марфалагічны каментарый да іх.

Мне здаецца, што заўвагі Я. Ф. Карскага аб класіфікацыі фальклорных матэрыялаў маюць безумоўную каштоўнасць і для нашага часу. Крытыкуючы П. В. Шэйна за тое, што ён змяшаў каляндарнае размяшчэнне матэрыялу з біяграфічным, Яфім Фёдаравіч прапануе сваю схему, якая пазней была праведзена ім пры даследаванні беларускага фальклору ў 1-м выпуску III тома «Беларусаў».

Слушныя парады дае Я. Ф. Карскі для сістэматызацыі матэрыялаў і ўнутры жанравых раздзелаў. У разборы «Матэрыялаў» П. В. Шэйна ён піша:

«Калі на першым плане ён (збіральнік— *П. Г.*) ставіць мову, тады лепш размяркоўваць сабраныя матэрыялы па мясцовасцях, дзе яны запісаны. Пры вывучэнні вобразаў, якімі карыстаецца народ для выражэння сваіх паэтычных уяўленняў, лепш размяшчаць песні па гэтых вобразах».

Цікавыя рэкамендацыі дае Я. Ф. Карскі ў адносінах размеркавання казак. У тым жа разборы «Матэрыялаў» П. В. Шэйна ён піша:

«Што тычыцца падраздзялення казак, дык тут бачым тое ж, што можна наглядаць і ў іншых зборніках, г. зн. падзел казак на такія, якія паказваюць свет жывёл,— па міфічныя, бытавыя, анекдоты і г. д.; такі падзел зараз далёка не можа быць прызнаны навуковым, таму што нельга быць упэўненым у тым, калі тая ці іншая казка ўзнікла, якія ў ёй пазнейшыя нарашчэнні, ці не запазычана дадзеная казка ў іншых народаў і т. п. Таму самым натуральным размяшчэннем казак трэба лічыць такое, дзе яны рассартаваны па сваіх сюжэтах».

Высокія патрабаванні прад'яўляў Яфім Фёдаравіч і да рэдактараў народнай творчасці, у ролі якіх павінен выступаць і сам збіральнік, калі ён публікуе сабраныя ім народныя творы. У першую чаргу ўвага тут павінна быць звернута на сістэматызацыю, на паслядоўнае захаванне прынятай пры гэтым арфаграфіі, на ўказанне апублікаваных іншымі збіральнікамі варыянтаў і іншых каментарыяў.

[1] «Русский филологический вестник», т. XXI, № 5, стар. 243.




Сярод дэлегатаў VII Міжнароднага кангрэсу этнаграфічных і антрапалагічных навук у Маскве, 1964 г.

Шматлікія ўказанні Я. Ф. Карскага аб прынцыпах збірання і публікацыі народнай творчасці рассыпаны ў многіх яго рэцэнзіях і водгуках на зборнікі беларускай народнай паэзіі, за выхадам якіх ён уважліва сачыў і адклікаўся на кожны з іх сваім словам, а часта дапамагаў не толькі парадай, а і справай.

В. І. Баркоўскі ў сваёй кнізе «Академик Е. Ф. Карский» на падставе ўрыўкаў з пісем П. В. Шэйна, апублікаваных Я. Ф. Карскім у яго артыкуле ў зборніку на ўшанаванне акадэміка Д. І. Багалія, зазначае:

«Дапамога П. В. Шэйну не абмяжоўвалася толькі парадамі (вуснымі і пісьмовымі). У тых выпадках, калі Шэйну цяжка было разабрацца ў сабраным матэрыяле па беларускай мове, ён пасылаў карэктуру Яфіму Фёдаравічу, і Яфім Фёдаравіч ахвотна выконваў гэту работу».

Заахвочваючы і падтрымліваючы кожнае пачынанне ў збіранні і публікацыі беларускага фальклору, Я. Ф. Карскі прад'яўляў самыя строгія патрабаванні да гэтай работы і не пакідаў без увагі ніводнага дапушчанага кім-небудзь промаху.

Адзначаючы станоўчыя бакі і хібы ў кнізе Раманава «Беларускі зборнік» (т. I), Яфім Фёдаравіч указвае, у прыватнасці, і такія, здавалася б, другарадныя недахопы, як тое, што песні часта няправільна падзелены на строфы, ёсць няправільна запісаныя радкі, між тым, гаворыць Карскі, «усе беларускія песні, апрача нязначнай колькасці экспромтаў, строга музыкальныя, і нязначнае парушэнне плаўнага іх цячэння больш-менш вопытнаму наглядальніку адразу кідаецца ў вочы».

З любоўю ставячыся да збірання і публікацыі паэтычнай творчасці народа, Я. Ф. Карскі не мог даравань ніякага нядбайства ў гэтай справе. Рэзкую крытыку дае Я. Ф. Карскі рабоце прафесара А. Чэрнага, які запісваў беларускія песні вельмі дрэнна, таму што, як адзначае Карскі, напэўна, «недастаткова пазнаёміўся з беларускай гаворкай нават той мясцовасці, у якой яму даводзілася быць; апрача таго, ён зусім незнаёмы з рускімі выданнямі беларускіх песень, напрыклад П. В. Шэйна, хоць гэтыя выданні, безумоўна, ёсць у бібліятэцы Кракаўскай акадэміі, пры якой выдаецца « Zbior Wiadomości».

Патрабуючы дакладнай перадачы народнай творчасці ў публікацыях, Я. Ф. Карскі падагульніў свае погляды на гэту справу ў 1-м выпуску I тома «Беларусаў», гаворачы, што народныя творы або «перадаюцца цалкам у такім выглядзе, у якім яны захоўваюцца ў вуснах народа, г. зн. запісваюцца і друкуюцца строга фанетычна; або з захаваннем галоўных рыс народных гаворак — захоўваецца арфаграфія гістарычная; або, нарэшце, арфаграфіі надаецца аднастайны выгляд з захаваннем толькі лексічных і сінтаксічных асаблівасцей народных гаворак, а таксама часткова марфалагічных» [2].

Дадзенае палажэнне, мне здаецца, мае практычнае значэнне і зараз, асабліва пры перавыданнях старых беларускіх фальклорных зборнікаў, матэрыялы ў якіх надрукаваны самымі разнастайнымі арфаграфічнымі сістэмамі.

Нельга не звярнуць увагі яшчэ на адну практычную задачу, якую ставіў перад фалькларыстамі Яфім Фёдаравіч, марачы аб паўсямесным фальклорным абследаванні Беларусі і маючы на ўвазе стварэнне своеасаблівага фальклорнага атласа. Я думаю, што калі раней гэта задача раз-

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. I, вып. 1. Варшава, 1903, стар. 280.

розненым беларускім фалькларыстам была не па плячу, дык у наш час яе можна і трэба ажыццявіць.

Сваю шматгадовую работу ў галіне беларускага фальклору Яфім Фёдаравіч завяршыў капітальнай працай, змешчанай у 1-м выпуску III тома «Беларусаў». У гэтай рабоце ў поўную сілу разгарнуўся глыбокі навуковы талент Я. Ф. Карскага як даследчыка беларускай народнай творчасці. Я не маю магчымасці поўнасцю ахарактарызаваць гэтую работу і хачу толькі паставіць і па меры сваіх сіл адказаць на адно пытанне.

Некаторыя беларускія фалькларысты часам выказваюць думку, што работы Я. Ф. Карскага, каштоўныя сваім фактычным матэрыялам, «нічога не могуць даць з пункту погляду метаду» [3]. Ці так гэта? І ці можна з гэтым згадзіцца, калі мы, на жаль, не маем яшчэ ніводнай працы, у якой быў бы прааналізаваны метад Я. Ф. Карскага? Думаю, што не.

Як вядома, у гісторыі рускай фалькларыстыкі на працягу амаль таго часу, у які працаваў Я. Ф. Карскі, змянілася некалькі фалькларыстычных тэорый: на змену міфалагічнай прыйшла тэорыя запазычанняў, яе замяніла антрапалагічная, а гэту апошнюю — гістарычная. Да якой жа з гэтых школ належыў Я. Ф. Карскі? Я думаю, калі мы адкажам на гэтае пытанне, для нас стане больш ясным, што з вучэння Я. Ф. Карскага аб фальклоры мы можам выкарыстаць пры стварэнні савецкай тэорыі фальклору.

Для таго каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна высветліць, як глядзеў Я. Ф. Карскі на асноўныя пытанні фалькларыстыкі: 1) дзе бярэ пачатак і адкуль паходзіць народная творчасць і 2) хто з'яўляецца яе тварцом і носьбітам.

Першы выпуск III тома «Беларусаў», прысвечаны народнай паэзіі, адкрываецца такімі словамі Я. Ф. Карскага:

«Не задаючыся вельмі шырокімі мэтамі глыбокага і дэталёвага даследавання тых або іншых народных паэтычных твораў, для чаго патрэбна было б перш за ўсё прыцягнуць велікарускія і маларускія матэрыялы, а таксама падрабязна параўнаць з адпаведнымі тэорыямі іншых славян і народаў неславянскіх, што вельмі павялічыла б памеры і

[3] Гл.: М. Я. Грынблат. Я. Ф. Карскі як беларускі этнограф. «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1951, № 4, стар. 59.

без таго вялікай працы, аўтар, не ўхіляючыся ад карыстання параўнаўчым метадам, таму што творы беларускай народнай творчасці натуральна маюць сваяцкія паралелі, імкнецца галоўным чынам звярнуць увагу вучонага свету, а таксама інтэлігентных чытачоў наогул на тыя каштоўныя ў розных адносінах залежы сырых матэрыялаў, якія назапашаны ў друку пераважна за XIX стагоддзе па беларускаму фальклору і чакаюць працавітых даследчыкаў» [4].

Я прашу прабачэння за гэтую, можа занадта доўгую вытрымку але без яе нельга абысціся: яна раскрывае не толькі тыя задачы, якія ставіў Я. Ф. Карскі ў гэтай частцы сваёй працы «Беларусы», але нібы ўказвае і на той метад, якім карыстаўся ці, прынамсі, ад якога *не ўхіляўся* даследчык,— гэта параўнаўчы метад.

Адсюль можна падумаць, што Яфім Фёдаравіч падзяляе параўнаўчую тэорыю фалькларыстыкі, тэорыю запазычанняў. Але гэта не так. Вытокі беларускай народнай паэзіі Я. Ф. Карскі шукае не ў запазычаннях, а ў сваіх родных крыніцах. Ён іх бачыць у культуры тых старадаўніх рускіх плямён, якія ляглі ў аснову беларускай народнасці.

У адпаведнасці са сваёй агульнай тэорыяй этнагенезу беларусаў, распрацаванай ім у папярэдніх тамах, Я. Ф. Карскі зазначае, што «беларусы з'яўляюцца, наогул кажучы, аўтахтонамі ў сваёй краіне: у большасці сваёй масы яны сядзяць на прарускай і праславянскай тэрыторыі; толькі на паўночным і паўднёвым захадзе яны сямтам прасунуліся ў вобласці латышоў і літоўцаў» [5].

Наколькі гэтае сцверджанне адпавядае сучасным навуковым даным, я думаю, больш грунтоўна могуць адказаць нашы этнографы, даклады якіх мы будзем мець магчымасць заслухаць на гэтай сесіі.

У дадзеным выпадку нас цікавіць другое сцверджанне акадэміка Карскага, якое з'яўляецца вынікам з папярэдняга. «Натуральна,— гаворыць ён,— у выніку гэтага дапусціць, што рускія плямёны, якія ляглі ў аснову беларускай народнасці, атрымалі ў спадчыну яшчэ ў часы дагістарычныя, папярэднічаўшыя прыняццю хрысціянства, той запас ведаў і наогул культурны ўзровень, які развіўся ва ўсіх славян у час іх агульнага жыцця; з другога боку,

[4] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени. Вып. 1. Народная поэзия. М., 1916, стар. 3.
[5] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, стар. 3.

на іх долю дасталіся і тыя культурныя набыткі, якія дасягнуты ў час агульнага жыцця ўсіх рускіх славян».

У адпаведнасці з гэтым даследчык ставіць сваёй задачай вызначыць тыя элементы рускай народнасці, якія характарызуюць яе а) у эпоху агульнага жыцця з іншымі індаеўрапейцамі, б) у эпоху агульнага жыцця з другімі славянамі пасля выдзялення з агульнага індаеўрапейскага жыцця і в) у эпоху агульнарускага жыцця. Толькі тады можна будзе больш-менш правільна зразумець адлюстраванне народнай асобы ў творах беларускага мастацкага слова. Як бачым, Я. Ф. Карскі робіць намаганне тлумачыць адлюстраванне жыцця ў фальклоры ў сувязі з гісторыяй народа, з гісторыяй яго культуры.

Але перад даследчыкам стаіць цяжкая задача: як даць гэтае тлумачэнне, калі народная памяць не захавала ніякіх слядоў уяўленняў аб агульным жыцці ў індаеўрапейскую эпоху. Тут на дапамогу, гаворыць Яфім Фёдаравіч, прыходзіць навука, якая мае ў сваім распараджэнні «помнікі матэрыяльнай археалогіі, даныя народнага быту і асабліва багацці мовы». Але быт таксама мяняецца. І далей Карскі зазначае: «Далей мовы не прасціраецца ні адна крыніца» [6]. Трэба толькі знайсці сродак устанаўліваць храналогію слоў. Такім сродкам, на думку Карскага, з'яўляецца параўнаўчае вывучэнне лексічнага складу мовы.

Такім чынам, мы бачым, што пад параўнаўчым метадам даследчык разумее не фальклорную параўнаўчую тэорыю, іначай кажучы, тэорыю запазычанняў, а параўнаўчы метад мовазнаўства.

Паводле Я. Ф. Карскага, беларуская паэзія зарадзілася яшчэ ў глыбокай старажытнасці, разам з мовай; моцна зрушылася яна ў сваім развіцці ў агульнаславянскую эпоху, калі ўжо ясна абрысаваліся многія сюжэты і тэмы, якія існуюць у ёй да гэтага часу [7]. Далейшае жыццё народа, пасля прыняцця хрысціянства, узбагацілася новым зместам, які паступова імкнецца выціснуць ранейшы светапогляд. На першых парах хрысціянскія ідэі слаба пранікаюць у народную масу, затым яны доўга ўжываюцца з паганствам і толькі ўрэшце атрымліваюць верх (і то не заўсёды) над паганствам [8]. Апрача таго, у жыцці народа

[6] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, стар. 3.
[7] Там жа, стар. 45.
[8] Там жа.

адбываюцца выдатныя палітычныя падзеі, а з часам і эканамічныя змены; усё гэта дае новы матэрыял для паэзіі, якая ствараецца, аднак, па старых узорах [9].

Так разумее Я. Ф. Карскі вытокі нацыянальнай народнай паэзіі, што, мне здаецца, не мае нічога агульнага з разуменнем гэтага пытання ў прыхільнікаў тэорыі запазычання.

Праўда, Я. Ф. Карскі, разглядаючы канкрэтныя фальклорныя творы, не адмаўляе ў асобных выпадках запазычанняў. Але пры гэтым ён заўсёды перасцярагае: «Не трэба толькі ў падобных тлумачэннях занадта захапляцца і бачыць запазычанні там, дзе ёсць толькі выпадковае супадзенне, якое тлумачыцца або дагістарычным сваяцтвам народаў, або супольнасцю псіхічных прыёмаў народнай творчасці» [10]. У другім месцы, гаворачы аб супастаўленнях А. М. Весялоўскага румынскіх, славянскіх і грэчаскіх каляд, Я. Ф. Карскі ізноў заўважае: «Аднак у некаторых выпадках, быць можа, трэба бачыць не толькі запазычанні, але і адлюстраванне агульных вераванняў, якія развіліся часткова на індаеўрапейскай глебе» [11].

Тое ж самае можна сказаць і аб адносінах Я. Ф. Карскага да міфалагічнай тэорыі.

Ён не адмаўляе, што ў некаторых творах, напрыклад у паасобных замовах, у пэўнай ступені можна бачыць міфічныя элементы, якія адлюстроўваюць першабытныя светапогляды народа. «Але асобы,— гаворыць Я. Ф. Карскі,— якія прытрымліваюцца міфалагічных тлумачэнняў, звычайна залішне захапляюцца ў правядзенні сваіх тэорый: міфалагічныя элементы часта бачаць нават там, што аказваецца безумоўна запазычаным з кніг, перакладзеных з грэцкай мовы» [12]. Яфім Фёдаравіч прыводзіць некалькі прыкладаў гэтых «захапленняў» і абвяргае сцверджанне прадстаўнікоў міфалагічнай школы, паказваючы на апакрыфічнае паходжанне пэўных замоў.

Я. Ф. Карскі ў «Беларусах» не адзін раз вяртаецца да розных фальклорных тэорый і, прымаючы іншы раз тое ці іншае тлумачэнне пэўнай школы, робіць гэта заўсёды вельмі асцярожна. Так, гаворачы аб паходжанні казак, у пры-

[9] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, стар. 45.
[10] Там жа, стар. 95.
[11] Там жа, стар. 101.
[12] Там жа, стар. 80—81.

ватнасці аб узнікненні вядомых у розных народаў сюжэтаў, вакол чаго вяліся найбольш гарачыя спрэчкі паміж рознымі фальклорнымі школамі, Я. Ф. Карскі зазначае, што «кожная тэорыя мела сур'ёзныя падставы, з якіх яна развівала свае палажэнні, але гэтыя падставы звычайна нерабольшваліся, у выніку чаго і вывады атрымліваліся занадта рашучыя, якіх нельга было пашырыць на тую разнастайнасць сюжэтаў і матываў, якімі вызначаюцца казкі». І далей Я. Ф. Карскі дадае: «Людзі больш памяркоўныя, трымаючыся пэўнай тэорыі, рабілі ўступкі і іншым, і тым больш набліжаліся да ісціны» [13].

На першы погляд можа паказацца, што падобная «памяркоўнасць» даследчыка да розных фальклорыстычных тэорый можа немінуча прывесці да эклектызму. Але гэта не так. Не прэтэндуючы, як ён сціпла заяўляе сам, на нейкія абсалютныя вывады, Я. Ф. Карскі праяўляе найбольш рэалістычны, а значыць, і найбольш правільны падыход да гэтай з'явы, маючы на ўвазе, што фальклор не з'яўляецца нечым застылым і непарушным, а ён жыве і развіваецца, і таму розным фальклорным з'явам і тлумачэнне трэба шукаць у розных гістарычных умовах.

Такім чынам, Я. Ф. Карскі, устанаўліваючы вытокі той ці іншай фальклорнай з'явы, не абмяжоўваецца адной крыніцай, а ўказвае на іх разнастайнасць. Тут можа быць і старажытная індаеўрапейская і агульнаруская рэчаіснасць, і даўнейшае жыццё беларускай народнасці, і сучаснасць, і запазычанні, і кніжныя ўплывы. Аднак асноўнае месца сярод гэтых вытокаў займае канкрэтная рэальнасць дадзенага народа — старажытная і сучасная; і толькі для асобных фальклорных з'яў, падаючы іх паралелі ў іншых народаў, ён называе запазычанні і то заўсёды ў вельмі асцярожнай форме, ужываючы нават часамі своеасаблівы тэрмін — «сюжэт міжнароднага паходжання» [14].

Апрача таго, выступаючы супраць захапленняў тэорыяй міграцыі, Яфім Фёдаравіч заўважае, што сюжэтны касцяк яшчэ не вырашае справы. Для таго «каб такі сюжэт пераўтварыўся ў сапраўдную казку і прытым рускую або беларускую, яму патрэбна яшчэ атрымаць пэўнае слоўнае выражэнне і набыць рысы нацыянальнай бытавой абстаноў-

[13] Е. Ф. К а р с к и й. Белорусы, т. III, стар. 3.
[14] Там жа, стар. 399.

кі» [15]. І патрэбным аналізам абстаноўкі, характараў, моўных, бытавых і іншых нацыянальных асаблівасцей беларускіх казак Яфім Фёдаравіч паказвае, як фальклорныя сюжэты, вядомыя і іншым народам, становяцца нацыянальным здабыткам беларускага народа.

Такім чынам, не адмаўляючы катэгарычна асобных метадаў і прыёмаў аналізу фальклорных матэрыялаў, уласцівых розным фальклорным школам, у тым ліку і антрапалагічнай з яе ўстаноўкай на аднолькавыя законы псіхалогіі, Я. Ф. Карскі прытрымліваецца ў аснове гістарычнай тэорыі. А як правільна адзначыў вядомы савецкі фальклатрыст Ю. Сакалоў, выступленне «гістарычнай школы» мела вядомы станоўчы бок, паколькі яно было накіравана супраць аднабаковага захаплення тэорыяй запазычанняў і ставіла сваёй задачай звязаць фальклор з гісторыяй народа.

На прагрэсіўных пазіцыях стаяў Я. Ф. Карскі і ў сваіх поглядах на стваральнікаў і носьбітаў фальклору, асабліва калі прыняць пад увагу панаваўшую тады тэорыю, асабліва ярка выражаную ў рускай фалькларыстыцы Келтуялам, які сцвярджаў, што рускія быліны і іншыя віды фальклору створаны не народам, а панаваўшымі ў час феадалізму эксплуататарскімі класамі. У адрозненне ад гэтага Я. Ф. Карскі пісаў: «На вусныя народныя творы прынята глядзець, як на плод калектыўнай творчасці: іх стварае і захоўвае ўвесь народ, яны адлюстроўваюць думы народа. Гэта палажэнне правільна толькі часткова. Справа ў тым, што калектыўны ўдзел народа ў стварэнні яго вуснай паэзіі трэба разумець такім чынам, што асобныя, больш выдатныя асобы з народа стваралі тыя ці іншыя творы; затым захоўваліся яны ўжо ўсім народам, таму што адлюстроўвалі яго светапогляд ды і створаны былі так, як жадаў бы зрабіць гэта кожны з народа; якія-небудзь асабістыя, суб'ектыўныя асаблівасці такога аўтара, якія адчуваліся ў яго творах, народнай памяццю не ўтрымліваліся» [16].

Карскі нібыта не робіць сацыяльнай дыферэнцыяцыі народа, зазначаючы, што народная творчасць стваралася і захоўвалася ўсім народам. Але, безумоўна, мае на ўвазе працоўны народ, таму што ніжэй гаворыць аб другой магчымасці стварэння вуснай паэзіі, калі з'явіліся, як ён

[15] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, стар. 428.
[16] Там жа, стар. 45—46.

кажа, князі, баяры, дружына,— гэта маглі ўжо быць і вандроўныя песняры пры княжацкім двары, скамарохі. Іх творчасць пераходзіла ў народ і засвойвалася ім, хоць і ў зменнай форме, і станавілася агульным здабыткам народа [17].

Такім чынам, у сваіх адказах на два асноўныя пытанні фалькларыстыкі Я. Ф. Карскі зыходзіць з пазіцый не міфалагічнай або міграцыйнай ці антрапалагічнай тэорый, а з пазіцый тэорыі гістарычнай, прадстаўнікі якой імкнуліся звязаць народную творчасць з канкрэтнай гістарычнай рэчаіснасцю. Апрача таго, у даследаваннях Я. Ф. Карскага любога, бадай, фальклорнага факта мы лёгка заўважаем тую асаблівасць, што вучоны разглядае яго як факт мастацкай літаратуры, з аднаго боку, у цеснай сувязі з этнаграфіяй і мовай народа — з другога, і ва ўзаемадзеянні з падобнымі з'явамі ў рускім, украінскім і наогул славянскім фальклоры — з трэцяга. А мне здаецца, што савецкі фалькларыст Марк Канстанцінавіч Азадоўскі меў рацыю, калі, гаворачы аб месцы фалькларыстыкі сярод іншых дысцыплін, зазначаў, што ў нашу савецкую эпоху гэта навука павінна быць непарыўна звязана з літаратуразнаўствам і апірацца на этнаграфію і лінгвістыку. У гэтым сэнсе Я. Ф. Карскі дае ў сваіх доследах нямала вельмі яркіх узораў. Вось чаму гэтыя якасці фальклорных доследаў Я. Ф. Карскага, з аднаго боку, яго выразная прыхільнасць да гэтай прагрэсіўнай для свайго часу гістарычнай тэорыі фальклору дае нам, савецкім фалькларыстам, усе падставы для таго, каб крытычна, але ўважліва паставіцца да вялікай спадчыны нашага выдатнага вучонага.

*1961 г.*

## СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ПАЭЗІЯ [1]

### ДА ВЫНІКАЎ КОНКУРСУ ПА ЗБІРАННЮ ФАЛЬКЛОРУ

Вусная народная паэзія як важная частка нацыянальнага мастацтва мае вялікае значэнне ў духоўным жыцці працоўных мас. Вывучаць народную творчасць — значыць глыбей пранікаць у запаветныя мары і жаданні народа.

[17] Е. Ф. К а р с к и й. Белорусы, т. III, стар. 45.
[1] Артыкул напісаны ў сааўтарстве з І. В. Гутаравым.

Вывучэнне беларускага фальклору мае вялікую гісторыю. Буйнейшымі збіральнікамі і даследчыкамі яго ў дарэвалюцыйныя часы былі Раманаў, Дабравольскі, Федароўскі, Шэйн, Пыпін, Карскі, Сержпутоўскі і інш.

Многія савецкія вучоныя-гісторыкі, этнографы, літаратуразнаўцы, фалькларысты прысвяцілі свае даследаванні беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці.

Шмат народных твораў сабралі і паэтычна апрацавалі Я. Колас, Я. Купала, Зм. Бядуля, К. Крапіва, А. Якімовіч.

Вельмі каштоўныя зборнікі беларускіх песень кампазітараў М. Аладава, М. Чуркіна, народнага артыста СССР Р. Шырмы і народнага артыста СССР Я. Цікоцкага.

Але шмат твораў народнай беларускай паэзіі, якія ўзніклі раней і ўзнікаюць штодзень у наш час, яшчэ не запісаны, многія куткі нашай рэспублікі не вывучаны фалькларыстамі.

Каб запоўніць гэтыя прабелы і ахапіць фальклорнымі запісамі ўсе раёны БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР правёў конкурс на лепшага збіральніка фальклору і народнага меласу. Вынікі конкурсу паказалі, што сучасная народная паэзія жыве паўнакроўным жыццём, вылучаецца глыбокай ідэйнасцю, выключнай актуальнасцю і высокім майстэрствам.

Атрыманыя ад удзельнікаў конкурсу фальклорныя матэрыялы сведчаць, што зараз асноўнымі жанрамі народнай творчасці з'яўляюцца частушкі, прыказкі, прымаўкі, песні. Менш поўна ў запісах нашых шматлікіх карэспандэнтаў прадстаўлены празаічныя жанры. Усяго даслана на конкурс звыш 8000 тэкстаў.

У конкурсе прынялі ўдзел 118 рабочых, калгаснікаў, навуковых супрацоўнікаў і літработнікаў, настаўнікаў, студэнтаў, вучняў і інш. У конкурсе ўдзельнічалі асобныя збіральнікі, а таксама чатыры студэнцкія калектывы і дзве вучнёўскія групы.

Журы пастанавіла прысудзіць першую прэмію калектыву студэнтаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Пад кіраўніцтвам выкладчыка Л. Мухарынскай гэты калектыў сабраў у розных раёнах Беларусі багаты і разнастайны матэрыял. Запісаныя дакладна і на высокім навуковым узроўні песні даюць поўнае ўяўленне аб меладычным багацці і нацыянальнай самабытнасці беларускага музычнага фальклору. Многія з запісаных мелодый вылучаюцца высокімі мастацкімі якасцямі.

Другія прэміі атрымалі калектыў студэнтаў Брэсцкага педінстытута (кіраўнік дацэнт Ул. Калеснік) і Э. Ледаховіч.

Музычныя запісы Э. Ледаховіча разнастайныя па жанраваму складу. Сярод іх многа песень на сучасную тэматыку. Асабліва цікавыя запісы шматгалосных песень, якія адлюстроўваюць фарміраванне новага харавога стылю ў беларускай народнай музыцы.

У запісах студэнтаў Брэсцкага педагагічнага інстытута пераважаюць частушкі, песні. Сярод іх значная колькасць сучасных твораў, асабліва твораў перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Звяртаюць на сябе ўвагу таксама гістарычныя паданні, антыпрыгонніцкія і антырэлігійныя творы.

У запісах В. Шымука і Л. Царанкова (другая і трэцяя прэміі) захавана мясцовая гутарковая мова, творы вылучаюцца высокім мастацкім узроўнем. Збіральнікі даюць сціслую характарыстыку носьбітаў фальклору і паказваюць абставіны, у якіх праводзіліся запісы.

Запісы студэнтаў Мінскага педінстытута (трэцяя прэмія) ахопліваюць розныя мясцовасці Беларусі і даюць багаты матэрыял для вывучэння абрадавай паэзіі. Але кіраўнікі фалькларыстаў Мінскага педінстытута М. Пятровіч і С. Гурвіч мала аддавалі ўвагі запісам сучасных форм беларускай народнай творчасці.

Трэцюю прэмію атрымаў М. Янкоўскі, які даслаў на конкурс гістарычныя, салдацкія, сірочыя песні і некалькі песень і частушак перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Такая ж узнагарода прысуджана А. Емяльянаву. Дасланыя ім песні, частушкі, прыказкі і прымаўкі запісаны ў адной вёсцы і даюць багаты матэрыял для назіранняў за іх відазмяненнямі.

У запісах студэнта Гомельскага педінстытута В. Гусціновіча (трэцяя прэмія) звяртаюць на сябе ўвагу жартоўныя песні.

Заахвочвальную прэмію журы прысудзіла вучням 8-га класа 43-й сярэдняй школы Мінска. Фальклорныя запісы вучняў зроблены ў час паходу па роднаму краю, пашпартызаваны і добра афармлены.

Сярод матэрыялаў, запісаных І. Тулупавым (заахвочвальная прэмія), ёсць самыя надзённыя частушкі пра апошнія дасягненні савецкіх людзей у народнай гаспадарцы, навуцы, міжнародным жыцці [...]

У запісах І. Курбекі (заахвочвальная прэмія) многа добрых дзіцячых песень, лічылак, калыханак.

Сярод разнастайных запісаў калгасніцы Т. Місевіч (заахвочвальная прэмія) ёсць рэдкія ўзоры вясельных маршаў і лірычных песень, а таксама хаўтурныя галашэнні. Т. Місевіч актыўна дапамагае супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ў выяўленні народнага меласу. Яна — пастаянны карэспандэнт інстытута.

Ужо некалькі год дасылае ў сектар фальклору інстытута свае запісы А. Русіновіч (заахвочвальная прэмія). Сярод атрыманых ад яго матэрыялаў ёсць эпічныя творы часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Астатнім удзельнікам конкурсу дырэкцыя і партарганізацыя інстытута паслалі граматы і лісты з падзякай.

Конкурс дапамог наблізіць работу сектара фальклору да жыцця народа, наладзіць больш шырокую перапіску з насельніцтвам. Фальклорныя матэрыялы дасылаюцца і зараз, пасля конкурсу.

Актыўных аматараў фальклорнай справы шмат. Але іх трэба арганізоўваць і падтрымліваць. Некаторыя раённыя газеты сістэматычна рэцэнзуюць фальклорныя выданні. Шмат цікавых народных песень, частушак, прыказак збіраюць вучні па заданнях рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі». У газеце «Советская Белоруссия» таксама ўжо з'явіўся фальклорны куток «Народная мудрасць».

Вельмі пажадана, каб усе раённыя і абласныя газеты рэспублікі час ад часу друкавалі запісаныя ў іх мясцовасцях фальклорныя творы.

*1961 г.*

## 29 ТАМОЎ НАРОДНЫХ СКАРБАЎ

Шматтомны Збор твораў беларускага фальклору выдаецца ў нас упершыню. Мяркуецца, што ён будзе складацца з 29 тамоў. Памеры аднаго тома 30—40 умоўных друкаваных аркушаў. Такім чынам, па аб'ёме гэтае выданне намнога пераўзыдзе ўсе фальклорныя зборнікі, выпушчаныя ў дакастрычніцкі і савецкі час. Гэта будзе самы грунтоўны і самы прадстаўнічы звод беларускага фальклору, які ахопіць усё лепшае, што створана беларускім народам на працягу яго гісторыі ва ўсіх вуснапаэтычных жанрах.

Шматтомны Збор беларускага фальклору падсумуе, дарэчы, і ўсе набыткі беларускай фалькларыстыкі.

У выданні будзе шырока прадстаўлена спадчына дарэвалюцыйных фалькларыстаў — працы, публікацыі і запісы Я. Чачота, П. Шпілеўскага, І. Насовіча, П. Бяссонава, П. Шэйна, Е. Раманава, М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага і многіх збіральнікаў і даследчыкаў беларускага фальклору.

Увойдуць у збор і многія фальклорныя матэрыялы, што выяўлены ў беларускіх архівах, а таксама ў архіўных сховішчах Масквы, Ленінграда, Вільнюса.

Вялікая колькасць фальклорных тэкстаў выбрана з выданняў і публікацый савецкага часу — з перыядычнага друку, са збораў Р. Шырмы, Г. Цітовіча, М. Чуркіна, Ф. Янкоўскага.

Нарэшце, будуць апублікаваны шматлікія матэрыялы, сабраныя нашым інстытутам у выніку фальклорных экспедыцый, і запісы, атрыманыя намі з вышэйшых навучальных устаноў, з дамоў народнай творчасці і ад асобных збіральнікаў.

Галоўным крытэрыем пры адборы тэкстаў для выдання была перш за ўсё ідэйна-мастацкая вартасць твораў, іх арыгінальнасць. Апрача таго, укладальнікі ўлічвалі і месца бытавання твораў — тэксты падбіраліся так, каб у выданні былі прадстаўлены ўзоры кожнага фальклорнага жанру ўсіх абласцей Беларусі.

Цяпер пра структуру ўсяго выдання і асобных тамоў. Фальклорны матэрыял, які ўвойдзе ў збор, сістэматызаваны ў адпаведнасці з прынцыпамі класіфікацыі, прынятымі ў сучаснай фалькларыстыцы. Фальклорныя творы групуюцца па сваіх жанравых і функцыянальных якасцях з улікам і сюжэтна-гісторыка-тэматычных асаблівасцей.

Усе фальклорныя творы падзелены ў зборы на тры асноўныя «родавыя» групы: песенная творчасць, народная проза і народная драма. Унутры гэтых груп ажыццяўляецца жанравы падзел.

Больш за палову тамоў усяго выдання будзе аддадзена песням. Такім песенным жанрам, як працоўныя, каляндарныя, абрадавыя, лірычныя песні, балады і рамансы, гістарычныя і рэвалюцыйныя песні, частушкі і прыпеўкі, будуць аддадзены асобныя тамы.

Некалькі тамоў складуць казкі — аб жывёлах, чарадзейныя, сацыяльна-бытавыя і інш.

Па адным томе адведзена на дзіцячы фальклор, замовы, легенды, паданні і сказы, анекдоты і жанры, народныя загадкі. Асобны том складуць прыказкі, прымаўкі і выслоўі.

Выданне забяспечана грунтоўным навуковым і даведачным апаратам. Кожнай жанравай групе будзе папярэднічаць уступны артыкул, усе тэксты будуць падрабязна пракаменціраваны. У каментарыі абавязкова падаюцца асноўныя звесткі пра месца і ўмовы бытавання тэксту, асноўны тэкст супастаўляецца з варыянтамі.

Песенныя тэксты і тэксты, якія вымагаюць музычнага суправаджэння, у многіх выпадках будуць пададзены разам з нотнымі запісамі.

Усе тэксты твораў будуць публікавацца ў адпаведнасці з сучасным правапісам. Фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці народнай гаворкі захоўваюцца толькі тады, калі гэтага патрабуе мастацкая форма твора (рыфма, рытм і г. д.).

І нарэшце, пра тэрміны выдання. Збор беларускага фальклору мы мяркуем выдаваць серыйна. У бліжэйшыя пяць-сем гадоў будзе выпушчана першая серыя з 15 тамоў.

Першы том выйдзе ў 1970 годзе — да 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. У гэтым томе будуць змешчаны беларускія народныя песні савецкага часу, сярод іх — песні, прысвечаныя Леніну, партыі, Радзіме.

Услед за ім выйдзе том гістарычных і рэвалюцыйных песень, потым — тамы жніўных песень, песень веснавога і восеньскага цыклу, радзіннай і вясельнай паэзіі, лірычных песень, сацыяльнай лірыкі, частушак, сатырычных і жартоўных песень, некалькі тамоў казак, том загадак і г. д.

Большасць тамоў гэтай серыі падрыхтавана ўжо да друку, завяршаецца праца і над астатнімі.

Не сумняваемся, што выхаду шматтомнага Збору твораў беларускага фальклору чакаюць шматлікія чытачы і што яго з радасцю сустрэне і наша літаратурная грамадскасць, і вучоныя, выкладчыкі, студэнты, аматары мастацкай самадзейнасці, і шырокія колы чытачоў, якім дарага буйнапаэтычная творчасць беларускага народа.

*1969 г.*

# СТВОРЫМ ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ [1]

Для пачатку нагадаем некалькі радкоў з бессмяротнага твора Якуба Коласа «Новая зямля» — гэтай энцыклапедыі дарэвалюцыйнага жыцця беларусаў. Памятаеце?

На прыгуменні, поруч з садам,
Павець з гумном стаяла радам,
А пад паветкаю прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы
І вулляў некалькі па пчолы,
Яшчэ някончаных; судзіна,
Стары цабэрак, паўасьміна...
Гуменца, крытае саломай,
Ад доўгіх часаў пасівела...
Будоўля, больш яшчэ старая,
З гнілой, вагнутаю страхою
Стаяў хлявец якраз напроці
І чуць ліпеў, як бы на плоце
Гаршчок, разбіты качаргою...
А збоку, ў полі, недалёка
Стаяў прыгрэбнік адзінока,
Пахілкам, горкім сіратою,
У дол упёршыся страхою.
Ў глыбі двара стаяла хата
І выглядала зухавата...

Якая маляўнічая карціна старой вясковай сядзібы беларуса!

Колькі стагоддзяў гібеў на гэтай сядзібе беларускі мужык, колькі стагоддзяў панавалі тут гора і пакуты, колькі пакаленняў страчалі і пакідалі тут белы свет, што ледзь прабіваўся праз падслепаватае аконца!

Але і колькі прыгажосці стваралася тут мазольнымі мужыцкімі рукамі, колькі шчаслівых хвілін правёў тут «бядак пахілы», выраблюючы тыя ж «вазкі, калёсы, панарады», колькі цудоўных песень і казак нарадзілася пад саламянай страхой яго курнай хаты!

Менавіта гэта апошняе натхняла песняра на карціну, поўную паэзіі і хараства.

Для чаго мы ўсё гэта гаворым?

[1] Напісана ў сааўтарстве з В. Аладавым, І. Ахрэмчыкам, П. Броўкам, К. Крапівой, Б. Платонавым, Р. Шырмай.

Наш час — час імклівага ўзлёту жыцця. Літаральна на вачах вырастаюць новыя заводы-гіганты і цэлыя гарады. А заглянем у вёску. Яна ўсё больш упэўнена крочыць за горадам. Будуюцца жылыя дамы з усімі выгодамі, клубы і школы. Працу хлебароба аблягчаюць тысячы самых разнастайных машын. Змяняецца ўвачавідкі і побыт вясковага жыхара. Вёска набывае мэблю, адзенне, абутак, посуд самых апошніх узораў.

Ідзе натуральны працэс адмірання старога. Знікаюць прадметы побыту, якімі карысталіся сяляне стагоддзямі. Разбіраюцца на дровы струхнелыя дзедаўскія і прадзедаўскія хаты. Жанчыны здаюць на ўтыль рэшткі таго адзення і тканін, якія некалі шылі ці ткалі іх бабулі і прабабулі... Пройдзе яшчэ дзесяцігоддзе і не знойдзеш на вёсцы ні кроснаў, ні прасніцы, ні лапцяў. Ужо сёння амаль немагчыма адшукаць людзей, якія б умелі плесці лапці, рабіць лубяныя кашы, рэшаты і падсіткі, драўляныя лыжкі і апалонікі...

Але ж мы не можам і не павінны забываць свайго ўчарашняга. Нам трэба ўсяляк клапаціцца аб тым, каб наша гісторыя не загінула, не знікла бясследна. І адной з дзейсных форм яе ўвекавечання быў бы этнаграфічны музей пад адкрытым небам або філіял Дзяржаўнага музея Беларускай ССР, што ўяўляў бы сабою цэлую вёску з рознага тыпу дамоў, гаспадарчых і іншых будынкаў, сцягнутых з усіх куткоў Беларусі, дзе была б дакладна ўзноўлена абстаноўка, у якой жылі нашы людзі на працягу некалькіх апошніх стагоддзяў.

Зямля наша мае шмат цікавых куткоў, і побыт нашых людзей, які складваўся на працягу стагоддзяў, у розных месцах таксама разнастайны і своеасаблівы. Гомельшчына непадобна на Брэстчыну, Полаччына на Навагрудчыну. Розныя тут і архітэктура хат і гаспадарчых будынкаў, розныя прадметы хатняга ўжытку, рознае адзенне, прылады працы. Музей дапаможа ўбачыць усё гэта наглядна.

Той, хто бываў у Рызе ці ў Петразаводску, не мог не наведаць найбольш значныя ў свеце музеі пад адкрытым небам — Латвійскі этнаграфічны музей і славутыя Кіжы. Такія музеі дазваляюць захаваць на вякі помнікі своеасаблівага драўлянага дойлідства, у іх жа захаваны і ўзноўлены побыт нашых продкаў. Экспанаты этнаграфічнага музея даюць яркае ўяўленне аб тым, якія прадметы акружалі чалавека, як ён жыў і працаваў, якую цаніў

прыгажосць, якія рэчы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ствараў. У такім музеі юныя наведвальнікі не з падручнікаў, а ўвачавідкі зразумеюць, як жылі іх прадзеды. Мастакі змогуць убачыць і адчуць у музеі і традыцыі дэкаратыўна-прыкладнога народнага мастацтва, змогуць улавіць у ім той асаблівы народны, нацыянальны дух і каларыт, які дапаможа ім стварыць глыбоканацыянальныя сучасныя творы мастацтва. А ўсе мы разам зможам у поўнай меры ацаніць наша народнае ткацтва, ганчарныя вырабы, архітэктуру, разьбу і выпільванне па дрэву і іншыя ўзоры народнай творчасці.

Значэнне этнаграфічнага музея нельга пераацаніць. І з кожным годам, з кожным нашым крокам наперад яно будзе ўзрастаць. Усё большую эстэтычную каштоўнасць будуць набываць яго экспанаты.

Сёння пэўнае вывучэнне этнаграфіі нашага народа вядзецца. Збіраюцца матэрыяльныя помнікі духоўнай культуры, робяцца замалёўкі, апісанні, абмеры. Але нам здаецца, што наспеў такі час, каб уся гэтая работа была разгорнута больш шырока і грунтоўна, каб сабраныя экспанаты і апісанні сталі здабыткам не толькі навуковых бібліятэк і спецыяльных навукова-даследчых інстытутаў, але і шырокіх народных мас. Сам факт адкрыцця этнаграфічнага музея пад адкрытым небам дазволіць прыцягнуць да работы ў галіне этнаграфіі таксама новых людзей. Музей аб'яднае краязнаўчыя школьныя гурткі, шматлікіх энтузіястаў-аматараў, накіруе іх работу на вырашэнне пэўных задач па збору этнаграфічных матэрыялаў.

Шырокая грамадскасць можа аказаць неацэнную паслугу ў справе стварэння этнаграфічнага музея. Важная роля тут належыць таксама нашаму перыядычнаму друку, радыё і тэлебачанню. Яны павінны разгарнуць растлумачальную работу, давесці сваім чытачам, слухачам і гледачам, што захаванне, вывучэнне, збор этнаграфічнага матэрыялу мае не толькі значную гістарычную цікавасць, але прынясе і пэўны плён у нашай ідэалагічнай і выхаваўчай рабоце.

Безумоўна, стварэнне этнаграфічнага музея запатрабуе значных сродкаў. Аднак, на нашу думку, палохацца гэтага няма падстаў. Сродкі гэтыя спатрэбяцца не адразу, музей можа фарміравацца на працягу многіх гадоў.

Але ўжо сёння трэба неадкладна вырашыць шэраг пытанняў. Неабходна, напрыклад, ужо сёння прадугледзець

месца, дзе будзе створаны музей. Мясцовасць павінна мець характэрны беларускі ландшафт, добрыя пад'езды для турыстаў і экскурсантаў. Нам здаецца, што для гэтага падыдзе адзін з куточкаў на беразе Мінскага мора. Сёння там ідзе значнае будаўніцтва, таму трэба тэрмінова, загадзя паклапаціцца, каб пакінуць пад музей пэўны ўчастак. Па-другое, неадкладна трэба правесці растлумачальную работу сярод насельніцтва, звярнуцца да краязнаўчых музеяў, школьных краязнаўчых гурткоў з просьбай, каб людзі адшуквалі і захоўвалі тое, што засталося ў нас этнаграфічна каштоўнага.

Стварэнне беларускага этнаграфічнага музея пад адкрытым небам — важная дзяржаўная справа. І яе трэба вырашыць неадкладна.

*1966 г.*

## З ВЫСТУПЛЕННЯ НА АБАРОНЕ ДОКТАРСКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ В. К. БАНДАРЧЫКА «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭТНАГРАФІІ ДРУГОЙ ПАЛАВІНЫ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.»

Афіцыйныя апаненты, даючы агульную станоўчую ацэнку доктарскай дысертацыі В. К. Бандарчыка, адзначылі адначасова і асобныя недахопы, якія маюць месца ў гэтай рабоце. У дадатак можна б прывесці яшчэ некаторыя выпадкі недакладных альбо не зусім выразных фармуліровак і выказванняў даследчыка. Я, напрыклад, хацеў бы звярнуць увагу на тое, што, правільна ацэньваючы ролю рускіх, польскіх і мясцовых беларускіх вучоных у этнаграфічным вывучэнні Беларусі, дысертант часамі не зусім паслядоўна размяжоўвае іх на гэтых катэгорыях. Так, мясцовы беларускі этнограф Федароўскі, які пісаў папольску, аднесены чамусьці да польскіх даследчыкаў, а Бяссонаў, які пісаў па-руску,— да беларускіх. Праўда, вінаваціць вельмі ў гэтай недакладнасці В. К. Бандарчыка нельга, таму што падобнае размежаванне — справа надзвычай складаная, паколькі ў культурным жыцці Беларусі цесна перапляталіся тады тры мовы (руская, беларуская і польская), і гэтая праблема патрабуе спецыяльнага да-



П. Ф. Глебка і В. К. Бандарчык

следавання не толькі этнографаў, а і гісторыкаў, лінгвістаў і літаратуразнаўцаў.

Як з маёй заўвагай, так, напэўна, і з некаторымі крытычнымі заўвагамі афіцыйных апанентаў, відаць, можна яшчэ і спрачацца. Аднак, калі нават прызнаць іх і слушнымі, адзначаныя недахопы не маюць істотнага значэння для характарыстыкі дысертацыі, і я поўнасцю далучаюся да думкі апанентаў, што праца В. К. Бандарчыка заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

В. К. Бандарчык за параўнаўча кароткі час працы ў інстытуце правёў вялікую навукова-даследчую работу. Пачаўшы з вывучэння дзейнасці асобных беларускіх этнографаў (Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага і інш.), ён наступова авалодваў усё больш шырокім матэрыялам і нарэшце прыйшоў да фундаментальнай абагульняючай працы, у якой даў разгорнуты аналіз гісторыі беларускай этнаграфіі дакастрычніцкага часу.

Сваё даследаванне В. К. Бандарчык правёў на шырокім фоне сацыяльна-палітычнага і культурнага развіцця дакастрычніцкай Беларусі. У дысертацыі паказан складаны працэс развіцця беларускай этнаграфіі, шлях паступовага накаплення этнаграфічных ведаў, барацьбы тэндэнцый і навуковых плыняў, росту нацыянальнай інтэліген-

цыі, мясцовых кадраў этнографаў. Можна смела сказаць, што яна складае грунтоўную аснову для далейшых даследаванняў у галіне беларускай этнаграфіі і без яе нельга абысціся ўжо як пры складанні этнаграфічнага атласа Беларусі, так і пры напісанні гістарычных прац па этнаграфіі беларусаў...

Мне хацелася адзначыць, што дысертацыя і апублікаваныя працы В. К. Бандарчыка каштоўны не толькі для самой этнаграфічнай навукі. Яны набываюць значэнне для больш шырокай характарыстыкі культурнай спадчыны беларускага народа.

Этнаграфічная навука ў Беларусі ў дарэвалюцыйны час па сутнасці аб'ядноўвала сабою многія аддзелы гуманітарных навук. Мова, фальклор, быт народа, літаратура, археалогія нават гісторыя свайго народа — вось тое кола навуковых інтарэсаў, якія былі ўласцівы дарэвалюцыйным даследчыкам свайго краю.

Мне як пісьменніку асабліва хочацца адзначыць, што ў фальклорна-этнаграфічных зборніках і іншых публікацыях дарэвалюцыйных этнографаў нярэдка можна сустрэць і творы беларускай літаратуры. Вядома, напрыклад, што беларускім этнографам Раманавым былі выдадзены такія творы беларускай літаратуры, як «Тарас на Парнасе», «Вясна гола перапала», апублікавана некалькі вершаў Ф. Багушэвіча («У судзе», «Панскае ігрышча» і інш.). У V выпуску яго «Беларускага зборніка» ўпершыню надрукаваны ананімны твор «Праўда». Публікавалі літаратурныя творы і іншыя беларускія этнографы — М. Доўнар-Запольскі, М. Янчук, А. Багдановіч і інш.

Такім чынам, этнографы таго часу шырока адлюстроўвалі культуру беларускага народа. Усё гэта паказваецца ў апублікаваных працах і дысертацыі В. К. Бандарчыка.

Гэтыя працы В. К. Бандарчыка сустрэлі прыхільны водгук як шырокіх чытацкіх колаў рэспублікі, так і вучоных-спецыялістаў Савецкага Саюза і замежных краін. У прыватнасці, добрую ацэнку яны атрымалі ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

На выданыя В. К. Бандарчыкам кнігі «Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.», «Еўдакім Раманавіч Раманаў», «Николай Яковлевич Никифоровский» і іншыя шырока адгукнулася наша прэса. Станоўчыя водзывы і рэцэнзіі на гэтыя кнігі надрукавалі такія аўтарытэтныя

часопісы, як «Советская этнография», «Народна творчість та етнографія», «Полымя», «Беларусь», газеты. «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета» і іншыя [...]

*1965 г.*

## ИЗ ОТЗЫВА О КАНДИДАТСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ В. В. РЕВИЦКОГО «СОВРЕМЕННОЕ НАРОДНОЕ ПОЭТИЧЕСКОЕ ТВОРЧЕСТВО БЕЛОРУССИИ И НЕКОТОРЫЕ ЗАКОНОМЕРНОСТИ ЕГО РАЗВИТИЯ»

В продолжение уже многих лет в советской фольклористике идут горячие споры о том, что нужно понимать под современным фольклором, существует ли он вообще, каковы его характер, формы бытования, жанры и т. д. В этот спор своей работой о современном народном творчестве Белоруссии и некоторых закономерностях его развития включился и В. В. Ревицкий.

[...] Автор диссертации довольно выразительно заявил о своем положительном отношении к тому своеобразному творческому проявлению духовной жизни народа, которое называют современным фольклором. Это вытекает уже из самого того факта, что, не ломая копьев в теоретических спорах, диссертант обратился непосредственно к изучению материала, поставив своей задачей «исследовать новые явления и процессы в современном народном поэтическом творчестве, решить вопрос об участии современного фольклора в практике идейно-эстетического воспитания самых широких народных масс и культурного строительства в нашей стране» [...]

В начале первой главы автор говорит о широких возможностях, которые открыла Великая Октябрьская социалистическая революция для культурного роста и художественного творчества народа. Анализ этого творчества диссертант все время связывает с социально-экономическими и культурными изменениями в жизни широких трудящихся масс. Он указывает, что современное народное поэтическое творчество чрезвычайно оперативно отражает нашу действительность, не проходит мимо почти всех новых значительных явлений, совершающихся в жизни со-

ветских людей. Характерной особенностью этого творчества является его значительная массовость, в нем на первый план выступает обобщенный, собирательный образ народа-борца, народа-труженика, горячо любящего свою Родину, неутомимо работающего во имя роста ее силы и могущества.

Прослеживая развитие героя народной поэзии от первых лет Советской власти до наших дней, В. В. Ревицкий указывает как на одну из основных закономерностей этого развития на тот факт, что «рядовой советский труженик постоянно растет, упорно и настойчиво овладевает современной наукой и техникой, шире становится круг его интересов, повышается коммунистическая сознательность».

Тяга народа к знаниям и культуре вызвала к жизни в наше время такие массовые культурно-просветительные организации, как народные университеты, театры, хоровые капеллы, оперные и балетные коллективы, любительские киностудии, симфонические оркестры, которые, будучи новыми организационными формами проявления народного творчества, стали в то же время и новыми формами его бытования.

В. В. Ревицкий подчеркивает также большое значение кино, радио, литературно-художественных декад и фестивалей в процессе обмена духовными ценностями между советскими народами, в результате чего выросли взаимодействие и взаимообогащение народного творчества всех национальностей нашей страны.

Благотворно сказываются на развитии современного народного творчества и его крепнущие связи с профессиональным искусством и литературой. В подтверждение этого положения В. В. Ревицкий приводит примеры из практики самодеятельных и профессиональных коллективов Белоруссии, подчеркивая, что «взаимодействие профессионального и самодеятельного искусства, таким образом, составляет важнейшее условие их развития на современном этапе. Оно будет развиваться и дальше, совершенствуясь и приобретая новые формы».

Несколько страниц диссертации В. В. Ревицкий посвящает вопросам взаимодействия традиционного и современного фольклора, влияния на него революционных песен и, подытоживая этот раздел, замечает, что, «поддерживая и развивая лучшие традиции культурного наследия народа,

советское народное поэтическое творчество поднимает их до уровня коммунистической партийности, открытого и сознательного служения делу коммунизма». Форма выражения не очень удачная, но смысл его верный.

Значительную часть первой главы диссертации Б. В. Ревицкий отвел анализу тематического содержания современного белорусского фольклора. Как ведущую тему народной поэзии наших дней диссертант называет тему свободного созидательного труда. В народных произведениях на эту тему воспевается красота труда, славятся труженики предприятий и колхозных полей, люди науки, покорители целины и космоса. Автор диссертации отмечает, что тематически современное народное творчество охватывает все области нашей жизни: борьбу за мир, положение женщины в нашем обществе, морально-этические проблемы и др. Большое место исследователь отводит анализу народных произведений, посвященных Советской Родине, Коммунистической партии, В. И Ленину.

В заключение первой главы диссертант останавливается на новых формах бытования современной народной поэзии и основных ее жанрах. Называя такие современные средства и формы распространения народного творчества, как радио, кино, печать, смотры художественной самодеятельности, праздники песни и т. д., автор дает описание отдельных народных празднеств, но, к сожалению, описания эти носят иногда характер газетных отчетов и несколько растянуты. Зато о жанрах современной народной поэзии диссертант говорит слишком скупо, не выделяя ничем особенным главные из них и не показывая их специфики. Так, например, в пословицах и поговорках, которые в современном народном творчестве занимают такое большое место, сказано буквально только следующее: «Полно и ярко, сжато и выразительно отражают жизнь послевоенного периода пословицы и поговорки, в которых, по словам М. Горького, ума и чувства вложено на целые книги». И в подтверждение этого приведены три примера [...]

Вторая глава работы В. В. Ревицкого посвящена анализу роли и места традиционного народного творчества в современной художественной культуре народа. Как правило, указывает диссертант, «многочисленные традиционные песни, сказки, пословицы и поговорки живут в нашем сознании, обогащают нас духовно, продолжают выполнять роль в моральном и эстетическом воспитании народа».

Рассматривая активно бытующий в современности старый дореволюционный фольклор, автор диссертации руководствуется при его анализе указанием В. И. Ленина о сохранении и освоении всего того лучшего, что было создано человечеством в области культуры.

В. В. Ревицкий показывает, что главное место в современности занимают те произведения дореволюционного фольклора, в которых наиболее ярко выразились передовые идеи народа, в которых наш современник «находит мысли, созвучные своему мировоззрению». Однако, говорит далее диссертант, «советскому человеку дороги и близки не только произведения, проникнутые общественными, социальными идеями, но и те, что раскрывают интимные переживания, чувства лирического героя, его любовь к родной природе, словом, все то, что отражает богатство и благородство человеческой натуры».

В жанровом отношении, отмечает В. В. Ревицкий, из старых фольклорных произведений наиболее широко представлены в современном репертуаре песни. Они исполняются не только в концертах, но и в быту. Диссертант приводит много примеров наиболее распространенных и любимых народных песен, стараясь раскрыть тайну их очарования, опираясь не только на анализ высоких идейно-художественных качеств текста, но и мелодий.

Наряду с белорусскими В. В. Ревицкий анализирует также русские и украинские народные песни и песни литературного происхождения, бытующие в Белоруссии. Особое место отводится анализу роли и места в современном песенном репертуаре песням революционным.

Надо отметить, что при оценке песенного репертуара, исследователь проявил хорошее знание материала, провел интересные сопоставления отдельных русских, белорусских и украинских песен и их вариантов, показал трансформацию некоторых жанров. Выводы автора обоснованы и убедительны.

...Диссертант не показал, насколько широко распространены традиционные сказки в современном быту.

...Авторская мысль о том, что одной из форм активного бытования традиционного фольклора является также его разнообразное преломление в произведениях художественной литературы, звучит убедительно.

Рассматривая содержание диссертации, я уже говорил попутно о ее и удачных и неудачных местах. Можно бы

добавить еще несколько замечаний о недостатках. В частности, необходимо обратить внимание автора на невыдержанность структуры диссертации, на некоторую ее разбросанность. Так, например, говоря о тематическом содержании современного фольклора, автор неожиданно перепрыгивает к замечаниям о жанрах. В работе много лишнего, например, пересказ сказок, газетных статей о неблаговидном поведении духовенства и пр. Есть неправильные положения (например, о том, что художественная самодеятельность явилась базой, на которой стало развиваться советское профессиональное искусство) или же спорные (как утверждение, что уменьшительные и ласкательные суффиксы не несут часто никакой нагрузки). Есть в работе и неудачные формулировки и выражения вроде того, что «Через всю песню проходит тонкий народный юмор, характерный для мышления белоруса» или же: «Сатирический образ в антирелигиозных и антиклерикальных произведениях чаще всего строится на том, что противоречит трудовому опыту народа».

Однако дело не в слабых местах и отдельных недостатках диссертации. При наличии всего этого работа В. В. Ревицкого заслуживает в целом положительной оценки [...]

В белорусской фольклористике В. В. Ревицкий впервые поставил широко вопрос о понимании современного фольклора как проявлении народного духа в самых разнообразных формах творчества (от частушки до самодеятельного народного театра). Исследуя современную народную поэзию, он показал ее взаимодействие с фольклором других народов, с профессиональным искусством и литературой.

Интересны и новы его отдельные наблюдения над развитием современного фольклора. Заслуживают, например, большого внимания его замечания о репертуаре и характере художественной самодеятельности города и деревни или же положение о том, что «усиление лирической струи в современном народном поэтическом творчестве, показ важных народнохозяйственных вопросов через лирико-интимные чувства героя — это одна из закономерностей развития современного фольклора, обусловленная дальнейшей демократизацией социалистического строя, повышением удельного веса каждого человека в общественной жизни страны».

В. В. Ревицкий своим исследованием обратил также наше внимание на интересную современную жизнь традиционного фольклора, активно еще действующего в качестве культурного наследия в быту и в литературе.

Отдельные замечания и рекомендации В. В. Ревицкого, содержащиеся в его диссертации, имеют и свое определенное практическое значение для развития народной художественной самодеятельности [...]

*1966 г.*

## ИЗ ОТЗЫВА О КАНДИДАТСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ Э. Р. СОБОЛЕНКО «НАРОДНЫЙ БЫТ БЕЛОРУСОВ В ТВОРЧЕСТВЕ ЯКУБА КОЛАСА»

Уже в самом начале своей диссертации Э. Р. Соболенко правильно отмечает, что у этнографии и художественной литературы «есть очень важные точки соприкосновения и пересечения» и что в силу этого художественная литература может быть очень ценным вспомогательным источником при этнографических исследованиях.

Как известно, мысль эта в этнографической науке не новая, но, к сожалению, она не так уж часто находит свое воплощение в конкретных этнографических исследованиях. Немного на эту тему написано работ в русской этнографической науке, и совершенно их не было до сих пор в белорусской. В этом отношении Э. Р. Соболенко действительно является в белорусской этнографии первооткрывателем. Аспирантка удачно избрала и объект своего исследования — творчество Я. Коласа — выдающегося писателя-реалиста, который и сам занимался собиранием этнографических материалов и в произведениях которого быт белорусского народа нашел весьма яркое художественное отображение [...]

Э. Р. Соболенко весьма тщательно и полно обследовала художественное творчество Я. Коласа, а также другие литературные материалы писателя с точки зрения их этнографического значения, подтверждая в ряде случаев их достоверность и научную ценность сопоставления с описаниями и выводами этнографов.

Рассматривая изображение быта в творчестве Я. Коласа, аспирантка постоянно обращает внимание на со-

циальную дифференцированность бытовых явлений как в среде крестьянства, так и других слоев населения. В этом отношении наблюдения, добытые Э. Р. Соболенко при исследовании творчества Я. Коласа, могут внести ряд важных поправок к этнографическим описаниям дореволюционной Белоруссии и ее отдельных районов [...]

Художественная литература в отличие от этнографического описания не только регистрирует определенные черты быта, но и показывает их в конкретном проявлении, фиксируя тем самым отношение к ним самого народа. А это весьма важный момент, который не всегда может уловить этнограф, пользуясь только собственно этнографическими источниками [...]

*1967 г.*

## ИЗ ОТЗЫВА О КАНДИДАТСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ С. А. ГУРВИЧ «ЗМИТРОК БЯДУЛЯ И ФОЛЬКЛОР»

Незатронутые или мало изученные области литературного творчества всегда дают исключительно благодарный материал для научного исследования. К такой области относятся и вопросы, которые представила в своей диссертации С. А. Гурвич «Змитрок Бядуля и фольклор».

Общеизвестно, что Змитрок Бядуля, как никто иной из наших писателей, проявлял исключительный интерес к белорусскому фольклору и этнографии; общеизвестно, что в его литературном творчестве отзвуки этого интереса занимают такое место, какое они не занимают, пожалуй, ни у одного из наших белорусских писателей.

До сих пор, однако, исследователи в своих обзорах творческой деятельности Змитрока Бядули ограничивались обычно общими замечаниями относительно влияния фольклора на творчество писателя, не подвергая конкретному анализу ни его воззрения как фольклориста, ни их отражение в эстетике и художественной практике писателя.

С. А. Гурвич поставила перед собой задачу — рассмотреть эти две стороны деятельности Змитрока Бядули в их органическом единстве [...]

Нужно сказать, что задача, которую ставит С. А. Гурвич в своей работе, весьма сложная. Сложность ее заклю-

чается не только в том, что диссертантка рассматривает новые вопросы, которые еще до сих пор не подвергались анализу исследователей, а в том, что и сами воззрения Бядули на фольклор и художественное творчество писателя, особенно дооктябрьского периода, весьма противоречивые [...]

С. А. Гурвич подчеркивает, что ее работа и не претендует на полное разрешение поставленной задачи и не дает всестороннего освещения проблемы. «Проблема фольклора в художественном и публицистическом наследии Змитрока Бядули,— говорит диссертантка,— ждет своих новых исследователей и в дальнейшем потребует большой и кропотливой работы».

[...] Диссертантка впервые в нашем литературоведении систематизировала разнообразную и многогранную деятельность Змитрока Бядули в области белорусской фольклористики и этнографии, сделала подробный анализ взглядов писателя на происхождение фольклора, его сущность и взаимосвязь с художественной литературой, раскрыла эволюцию его взглядов на художественное творчество народа, подошла к конкретному анализу фольклорных мотивов в литературной практике писателя. При этом, в противовес предшествующим исследователям творчества Змитрока Бядули, которые обычно только констатировали зависимость многих произведений писателя от фольклора, С. А. Гурвич в своей диссертации достаточно убедительно показала, что устное народное творчество наряду с живой социальной действительностью имело решающее значение в формировании эстетических и общественных взглядов писателя.

Отмечая передовые, прогрессивные идеи в фольклористических и эстетических взглядах Змитрока Бядули, диссертантка подвергает критике идеалистические тенденции в его взглядах на искусство, имевшее место в ранних работах писателя, которые временами смыкаются с буржуазно-националистическими взглядами определенной части нашенивцев.

Следует отметить, что в некоторых местах диссертации С. А. Гурвич не удалось четко размежевать эти моменты в идейной эволюции писателя. Так, С. А. Гурвич утверждает, что Змитрок Бядуля шел плечом к плечу с основоположниками революционно-демократической литературы Якубом Коласом и Янкой Купалой по пути провозвести-

ков раскрепощения белорусского народа, и чуть ли не на этих же страницах заявляет, что некоторыми своими взглядами писатель смыкается с белорусскими буржуазными националистами.

Тут, конечно, целесообразнее было бы более конкретно определить периоды в эволюции взглядов, с одной стороны, и — с другой — показать тот водораздел, который все-таки всегда отделял Бядулю от буржуазно-националистического крыла нашенивцев. Этим водоразделом оказались не эстетические взгляды Бядули, а политические и социальные, всегда отличавшие его от этого крыла.

...Очень жаль, что, говоря о взглядах М. Богдановича на фольклор, диссертантка не использовала эту возможность для сопоставления их со взглядами Змитрока Бядули. Нет в диссертации основательного показа того, какое же влияние оказал фольклор на стиль и художественное мастерство З. Бядули.

Нельзя согласиться с выдвинутым диссертанткой положением касательно сказки «Ратай».

С. А. Гурвич пишет, что сказкой «Ратай» Змитрок Бядуля утверждает мысль о том, что якобы «уделом раба является рабство».

Мне думается, что писатель в этом своем произведении стремится к утверждению другой мысли — мысли о том, что основной жизненной силой является труд. Таким образом, диссертантка рассматривает это произведение несколько упрощенно и неправильно [...]

*1955 г.*

# XXII З'ЕЗД КПСС І ЗАДАЧЫ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА

Камуністычная партыя Савецкага Саюза на сваім XXII з'ездзе ўрачыста абвясціла: «Сучаснае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!» Рэальнасць гэтага плана навукова абгрунтавана ў прынятай з'ездам новай Праграме КПСС, распрацаванай на падставе глыбокага аналізу сучаснага развіцця чалавечага грамадства.

Развіваючы вялікае вучэнне Маркса, Энгельса, Леніна аб камунізме, партыя ў сваёй Праграме дала народу ўсебаковы план камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне і паказала канкрэтныя шляхі да яго ажыццяўлення.

Задачы гэтыя — шырокія і разнастайныя. Вырашэнне іх закранае ўсе карэнныя пытанні тэорыі і практыкі камуністычнага будаўніцтва як у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, так і ў галіне навукі і культуры, таму што, каб пабудаваць камуністычнае грамадства, трэба не толькі стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, а і значна прымножыць духоўнае багацце народа.

Людзі новага грамадства павінны быць багатымі і матэрыяльна і духоўна. Вось чаму партыя надае камуністычнаму выхаванню людзей такое вялікае значэнне і лічыць ідэалагічную работу надзвычай важным фактарам у барацьбе за перамогу камунізма.

У арсенале выпрабаваных сродкаў выхавання людзей у камуністычным духу пачэснае месца займаюць савецкая літаратура і мастацтва. Яны заклікаиы сцвярджаць нашу высокую камуністычную ідэйнасць і гуманізм, дапамагаць фарміраванню актыўнага будаўніка камунізма, апяваць яго думы і працу, служыць яму крыніцай радасці і натх-

нення, быць дзейсным сродкам ідэйнага, мастацкага і маральнага развіцця чалавека.

З гэтых высакародных задач савецкай літаратуры і мастацтва вынікаюць і асноўныя задачы мастацтвазнаўства як навукі. Савецкія мастацтвазнаўцы, як і прадстаўнікі іншых грамадскіх навук, павінны быць цесна звязаны з жыццём народа, добра ведаць яго духоўныя запатрабаванні і, глыбока вывучаючы і тэарэтычна абагульняючы практыку, паказваць асноўныя закапамернасці развіцця мастацтва сацыялістычнага рэалізму і тым самым спрыяць яго далейшаму росквіту.

Першачарговай задачай савецкіх мастацтвазнаўцаў, як і ўсіх работнікаў ідэалагічнага фронту, з'яўляецца вывучэнне і прапаганда Праграмы КПСС, у якой знайшоў сваё выражэнне новы этап у развіцці марксісцка-ленінскай тэорыі. Задача гэта непасрэдна вынікае з рэзалюцыі XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза па справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС, у якой гаворыцца:

**«У цяперашні час галоўным у ідэалагічнай рабоце з'яўляецца глыбокае растлумачэнне Праграмы КПСС, узбраенне працаўнікоў савецкага грамадства вялікім планам барацьбы за перамогу камунізма, мабілізацыя ўсіх працоўных на ажыццяўленне новай Праграмы партыі.** Ажыццяўленню гэтай задачы неабходна падпарадкаваць усе сродкі ідэйнага ўплыву партыі на масы: прапаганду, агітацыю, друк, радыё, тэлебачанне, кіно, культурна-асветную работу, літаратуру і мастацтва» [1].

Як бачым з пералічаных тут сродкаў ідэалагічнай работы, партыя важнае месца адводзіць і мастацкай прапагандзе праз радыё, тэлебачанне, кіно, тэатр, музыку і выяўленчае мастацтва. Работа мастацтвазнаўцаў у сувязі з гэтым павінна ісці ў двух кірунках. Па-першае, неабходна шырока і сістэматычна асвятляць у друку і ў вусных выступленнях важнейшыя тэарэтычныя палажэнні Праграмы аб далейшых шляхах развіцця савецкага мастацтва і яго ролі ў выхаванні чалавека камуністычнага грамадства, паказваць штодзённыя клопаты партыі аб росквіце мастацкай культуры і духоўным узбагачэнні савецкіх людзей. Па-другое, трэба актыўна ўмешвацца ў творчы працэс, накіроўваць думку мастацкай грамадскасці на вырашэнне

[1] Материалы XXII съезда КПСС. М., 1961, стар. 316.

сродкамі мастацтва праблем камуністычнага будаўніцтва, горача падтрымліваць творчыя пошукі ў гэтым кірунку, змагацца за паўнакроўнае адлюстраванне ў творчасці вялікіх ідэалаў камунізма.

Важнай задачай мастацтвазнаўства з'яўляецца распрацоўка пытанняў марксісцка-ленінскай эстэтыкі, якая, абагульняючы творчую практыку мастакоў, павінна служыць тэарэтычнай базай развіцця савецкага мастацтва і быць асновай эстэтычнага выхавання шырокіх мас, чаму партыя надае зараз такое вялікае значэнне. «Камуністычная партыя,— гаворыцца ў Праграме,— клапоціцца аб правільным напрамку ў развіцці літаратуры і мастацтва, іх ідэйным і мастацкім узроўні, дапамагаючы грамадскім арганізацыям і творчым саюзам работнікаў літаратуры і мастацтва ў іх дзейнасці».

На працягу ўсёй гісторыі ні адна партыя ў свеце, апрача нашай Камуністычнай партыі, не праяўляла і не праяўляе такіх беражлівых адносін да літаратуры і мастацтва; ні адна партыя, апрача нашай, не ставіць сваёй задачай *дапамагаць* творчым работнікам у іх дзейнасці. У Праграме нашай партыі знайшлі сваё выражэнне сапраўдныя ленінскія клопаты аб развіцці мастацкай культуры народа, і гэта адкрывае неабмежаваныя прасторы як для мастацкай творчасці, так і для развіцця эстэтычнай думкі.

У святле новых тэарэтычных палажэнняў, сфармуляваных у Праграме партыі, пільная ўвага мастацтвазнаўцаў павінна быць звернута на распрацоўку такой кардынальнай праблемы марксісцка-ленінскай эстэтыкі, як партыйнасць і народнасць савецкага мастацтва. У перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма, калі ў выніку перамогі сацыялізма ў СССР і ўмацавання адзінства савецкага народа Камуністычная партыя рабочага класа стала партыяй усяго народа, гэта праблема набывае асабліва важнае і прынцыпова новае значэнне.

Савецкім мастацтвазнаўцам належыць таксама глыбока асэнсаваць сувязь камуністычнай партыйнасці з ідэямі сацыялістычнага гуманізму. Паставіўшы перад сабой задачу ажыццявіць вялікія ідэалы камунізма, наша партыя напісана на сваім сцягу: «Усё ў імя чалавека, усё дзеля дабра чалавека»; «Чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат». У гэтых словах выражана вышэйшая сутнасць сапраўднай чалавечнасці. І ў імя яе наш гуманізм застаецца, як і быў, да канца непрымірымым да ворагаў працоўнага

чалавека, да яго эксплуататараў і прыгнятальнікаў. Такое адзіна правільнае разуменне камуністычнага чалавекалюбства пашырае і ўзбагачае гуманістычны змест нашага мастацтва. Змаганне за яго глыбокую чалавечнасць складае адну з важнейшых задач савецкага мастацтвазнаўства.

Вялікі тварэц гісторыі, якім з'яўляецца чалавек працы, па праву займае цэнтральнае месца ў мастацтве сацыялістычнага рэалізму. Аднак такія тэарэтычныя пытанні, як адносіны працы да эстэтычнай катэгорыі прыгожага, не занялі яшчэ належнага месца ў эстэтыцы. Тлумачыцца гэта, відаць, дзвюма прычынамі. З аднаго боку, тут сказаліся, мабыць, непераадоленыя яшчэ традыцыі старой эстэтыкі, для якой паняцці красы і працы былі несумяшчальнымі катэгорыямі, паколькі яны былі варожымі адна другой і ў самім жыцці. З другога боку, да занядбання гэтай эстэтычнай праблемы прычыніўся, мабыць, і той факт, што ў нашай літаратуры і мастацтве было нямала і такіх твораў, у якіх паказвалася тэхналогія вытворчага працэсу, а не праца як разумнае творчае дзеянне чалавека.

У савецкім грамадстве праца з цяжкай і ганебнай работы ператварылася ў пачэсную справу, у натхнёны грамадскі акт. У сувязі з гэтым і крытэрыі чалавечай красы сталі іншыя. Такім чынам, у нашым разуменні прыгажосць чалавека заключаецца ў першую чаргу ў яго добрых справах, у яго высакародным вобліку, галоўныя рысы якога вызначаюцца маральным кодэксам, сфармуляваным у Праграме КПСС. Зразумела, што гэтае разуменне чалавечай красы як сінтэзу высокіх стваральных і маральных якасцей чалавека павінна стаць зыходным пунктам пры вызначэнні прыгожага ў мастацтве. Пытанні суадносін працы і прыгажосці, этычнага і эстэтычнага патрабуюць глыбокай распрацоўкі ў марксісцка-ленінскай эстэтыцы.

Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза з'яўляецца бліскучым узорам творчага развіцця марксізма-ленінізма. Будучы навуковай асновай пабудовы камунізма ў нашай краіне, яна дае глыбокія тэарэтычныя падставы і для далейшай распрацоўкі ўсіх важнейшых пытанняў савецкага мастацтвазнаўства. Распрацоўка гэта павінна быць не дагматычнай, а творчай.

Практыка камуністычнага будаўніцтва, у тым ліку і ў галіне мастацтва, у адпаведнасці з грандыёзным планам, прынятым XXII з'ездам КПСС, будзе набываць усё боль-

шы размах і маштабы. У Праграме партыі ўказваецца, што ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма культурнае развіццё з'явіцца завяршаючым этапам вялікай культурнай рэвалюцыі. Савецкая літаратура, музыка, жывапіс, кінематаграфія, тэатр, тэлебачанне, усе віды мастацтва дасягнуць новых вышынь у развіцці ідэйнага зместу і мастацкага майстэрства. Атрымаюць шырокае распаўсюджанне народныя тэатры, масавая самадзейнасць, тэхнічнае вынаходніцтва і іншыя формы народнай творчасці. Уздым мастацка-творчай дзейнасці мас будзе садзейнічаць вылучэнню новых таленавітых пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, артыстаў. Развіццё і ўзбагачэнне мастацкай скарбніцы грамадства дасягаецца на аснове спалучэння масавай мастацкай самадзейнасці і прафесійнага мастацтва.

Грандыёзныя задачы, пастаўленыя Праграмай партыі ў галіне далейшага развіцця савецкага мастацтва, могуць быць ажыццёўлены толькі пры ўмове далейшага ўмацавання сувязей творчых работнікаў з жыццём народа, праўдзівага і высокамастацкага адлюстравання багацця і разнастайнасці сацыялістычнай рэчаіснасці, натхнёнага і яркага паказу, сапраўды камуністычнага, і выкрывання ўсяго таго, што перашкаджае руху грамадства наперад. Партыя заклікае ўсіх дзеячоў літаратуры і мастацтва да смелай, наватарскай распрацоўкі тэм сучаснасці.

Пачэсны абавязак савецкіх мастацтвазнаўцаў ісці пры вырашэнні гэтых задач пляч ў пляча з перадавымі творчымі работнікамі. Яны закліканы змагацца за вялікае мастацтва камунізма на перадавых пазіцыях, падтрымліваючы глыбокае мастацкае ўвасабленне цэнтральных тэм сучаснасці і крытыкуючы дробнатэмнасць, шэрасць, пасрэднасць і пошласць. Тэарэтычная распрацоўка пытанняў наватарства павінна заняць у працах нашых мастацтвазнаўцаў важнае месца. Але гэта зусім не здымае і праблемы традыцый. У Праграме партыі ўказваецца, што ў мастацтве сацыялістычнага рэалізму, заснаваным на прынцыпах народнасці і партыйнасці, смелае наватарства ў мастацкім паказе жыцця спалучаецца з выкарыстаннем і развіццём усіх прагрэсіўных традыцый сусветнай культуры. Зразумела, што гэтае пытанне аб спалучэнні наватарства з выкарыстаннем прагрэсіўных традыцый сусветнай культуры не можа быць абмінута і ў тэарэтычных працах савецкіх мастацтвазнаўцаў.

Вялікай увагі з боку даследчыкаў заслугоўвае распрацоўка пытанняў аб уласных сацыялістычных традыцыях савецкага мастацтва. Гэта азначае, што і далейшае развіццё савецкага мастацтва будзе адбывацца на аснове тых дасягненняў, якія яно ўжо заваявала. А гэтыя заваёвы савецкай літаратуры і мастацтва атрымалі на XXII з'ездзе КПСС вельмі высокую ацэнку.

Задача мастацтвазнаўцаў заключаецца ў тым, каб уважліва ставіцца і развіваць гэтыя традыцыі, рашуча адмятаючы ўсялякія спробы прынізіць савецкае мастацтва і бязлітасна выкрываючы магчымыя рэцыдывы рэвізіяніцкіх поглядаў і нігілістычных праяў у адносінах да лепшых мастацкіх дасягненняў і традыцый.

Складаным у гэтым сэнсе і мала распрацаваным з'яўляецца пытанне аб нацыянальных своеасаблівасцях мастацтва народаў СССР. Партыя нас вучыць, што ў савецкіх людзей розных нацыянальнасцей склаліся агульныя рысы духоўнага вобліку, якія народжаны новым тыпам грамадскіх адносін і ўвасобілі ў сабе лепшыя традыцыі народаў СССР. Гэты гістарычны вопыт развіцця сацыялістычных нацый паказвае, што нацыянальныя формы не акасцяняваюць, а відазмяняюцца, удасканальваюцца і збліжаюцца паміж сабой, вызваляючыся ад усяго таго, што застарэла, супярэчыць новым умовам жыцця. Усё гэта трэба заўсёды мець на ўвазе, гаворачы аб нацыянальных формах сацыялістычнага мастацтва савецкіх народаў. Партыя не дапускае ні ігнаравання, ні раздування нацыянальных асаблівасцей.

Вялікія задачы стаяць перад савецкім мастацтвазнаўствам у галіне эстэтычнага выхавання.

У развіцці высокіх эстэтычных густаў працоўных вялікая роля належыць не толькі манументальным, але і так званым «малым» і прыкладным формам мастацтва. Вось чаму савецкія мастацтвазнаўцы павінны ўзяць пад свой нагляд мастацкае афармленне не толькі гарадоў і калгасных населішчаў, не толькі грамадскіх і жылых будынкаў, але і прадметаў быту. Мастацкія асновы, вучыць нас партыя, павінны адухатвараць працу, упрыгожваць быт і рабіць чалавека яшчэ больш высакародным.

Эстэтычнаму выхаванню працоўных, іх духоўнаму ўзбагачэнню дапамагае масавая мастацкая самадзейнасць. Ужо зараз у харавых, драматычных, танцавальных, музычных і іншых калектывах мастацкай самадзейнасці ўдзельнічаюць мільёны людзей. Яны чакаюць ад *мастацтвазнаў-*

*цаў* дзейснай дапамогі — і кансультацыямі, і кваліфікаванай ацэнкай іх работы, і падрыхтоўкай кіраўнікоў, і напісаннем папулярных дапаможнікаў па гісторыі і тэорыі ўсіх відаў мастацтва. Дбаючы аб развіцці камуністычнага мастацтва, савецкія мастацтвазнаўцы ніколі не павінны забываць, што, як указваецца ў Праграме КПСС, развіццё і ўзбагачэнне мастацкай скарбніцы грамадства дасягаецца на аснове спалучэння масавай мастацкай самадзейнасці і прафесійнага мастацтва.

У фарміраванні чалавека камуністычнага грамадства савецкаму мастацтву належыць пачэсная і адказная роля. Яно павінна рашуча змагацца з перажыткамі мінулага ў свядомасці людзей, за перамогу ў чалавеку тых высокіх якасцей, якія складаюць маральны кодэкс будаўніка камунізма. Яно павінна быць верным памочнікам партыі ў выхаванні чалавека гарманічна развітага, духоўна багатага, бязмежна адданага камуністычнай справе. Стварэнне вобраза нашага сучасніка, актыўнага будаўніка камунізма, які б стаў узорам і прыкладам у выхаванні лепшых якасцей савецкага чалавека,— высакародная задача сацыялістычнага мастацтва. Абавязак савецкага мастацтвазнаўства штодзённа дапамагаць у гэтай справе творчым работнікам усімі сродкамі.

Змагаючыся за вялікае мастацтва камунізма, за яго дзейсную і высокую ролю ў нашым грамадстве, савецкія мастацтвазнаўцы павінны весці бязлітасную барацьбу супраць буржуазнай ідэалогіі і маралі, супраць рэакцыйнага і гнілога мастацтва капіталістычнага свету. Партыя вучыць, што мірнае суіснаванне дзяржаў з розным сацыяльным ладам не азначае аслаблення ідэалагічнай барацьбы. Савецкае мастацтвазнаўства заклікана выкрываць антынародную сутнасць рэакцыйнага мастацтва і яго спробы падфарбаваць капіталізм, адцягнуць увагу працоўных ад барацьбы за лепшы грамадскі лад.

У барацьбе савецкага мастацтвазнаўства супраць буржуазнай ідэалогіі непераможным яго сцягам з'яўляецца ідэалогія марксізма-ленінізма —самая гуманная ідэалогія чалавека. Яе ідэалы, гаворыцца ў Праграме нашай партыі,— усталяванне сапраўды чалавечых узаемаадносін паміж людзьмі, паміж народамі, вызваленне чалавецтва ад пагрозы знішчальных войнаў, устанаўленне на зямлі ўсеагульнага міру і свабоднага радаснага жыцця для ўсіх людзей.

Шырокія і разнастайныя задачы паставіла Камуністычная партыя перад савецкім мастацтвам і яго даследчыкамі і прапагандыстамі. У кароткім артыкуле іх нельга не толькі канкрэтызаваць, а і пералічыць. Але яны дакладна сфармуляваны ў Праграме КПСС, і гэты выдатны твор марксісцка-ленінскай думкі будзе пуцяводнай зоркай свяціць і савецкаму мастацтвазнаўству.

*1962 г.*

## МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Творчыя здольнасці кожнага народа не абмежаваны ні ў сваёй патэнцыяльнай сіле, ні ў разнастайнасці формаў свайго праяўлення. Але магчымасці іх развіцця і дастасавання да практычнай творчасці цалкам залежаць ад канкрэтных гістарычных умоў.

Гісторыя беларускага народа на працягу многіх стагоддзяў, аж да сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г., складалася такім чынам, што ён не мог у поўнай сіле і красе разгарнуць свой мастацкі геній. Трагічны лёс беларускага мастака пры феадальным і буржуазна-памешчыцкім ладзе добра абмаляваны і ў нашым фальклоры, і ў мастацкай літаратуры. У якасці прыкладаў можна прыгадаць «Курган» Я. Купалы, «Сымона-музыку» Я. Коласа, «Салаўя» З. Бядулі, «Музыку» М. Багдановіча.

Не зважаючы, аднак, на шматвяковы сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, беларускі народ стварыў нямала выдатных мастацкіх каштоўнасцей і ў мінулым. Аб гэтым у першую чаргу яскрава сведчаць невычэрпныя багацці безыменнай народнай творчасці — непаўторныя па свайму хараству і меладычнасці песні, цудоўныя па фантазіі і глыбокія па зместу казкі, зграбныя і поўныя дынамікі танцы, разнастайныя па рысунку і гарманічныя па колерах тканіны і вышыўкі беларускага народа.

Аб высокім узроўні беларускай мастацкай культуры ў мінулым сведчаць многія архітэктурныя помнікі нашай рэспублікі, а таксама творы іншых відаў мастацтва.

У XVI—XVII стст. шырока былі вядомы беларускія рэзчыкі па дрэву, майстры мастацкай керамікі, жывапісу, графікі, прыкладамі якой можна назваць хоць бы выдатныя гравюры ў выданнях беларускага друкара Ф. Скарыны.

Высокага ўзроўню дасягала беларускае мастацтва і ў многіх іншых галінах творчасці. У XVII—XVIII стст. сусветную славу здабылі сабе слуцкія паясы. Высока цаніліся таксама мастацкія фаянсавыя вырабы целяханскіх майстроў і мастацкія шкляныя вырабы Урэцкай гуты.

Выдатныя здольнасці паказаў беларускі народ і ў галіне тэатральнага мастацтва. Самымі ўлюбёнымі і папулярнымі формамі сцэнічнай творчасці былі народная драма з удзелам жывых акцёраў і лялечны тэатр — батлейка. Шырокае развіццё меў таксама школьны тэатр, а затым — прыгонны, які існаваў у Магілёве, Шклове, Горках, Гродні, Нясвіжы, Дукоры, Міры, Шчорсах, Чачэрску і іншых мясцовасцях.

У XIX ст. у Беларусі пачалі з'яўляцца аматарскія тэатры на беларускай мове, як, напрыклад, тэатр В. Дуніна-Марцінкевіча, а затым у XX ст., пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг., тэатр Ігната Буйніцкага, які ў пэўнай ступені быў папярэднікам сапраўднага прафесійнага тэатра.

Прыведзеныя факты сведчаць аб высокай таленавітасці беларускага народа, якая няспынна шукала сабе выйсця ў творчасці, але, закутая ланцугамі сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, рэдка вырывалася на свабодныя прасторы. Зразумела, што ў тых цяжкіх гістарычных умовах, у якіх беларускае мастацтва імкнулася прабіцца ў шырокі свет, не магло належным чынам развівацца і беларускае мастацтвазнаўства. Тэорыя, як вядома, заўсёды вырастае з практыкі, і развіццё той ці іншай галіны грамадскіх навук абумоўлена, як правіла, развіццём самога аб'екта даследавання, а таксама цікавасцю да яго шырокіх колаў грамадства.

Беларускае мастацтва ў мінулым ніколі, бадай, не было прадметам спецыяльнага сістэматычнага вывучэння. Пра яго гаварылася часамі толькі ў этнаграфічных і агульнагістарычных працах, прысвечаных Беларусі. Пры гэтым разглядалася яно (за выключэннем народнай творчасці) без уліку яго самабытных асаблівасцей і нацыянальнай прыналежнасці асобнаму народу і трактавалася часта як мясцовая праява польскай або рускай культуры.

Пяцідзесяцігадовы савецкі перыяд гісторыі Беларусі стаў перыядам зараджэння і развіцця беларускага мастацтвазнаўства як навукі, выкліканай да жыцця патрэбамі шырокай і разнастайнай мастацкай творчасці народа. Для гэтай творчасці Савецкая ўлада стварыла ўсе неабход-

ныя палітычныя, матэрыяльныя і духоўныя перадумовы. Беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць і як роўны сярод роўных стаў членам вялікай сям'і будаўнікоў сацыялізма і камунізма. З адсталай занядбалай ускраіны царскай Расіі Беларусь ператварылася ў рэспубліку перадавой прамысловасці, буйной сельскай гаспадаркі, высокай сацыялістычнай культуры. Яна пакрыта шырокай сеткай школ, бібліятэк, клубаў, навукова-даследчых і навучальных устаноў.

Сярод шматлікіх устаноў культуры належнае месца займаюць спецыяльныя ўстановы, прызначаныя для падрыхтоўкі мастацкіх кадраў і рэалізацыі іх творчасці. У рэспубліцы працуюць сотні кінатэатраў, музеі, выставачныя залы, кансерваторыя, дзесяткі музычных вучылішчаў і школ, тэатральна-мастацкі інстытут, дзве кінастудыі, тэатры, філармонія, выдатныя харавыя і танцавальныя калектывы, аркестры, саюзы мастакоў, работнікаў кінематаграфіі і іншыя мастацкія арганізацыі і ўстановы. Справа развіцця беларускага мастацтва стала справай штодзённых уважлівых клопатаў партыі і дзяржавы.

Кіпучае мастацкае жыццё рэспублікі стварае спрыяльны грунт для развіцця беларускага савецкага мастацтвазнаўства. Разглядаючы пройдзены ім шлях, няцяжка заўважыць у яго гісторыі некалькі выразных перыядаў з характэрнымі для кожнага з іх сваімі задачамі і праблемамі.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і, бадай, на працягу ўсёй першай паловы 20-х гадоў гарачыя дыскусіі ідуць вакол пытання аб шляхах развіцця пралетарскага мастацтва. Выступаюць перш за ўсё самі творчыя работнікі. Выступленні іх носяць пераважна дэкларацыйны характар і нярэдка прасякнуты духам праславутай тэорыі Пралеткульта, якая поўнасцю адмаўляла мастацкую спадчыну мінулага і пад выглядам барацьбы за рэвалюцыйнае мастацтва прапагандавала самыя крайнія фармалістычныя плыні. У гэтым сэнсе ў Беларусі асабліва вызначалася група мастакоў з Віцебска на чале з Маркам Шагалам.

У барацьбе супраць фармалістычных плыней актыўна выступалі прыхільнікі рэалістычных напрамкаў і ў сваіх пошуках часта правільна намацвалі апорныя пункты для развіцця савецкага мастацтва. Выказванні У. І. Леніна, а таксама пісьмо ЦК РКП(б) «Аб пралеткультах» выкрылі поўную няслушнасць і шкоднасць пралеткультаўскіх



П. Ф. Глебка ў сваім рабочым кабінеце ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

тэорый і аказалі савецкаму мастацтвазнаўству велізарнейшую дапамогу ў яго барацьбе за сацыялістычнае мастацтва.

Рэзалюцыя ЦК РКП(б) ад 18 чэрвеня 1925 г. «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры» паклала пачатак новаму перыяду ў развіцці беларускага мастацтвазнаўства. Палажэнне рэзалюцыі аб тым, што, «распазнаючы беспамылкова грамадска-класавы змест літаратурных плыней, партыя ў цэлым ні ў якім разе не можа звязаць сябе прыхільнасцю да якога-небудзь напрамку ў **галіне літаратурнай формы»** [1], адкрыла шырокія магчымасці для творчых пошукаў і для абагульнення іх у мастацтвазнаў-

[1] КПСС о культуре, просвещении и науке. М., 1963, стар. 154.

ства. У адпаведнасці з гэтым у рэзалюцыі канкрэтна вызначаліся і задачы літаратурна-мастацкай крытыкі: «Ні на хвіліну не здаючы пазіцый камунізма, не адступаючы ні на ёту ад пралетарскай ідэалогіі, ускрываючы аб'ектыўны класавы сэнс розных літаратурных твораў, камуністычная крытыка павінна бязлітасна змагацца супраць контррэвалюцыйных праяў у літаратуры, раскрываць зменавехаўскі лібералізм і г. д. і ў той жа час праяўляць найвялікшы такт, асцярожнасць, цярпімасць у адносінах да ўсіх тых літаратурных праслоек, якія могуць пайсці з пралетарыятам і пойдуць з ім» [2].

Асабліва важнае значэнне для беларускага мастацтва і крытыкі мела палажэнне рэзалюцыі, у якім гаварылася: «Неабходна звярнуць узмоцненую ўвагу і на развіццё нацыянальнай літаратуры ў шматлікіх рэспубліках і абласцях нашага Саюза» [3]. Кіруючыся гэтым указаннем партыі, мастацтвазнаўцы Беларусі ў другой палове 20-х і ў пачатку 30-х гадоў усё часцей і часцей ставяць і імкнуцца вырашаць пытанні аб шляхах развіцця беларускага савецкага мастацтва, аб яго нацыянальных асаблівасцях. Праўда, тут не абышлося без прыкрых перагібаў і нацыяналістычных памылак, што асабліва яскрава праявілася ў так званай «тэатральнай дыскусіі» 1928 г. і аб чым было ўказана ў пастанове Бюро ЦК КП(б)Б ад 17 снежня 1928 г. «Аб выніках дыскусіі па тэатральных пытаннях» [4].

Новы перыяд у развіцці беларускага мастацтвазнаўства, які пачаўся пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г., праходзіў пад знакам барацьбы за кансалідацыю творчых сіл, за ўсталяванне ў мастацтве метаду сацыялістычнага рэалізму. У гэты перыяд, асабліва ў сувязі з першай Дэкадай беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 г., з'яўляюцца першыя спробы даць больш-менш абагульнены нарыс развіцця беларускага мастацтва. Такой спробай можна назваць зборнік «Мастацтва Савецкай Беларусі», выдадзены ў 1940 г. выдавецтвам «Искусство», дзе разглядаецца развіццё беларускага тэатра, музыкі, выяўленчага мастацтва і народнай творчасці.

Напад гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз перапыніў далейшае развіццё гэтых каштоўных спроб. У час Вя-

[2] КПСС о культуре, просвещении и науке, стар. 153—154.
[3] Там жа, стар. 155.
[4] «Бальшавік Беларусі», 1928, № 12, стар. 97—98.

лікай Айчыннай вайны з'яўляюцца толькі рэцэнзіі і невялікія артыкулы пра пастаноўкі беларускіх тэатраў і пра асобныя працы беларускіх мастакоў і кампазітараў.

Шырокі размах і значную глыбіню набывае мастацтвазнаўства Беларусі ў пасляваенны перыяд. У гэты час з дапамогай кваліфікаваных кадраў брацкіх народаў вядзецца інтэнсіўная падрыхтоўка спецыялістаў як у навучальных і навуковых установах рэспублікі, так і за яе межамі. У 1957 г. у сістэме Акадэміі навук БССР ствараецца спецыяльны навукова-даследчы Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Даследчая работа ў галіне беларускага мастацтва вядзецца цяпер сістэматычна і становіцца на сапраўдную навуковую аснову.

Гаворачы аб асноўных этапах развіцця беларускага мастацтвазнаўства, неабходна падкрэсліць, што найбольш характэрныя асаблівасці кожнага з іх звязаны з практыкай розных галін самога беларускага савецкага мастацтва, працэс станаўлення і развіцця якога адбываўся ва ўмовах бурных сацыяльных пераўтварэнняў і вострай класавай барацьбы. Гэты працэс, зразумела, праходзіў у асноўным у адзіным рэчышчы з агульным працэсам развіцця сацыялістычнага мастацтва савецкіх народаў і накіроўваўся заўсёды мудрай палітыкай партыі ў галіне нацыянальнага і культурнага будаўніцтва. Вось чаму ў беларускім, як і ва ўсім савецкім, мастацтве і мастацтвазнаўстве, нягледзячы на асобныя памылкі, заўсёды перамагалі партыйныя, сацыялістычныя асновы.

Ажыццяўляючы лінію партыі ў галіне літаратуры і мастацтва, вялікую ролю ў развіцці беларускага мастацтвазнаўства адыграў партыйны і савецкі друк. Ужо з самых першых дзён перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі газеты Беларусі, асабліва «Звязда» і «Савецкая Беларусь», удзяляюць пытанням мастацтва значную ўвагу. Поруч з гэтым паяўляюцца і спецыяльныя выданні, прысвечаныя мастацтву,— у 1919 г. у Мінску друкуецца ілюстраваны часопіс «Заря Запада», а ў 1921 г. у Віцебску пачынае выходзіць часопіс «Искусство». Шэраг мастацтвазнаўчых матэрыялаў публікуецца ў 20-я гады на старонках часопісаў «Полымя», «Маладняк», «Трыбуна мастацтва», «Узвышша», «Наш край». У пазнейшыя, перадваенныя гады развіццё беларускага мастацтва шырока асвятляюць такія выданні, як «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная Беларусь», «Мастацтва і рэвалюцыя». У наш час апрача газеты

«Літаратура і мастацтва» і часопіса «Полымя» пастаянную ўвагу пытанням мастацтва ўдзяляюць часопісы «Камуніст Беларусі», «Весці Акадэміі навук БССР» (серыя грамадскіх навук), «Маладосць», «Беларусь», «Неман». У пасляваенныя гады выйшлі з друку таксама спецыяльныя зборнікі, прысвечаныя розным галінам беларускага мастацтва: «Мастацтва Савецкай Беларусі» (1955), тры выпускі «Беларускага мастацтва», рад мастацкіх альбомаў з прадмовамі і каментарыямі і інш.

Не маючы магчымасці даць у невялікім артыкуле падрабязны бібліяграфічны агляд мастацтвазнаўчых матэрыялаў, апублікаваных за гады Савецкай улады ў перыядычным друку і зборніках, я спынюся толькі на больш значных працах па асобных відах беларускага мастацтва.

У галіне беларускага тэатразнаўства даваеннага перыяду звяртаюць на сябе ўвагу артыкулы З. Бядулі аб старажытным беларускім тэатры і аб спектаклях тэатра імя Я. Купалы; артыкулы драматурга М. Грамыкі аб узнікненні беларускага прафесійнага тэатра; прафесара А. Вазнясенскага аб дзейнасці тэатра імя Я. Коласа ў першыя гады яго існавання; брашура А. Некрашэвіча аб тэатры імя Я. Купалы (1920—1930 гг.); артыкулы А. Звонака аб тэатры У. Галубка; артыкулы Я. Рамановіча, В. Вольскага, зборнік «Драматургія» (1934), кароткі нарыс аб беларускіх тэатрах Я. Рамановіча, В. Вольскага і А. Сегедзі ў зборніку «Мастацтва Савецкай Беларусі».

Але ўсё гэта, за невялікім выключэннем,— выступленні па асобных, прыватных пытаннях, яны носяць пераважна папулярызатарскі, інфармацыйны характар. У іх можна знайсці каштоўны фактычны матэрыял, які адносіцца да гісторыі тэатраў імя Я. Купалы, імя Я. Коласа і некаторых іншых.

Але ў іх няма яшчэ карціны працэсу развіцця беларускага тэатральнага мастацтва, няма пастаноўкі важнейшых праблем з практыкі нашых вядучых тэатраў. Значная ж частка гэтых выступленняў не вытрымала праверкі часам, а некаторыя з іх засноўваліся на памылковых ідэйна-мастацкіх пазіцыях.

У першыя пасляваенныя гады нашы тэатразнаўцы і крытыкі пераважна выступалі толькі ў перыядычным друку. Гэта быў час, калі можна так сказаць, накаплення сіл, творчага росту беларускіх тэатразнаўцаў. Сістэматычна рэцэнзуючы спектаклі тэатраў, яны набывалі тыя ўласці-

васці, якія пазней спатрэбіліся для стварэння больш значных прац.

Сур'ёзную цікавасць ужо ў той час уяўляла невялікая кніга Я. С. Рамановіча «Першы тэатр», выдадзеная ў 1946 г. Аўтар, сам відавочца і ўдзельнік многіх падзей жыцця тэатра, дае кароткую характарыстыку творчага шляху старэйшага беларускага тэатральнага калектыву, вызначае асноўныя вехі яго развіцця. У нарысе расказваецца аб лепшых спектаклях тэатра: «Кастусь Каліноўскі», «Гута», «Партызаны», «Апошнія», «Хто смяецца апошнім», «Хлопец з нашага горада», «Паўлінка» і інш. Поруч з гэтым хоць сцісла, а часамі і проста інфармацыйна, але Я. Рамановіч імкнецца даць невялікія творчыя характарыстыкі вядучым акцёрам і рэжысёрам, раскрыць асаблівасці творчага вобліку тэатра імя Янкі Купалы.

Са стварэннем у Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору пачынаецца сістэматычнае і больш глыбокае вывучэнне гісторыі і сучаснай практыкі беларускага тэатра.

У 50—60-х гадах выходзіць некалькі кніг па гісторыі беларускага тэатра доктара мастацтвазнаўства У. І. Няфёда. У сваёй капітальнай працы, якая складаецца з кніг «Беларускі тэатр. Нарыс гісторыі», «Станаўленне беларускага савецкага тэатра», «Тэатр у вогненныя гады» і «Сучасны беларускі тэатр», У. Няфёд упершыню ў савецкім тэатразнаўстве сабраў, праанalізаваў і абагульніў матэрыялы па гісторыі беларускага тэатра ад вытокаў да нашых дзён.

У кнігах У. Няфёда з марксісцка-ленінскіх пазіцый дадзен грунтоўны аналіз шматлікіх з'яў гісторыі беларускага драматычнага тэатра, вызначаны асноўныя перыяды і этапы яго развіцця, прасочан творчы шлях асобных тэатральных калектываў, драматургаў, рэжысёраў, акцёраў, мастакоў, указаны галоўныя тэндэнцыі і асаблівасці развіцця нацыянальнага тэатра.

Выкладаючы ў сваіх кнігах гісторыю беларускага тэатра, аўтар у той ці іншай ступені закранае пытанні і агульнатэарэтычнага характару: станаўленне беларускага прафесійнага тэатра, яго нацыянальная своеасаблівасць, авалоданне метадам сацыялістычнага рэалізму, роля рускай класікі ў развіцці нацыянальнага сцэнічнага мастацтва, роля спадчыны Станіслаўскага ў росце майстэрства акцёраў, своеасаблівасць творчага вобліку вядучых тэатраў,

праблемы канфлікту ў драматургіі, увасабленне вобраза сучасніка ў тэатры і інш.

Поруч з абагульняючымі працамі па гісторыі беларускага тэатра пачынаючы з 50-х гадоў выходзіць серыя нарысаў пра найбольш выдатных беларускіх акцёраў. У ліку першых такіх выданняў — кнігі Я. Рамановіча «Народны артыст СССР Б. В. Платонаў», У. Стэльмаха «Народны артыст СССР Г. П. Глебаў», С. Дуніна «Глеб Паўлавіч Глебаў», У. Няфёда «Народны артыст БССР У. І. Уладамірскі» і «Народны артыст СССР С. Малчанаў», А. Скібнеўскага «Народны артыст СССР А. К. Ільінскі», А. Есакова «Уладзімір Крыловіч».

Трэба мець на ўвазе, што многія з гэтых нарысаў пісаліся, як я ўжо адзначыў, поруч з напісаннем больш значных прац па гісторыі беларускага тэатра, а то і задоўга перад гэтым. Таму нярэдка на параўнаўча невялікай друкаванай «плошчы» аўтары імкнуліся хоць бы ў самых агульных рысах расказаць не толькі пра таго ці іншага акцёра, але закрануць і гісторыю тэатра. Гэта давала матэрыял для больш глыбокіх даследаванняў гісторыі тэатра, але і абмяжоўвала магчымасці аўтараў паказаць ва ўсёй глыбіні творчае аблічча акцёра.

У 60-я гады выходзяць манаграфіі кандыдатаў мастацтвазнаўства С. Пятровіча «Народны артыст БССР Е. А. Міровіч» і А. Сабалеўскага «Уладар дум чалавечых» — аб творчасці буйнейшага савецкага акцёра Б. В. Платонава, якія маюць ужо больш шырокі характар.

У кнізе «Народны артыст БССР Е. А. Міровіч» аўтар гаворыць аб рознабаковым дараванні гэтага майстра, расказвае аб першых яго кроках на рускай сцэне, прасочвае фарміраванне яго як акцёра і рэжысёра. Значнае месца ўдзяляецца аналізу драматычных твораў Е. А. Міровіча, расказваецца аб яго педагагічнай працы, аб тым укладзе, які ён унёс у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

Кніга А. Сабалеўскага аб творчасці Б. В. Платонава не толькі самая аб'ёмная з усіх папярэдніх манаграфій. Яна вызначаецца абгрунтаванасцю аналізу сцэнічных прац акцёра. Аўтар расказвае аб раннім перыядзе творчасці Б. В. Платонава і асабліва падрабязна спыняецца на сталых акцёрскіх работах. На старонках кнігі нібы зноў ажылі лепшыя сцэнічныя тварэнні Б. В. Платонава, такія, як Пётр у «Апошніх» М. Горкага, Зёлкін у «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, Быкоўскі ў «Паўлінцы» Янкі Купа-

лы, Лявон у «Лявонісе на арбіце» А. Макаёнка, Эзоп у «Лісе і вінаградзе» Г. Фігейрэда, Пратасаў у «Жывым трупе» Л. Талстога, Заслонаў у «Канстанціне Заслонаве» А. Маўзона. Падрабязна, абгрунтавана расказана аб працы акцёра над увасабленнем вобраза У. І. Леніна ў «Трэцяй патэтычнай» М. Пагодзіна.

Побач з вывучэннем творчасці акцёраў і рэжысёраў тэатразнаўцы даследуюць вопыт тэатральных мастакоў. У кнізе кандыдата мастацтвазнаўства Г. І. Барышава «І. М. Ушакоў» (1959) разглядаецца творчы шлях мастака, які стварыў нямала цудоўных дэкарацый на сцэне беларускіх тэатраў. Аўтар дае аналіз найбольш значных прац мастака ў такіх пастаноўках, як «Кацярына Жапрасек» М. Клімковіча, «Ірынка» К. Чорнага, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Гэта было ў Мінску» А. Кучара і інш.

Манаграфічныя працы пра асобных дзеячоў нацыянальнага мастацтва значна ўзбагацілі беларускае тэатразнаўства, у многім пашырылі і паглыбілі тыя пытанні, якія ў агульных працах па гісторыі тэатра не маглі быць даследаваны ва ўсім іх аб'ёме.

Бясспрэчную пазнавальную цікавасць маюць кнігі абагульняючага характару, прысвечаныя асобным тэатрам або пэўным перыядам у іх гісторыі. У 1957 г. выйшла кніга кандыдата мастацтвазнаўства А. І. Бутакова «Мастацтва жыццёвай праўды» [5]. У ёй расказваецца аб першых двух дзесяцігоддзях развіцця тэатра імя Я. Купалы (1920—1940). Падрабязна аналізуючы найбольш буйныя працы тэатра гэтых год, аўтар імкнецца паказаць складанасць шляху і цяжкасці пошукаў тэатра. А. І. Бутакоў ставіць сваёй мэтай расказаць аб выхаванні і росце майстэрства акцёра. Гэтаму падначален увесь ход праведзенага ім даследавання.

Пры аналізе асобных спектакляў аўтару кнігі ўдаецца перадаць іх атмасферу, стварыць іх зрокавы вобраз, паказаць асаблівасці акцёрскай манеры ў цэлым або канкрэтнага выканання пэўнай ролі.

З вялікай цікавасцю быў сустрэты дзеячамі беларускага тэатра альбом «Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Беларусі» (1958), складзены Г. Барышавым. Гэты альбом

[5] А. Бутаков. Искусство жизненной правды. Минск, 1957.

мае не толькі пазнавальнае, але і практычнае значэнне для мастакоў і рэжысёраў тэатра, якія працуюць над увасабленнем нацыянальнага рэпертуару.

Першую сур'ёзную спробу даследавання шляхоў развіцця і мастацкай своеасаблівасці цікавейшага віду народнай тэатральнай творчасці — батлейкі зрабілі тэатразнаўцы Г. І. Барышаў і А. К. Саннікаў у кнізе «Беларускі народны тэатр «батлейка» (1962). Аўтары расказваюць аб паходжанні і гісторыі батлейкі, падрабязна разглядаюць яе драматургію і мастацкае афармленне розных тыпаў батлейкі. У працы раскрываецца барацьба вакол батлейкі, прасочваюцца вытокі яе дэмакратычных традыцый і цесная сувязь з беларускай прафесійнай драматургіяй. У грунтоўным дадатку апублікаваны тэксты батлеечных прадстаўленняў; некаторыя з іх упершыню ўведзены ў навуковы абыход. У кнізе сабраны таксама іканаграфічныя матэрыялы па гісторыі батлейкі.

Круг пытанняў, звязаных з даследаваннямі, пашыран Г. І. Барышавым і А. К. Саннікавым у іх дакладзе «Беларускі народны тэатр «батлейка» і яго ўзаемасувязі з рускім «вяртэпам» і польскай «шопкай» (1963), напісаным і апублікаваным аўтарамі асобнай брашурай да V Міжнароднага кангрэсу славістаў.

У 1964 г. у Кіеве выдадзена кніга У. Стэльмаха «Шляхі білоруського тэатра (з історії українсько-білоруських тэатральних зв'язків)». Расказваючы аб дзейнасці беларускага нацыянальнага тэатра ў розныя перыяды яго гісторыі, аб узнікненні народных тэатраў і іх дасягненнях, аўтар сканцэнтроўвае сваю ўвагу на пытанні аб сувязях беларускай тэатральнай культуры з украінскай. Гаворачы аб пастаноўках украінскіх п'ес на сцэнах Беларусі, аб узаемных гастролях тэатральных калектываў, У. Стэльмах адзначае плённасць сувязей дзвюх брацкіх тэатральных культур у развіцці шматнацыянальнага тэатральнага мастацтва.

У асобных сваіх працах беларускія тэатразнаўцы звяртаюцца да праблем тэарэтычнага характару.

Манаграфія кандыдата філалагічных навук А. К. Саннікава «Сатырычныя характары беларускіх камедый» (1961) прысвечана маладаследаванай праблеме мастацкага вобраза ў сатырычнай камедыяграфіі. Паслядоўна прасочваючы развіццё сатырычнай характарыстыкі персанажа на розных этапах існавання беларускай камедыі — ад пер-

шапачатковых яе форм да нашых дзён, аутар імкнецца ўстанавіць заканамернасці і мастацкія асаблівасці сатырычнага характару, акрэсліць той круг сродкаў, якія неабходны драматургу для вострага і бязлітаснага абсмяяння грамадскага зла.

Інтэрмеды школьнага тэатра, батлейка, п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Е. Міровіча, К. Крапівы, А. Макаёнка даюць аўтару багаты матэрыял для абагульненняў, высвятлення асаблівасцей сатырычнага прыёму, узаемазалежнасці характару і сюжэта.

У тэарэтычным плане напісана і даследаванне А. Сабалеўскага «Ад п'есы — да спектакля». Аўтар паслядоўна расказвае аб асноўных этапах работы над пастаноўкай: разбор і аналіз п'есы, нараджэнне рэжысёрскай задумы будучага сцэнічнага твора, работа з мастаком, кампазітарам і, самае галоўнае, акцёрамі. Цэнтральнай тэмай А. Сабалеўскага з'яўляецца разгляд праблемы майстэрства рэжысуры. Для доказу сваіх палажэнняў аўтар выкарыстоўвае багаты фактычны матэрыял. У якасці прыкладаў прыводзяцца не толькі спектаклі тэатраў Беларусі, але і Масквы і многіх саюзных рэспублік.

У 1964 г. у сувязі з 400-годдзем з дня нараджэння вялікага англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра была выдадзена кніга тэатразнаўцы Т. Ц. Барысавай «Шэкспір на беларускай сцэне». У кнізе расказваецца аб сцэнічным увасабленні п'ес Шэкспіра ў беларускіх тэатрах: аналізуюцца рэжысёрскія рашэнні спектакляў «Сон у летнюю ноч», «Рамэо і Джульета», «Гамлет» і інш., даецца характарыстыка шэкспіраўскіх вобразаў у сцэнічнай інтэрпрэтацыі вядучых беларускіх артыстаў Б. Платонава, П. Малчанава, І. Ждановіч, А. Ільінскага.

Тэатразнаўцы Беларусі праводзяць вялікую работу па папулярызацыі нацыянальнага мастацтва. Яны з'яўляюцца аўтарамі шматлікіх артыкулаў у «Тэатральнай энцыклапедыі», раздзелаў па гісторыі беларускага тэатра ў шматтомнай «Гісторыі савецкага тэатра».

Не пакінута без увагі даследчыкаў і самадзейнае тэатральнае мастацтва рэспублікі, якое стала асабліва бурна развівацца ў апошнія гады. Першымі спробамі ў гэтай галіне былі невялікая манаграфія А. Есакова «Старэйшы самадзейны калектыў» (нарыс аб драматычным гуртку Палаца культуры чыгуначнікаў ст. Орша), раздзел «Народная творчасць» П. Лютаровіча ў яго кнізе «Мастацтва

Савецкай Беларусі», брашура Л. Асташавай «Тэатр народных талентаў» (аб Ашмянскім народным тэатры) і вялікая колькасць артыкулаў па пытаннях народнай творчасці ў часопісах і газетах. Праўда, у гэтых даследаваннях гаварылася ў асноўным аб асобных фактах з жыцця і практыкі таго ці іншага калектыву і мала было абагульненняў, не было агульнай карціны творчага развіцця самадзейнага тэатра.

Са стварэннем у рэспубліцы народных тэатраў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору прыступіў да больш шырокага і глыбокага вывучэння гэтай праблемы, вынікі якога апублікаваны ў манаграфіі «Народны тэатр Беларусі». Аўтар яе С. А. Пятровіч абагульніў і прааналізаваў практыку работы народных тэатраў за пяцігадовы перыяд іх дзейнасці. Праца С. А. Пятровіча дае ўяўленне аб спецыфіцы народнага тэатра і яго эстэтыцы, расказвае аб выканаўцах і рэжысёрах, аб сувязях з гледачом і прафесійным тэатрам. На канкрэтных прыкладах паказана, як аматары самі ствараюць п'есы, ставяць нацыянальную драматургію і класіку. Сказана і аб недахопах народнага тэатра.

Поруч з тэатразнаўствам у Беларусі працягвае паспяхова развівацца тэатральная крытыка.

У першыя пасляваенныя гады ў тэатральнай крытыцы выступае нямнога аўтараў: У. Няфёд, Я. Рамановіч, М. Модэль і некаторыя іншыя. У пачатку 50-х гадоў крытычны атрад папаўняецца новымі кадрамі. Актыўна займаюцца крытыкай, усё больш заяўляючы аб сабе, А. Сабалеўскі, Т. Бушко, Г. Колас. У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга Г. Коласа «Сучаснік у грыме і без грыму», дзе побач з нарысамі і публіцыстыкай змешчаны артыкулы і рэцэнзіі, прысвечаныя тэатральнаму мастацтву.

Чытач пазнаёміўся і з кнігай А. Сабалеўскага «Рампай асветленае», у якую ўключаны крытычныя артыкулы аб сучасным тэатры.

У апошняе дзесяцігоддзе ў крытыку прыходзяць А. Саннікаў, С. Пятровіч, А. Лабовіч, Т. Арлова і інш. З прыходам новых аўтараў, натуральна, расшырылася кола тэм, якія пачалі закранаць крытыкі. Так, на парадак дня востра ставяцца пытанні аб сувязі тэатральнага мастацтва з жыццём, аб наватарстве і традыцыях, аб сапраўдным майстэрстве ў драматургіі, у акцёрскай і рэжысёрскай рабоце.

З другой паловы 50-х гадоў пачынаецца ў рэспубліцы і работа над спецыяльнымі кіназнаўчымі даследаваннямі. Неабходна адзначыць, што ў папярэднія гады даследчых прац па гісторыі і тэорыі кінематографа фактычна не было, калі не лічыць некалькіх часопісных і газетных артыкулаў, прысвечаных асобным пытанням развіцця беларускага кінамастацтва пэўнага перыяду. З гэтых публікацый найбольшую цікавасць мае артыкул Н. Іезуітава і К. Губарэвіча «Беларуская кінематаграфія» («Полымя рэвалюцыі», 1934, № 11), у якім даецца даволі падрабязны аналіз творчай практыкі кінематаграфіі рэспублікі за першае дзесяцігоддзе яе існавання.

У пасляваенны перыяд работа ў галіне кіназнаўства актывізуецца. У 1962 г. выйшла першая кніга, прысвечаная кінамастацтву рэспублікі, «Беларускае кіно» (аўтары А. Красінскі, В. Смаль, Г. Тарасевіч). Кніга з'яўляецца кароткім гістарычным нарысам аб шляхах развіцця і асноўных творчых этапах беларускага кінематографа. Аўтары паказваюць, як фарміравалася і развівалася беларуская савецкая кінематаграфія, як перамагалі ў ёй прынцыпы рэалізму, як расло і ўдасканальвалася майстэрства работнікаў кіно рэспублікі. Аналізуючы фільмы (галоўным чынам тыя, якія занялі важнае месца ў беларускім мастацтве), аўтары даюць уяўленне аб гісторыі кінематографа рэспублікі на працягу трох з лішнім дзесяцігоддзяў (1924—1960), паказваюць, як ішло развіццё кінадраматургіі, рэжысёрскага, акцёрскага, аператарскага майстэрства і які ўклад у кінамастацтва Беларусі ўнеслі яго найбольш відныя і таленавітыя майстры Ю. Тарыч, У. Корш-Саблін і інш.

Дзве брашуры аб беларускім кіно выпусціла рэспубліканскае таварыства «Веды» — «Кінамастацтва Савецкай Беларусі» (аўтары А. Красінскі, В. Смаль, Г. Тарасевіч, 1961) і «У. У. Корш-Саблін» (аўтар Е. Бондарава, 1960). У першай брашуры даецца кароткая характарыстыка асноўных перыядаў гісторыі беларускай кінематаграфіі, а ў другой прасочваецца творчы шлях аднаго з старэйшых дзеячоў кінамастацтва рэспублікі кінарэжысёра У. Корш-Сабліна.

У 1966 г. калектыў кіназнаўцаў завяршыў працу над стварэннем гісторыі кінамастацтва Беларусі, у якой зроблена спроба намаляваць шырокую і поўную карціну развіцця кінамастацтва рэспублікі.

Супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР напісалі таксама раздзелы аб развіцці беларускага кіно для мнагатомнага выдання «Гісторыя савецкага кіно».

Як і па кіно, літаратура 20—30-х гадоў па выяўленчаму мастацтву таксама не вельмі багатая і абмяжоўваецца, як правіла, газетнымі і часопіснымі артыкуламі часта інфармацыйнага і публіцыстычнага характару. Сярод найбольш змястоўных і цікавых артыкулаў перш за ўсё трэба назваць шматлікія артыкулы М. Шчакаціхіна па пытаннях гісторыі беларускага мастацтва і шляхах яго далейшага развіцця, а таксама артыкулы П. Фурмана «Крашаніна» і «Віцебск у гравюрах Юдовіна» (зборнікі «Віцебшчына», т. I, 1925; т. II, 1928), І. Гаўрыса «Вобразнае мастацтва ў г. Віцебску» («Віцебшчына», т. II, 1928), В. Вольскага «Жыццё і творчасць Ю. Пэна» («Полымя рэвалюцыі», 1937, № 4), А. Кастэлянскага («Узвышша», 1929) і некаторыя іншыя.

Трэба адзначыць, што далёка не ўсё напісанае ў той час адпавядала патрабаванням развіцця беларускага мастацтва. Побач з каштоўнымі артыкуламі нямала было слабых, трактаваўшых часам з'явы і факты ў галіне мастацтва памылкова.

Поруч з публікацыямі ў газетах і часопісах у той час выходзілі таксама каталогі і праваднікі па выстаўках, у якіх нярэдка даваліся ілюстрацыі і ўступныя артыкулы.

Значна большая колькасць артыкулаў у беларускім і рускім друку апублікавана на пачатку 40-х гадоў і ў паслявaенны перыяд. Аўтарамі іх з'яўляюцца як самі мастакі (М. Керзін, З. Азгур, П. Гаўрыленка, С. Герус, М. Тарасікаў), так і мастацтвазнаўцы і літаратары (А. Аладава, М. Арлова, О. Бескін, У. Бойка, В. Вольскі, П. Герасімовіч, Л. Дробаў, М. Кацар, М. Машкаўцаў, П. Нікіфараў, А. Палеес, І. Паншына, М. Туроўнікаў, А. Ус, І. Элентух, І. Ялатамцава і інш.).

Больш шырокія і грунтоўныя артыкулы па беларускаму выяўленчаму мастацтву змешчаны ў радзе альбомаў [6],

[6] Гл., напрыклад, артыкулы І. А. Замошкіна ў альбоме «Белорусское изобразительное искусство». М., 1950; П. Герасімовіча і П. Нікіфарава ў альбоме «Изобразительное искусство Белорусской ССР». М., 1957; М. Кацара ў альбоме «Народнае і прыкладное мастацтва Савецкай Беларусі». Мінск, 1958; Г. Барышава ў альбоме «Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі». Мінск, 1959.

а таксама ў агульных мастацтвазнаўчых зборніках, аб якіх гаварылася вышэй. Найбольш каштоўнымі сярод іх з'яўляюцца артыкулы, надрукаваныя ў зборніку «Нарысы выяўленчага мастацтва Беларусі»[7]. У зборніку змешчана пяць артыкулаў: «Народная творчасць» М. Грынблата, «Архітэктура» А. Даліна, «Скульптура» М. Керзіна, «Графіка» Д. Геніна, «Жывапіс» М. Машкаўцава. Усе артыкулы носяць нарысавы характар. Яны закліканы азнаёміць чытача з галоўнейшымі з'явамі беларускага выяўленчага мастацтва, вызначыць асноўныя этапы яго развіцця і даць кароткую характарыстыку яго вядучым майстрам.

Высокую ацэнку беларускаму народнаму мастацтву дае ў сваім артыкуле М. Грынблат. Ён адзначае вялікія дасягненні беларускага народа ў галіне разьбы па дрэву, ткацтва, керамікі і іншых відах народнай творчасці. Змястоўны, багата насычаны фактычным матэрыялам артыкул «Скульптура», які расказвае аб развіцці беларускай скульптуры за гады Савецкай улады, аб творчасці вядомых майстроў беларускай скульптуры А. Грубэ, З. Азгура, А. Глебава, А. Арлова, А. Бразера і іншых, аб арганізацыі мастацкай адукацыі ў Савецкай Беларусі.

Значную каштоўнасць маюць артыкулы «Жывапіс» і «Архітэктура», якія ўпершыню пазнаёмілі савецкага чытача з дасягненнямі беларускага народа ў развіцці гэтых жанраў.

Пытанні выяўленчага мастацтва закранаюцца ў артыкуле А. Азірскага «Мастацкая творчасць беларускага народа», ў зборніку «Мастацтва Савецкай Беларусі» (М.— Л., «Искусство», 1940). У гэтым жа зборніку змешчаны грунтоўная праца М. Машкаўцава «Выяўленчае мастацтва Беларусі» і артыкул М. Грынблата «Беларуская народная творчасць».

Цікавыя артыкулы, у якіх даецца кваліфікаваны аналіз творчасці беларускіх мастакоў, змешчаны ў зборніку «Мастацтва Савецкай Беларусі» (Мінск, 1955); М. Кацара «Выяўленчае мастацтва Савецкай Беларусі», П. Герасімовіча «Жывапіс», А. Васілеўскай і М. Туроўнікава «Скульптура», Г. Баравік «Графіка», Ю. Ягорава «Архітэктура». Выяўленчаму мастацтву прысвечан таксама раздзел у кнізе П. Лютаровіча «Мастацтва Савецкай Беларусі» (Мінск, 1959).

[7] Очерки изобразительного искусства Белоруссии. М.— Л., 1940.

З асобных выданняў па беларускаму выяўленчаму мастацтву, якія ўжо носяць больш глыбокі навукова-даследчы характар, перш за ўсё трэба адзначыць кнігу М. Шчакаціхіна «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», т. I (Мінск, 1928), якая ахоплівае развіццё беларускай архітэктуры і часткова выяўленчага мастацтва ад першабытнага грамадства да XVI ст. уключна. Складаецца кніга з уводзін, чатырох раздзелаў: 1. Курганныя старажытнасці Беларусі; 2. Царкоўная архітэктура XI—XII стст.; 3. Замкавае і ваеннае будаўніцтва Заходняй Беларусі XIII—XVI стст.; 4. Беларуская готыка XV—XVI стст. і дадатку ў выглядзе альбома, у якім сабраны ілюстрацыі помнікаў беларускай архітэктуры.

Даследаванне ў «Нарысах» вядзецца на вялікім фактычным матэрыяле, узятым галоўным чынам з пісьмовых крыніц, музеяў, архіваў і часткова здабытым у час археалагічных раскопак і экспедыцый. Кніга мае, безумоўна, грунтоўны навуковы характар, хоць не з усімі вывадамі і абагульненнямі аўтара можна бясспрэчна пагадзіцца. Так, напрыклад, разглядаючы пытанне аб паходжанні беларускай замкавай архітэктуры, аўтар, нам здаецца, перабольшвае ўплывы на яе нямецкага мастацтва, не знаходзячы ў ёй, бадай, ніякіх сувязей са старажытнарускай архітэктурай. Між тым іншыя даследчыкі не без падстаў сцвярджаюць, што яе асновай і першакрыніцай у значнай ступені з'яўляецца старажытнаруская архітэктура XI—XIII стст.

Заслугоўваюць і зараз належнай увагі разгорнутыя даследаванні М. Шчакаціхіна «Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII — пачатку XVIII сталецця», «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны» (у зб. «400-леццe беларускага друку»), у якіх аўтар на высокім навуковым узроўні дае кваліфікаваны аналіз выдатных помнікаў старажытнага беларускага мастацтва.

Разгорнуты гістарычны нарыс па беларускай архітэктуры апублікаваў у 1956 г. доктар мастацтвазнаўства М. С. Кацар [8]. Нарыс ахоплівае перыяд ад першабытнаабшчыннага ладу на тэрыторыі Беларусі да 1917 г. Гэта першы і пакуль што адзіны сістэматычны агляд архітэктур-

[8] М. С. Кацер. Белорусская архитектура. Исторический очерк. Минск, 1956.

ных збудаванняў Беларусі. Напісаны ён кваліфікавана, на падставе літаратурных крыніц і непасрэднага вывучэння архітэктурных помнікаў.

Пяру М. С. Кацара належыць таксама другая грунтоўная праца «Нарысы па гісторыі выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі», выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам БССР у 1960 г. У ёй разглядаюцца архітэктура, скульптура, жывапіс і графіка Савецкай Беларусі па чатырох перыядах: 20-х — пачатку 30-х гадоў, 30-х — пачатку 40-х гадоў, перыяду Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага (1945—1957). І хоць асобныя раздзелы напісаны вельмі сцісла і некалькі агульна, кніга ў цэлым дае правільнае ўяўленне аб складаным працэсе развіцця беларускага выяўленчага мастацтва ў розных яго відах і жанрах.

У 1957 г. выйшла багата ілюстраваная, альбомнага тыпу кніга М. Кацара «Скульптура Савецкай Беларусі» (выд. Акадэміі навук БССР), у якой разглядаецца манументальна-дэкарацыйная, станковая і партрэтная скульптура беларускіх майстроў, а таксама закранаецца пытанне аб сінтэзе архітэктуры і скульптуры.

Сярод асобных выданняў па гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва нельга не назваць кнігу маскоўскага мастацтвазнаўцы М. Арловай «Мастацтва Савецкай Беларусі» (выд. Акадэміі мастацтваў СССР. М., 1960). Кніга напісана на добрым узроўні, забяспечана багатым навуковым апаратам. Працэс развіцця беларускага выяўленчага мастацтва разглядаецца ў ёй у цеснай сувязі з грамадскім і культурным жыццём рэспублікі.

Падагульняючы кароткі агляд асобных прац і артыкулаў, прысвечаных выяўленчаму мастацтву, трэба сказаць, што беларускія мастацтвазнаўцы мала ўдзяляюць увагі народнаму і прыкладному мастацтву. Тут можна назваць толькі некалькі альбомаў ды кнігу І. Ялатамцавай пра беларускую кераміку [9]. Чакаюць яшчэ свайго выдання шырокія даследаванні М. С. Кацара па гісторыі беларускага мастацтва XIV — XIX стст. і праца Л. Дробава пра беларускіх мастакоў XIX ст. Калектыў супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору рых-

[9] И. Елатомцева. Художественная керамика Советской Белоруссии. Минск, 1965.

туе таксама разгорнуты нарыс па гісторыі выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі.

Вывучэнне беларускай музыкі, як і іншых галін беларускага мастацтва, пачалося з невялікіх артыкулаў. У газетах і часопісах 20-х гадоў публікуецца даволі значная колькасць інфармацый, рэцэнзій і артыкулаў па музыцы. У некаторых артыкулах робяцца спробы абагульніць новыя з'явы, якія адбыліся ў мастацтве за першыя гады Савецкай улады, але факт пераемнасці, наяўнасці традыцый нярэдка ігнаруецца і таму спрошчана разумеецца часта і далейшы працэс развіцця музыкі.

Між тым грамадскасць рэспублікі пытанням станаўлення нацыянальнай музычнай культуры надавала вялікую ўвагу.

Пачынаецца даследаванне на навуковых асновах народнай музычнай творчасці. У перыядычным друку з'яўляюцца артыкулы, якія абагульняюць багаты фактычны матэрыял, раскрываюць некаторыя асаблівасці музычнага фальклору.

Некалькі пазней, у 1928 г., выйшла з друку праца М. Прывалава «Народныя музычныя інструменты Беларусі» [10]. У ёй змяшчаецца апісанне народных інструментаў, іх тыпаў, разнавіднасцей, асаблівасцей ладу і выканання. Аўтар дае кароткі нарыс развіцця беларускага інструментарыя.

Вострая палеміка ў музыказнаўчай публіцыстыцы 20-х гадоў была звязана са станаўленнем у Беларусі прафесійнай музычнай творчасці. Адны лічылі, што ў Беларусі павінны развівацца толькі жанры народнай музычнай творчасці і выканаўства, іншыя меркавалі, што развіццё беларускай прафесійнай музычнай творчасці павінна праходзіць у агульным рэчышчы развіцця ўсяго савецкага мастацтва, што фарміраванне прафесійнага нацыянальнага мастацтва немагчыма без засваення традыцый, што толькі на аснове вопыту іншых народаў, якія маюць развітыя формы музычнай творчасці, магчыма станаўленне нацыянальнай музыкі. Гэта тэндэнцыя знайшла выражэнне ў працах Ю. Дрэйзіна, асабліва ў такіх, як «Да ўтварэння беларускага сімфанічнага аркестра», «Пытанне аб беларускай оперы», «Музыка і праца», «Музыка і жыццё»

[10] Запіскі аддзела гуманітарных навук Інбелкульта, кн. 4. Працы кафедры этнаграфіі, т. I. Мінск, 1928.

(змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1925 г.), «Праблемы нацыянальнай музыкі» («Маладняк», 1926, № 2).

Актыўным супрацiўнiкам вульгарызацыi марксiсцкай эстэтыкi па пытаннях пераемнасцi культур i класiчнай спадчыны выступае Ю. Дрэйзiн i ў артыкулах аб творчасцi Бетховена (1927), Чайкоўскага (1928), Шуберта (1928), i ў артыкулах, прысвечаных праблемам нацыянальнай музыкi, новым плыням у музычным мастацтве. «Без выкарыстання музыкi мiнулага немагчыма творчасць новага. Развiццё мастацтва, як i ўсякае развiццё наогул, iдзе дыялектычным шляхам, дзе новая з'ява ўзнiкае ў нетрах старой i перамагае яе, каб затым злiцца з ёй у нейкiм сiнтэзе»,— пiсаў ён у артыкуле «Новыя плынi ў сучаснай культуры» [11].

Творчы падыход да развiцця музычнага мастацтва выражан i ў музыказнаўчай дзейнасцi Ю. Дрэйзiна, накiраванай на даследаванне сувязей братнiх культур. Так, ва ўкраiнскiм часопiсе «Музыка» ў 1925 г. ён друкуе вялiкi артыкул, прысвечаны даследаванню шляхоў развiцця беларускай музыкi i «агульных момантаў у фармiраваннi беларускай i ўкраiнскай нацыянальных культур» [12]. Годам пазней Ю. Дрэйзiным надрукавана цiкавая праца па фалькларыстыцы — «Беларуская песня на Украiне» [13].

Аднак Ю. Дрэйзiн, выступаючы супраць натуралiзму i фармалiзму, якiя, як ён справядлiва адзначаў, расхiсталi асновы рэалiстычнай музыкi, сам часам падмяняў аналiз «моднымi» ў той час азначэннямi. Напрыклад, натуралiзм i фармалiзм, пiсаў ён, гэта «два бакi капiталiзму, анархiзму i iндывiдуалiзму» [14].

Усебеларуская музычная нарада, якая адбылася ў 1929 г., падвяла вынiкi шматлiкiх творчых дыскусiй i вызначыла асноўныя накiраваннi развiцця нацыянальнай культуры. Апрача таго, нарада прыняла рашэнне «лiквiдаваць музычную непiсьменнасць». Народнаму камiсарыяту асветы было даручана адкрыць завочны сектар музычнай адукацыi. Пад агульнай назвай «Музычная грамата» гэты сектар пачынае выдаваць масавым тыражом навучальныя дапаможнiкi па элементарнай тэорыi музыкi.

[11] «Полымя», 1925, № 3.
[12] «Музыка», 1925, № 5—6.
[13] «Полымя», 1926, № 3.
[14] «Полымя», 1925, № 3.

У 1931 г. выйшаў з друку першы нумар гэтага дапаможніка, у 1932 — другі, у 1933 г. — трэці. Аўтар іх — беларускі кампазітар В. Яфімаў у папулярнай форме знаёміў шырокія масы працоўных з асновамі музычнай граматы.

У 1933 г. у Мінску выйшаў падручнік тэорыі музыкі «Пачатковая тэорыя музыкі» [15] М. Мацісона, прызначаны для музшкол, музрабфакаў і першых курсаў музтэхнікумаў.

Яшчэ ў 20-я гады ў беларускім музыказнаўстве сфарміраваўся жанр нарыса-партрэта. Першымі працамі ў гэтым жанры былі нарысы аб творчай дзейнасці М. Аладава, Я. Прохарава, напісаныя Ю. Дрэйзіным, і нарыс пра М. Чуркіна, падпісаны псеўданімам «Певец».

У 30-я гады гэты жанр мызыказнаўчай публіцыстыкі актыўна развіваецца. Ю. Дрэйзін піша цікавыя нарысы аб творчасці А. Туранкова, Р. Пукста; А. Багатыроў — пра М. Іванова; М. Броцкі — пра В. Залатарова. Раскрываючы характэрныя рысы творчасці, аўтары такіх нарысаў аналізуюць і недахопы твораў таго ці іншага кампазітара.

Побач з нарысам-партрэтам у перыядычным друку таго часу паяўляецца папулярны расказ аб тым ці іншым новым музычным творы. Серыю такіх нарысаў аб адным творы надрукаваў часопіс «Искусство и революция» пад рубрыкай «Кампазітары — Кастрычніку» [16].

Музычная творчасць Беларусі 30-х гадоў ужо давала падставы для аналізу і абагульненняў яе тэматычнага зместу, стылістыкі, г. зн. асвятлення больш агульных праблем музычнай эстэтыкі, не абмяжоўваючыся толькі прыватнымі пытаннямі і з'явамі. У артыкулах абагульняючага характару на канкрэтным матэрыяле даследуюцца пытанні суадносін рэчаіснасці і музыкі як віда мастацтва, праграмнасці, праблем жанру і формы.

У працэсе падрыхтоўкі да Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве актывізуецца творчая дзейнасць беларускіх музычных крытыкаў. Праўда, святочны, урачысты тон артыкулаў часам падмяняе некалькі дзелавую размову, пранікненне ў сутнасць з'яў і падзей.

Гэта паклала адбітак і на музыказнаўчую публіцыстыку таго часу. Але выданне ў 1940 г. у Маскве чатырох лі-

[15] А. Матисон. Начальная теория музыки. Минск, 1933.
[16] «Искусство и революция», 1932, № 3—4, 5—6.

брэта: опер «Міхась Падгорны», «У пушчах Палесся», «Кветка шчасця» і балета «Салавей», стварэнне нарысаў аб творчасці А. Багатырова, Я. Цікоцкага, А. Туранкова, М. Крошнера, В. Залатарова і выканаўчай дзейнасці Л. Александроўскай, А. Арсенкі, І. Балоціна, З. Васільевай, М. Дзянісава, С. Друкер, Р. Млодэк, А. Нікалаевай і іншых, з'яўленне пасля дэкады артыкулаў, у якіх у пэўнай ступені падагульняліся дасягненні нацыянальнай культуры, мелі вельмі вялікае значэнне.

Дзейнасць у галіне музычнай крытыкі і публіцыстыкі не прыпынілася і ў час вайны, але характар матэрыялаў змяніўся. Кароткая змястоўная інфармацыя, кароткі нарыс, заўвага, паведамленне з месца — вось тыя асноўныя формы музычнай крытыкі, якія ў агульным супадаюць з жанрамі журналістыкі таго перыяду.

У першыя пасляваенныя гады беларускае мастацтвазнаўства нібы набірае сілы для дасягнення ўзроўню перадваенных гадоў. Музычнай адукацыі, асветніцкай дзейнасці ўдзяляецца ўвагі значна менш. Інфармацыйны матэрыял таксама ў многім уступае даваеннаму, які ахопліваў літаральна ўсе больш-менш значныя падзеі творчасці, канцэртнага жыцця і г. д. Асноўная ўвага канцэнтруецца на некалькіх важнейшых праблемах: прафесійная творчасць, дзейнасць прафесійных калектываў, народная творчасць, самадзейнасць.

У першых пасляваенных працах абагульняючага характару робіцца імкненне разгляду творчых дасягненняў кампазітараў Беларусі ў некалькіх аспектах: прасочванне шляхоў фарміравання нацыянальнай культуры, характэрных для беларускай музыкі жанраў і выяўленне тэматыкі творчасці беларускіх кампазітараў. У наступныя гады расшыраецца кола тэм, праблем, больш багатым становіцца сам матэрыял — беларуская музыка, больш дакладнай і глыбокай — музыказнаўчая думка. З'явіліся навуковыя даследаванні і працы манаграфічнага плана. Вызначыліся новыя праблемы, звязаныя з распрацоўкай тэарэтычных асноў мастацтва, што сведчыць аб новым этапе ў развіцці беларускага музыказнаўства.

Аднак у адносінах да масавых жанраў беларускае музыказнаўства не праявіла аператыўнасці. Крытычная думка не паспявала «асвойваць» усё новыя і новыя з'явы. Праблемы самага дэмакратычнага музычнага жанру — песні, нягледзячы на тое што творчая практыка дае

цікавы і багаты матэрыял, застаюцца пакуль не даследаванымі. У некаторых працах і артыкулах, такіх, як «За масавую беларускую песню» У. Алоўнікава [17], брашуры А. Ракавай «Савецкая масавая песня» [18], разглядаецца пераважна тэматыка песень, але важнейшыя праблемы жанру, дасягненні беларускай музыкі ў гэтым жанры ўсё яшчэ застаюцца па-за ўвагаю музыказнаўцаў.

У пачатку 60-х гадоў пачалі інтэнсіўна распрацоўвацца беларускім музыказнаўствам праблемы сімфанізму. Гэта заканамерны працэс, паколькі ў апошнія гады ў сімфанічным жанры дасягненні беларускіх кампазітараў вельмі прыкметныя. Пачатак такіх даследаванняў пакладзены артыкуламі Т. Дубковай «Сімфоніі маладых» [19], С. Нісневіч «Розныя таленты, розныя сімфоніі» [20], Л. Ауэрбаха «Сімфоніі беларускіх кампазітараў» [21]. Апрача сімфанічнай музыкі, у беларускім музыказнаўстве атрымалі асвятленне і многія іншыя жанры — ці то ў плане заўваг або асобных назіранняў над жанрам, як, напрыклад, у артыкуле В. Ялатава пра беларускі раманс, ці то ў форме папулярнай брашуры, як, напрыклад, у нарысе пра беларускую савецкую оперу [22] В. Сізко.

З цікавымі артыкуламі тэарэтычнага характару аб прынцыпах развіцця музычных тэм у беларускай музыцы і натуральналадавых сродках у творчасці беларускіх кампазітараў выступіла Т. Дубкова [23].

Развітым жанрам у беларускай музыказнаўчай практыцы з'яўляецца манаграфічны нарыс. Вялікая частка такіх нарысаў напісана жыва, цікава, змяшчае кваліфікаваны разгляд твораў. Нарысы ў такім плане напісаны аб многіх беларускіх кампазітарах і вядучых выканаўцах. Некаторыя з іх выдадзены ў выглядзе брашур [24], іншыя

17 «Літаратура і мастацтва», 12 мая 1951 г.
18 Е. Ракова. Советская массовая песня. Минск, 1959.
19 «Літаратура і мастацтва», 27 лютага 1962 г.
20 «Літаратура і мастацтва», 1963, № 17.
21 «Літаратура і мастацтва», сакавік 1965 г.
22 В. Сизко. Белорусская советская опера. Минск, 1959.
23 Гл.: «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук», 1964, № 3 і 4.
24 С. Нисневич. Народный артист БССР Н. Аладов. Минск, 1959; Л. Мухаринская. Евгений Глебов. М., 1959; С. Нисневич. В. А. Золотарев. М., 1964; Д. Журавлев. Г. К. Пукст, заслуженный деятель искусств БССР. Минск, 1964; Гусин. Е. К. Тиконцкий. Л., 1965; Д. Журавлев. Большая дорога. Народный артист БССР Н. Н. Чуркин. Минск, 1964; И. Нисневич. Г. Р. Ширма. Л., 1964.

апублікаваны ў выглядзе артыкулаў у перыядычным друку. Значэнне гэтых прац у папулярызацыі беларускага мастацтва вельмі вялікае, асабліва калі ўлічыць, што ў пасляваенныя гады адукацыйны бок музыказнаўчай крытыкі мае шырокае поле дзейнасці — радыё і тэлебачанне.

Важнейшай задачай сучаснага музыказнаўства побач з распрацоўкай тэарэтычных праблем з'яўляецца стварэнне гісторыі нацыянальнай музычнай культуры. Першыя спробы зроблены ўжо і ў гэтым кірунку. Гэта папулярныя аглядныя нарысы Б. Смольскага [25], Г. Цітовіча і Б. Смольскага [26], Г. Цітовіча і І. Нісневіча [27].

Апрача артыкулаў у перыядычным друку беларускаму выканаўчаму мастацтву, творчаму шляху калектываў, дзейнасці іх кіраўнікоў, салістаў прысвечаны таксама брашуры [28], аўтары якіх у папулярнай форме расказваюць аб асаблівасцях творчых саставаў, рэпертуары, водгуках прэсы.

Выканаўчаму мастацтву прысвечана ў асноўным і манаграфія Б. Смольскага «Беларускі музычны тэатр» [29]. Гэта праца з'яўляецца першым даследаваннем беларускага музычнага тэатра, карэнні якога ўваходзяць у далёкае мінулае. Б. Смольскаму ўдалося, вызначаючы вузлавыя моманты, ахапіць працэс станаўлення і далейшага развіцця нацыянальнага музычнага тэатра. І ўсё ж бегласць у апісаннях спектакляў і некаторыя іншыя недахопы надаюць працы няроўны характар.

Даволі шырокую тэматыку распрацоўваюць беларускія фалькларысты (Р. Шырма, Г. Цітовіч, Л. Мухарынская і інш.). Грунтоўным доследам з'яўляецца работа В. Ялатава «Ладавыя асновы беларускай народнай музы-

[25] Б. Смольский. Белорусская музыка за 40 лет. Минск, 1957.

[26] Г. Цитович, Б. Смольский. Белорусская ССР. Серия «Музыкальная культура союзных республик». М., 1956.

[27] Г. Цитович и И. Нисневич. Белорусская ССР. Серия «Музыкальная культура союзных республик». М., 1957.

[28] Л. Мухаринская. Государственный белорусский ансамбль песни и танца. Минск, 1959; Б. Смольский. Государственная академическая хоровая капелла БССР. Минск, 1959; И. Жинович. Государственный белорусский народный оркестр. Минск, 1958; Д. Журавлев. Государственный симфонический оркестр БССР. Минск, 1963.

[29] Б. Смольский. Белорусский музыкальный театр. Минск, 1963.

кі» [30], у якой аўтар прасочвае працэс фарміравання і развіцця аднаго з самых складаных бакоў арганізацыі музычнай мовы — ладавай. Як вядома, ладавы склад музыкі цесна звязан с выражэннем нацыянальнага. Выяўленне нацыянальнага ў першапачатковых формах арганізацыі музычнага матэрыялу, такіх, як лад, метра-рытм, інтанацыйна-меладычная структура, дае вялікую навуковую каштоўнасць, паколькі гэтым адкрываюцца значныя магчымасці для прасочвання аналагічных з'яў у прафесійнай музыцы.

С. Нісневіч на працягу многіх год праводзіць даследаванне праблем нацыянальнага ў іншым аспекце: якім чынам, пры дапамозе якіх сродкаў выразнасці і ў якім вобразна-тэматычным кантэксце выкарыстоўваюцца народныя песні або асобныя іх элементы ў беларускай прафесійнай музыцы. Яе праца «Беларуская народная песня ў музычнай драматургіі нацыянальных опер і балетаў» [31] прысвечана вывучэнню іменна гэтай праблемы.

Даследаванню партызанскай песні, выяўленню істотна народнага, высокамастацкага прысвяціла многія гады напружанай працы Л. Мухарынская.

Буйнейшыя збіральнікі і знаўцы народнага мастацтва Р. Шырма і Г. Цітовіч у пасляваенныя гады правялі велізарную работу па адбору і падрыхтоўцы да друку сваіх запісаў. У выніку іх шматгадовай працы беларускае музыказнаўства папоўнілася навуковымі выданнямі: трохтомным зборам народных песень, запісаных Р. Шырмай, асобна выдадзеным ім жа ў Маскве зборнікам беларускіх песень і анталогіяй беларускай народнай песні, складзенай Г. Цітовічам.

З музыказнаўчых прац Г. Цітовіча такія, як «Народная песня ў сучасным быце беларусаў» [32], «Украінска-беларускія сувязі ў народнай музыцы» [33], прысвечаны не распрацаваным у беларускім музыказнаўстве пытанням фальклярыстыкі.

У апошнія гады ў рэспубліцы вядзецца шырокая работа па стварэнню абагульняючых прац па гісторыі беларус-

[30] В. Елатов. Ладовые основы белорусской народной музыки. Минск, 1964.

[31] С. Нисневич. Белорусская народная песня в музыкальной драматургии национальных опер и балетов. Минск, 1962.

[32] «Советская музыка», 1952, № 7, 11.

[33] «Советская музыка», 1954, № 7.

кай музыкі. Калектыў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі падрыхтаваў да друку двухтомную працу, прысвечаную гісторыі музычнай культуры Беларусі савецкага перыяду. Супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР вядуць даследаванні музычнай культуры беларускага народа дакастрычніцкага часу.

Мастацтвазнаўцы Беларусі ў апошнія гады робяць таксама спробы тэарэтычнага асэнсавання шматлікага і разнастайнага мастацкага багацця свайго народа. У такім плане напісаны і выйшлі ўжо з друку дзве кнігі кандыдата філалагічных навук А. Б. Ладыгінай — «Народнасць савецкага мастацтва і беларуская музыка» (выд. Акадэміі навук БССР. Мінск, 1961) і «Мастацтва і сучаснасць» (выд. «Навука і тэхніка». Мінск, 1964).

Абедзве працы А. Б. Ладыгінай пабудаваны ў асноўным на матэрыялах музычнага мастацтва, але асобныя іх палажэнні маюць і агульнатэарэтычнае значэнне для распрацоўкі некаторых пытанняў эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму.

Як можна заключыць з кароткага агляду развіцця беларускага мастацтвазнаўства за гады Савецкай улады, у рэспубліцы нямала зроблена для даследавання і эстэтычнага асэнсавання мастацкай творчасці народа ва ўсіх разнастайных яе праявах. Але перад мастацтвазнаўцамі рэспублікі стаяць яшчэ большыя задачы. Неабходна пашыраць і паглыбляць эстэтычнае асваенне сучаснага прафесійнага і народнага мастацтва, змагацца за яго глыбокую партыйнасць і народнасць, за яго ідэйную і мастацкую вышыню. Неабходна тэарэтычна абагульняць вялікую мастацкую практыку савецкіх народаў, вывучаць сувязі брацкіх культур, іх нацыянальныя асаблівасці і інтэрнацыянальную сутнасць. Неабходна канкрэтна даследаваць разнастайныя формы савецкага мастацтва, яго стыль і жанры, індывідуальную творчую манеру яго стваральнікаў.

Гэтыя задачы вынікаюць з сусветна-гістарычнага значэння сацыялістычнага мастацтва, з той высакароднай ролі, якую прызначаюць яму народ і партыя ў будаўніцтве камуністычнага грамадства.

*1966 г.*

## ИГНАТ БУЙНИЦКИЙ

В этом году исполняется 100 лет со дня рождения выдающегося деятеля белорусского театра Игната Терентьевича Буйницкого.

И. Т. Буйницкий является основоположником белорусского профессионального театра; его разносторонняя деятельность по созданию «Первой белорусской труппы», многочисленные гастроли по городам и местечкам Белоруссии, в Петербурге, Минске, Вильно, Варшаве сделали имя И. Буйницкого и его театр необычайно популярными в Белоруссии и за ее пределами в 1907—1913 гг.

И. Буйницкий родился в 1861 году в Прозорокской волости Дисненского уезда, по образованию был землемером. По роду службы ему приходилось много ездить по Белоруссии.

В процессе этих поездок он хорошо познакомился с бытом и обычаями крестьян, с их красочным самобытным искусством. И. Буйницкий с увлечением знакомился с белорусскими народными песнями и танцами, совместно с молодежью принимал участие в представлениях.

Общий революционный подъем 1905 года вызвал большое оживление и в развитии белорусского искусства, особенно в части организации так называемых вечеринок — своеобразных спектаклей, где исполнялись маленькие пьесы, читались стихи, исполнялись песни и танцы. Разносторонняя одаренность И. Буйницкого, большая любовь его к самобытному белорусскому искусству, которое находилось тогда в загоне, натолкнули И. Буйницкого на мысль создать национальный театр. Это и было осуществлено в 1907 году.

Условия, в которых существовал театр И. Буйницкого, были очень тяжелыми, ему не раз приходилось прерывать работу из-за трудного материального положения. Его спектакли часто запрещались местными властями. Но та радость народа и большая любовь к своему первому и пока единственному театру заражали И. Буйницкого энтузиазмом, давали ему силу настойчиво продолжать работу. Вот что писала о его деятельности газета «Наша ніва» (1910, № 40): «Тэатр беларускі становіцца ўжо дзякуючы клопатам і старанням Ігната Буйніцкага на цвёрдыя асновы, і наяўляюцца ўсё новыя і новыя сілы. За гэтае старанне

і клопаты шчырае дзякуй яму. Калі-небудзь, калі абудзіцца свядомасць ва ўсяго беларускага народа, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх».

В репертуаре театра И. Буйницкого были такие пьесы, как «Модный шляхтюк» К. Каганца, «Хам» и «В зимний вечер» Э. Ожешко, «По ревизии» и «Остались в дураках» М. Крапивницкого, «Медведь» и «Предложение» А. Чехова, множество белорусских стихотворений, песен, танцев. С этим репертуаром И. Буйницкий со своей труппой выступал в Минске, Полоцке, Слуцке, Дисне, Несвиже, Копыле и других городах и местечках Белоруссии, и всюду эти выступления были большим праздником белорусского искусства.

Однако ценность деятельности И. Буйницкого гораздо больше, чем просто гастрольные поездки первого национального театра, хотя одно это уже делает его фигуру значительной. И. Буйницкий в каждом городе и местечке собирал любителей театра, организовывал их, проводил репетиции, снабжал репертуаром. Он стремился как можно шире раздвинуть рамки белорусской театральной культуры и привлечь к ней самые разнообразные слои населения, в первую очередь простых людей.

Выступления театра И. Буйницкого в Петербурге, Вильно, Варшаве всегда высоко оценивались. В своей корреспонденции из Петербурга в 1911 году Янка Купала писал: «Не будзе лішнім сказаць шчырае дзякуй Ігнату Буйніцкаму і яго дачцэ, што здалёку прыехалі сюды, каб даць можнасць тутэйшым беларусам пацешыцца роднай гульнёй. І камедыі, і хору, і танцам публіка дружна і шчыра біла брава і выклікала па некалькі разоў нашых артыстаў» («Наша ніва», № 8).

Большая творческая дружба связывала И. Буйницкого с Янкой Купалой, Якубом Коласом, Зм. Бядулей, Э. Ожешко, Тёткой (Э. Пашкевіч). Последняя не один раз выступала в спектаклях его театра, а Янка Купала начал свой путь драматурга не без влияния И. Буйницкого. Я. Купала посвятил И. Буйницкому искренние строки одного из своих стихотворений:

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
Хадыром з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці,—
Ажна сэрца скача;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
Бадай што не бачыў.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
«Мельнік», ці «Антошка»,—
Ўсё ў яго сыходзіць гладка,
Не змыліць ні трошка.

Пад дуду і пад цымбалы
Топне, прысնявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
Беларус гуляе!

Не ўнімайся ж і скачы нам,
Покі сілы хваціць,
Мо' пачнуць і думкі нашы
Весялей скакаці!

И. Т. Буйницкий отдавал все свои силы созданию белорусского национального театра, горячо поддерживал все начинания представителей демократических кругов в этой области.

В мае 1917 года он участвует в организации «Первого товарищества белорусской драмы и комедии», которое впоследствии стало основой труппы нынешнего Белорусского театра имени Янки Купалы.

Традиции театра И. Буйницкого в советские годы нашли свое продолжение в деятельности III Белорусского театра. Только преждевременная смерть в сентябре 1917 года помешала Буйницкому принять активное участие в строительстве белорусского советского театра.

Трудно переоценить заслуги И. Буйницкого перед белорусским театральным искусством. Его деятельность послужила творческой основой и источником, из которых в дальнейшем развивалось национальное сценическое искусство.

И. Буйницкого с полным правом можно назвать отцом белорусского театра.

*1961 г.*

# ПЬЕСА, ПРОЧИТАННАЯ ПО-НОВОМУ

## «РАЗОРЕННОЕ ГНЕЗДО» В ТЕАТРЕ ИМЕНИ ЯКУБА КОЛАСА

Белорусский государственный театр имени Якуба Коласа недавно показал новый спектакль по пьесе «Разоренное гнездо» народного поэта БССР Янки Купалы.

Советский зритель знает Купалу-драматурга по жизнерадостной, полной искрометного юмора комедии «Павлинка», но он сравнительно мало знаком с его драмой «Разоренное гнездо». А между тем по глубине поставленных вопросов, по силе образов эта пьеса занимает первое место в драматургическом наследии писателя.

Драма «Разоренное гнездо» была написана в 1913 году, а впервые поставлена в 1917 году — 34 года тому назад — Белорусским товариществом драмы и комедии, из которого впоследствии вырос театр имени Янки Купалы. Пьеса продержалась в репертуаре театра несколько лет, она широко ставилась в последующие годы в кружках художественной самодеятельности по всей Белоруссии.

Тем не менее «Разоренное гнездо» некоторыми деятелями нашего театра считалось произведением несценичным, а иные критики усматривали в нем даже «сплошной туман символизма», который, по их мнению, делал пьесу непонятной нашему зрителю.

Успех спектакля на сцене театра имени Якуба Коласа, теплый прием, оказанный ему зрителем, ясно показали всю несостоятельность утверждений о несценичности пьесы, о тумане символизма и прочем.

Вот почему следует всячески приветствовать инициативу театра имени Якуба Коласа, который в дни своего 25-летия поставил эту замечательную пьесу классика белорусской литературы (постановщик заслуженный деятель искусств БССР А. Скибневский, художник Е. Николаев, композитор народный артист БССР Н. Чуркин).

Спектакль «Разоренное гнездо» в театре имени Якуба Коласа является значительным явлением в жизни белорусского театрального искусства. Успех его обусловлен правильным и вдумчивым подходом постановщика А. Скибневского к трактовке драматического произведения. Пьеса «Разоренное гнездо» решена театром как на-

родная драма, в которой с большой силой звучат мотивы протеста и борьбы.

Конечно, в «Разоренном гнезде» имеется некоторая символика, когда революционное содержание мыслей героев выражено в иносказательной, завуалированной форме. Но если принять во внимание время написания пьесы (1913 г.), то это становится вполне объяснимым.

В драме «Разоренное гнездо», действие которой сам автор относит к 1905 году, Янка Купала показывает процесс разорения, обнищания широких крестьянских масс, процесс их пролетаризации и становления на путь революционной борьбы.

Много лет жил Левон Зяблик со своей семьей в качестве арендатора небольшого клочка помещичьей земли. Но вот «из-за моря» возвращается молодой пан и начинает вводить в поместье новые порядки. Он запахивает крестьянские посевы, разоряет дома, а крестьян выгоняет с насиженных мест. Такая судьба постигает и Левона Зяблика. Последний начинает с помещиком тяжбу, ищет справедливости, «одурел,— как он сам говорит,— и правды искал». Но дело Левона Зяблика было проиграно, он не вынес удара и повесился.

Главой семьи становится его сын Сымон. Он по существу и есть главный герой драмы. От наивного протеста Сымон приходит к активной революционной борьбе. Он сжигает панское поместье и идет на зов революционера Незнаёмого «на сход», на великий сбор, за землю отцов.

При истолковании пьесы постановщик исходил из того важного положения, что «Разоренное гнездо», как и все творчество Янки Купалы, формировалось под влиянием великого Горького.

С тех пор, как Янка Купала ясно осознал, что белорусский народ выходит на историческую революционную арену борьбы, требуя для себя права «людьми зваться», он воспел гордого непокоренного человека. В центр своего творчества писатель поставил образ белоруса-борца, уверенного в победе над строем угнетения и эксплуатации, того «мужика-белоруса», «господина сохи и косы», который кормит весь мир и сам не хочет дальше прозябать в нужде и неволе. Таким и является Сымон из «Разоренного гнезда», так трактуют его постановщик и актер.

Показывая революционную целеустремленность героя, Янка Купала смело связывает его борьбу с общероссий-



П. Ф. Глебка і П. У. Броўка ў Полацку, 1967 г.

ской борьбой народных масс. Это очень ярко отражено в драме «Разоренное гнездо». Сымон, полный мужества и бесстрашия, вначале, однако, не может оторвать себя от родного угла, от своего куска земли, от своей разоренной «батьковщины». Но вот приходит к нему Незнаёмый, он говорит: «Пробил час, и ты должен, как орел могучий, распустить свои крылья и лететь туда, куда теперь все слетаются. Кончилась долгая ночь человечества, начинается огневой рассвет, по всей земле от края до края, от моря и до моря!»

И Сымон, постепенно преодолевая свои мелкособственнические иллюзии, идет за Незнаёмым на борьбу.

Вокруг образа Незнаёмого и велись все разговоры о символистском характере пьесы. Действительно, в своей речи Незнаёмый прибегает к символам, метафорам. Он, например, призывает людей идти вместе с ним выгонять «смока-упыря», под которым подразумевает самодержавие, и т. д.

Для того чтобы глубже понять и правильно истолковать образ Незнаёмого, постановщик А. Скибневский обратился к стихотворному творчеству Янки Купалы. Оказывается, этот образ встречается во многих произведениях поэта. Так, например, в драматической поэме «На ночевке» он выступает как революционер, призывающий людей на борьбу против самодержавия; в стихотворении «Там» он указывает белорусам на пример русского народа, который восстал против «царя и ката-капитала». И Янка Купала призывает трудящиеся массы Белоруссии:

> Довольно спать. Вставайте дружно,
> Идите им там помогать.

Отсюда и явилось у театра принципиальное и, на наш взгляд, наиболее верное решение образа Незнаёмого как революционера, призывающего своих родных братьев белорусов на общероссийскую борьбу.

Так и играет Незнаёмого народный артист БССР Н. Звездочетов. Мы видим на сцене суровую, но чрезвычайно простую и обаятельную фигуру революционера, который, чутко относясь к герою и страданиям семьи Зябликов, вместе с тем беспощадно разоблачает ее мелкособственнические иллюзии.

Незнаёмый хорошо понимает сам, что добыть землю и волю белорусский народ может только в совместной борьбе с другими народами, и этому он учит Сымона.

Идеи Горького о смелом Данко, идеи русских революционных мыслителей о том, что только совместными усилиями всех наций можно свергнуть ненавистный самодержавный строй, несет с собой Незнаёмый.

Это хорошо показано в спектакле театра Якуба Коласа.

Положительную оценку получило у зрителя исполнение народным артистом БССР А. Шелегом центрального образа пьесы — образа Сымона. В этой роли Шелег успешно преодолевает элементы декламационности, напыщенного пафоса, которые были присущи некоторым прежним работам актера. Его Сымон — настоящий «господин сохи и косы». Он оптимистичен, никакие испытания не могут заставить его склонить гордую голову. Хорошо передает Шелег смятение и колебания героя, рожденные приходом Незнаёмого, и преодолевание этих колебаний — вступление на путь вооруженной борьбы.

Выдающийся мастер белорусской сцены народный артист БССР А. Ильинский выступает в роли Старца. В этом малодейственном образе артист смог выявить черты оптимизма и убежденности в необходимости борьбы против деспотизма панов. С большой силой исполняет Ильинский гневный монолог, в котором Старец проклинает тех, кто бессильно опустил руки, отошел от борьбы.

Правдив народный артист БССР Т. Сергейчик в роли Левона. Скупыми, лаконичными мазками передает актер душевную драму Левона. У нас на глазах крестьянин-правдоискатель превращается в гневного обличителя. Мастерски проводит Сергейчик сцену прощания с семьей перед смертью.

Большой удачей молодой артистки Е. Матисовой является созданный ею образ Зоськи, сестры Сымона. Образ Зоськи сложен. Она вся в мечтах и никак не может примирить мир фантазии, в который уносится мыслями, с грубой и жестокой действительностью. Зоська наивна, доверчива, внутренне чиста, поэтична. Ее наивность и доверчивость и погубили ее. Панич, в которого она влюбилась, надсмеялся над ее чувствами, затоптал их в грязь.

Образ, созданный Матисовой, поэтичен. Как солнышко, освещает Зоська полный мрака и безысходной печали мир семьи Зябликов.

Заслуженная артистка БССР Е. Лаговская и артистка Л. Гепнер удачно сыграли трудные роли матери и Данилки.

Режиссерская работа А. Скибневского выделяется скупостью красок, естественностью и жизненной правдивостью мизансцен.

Спектакль «Разоренное гнездо» может на многие годы войти в репертуар театра имени Якуба Коласа, поэтому он требует дальнейшей работы над собой. Режиссуре следует подумать о более тщательной разработке финала, об устранении длиннот, об улучшении оформления и музыки, которые не всегда содействуют раскрытию основного замысла постановщика.

Требуют дальнейшей доработки образы матери, Панича, Данилки. Артист А. Шелег и Т. Сергейчик также должны доработать хорошо намеченные и в основном удачно сыгранные ими роли Левона и его сына. В частности, кое-где встречающиеся декламационные нотки и ложный пафос актерам необходимо изжить.

Спектакль «Разоренное гнездо» имеет большое идейное и воспитательное значение.

*1952 г.*

## КАМЕНЬ, СЭРЦАМ САГРЭТЫ

### НАРОДНАМУ МАСТАКУ БЕЛАРУСІ ЗАІРУ АЗГУРУ — 60 ГАДОЎ

Тыдзень назад я бачыў яго на партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў. Ён сядзеў за сталом прэзідыума і кіраваў сходам. Пасівелая галава, на твары — лёгкая сетка маршчын... Але гэта ўсё той жа Заір Азгур — з ясным позіркам вачэй, рухавы, энергічны, бадай, такі ж, які́м ён быў і сорак з лішнім гадоў таму назад, калі я сустрэўся з ім упершыню. І ён не выпадкова сярод нас, у нашай пісьменніцкай сям'і. Не таму, што сам напісаў кнігу, што з многімі пісьменнікамі яго звязвае асабістае сяброўства, што стварыў рад цудоўных партрэтаў беларускіх літаратараў. Не, выдатны мастак сярод нас таму, што яго інтарэсы далёка выходзяць за межы чыста прафесійныя, што ён не толькі скульптар, а і працавіты дзеяч беларускай культуры шырокага абсягу.

Цікавасць да беларускай літаратуры, да гісторыі народа і яго культуры былі характэрныя для Заіра Ісакавіча Азгура ўжо з самых першых дзён яго творчага станаўлення. Памятаю, што менавіта гэта было асноўнай тэмай нашай гаворкі ўжо пры першай сустрэчы ў доме Янкі Купалы на Правіянцкай вуліцы ў пакоі маладога паэта І. Плаўніка, брата Змітрака Бядулі. Заір Азгур ляпіў тады бюст нашага народнага паэта. Але ад яго работы над бюстам размова зараз жа была скіравана мастаком у іншае рэчышча: ён цікавіўся сюжэтамі беларускіх казак, з захапленнем гаварыў пра казачных асілкаў і саміх казачнікаў, паказаных у А. Сержпутоўскага (у той час якраз выйшла кніга «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета»), распытваў пра важакоў народных паўстанняў на Беларусі, пра дзейнасць Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага... Ва ўсіх гэтых пытаннях я ў той час быў дасведчаны не больш за самога З. Азгура і пастараўся перавесці размову на іншае, заўважыўшы, што ўсё гэта цікава, але не трэба забывацца і пра сучаснасць.

— Гэта, безумоўна, так,— загарачыўся Азгур,— але наша задача заключаецца і ў тым, каб паказаць усю слаўную гісторыю народа.

Успомніўшы сёння не столькі дакладны змест, колькі агульны сэнс нашай тагачаснай размовы, і прыгадаўшы шматгадовы творчы шлях мастака, я зразумеў, што гэтая, яшчэ цьмяная тады задума з цягам гадоў праяснялася і мацнела. І крышталізацыя гэтай ідэі, як, можа быць, і само яе зараджэнне, ішла, мне здаецца, не без уплыву ці, прынамсі, не без узаемадзеяння з падобнай жа, але яшчэ больш велічнай задумай К. Чорнага — паказаць праз серыю раманаў гісторыю беларускага народа на працягу трох сацыяльна-эканамічных фармацый. Ды пра гэта гаворыць і сам Азгур, калі ў кнізе «Незабыўнае» піша: «Мяне з Кузьмой звязвалі самыя шчырыя пачуцці. Ён умеў актыўна і вельмі далікатна ўмешвацца ў мае справы і надзвычай тактоўна накіроўваць мае самыя запаветныя прафесійныя мары».

І вось перад маім зрокам паўстаюць поруч дзве фігуры — Кузьмы Чорнага і Заіра Азгура, пісьменніка і мастака. У іх знешнім выглядзе, у жвавых энергічных рухах ёсць рысы нейкага падабенства. Гэта асабліва лёгка заўважаецца, калі вы сустракалі іх на даваенных нешматлюдных вуліцах Мінска. Адзін з іх, невысокі, але мажны, са

светлымі кучаравымі валасамі, перакінуўшы гнутую палку цераз левую руку, трымаючы ў правай кепку, ідзе па вуліцы Свярдлова. Другі, такога ж росту і такі ж таўсматы і кучаравы, але чарнавалосы, таксама павесіўшы палку на левай руцэ, а ў правай трымаючы капялюш, накіроўваецца з вуліцы Клары Цэткін на вуліцу Берсана. Яны сустракаюцца каля Чырвонага касцёла і вось ідуць разам, ажыўлена размаўляючы і задзіраючы галовы на будынкі. Размова ідзе аб архітэктуры, аб старасвецкіх сутарэннях і паддашках, у якія адзін з іх мае намер гэтымі днямі пасяліць герояў свайго рамана.

Усе, хто ведаў Кузьму Чорнага, помняць яго выдатны талент апавядальніка, уменне распачаць расказ нават з незнаёмым чалавекам так, каб той разгаварыўся. А расказваючы пра сваіх цімкаўскіх землякоў або іншых знаёмых, пісьменнік не абыходзіўся і без выдумкі. Многія з нас ведалі аднаго чалавека, у якога была прывычка, размаўляючы з кім-небудзь, трымаць свайго субяседніка за гузік паліто ці пінжака. Расказваючы пра сустрэчу з гэтым чалавекам на мінскім скверы, Кузьма прыдумаў спосаб, якім ён нібыта вырataваўся ад размовы: пісьменнік дастаў з кішэні ножанкі, адрэзаў гузік і пайшоў сабе па сваіх справах, а чалавек усё стаяў, трымаючы ў руках гузік і горача нешта даказваў.

Калі нехта з слухачоў пацікавіўся, адкуль жа ў Чорнага апынуліся ў кішэні нажніцы, Заір Азгур зараз жа прыйшоў на выручку:

— Чаму?! Кузьма мог ісці ад краўца, у якога ён па рассеянасці палажыў у кішэнь нажніцы.

— От то-та ж! — узрадаваўся Кузьма.— Так яно і было, Заірка, ножны былі вялікія, кравецкія...

І яны абодва зарагаталі, цешачыся з нашай «нездагадлівасці».

Спалучэнне ў вусных расказах К. Чорнага жыццёвых апавяданняў з нечаканай, часамі вельмі гіпербалічнай фантазіяй было, мне здаецца, своеасаблівым метадам пісьменніка для праверкі на слухачах верагоднасці задуманых ім мастацкіх вобразаў.

Падобныя рысы кідаюцца мне ў вочы і ў творчым характары З. Азгура. У першай палове трыццатых гадоў мы з П. Броўкам, а затым і іншыя таварышы апублікавалі пад імем Лукаша Бандылевіча некалькі пародый на аднаго з тагачасных крытыкаў. З. Азгур зрабіў яго графічны парт-

рэт, на якім правая палавіна твару была спісана з аднаго драматурга, а левая ў фантастычнай форме выражала задзірысты нораў крытыка.

Гэты рэальна-фантастычны партрэт мог бы стаць вельмі яркай ілюстрацыяй да вусных апавяданняў З. Азгура, па майстэрству якіх ён, безумоўна, можа лічыцца здольным вучнем К. Чорнага і З. Бядулі. Гавару я ўсё гэта не для таго, каб праславіць мастака як выдатнага расказчыка, а для таго, каб хоць трошкі прыадчыніць дзверы ў яго творчую лабараторыю.

У велізарнай галерэі людскіх вобразаў, створаных З. Азгурам, ёсць партрэты, вылепленыя ім не з натуры і нават не паводле іканаграфічнага матэрыялу, а толькі на падставе ўпамінанняў пра іх у гістарычных дакументах, як, напрыклад, бюсты Гаркушы, Стахора, Мітковіча і многія іншыя.

У кнізе «Незабыўнае», гаворачы пра сваю работу над вобразам Гаркушы, З. Азгур спасылаецца на народнага артыста БССР Д. М. Арлова, які ў размове з мастаком намаляваў яму ў дэталях, які гэта быў чалавек Гаркуша, «якая ў яго шапка, як павінна сядзець на ім світка, якім голасам ён гаварыў, як ведаў птушак і звяроў, як умеў пераймаць іхнія галасы, як садзіўся на каня, як хадзіў. Увогуле, ён словамі вылепіў мне цудоўнага Гаркушу».

Расказваючы пра метад лепкі чалавечага характару, уласцівы Д. М. Арлову, скульптар, па сутнасці, раскрывае свой уласны метад. Я не адзін раз заўважаў, што калі З. Азгур пачынае расказваць, спалучаючы рэчаіснасць з фантазіяй, пра каго-небудзь з гістарычных асоб, значыць, ён збіраецца ляпіць партрэт гэтага чалавека. І гэта амаль заўсёды было так. Перш чым намаляваць вобраз мовай пластыкі, скульптар малюе яго чалавечымі словамі, расказваючы і правяраючы на слухачах, наколькі ён выразны, наколькі ягоныя сапраўдныя жыццёвыя рысы адпавядаюць уяўленню мастака.

Асобныя мастацтвазнаўцы, адзначаючы, што З. Азгур выдатна валодае натурай, папракаюць часамі мастака за тое, што ён нібыта ў некаторых сваіх творах амаль зусім не адыходзіць ад гэтай натуры. Наўрад ці можна з гэтым пагадзіцца, уважаючы не толькі на той своеасаблівы псіхалагічны метад падрыхтоўкі да творчага акта, пра які гаварылася вышэй, а і на ўсю шматгадовую плённую практыку мастака. Мне здаецца, што надзвычайнае знешняе пада-

бенства партрэта да натуры, завершанасць і тонкасць скульптурнай формы, якімі майстэрскі валодае З. Азгур, свой, уласцівы толькі яму стыль і манера лепкі засланяюць часамі ад няўважлівых гледачоў псіхалагічную глыбіню і разнастайнасць створаных мастаком чалавечых характараў.

Зразумела, што ў велізарнай азгураўскай скульптурнай галерэі ёсць работы і слабейшыя. Але няма сярод іх бяздушных. Кожны вобраз, створаны мастаком, аблюбаваны ягоным праніклівым вокам ў жыцці, сагрэты цяплом яго сэрца, выпешчаны яго таленавітымі і працавітымі рукамі.

У творчасці З. Азгура няма, бадай, вельмі складаных скульптурных кампазіцый. Ён майстар партрэта. Аднак прагледзьце вы ўсю гэту шматвобразную галерэю людзей — ад Ф. Скарыны да маладой камсамолкі нашых дзён, людзей розных эпох і краін, але ў сваёй пераважнай большасці нашых землякоў і нашых сучаснікаў — важакоў народных паўстанняў і правадыроў рэвалюцыі, салдат і палкаводцаў, грамадскіх і культурных дзеячоў, рабочых і сялян; унікніце ў іх думы і мары, у іх радасці і гора, выражаныя ў іхніх абліччах і постацях, у іхніх вачах і руках — і вы прачытаеце многія слаўныя і трагічныя, светлыя і сумныя старонкі гісторыі Беларусі, прачытаеце не ў вострых сюжэтных кампазіцыях, а ў спакойных партрэтах з гіпсу і мармуру, з бронзы і граніту.

Заір Ісакавіч Азгур сустракае сваё шасцідзесяцігоддзе плённым здзяйсненнем задумы, якая наведала яго яшчэ ў гады маладосці і натхніла на ўсё жыццё. Няхай жа, як светлы геній, лунае яна і над яго сталым векам, прыносячы радасць і творцу і людзям.

*1968 г.*

## ЯК МАГУТНАЯ ПЕСНЯ...

Кожная п'еса на сцэне МХАТ—гэта цэлая падзея ў мастацкім жыцці нашай краіны і вялікая радасць для гледача. У Маскве, у Кіеве, скрозь, дзе мне даводзілася бываць у час прабывання там МХАТ, я імкнуўся папасці на яго спектаклі, пабачыць шэдэўры нашага тэатральнага мастацтва. І вось, нарэшце, сустрэча з тэатрам у родным Мінску, у сталіцы нашай ардэнаноснай рэспублікі... Як многа гаворыць сэрцу гэты факт: колішняя глухая правінцыя,

губерніскі гарадок Мінск, пазбаўлены ў мінулым усякай тэатральнасці, прымае ў сябе тэатр сусветнага значэння! Гэта адна з самых жывых і велічных праяў ленінскай ідэі дружбы народаў.

Вечар 17 чэрвеня... Да памяшкання Акруговага тэатра Чырвонай Арміі, у якім адбываюцца гастролі МХАТ, льецца людскі паток. Людзі ідуць глядзець адзін з легендарных спектакляў МХАТ, спектакль, які трымаецца на сцэне гэтага тэатра 38 з лішнім год і які прайшоў больш як 1000 разоў! Людзі ідуць глядзець п'есу геніяльнага пралетарскага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага напярэдадні пятай гадавіны з дня яго смерці. Веліч самых разнастайных думак і пачуццяў выклікаюць гэтыя акалічнасці.

Але вось узвіваецца заслона, і глядач забываецца на ўсё: на тое, што гэта сцэна, і на тое, што гэта іграюць акцёры. Паўстае адно само жыццё, яго суровая і вялікая праўда. Перад гэтай непадкупнай праўдай і прастатой трацiцца здольнасць да аналізу дэталей. Я не магу сказаць, чым захапляе мяне гэты спектакль. Я не магу сказаць, якімі сродкамі створаны вобразы. Я не магу нават назваць той ці іншы асобны штрых у ігры такой пераканальнай сілы — такіх выдатных майстроў, як народныя артысты СССР М. М. Тарханаў, І. М. Масквін, Б. Г. Дабранраваў, народныя артысты РСФСР Ф. В. Шаўчэнка, В. Л. Яршоў; заслужаныя артысты РСФСР В. Н. Папова, Р. Н. Малчанава і інш. Для мяне гэты спектакль прагучаў як адна суцэльная мелодыя, як магутная песня пратэсту супроць капіталістычнага гвалту над людзьмі, як гімн у славу мяцежнага і непакорнага чалавека.

Іменна гэтыя думкі і пачуцці напаўняюць і розум і сэрца гледача, і выходзіш з гэтага спектакля поўны радасці і вялікай веры ў чалавека.

*1941 г.*

## НАРОДНАЯ АРТЫСТКА

У 1940 г. на прыёме ў Крамлі ўдзельнікаў Дэкады беларускага мастацтва народная артыстка СССР Ларыса Пампееўна Александроўская сказала ў сваёй прамове:

— Калі хочаш уведаць жыццё народа — паслухай яго песні.

Глыбокая перакананасць у тым, што песня народа ёсць яго жыццё, яго душа, вызначыла творчую індывідуальнасць выдатнай артысткі.

Гэтымі днямі наша грамадскасць адзначыла пяцідзесяцігоддзе з дня яе нараджэння.

Л. П. Александроўская прайшла вялікі творчы шлях. Яна стварыла дзесяткі яркіх і непаўторных сцэнічных вобразаў і назаўсёды пакінула след у сэрцы кожнага, хто слухаў яе ў выдатных класічных і савецкіх операх. Аднак і пры гэтым народная песня была і застаецца яе роднай стыхіяй.

З народнай песні Л. П. Александроўская і пачала сваю дзейнасць спявачкі. Гэта было ў 1920 годзе, калі яна шаснаццацігадовай дзяўчынай выступала з беларускімі, рускімі і ўкраінскімі песнямі ў чырвонаармейскіх часцях Заходняга фронту. З асаблівай пранікнёнасцю маладая артыстка выконвала беларускія народныя песні. Ёй, дачцы мінскага чыгуначніка, былі блізкімі і зразумелымі і гоман беларускага бору, і гоман народнай душы. І з поўным правам Л. П. Александроўская можа сягоння сказаць словамі Янкі Купалы:

> Зялёнае поле рунеючым збожжам,
> Цвітучая ў сонечны цвет сенажаць
> Мне песню квяцілі ўзорам прыгожым,
> Вучылі, як словы ў вянок завіваць.

Але маладая артыстка не абмежавалася гэтай навукай. У 1924 годзе яна паступае ў Мінскі музычны тэхнікум і нястомна працуе над авалоданнем вакальнай і сцэнічнай культуры. І калі ў 1933 г. у Мінску адчыніўся Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета, Л. П. Александроўская становіцца ў ім адной з першых і самых выдатных нашых салістак.

Артыстычны талент Л. П. Александроўскай надзвычай багаты і разнастайны, чысты і шчыры. Ён вызначаецца глыбокай эмацыянальнасцю, дзе тонкі лірызм спалучаецца з мяккім гумарам. Поруч з гэтым артыстка валодае моцным драматычным тэмпераментам.

Асабліва чаруе нас выключнай сілы і прыгожага тэмбру голас Л. П. Александроўскай, якім пры сваёй высокай вакальнай культуры народная артыстка валодае з надзвычайнай гнуткасцю. Ёй падуладны самыя тонкія музычныя інтанацыі і нюансы.

Выключныя вакальныя і сцэнічныя здольнасці Л. П. Александроўскай знайшлі сваё бліскучае выяўленне ў шматлікай і разнастайнай галерэі вобразаў, якія яна стварыла на працягу сваёй артыстычнай дзейнасці. Артыстка з нязменным поспехам выступала ў партыях Кармен («Кармен») і Тацяны («Яўгеній Анегін»), Наташы («Русалка») і Адаркі («Запарожац за Дунаем»), Яраслаўны і Канчакоўны («Князь Ігар»), Лізы і графіні («Пікавая дама»), Аксінні («Ціхі Дон»), Алесі («Дзяўчына з Палесся»).

Вобразы, створаныя Л. П. Александроўскай, праўдзівыя і яркія. Іх выразную і глыбокую музычную характарыстыку заўсёды дапаўняе тонкі сцэнічны рысунак. Яны вызначаюцца арыгінальнасцю і ў той жа час не трацяць свайго нацыянальнага характару. Асабліва гэта трэба сказаць пра вобразы рускіх і беларускіх жанчын, якіх Л. П. Александроўская рысуе з вялікім натхненнем і замілаваннем.

Выдатная вакалістка і майстар савецкай опернай сцэны, Л. П. Александроўская ўнесла вялікі ўклад у беларускую мастацкую культуру. Так, як з імёнамі Я. Купалы і Я. Коласа звязана зараджэнне і росквіт нашай літаратуры, так, як з іменем У. Крыловіча звязана заснаванне і развіццё беларускага тэатра,— так з іменем Л. П. Александроўскай звязана з'яўленне і далейшы рост нашага опернага мастацтва. Яна не толькі выдатны выканаўца, не толькі рэжысёр, яна прымала і прымае самы чынны ўдзел у стварэнні беларускіх нацыянальных опер і ў пастаноўцы іх на сцэне.

Л. П. Александроўская з'яўляецца натхнёным прапагандыстам беларускай музыкі як у нашай краіне, так і далёка за яе межамі. Яна выступала з цудоўным выкананнем беларускіх песень у цэлым радзе замежных краін, дзе яна была ці спецыяльна ў якасці спявачкі, ці як наш прадстаўнік на міжнародных кангрэсах барацьбітоў за мір.

Л. П. Александроўская праводзіць вялікую работу па выхаванню тэатральнай моладзі. Яна з'яўляецца таксама старшынёй Беларускага тэатральнага таварыства. Руплівыя клопаты аб развіцці савецкага мастацтва складаюць аснову яе работы як прафесіянала і як грамадскага дзеяча. Але гэтым грамадская дзейнасць Л. П. Александроўскай далёка не абмяжоўваецца. Яна актыўны ўдзельнік вялікай арміі барацьбітоў за мір. Яна з'яўляецца дэпута-

там Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР і прымае самы актыўны ўдзел у палітычным і грамадскім жыцці краіны.

Мне не адзін раз даводзілася быць на сустрэчах Л. П. Александроўскай з яе слухачамі. Часцей за ўсё гэта былі сустрэчы ў оперных і канцэртных залах, калі народная артыстка выступала як спявачка. Але нярэдка сустрэчы адбываліся і ў іншых аудыторыях, дзе выдатная спявачка выступала як грамадскі дзеяч.

І заўсёды як чароўныя песні артысткі, так і яе гарачыя, усхваляваныя прамовы выклікалі жывы водгук у сэрцах людзей. Л. П. Александроўская не падзяляе свайго жыцця на мастацкую дзейнасць і грамадскую. Яна цалкам аддае яго на служэнне роднаму савецкаму народу. І народ шчыра любіць сваю артыстку не толькі за яе цудоўны талент, а і за гарачае грамадзянскае сэрца. Яшчэ адным сведчаннем гэтага з'яўляецца вылучэнне Л. П. Александроўскай кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. І можна не сумнявацца, што выбаршчыкі з радасцю аддадуць свае галасы за верную дачку нашай партыі і нашага народа, за выдатнага дзеяча нашай сацыялістычнай культуры.

*1964 г.*

## ИЗ ОТЗЫВА О ДОКТОРСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ В. И. НЕФЕДА «БЕЛОРУССКИЙ ДРАМАТИЧЕСКИЙ ТЕАТР. ОЧЕРК ИСТОРИИ»

Белорусское театральное искусство имеет свою большую историю. Истоки его берут начало в довольно глубокой древности. К сожалению, сценическое искусство очень трудно поддается устойчивой фиксации и до появления кинематографа оно по существу умирало вместе со своими творцами. В лучшем случае от живого сценического представления оставались тексты сыгранных пьес, отзывы современников и некоторый иконографический материал. Если же говорить о белорусском дооктябрьском театре, то и эти материалы сохранились в весьма ограниченном количестве. В период оккупации Белоруссии гитлеровскими захватчиками погибло очень много ценных материалов, от-

носящихся и к истории белорусского театра советского периода, да и выявлены они были далеко не полностью.

Видимо, этими обстоятельствами в значительной степени объясняется тот факт, что интересная и большая история белорусского театра до сих пор не была написана.

Первым взял на себя этот труд В. И. Нефед. Он подошел к работе с полным пониманием ее трудностей и глубоким сознанием ответственности. И прежде чем взяться за обобщение всей истории белорусского драматического театра, исследователь посвятил многие годы обстоятельной разработке важных узловых моментов. Результаты этих исследований В. И. Нефед опубликовал в таких работах, как «Путь белорусского драматического советского театра», «Театр в огненные годы», «Современный белорусский театр», краткий исторический очерк о белорусском театре и несколько отдельных очерков о ведущих актерах Белоруссии. Кроме того, на тему диссертации автором опубликовано много статей в периодической печати [...]

В диссертации, построенной на более широком и глубоком анализе большого фактического материала, показан весь исторический путь развития белорусского драматического театра от его истоков и до наших дней. Такая капитальная работа по истории белорусского театра выполнена, как я уже отметил, впервые и, можно сказать без преувеличения, является не только новой, но и основополагающей.

В этой работе очень широко, можно даже сказать, полностью использован весь фактический материал, имеющий отношение к истории белорусского театра. Тут и скупые, но интересные исторические упоминания о театральном искусстве Белоруссии в древний период, и этнографические записи о народных видах театра, и заметки современников о театральной жизни в Белоруссии и многие другие материалы, имеющие отношение не только к сценическому искусству белорусского народа, но и вообще к его культуре, с которой театр тесно связан и частью которой он является. Кроме того, В. И. Нефед дополнительно провел большую розыскательную работу в архивах и других хранилищах, провел и записал беседы со многими актёрами, использовал свои непосредственные наблюдения над театральной жизнью Белоруссии в 30—50-е годы. Само собой разумеется, что в диссертации критически использована и немногочисленная, но все же имеющаяся белорусская

театроведческая литература, начиная от очерков и статей об отдельных театрах и актерах и кончая театральными рецензиями.

Кропотливая работа В. И. Нефеда над розысканиями материалов позволила ему не только подтвердить существовавшие высказывания о большом историческом пути развития белорусского театра, но и показать процесс этого развития на конкретных фактах.

Как же выглядит этот процесс в работе В. И. Нефеда? Насколько он соответствует действительной истории театральной жизни в Белоруссии как в прошлом, так и в настоящем? Чтобы ответить на этот вопрос, прежде всего необходимо, поскольку это касается исторического развития определенного явления, установить, соответствует ли периодизация этого развития истории общественной жизни народа. В этом смысле работа В. И. Нефеда, в которой делается первая попытка наметить периодизацию истории белорусского театра, не может вызвать серьезных возражений.

В историческом процессе развития белорусского театра В. И. Нефед усматривает прежде всего два качественно различных этапа, соответствующие двум различным эпохам в жизни белорусского народа, водоразделом между которыми является Великая Октябрьская социалистическая революция. Если первый этап был только своеобразным прологом, подготовительным периодом, то второй, значительно меньший по времени, стал действительно эпохой в развитии белорусского театрального искусства, социалистического по содержанию и национального по форме. Принимая в целом периодизацию истории белорусского театра, намеченную в работе В. И. Нефеда, я однако хочу сделать в связи с этим одно замечание.

В истории дооктябрьского развития белорусского театра В. И. Нефед отмечает самый древний его период, берущий свое начало в народных «игрищах». Начиная с XVII века любимым видом сценического творчества, говорит В. И. Нефед, становится народная драма. Затем в своей работе он рассматривает кукольный театр батлейку, существовавшую в XVI и в начале нашего столетия, и переходит к анализу школьного театра, получившего широкое распространение в Белоруссии в XVI—XVII вв.

При таком порядке рассмотрения материала в этой главе диссертации допущено некоторое смещение хроноло-

гии и тем самым запутывается несколько периодизация. Мне кажется, что более правильным было бы рассматривать вслед за самыми древними формами театра не народную драму, появившуюся, как правильно утверждает исследователь, только в начале XVII ст., а школьный театр, широко бытовавший в Белоруссии уже в XVII ст. Да и сама народная драма («Царь Максимилиан», «Лодка») появилась, по-видимому, как реакция на спектакли школьного театра. Исследователя, наверно, смутил тот факт, что спектакли в школьных театрах игрались на латинском и часто на польском языках. Однако в этих спектаклях, безусловно, был употреблен и белорусский язык. Так, в одном из сообщений костельных властей отмечается, что в Полоцке 29 июня 1603 г. «была дана народу и шляхте, при достаточном стечении публики, драма о хлебах на народном языке». В другом сообщении тех же властей говорится, что в Новогрудке 10 апреля 1637 г. была показана «публичная драма... на польско-московском языке, в которой выразительно было представлено мученичество Христа...»

Даже в более поздние времена, когда белорусский язык как официальный был запрещен, он, по-видимому, не совсем сошел с театральной сцены. Так, в 1705 г. во время прибытия в Вильно Петра I, как сообщается в тех же сведениях костельных властей, «было подготовлено представление на местном крестьянском языке в честь его (Петра I) дел и разума... и показано на сцене».

Мое замечание по поводу периодизации, а точнее сказать — по поводу размещения материала в одном из разделов диссертации не может уменьшить того большого значения, которое имеет работа В. И. Нефеда для периодизации истории белорусского театра. В этой работе восемь разделов. Каждый из них посвящен определенному цельному периоду, характеризуемому своими особыми тенденциями, борьбой различных направлений, формированием новых закономерностей. В конечном счете это членение и представляет научно обоснованную и аргументированную периодизацию истории белорусского театра.

По характеру изложения материала работа В. И. Нефеда также является весьма оригинальной и заслуживающей всяческого одобрения. В ней удачно сочетается исторический обзор деятельности театрального коллектива с характеристикой роли и значения на каждом его этапе ведущих деятелей данного коллектива — драматурга, режиссера,

художника, исполнителей главных ролей. Одновременно работа каждого коллектива рассматривается не как изолированное явление, а как неотделимая часть единого процесса в развитии театрального искусства народа.

Ценной и методически оправданной особенностью исследования является воссоздание общей линии преемственности в развитии театрального искусства Белоруссии. Существо тех или иных явлений в сценическом искусстве автор стремится найти, и действительно находит, в сложном диалектическом взаимодействии традиций и новаторства. Таковы параллели между театром Голубка и театром Буйницкого, постановкой «Пинской шляхты» и сценическими вояжами бродячих актеров в прошлом и т. д.

Надо отдать также должное автору диссертации в его стремлении дать объективные оценки ряду важных, но несколько запутанных по своим социальным тенденциям явлений в театральном искусстве Белоруссии в первое десятилетие после Октябрьской революции. Автор далёк от того, чтобы безапелляционно, «с наскока» давать характеристику тому или иному явлению и событию. Шаг за шагом он прослеживает путь формирования новых тенденций, сталкивает между собой противоположные мнения, сам сомневается, отрицает и, лишь пройдя довольно сложный путь логических умозаключений, делает, наконец, тот или иной вывод.

Красной нитью через всю работу В. И. Нефеда проходит положение о партийности и народности советского искусства, подчеркивается непримиримость его ко всем проявлениям буржуазной идеологии, борьба за утверждение принципов социалистического реализма. Яркий пример этому — разоблачение автором идейных позиций белорусских националистов, критика вульгарно-социологических извращений в белорусском театральном искусстве, формалистических тенденций, теории бесконфликтности и других отступлений от метода социалистического реализма.

Я позволю себе не согласиться с теми упреками, которые были сделаны моим уважаемым коллегой официальным оппонентом М. Г. Ларченко в адрес диссертации в связи с трактовкой последних вопросов социалистического реализма.

Михаил Григорьевич упрекнул автора диссертации, что он якобы часто делает заявления об овладении белорусскими театрами методом социалистического реализма, но не

показывает, в чем это выражается, не раскрывает сущности самого метода. Мне кажется этот упрек несостоятельным. Во-первых, В. И. Нефед не ставил перед собой задачу решать теоретические вопросы социалистического реализма, так как его работа посвящена истории театра. Во-вторых, говоря об овладении тем или другим театральным коллективом Белоруссии методом социалистического реализма, автор диссертации подробно и глубоко анализирует спектакли данного коллектива, показывает, как этот коллектив, преодолевая свои идейные и художественные недостатки, твердо становился на позиции социалистической идеологии. Я считаю, что это и есть показ того, как театр овладевал методом социалистического реализма [1].

Отличительное качество работы В. И. Нефеда состоит еще в том, что автор ее, опираясь на марксистско-ленинскую методологию, умело сочетает в своем исследовании социально-исторический и искусствоведческий анализ материала. Критерием оценки театральных явлений у него служит их общественное значение, высокая художественность и воспитательное воздействие на широкие массы народа.

В работе В. И. Нефеда есть и отдельные недостатки. Кроме уже отмеченных можно назвать излишнее порой увлечение литературоведческим анализом пьес, пространной их цитацией и т. д.

Однако эти недостатки ни в коем случае не могут заслонить той огромной и глубокой работы, которую проделал В. И. Нефед, создавая первую историю белорусского драматического театра. Исследование В. И. Нефеда является новой вехой и непреходящим явлением в развитии белорусского театроведения.

*1963 г.*

[1] Этот и предыдущий абзацы — отступление от написанного текста «Отзыва», сделанное устно во время выступления на заседании Ученого совета.

# ЗАЎВАГІ

**Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і развіццё грамадскіх навук ў Беларусі.** Друкуецца з рукапісу.

**Культура трудового народа.** Друкуецца з рукапісу.

**Да 150-годдзя з дня нараджэння Карла Маркса.** Друкуецца з рукапісу.

**Перад намі — складаныя задачы.** Прамова надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 15 студзеня 1958 г.

**Прамова на ўрачыстым сходзе Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, прысвечаным 10-годдзю з дня яго заснавання.** Друкуецца з рукапісу.

**Тэма вайны ў навуковых даследаваннях супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.** Друкуецца з рукапісу.

**Непарушная дружба.** Артыкул надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 15 кастрычніка 1955 г.

**За творчую дружбу ўсіх дзеячоў культуры.** Артыкул змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 17 верасня 1955 г.

**Нататкі пра беларускую літаратурную мову.** Артыкул надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 1 красавіка 1950 г.

**Аб правапісе.** Друкуецца з рукапісу.

**Праблемы навуковай работы над перакладным руска-беларускім слоўнікам.** Друкуецца з рукапісу.

**Прамова на адкрыцці Міжрэспубліканскай канферэнцыі па беларускай лексікалогіі і этымалогіі.** Друкуецца з рукапісу.

**Прамова на адкрыцці канферэнцыі па пытаннях анамастыкі.** Друкуецца з рукапісу.

**Аб мове пачынаючых пісьменнікаў.** Надрукавана ў зборніку артыкулаў «Пісьменнік і мова». Мінск, 1934.

**Итог великих преобразований.** Надрукавана ў газеце «Известия» 8 кастрычніка 1947 г.

**Полувековой юбилей.** Друкуецца з рукапісу.

**Состояние и перспективы развития славяноведения в Белоруссии.** Друкуецца з рукапісу.

**Падарожныя нататкі.** Апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1947, № 5. Друкуецца са скарачэннямі.

**Да1100-годдзя славянскай пісьменнасці.** Друкуецца з рукапісу.

**О поездке в Югославию на празднование 1050-летия со дня смерти Климента Охридского.** Друкуецца з рукапісу.

**Прамова на навуковым сходзе ў Скопльскім універсітэце ў Охрыдзе** (Югаславія) 11 верасня 1966 г. Друкуецца з рукапісу.

**Францыск (Георгий) Скарына і яго дзейнасць.** Артыкул друкаваўся ў бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», 1972, № 4; у зборніку П. Ф. Глебкі «Паэзія змагання і перамогі» (Мінск, выд-ва «Мастацкая літаратура», 1973).

**Любімы горад.** Артыкул надрукаваны ў газеце «Звязда» 1 студзеня 1951.

**Каштоўнае даследаванне.** Рэцэнзія змешчана ў газеце «Звязда» 15 чэрвеня 1958.

**Скарбы культурнай спадчыны.** Артыкул надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 11 сакавіка 1969.

**Выступление на открытии научной конференции польских и советских историков, посвященной проблеме боевого содружества советских и польских вооруженных сил в борьбе с гитлеровской Германией** (июль 1969 г.). Друкуецца з рукапісу

**Рецензия на монографию Я. Порецкого «Симон Будный».** Друкуецца з рукапісу.

**Уступнае слова на нарадзе па пытаннях каардынацыі збірання і даследаванняў беларускага фальклору.** Надрукавана ў зборніку «Інструктыўныя і метадычныя матэрыялы па збіранню беларускага фальклору» (Мінск, выд-ва Акадэміі навук БССР, 1961).

**Асноўныя рысы паэтыкі беларускага фальклору.** Друкуецца з рукапісу. Не датаваны.

**Я. Ф. Карскі як даследчык беларускага фальклору.** Друкуецца з рукапісу.

**Сучасная народная паэзія.** Артыкул надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 28 лютага 1961.

**29 тамоў народных скарбаў.** Матэрыял у выглядзе інтэрв'ю змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 24 студзеня 1969.

**Створым этнаграфічны музей.** Пісьмо ў рэдакцыю змешчана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 23 жніўня 1966 г.

**З выступлення** на абароне доктарскай дысертацыі В. К. Бандарчыка «Гісторыя беларускай этнаграфіі другой палавіны XIX — пачатку XX ст.» Друкуецца з рукапісу.

**XXII з'езд КПСС і задачы мастацтвазнаўства.** Змешчаны ў зборніку «Беларускае мастацтва», вып. III (Мінск, 1962).

**Мастацтвазнаўства Савецкай Беларусі.** Праца друкавалася ў зборніку «Навука БССР за 50 год» (Мінск, выд-ва «Навука і тэхніка», 1968) і ў зборніку артыкулаў П. Ф. Глебкі «Паэзія змагання і перамогі» (Мінск, выд-ва «Мастацкая літаратура», 1973).

**Игнат Буйницкий.** Друкуецца з рукапісу.

**Пьеса, прочитанная по-новому.** Артыкул змешчаны ў газеце «Советская Белоруссия» 9 лютага 1952.

**Камень, сэрцам сагрэты.** Артыкул змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 1 студзеня 1968.

**Як магутная песня.** Друкуецца з рукапісу.

**Народная артыстка.** Друкуецца з рукапісу.

## ЗМЕСТ

## ГІСТОРЫЯ, ФІЛАСОФІЯ



## ЭТНАГРАФІЯ, ФАЛЬКЛОР



## МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА

На белорусском языке

*ПЕТР ФЕДОРОВИЧ ГЛЕБКА*

**ВОПРОСЫ ИСТОРИИ, ФИЛОЛОГИИ, ИСКУССТВА**

Издательство «Наука и техника». Минск,
Ленинский проспект, 68

Рэдактар Л. А. Шрубок
Мастацкае афармленне І. М. Андрыянава
Мастацкі рэдактар Л. І. Усачоў
Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак
Карэктар Л. І. Пятрова

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.
АТ 11164. Здадзена ў набор 7.IV-75 г. Падпісана да друку 30.VII-75 г. Фармат 84×108[1]/32.
Папера маш.-мел. Друк. арк. 9,5+1 укл. на мел. паперы. Ум. друк. арк. 15,96. Уч.-выд. арк. 16,1. Выд. зак. 106. Друк. зак. 444. Тыраж 1450 экз. Цана 1 р. 86 к.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.